УДК 821.161.3
ББК 83.3(4Беи)
Г 60

Выданне здзейснена пры падтрымцы Фонду імя Конрада Адэнаўэра (Германія)

Г 60 **Голас волі з-за кратаў.** Анталогія твораў беларускіх палітзняволеных / Складальнік, рэдактар А.І. Фядута. – Вільня: ЕГУ, 2013. – 992 с.

ISBN 978-9955-773-69-6.

У Анталогію «Голас волі з-за кратаў» увайшлі апавяданні, вершы, успаміны, дзённікі, нарысы грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія адбылі альбо працягваюць адбываць зняволенне па палітычна матываваных прысудах. Сярод іх як вядомыя паэты, журналісты, палітычныя дзеячы, так і аўтары, тэксты якіх друкуюцца ўпершыню.

**УДК 821.161.3**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-9955-773-69-6**

# Содержание

## Д-р ГАНС-ГЕРТ ПЁТЭРЫНГ

*сябра Еўрапейскага Парламента,*
*старшыня Фонда імя Конрада Адэнаўэра,*
*Прэзідэнт Еўрапейскага Парламента ў адстаўцы*

Вечар 19 снежня 2010 г., дня прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, паставіў прамежкавую кропку ў асцярожным набліжэнні Мінска да Еўрапейскага звязу.

Жаданне волі і грамадзянская мужнасць вывелі на вуліцы тысячы беларусаў, якія хацелі прадэманстраваць сваё абурэнне маніпуляцыямі вынікаў выбараў. Рэжым Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі адрэагаваў з нечаканай жорсткасцю. Дэманстрантаў па-зверску збілі, сотні з іх былі арыштаваныя і асуджаныя да грашовых штрафаў ці зняволення. Нават сёння 9 чалавек знаходзяцца ў турме па палітычных падставах.

Каб прадухіліць далейшыя пратэсты, рэжым узмацніў жорсткасць законаў і пашырыў паўнамоцтвы беларускай сакрэтнай службы КДБ. Праз пастаянны пераслед і рэпрэсіі супраць іншадумцаў сакрэтныя службы краіны ўсё яшчэ – тры гады пасля першай шматмесячнай хвалі рэпрэсій непасрэдна пасля прэзідэнцкіх выбараў – спрабуюць захаваць пачуццё страху ў грамадстве і тым самым задушыць любы, нават патэнцыйны, паростак выяўлення незадаволенасці.

Свае падыходы беларускае кіраўніцтва спрабуе апраўдаць пры дапамозе неверагоднага аргумента: нібыта насельніцтва яшчэ не саспела для дэмакратыі і Беларусь мусіць крочыць сваім уласным шляхам. Тым самым яно публічна абвяргае ўніверсальнасць правоў чалавека.

Заходняя супольнасць каштоўнасцяў не мае права моўчкі назіраць за такімі дзеяннямі, яе абавязак – цвёрда і рашуча запатрабаваць выканання правоў чалавека, у тым ліку і ў Беларусі. Яна мусіць дапамагчы тым, хто з-за свайго выступлення ў абарону гэтых каштоўнасцяў у Беларусі падпадае пад пераслед і асуджаецца да пакарання. Яна мусіць таксама даць магчымасць іншым пачуць голас гэтых мужных людзей.

Гэтая складанка твораў беларускіх палітычных зняволеных – вельмі розных па жанру, мове, мастацкай прафесійнасці і тэмах – дае не толькі магчымасць зазірнуць у перажыванні чалавека, які апынуўся ва ўладзе рэпрэсіўнай машыны. Яна ёсць дакументацыяй палітычнага пераследу, але ж адначасова і сведчаннем мужнасці людзей захоўваць вернасць сваім ідэалам свабоды. Гэта пакідае надзею, што Беларусь адолее свой шлях да дэмакратыі і правоў чалавека і вернецца ў еўрапейскую сям'ю, якая грунтуецца на агульных каштоўнасцях.

*Снежань 2013 г.*

## Dr. HANS-GERT PÖTTERING

*Member of the European Parliament*
*Chairman of the Konrad Adenauer Foundation*
*President of the European Parliament ret.*

The 19th of December 2010, the night of the presidential elections in Belarus, marked the preliminary end of cautious rapprochement of Minsk to the European Union.

At that time will for freedom and civil courage brought into the streets thousands of Belarusian citizens who wanted to demonstrate their frustration with electoral manipulations. The regime of the President Alexander Lukashenko reacted with unimaginable brutality. The demonstrators were brutally battered, hundreds of them were arrested and further fined or sentenced to imprisonment. Even today nine people are still in prison for political reasons.

In order to prevent further protests the regime has tightened the laws and extended the powers of the Belarusian secret service – the KGB. Using constant surveillance and repressive measures against dissidents the secret services of the country try to maintain fear in the society even now – three years after the first wave of repressions which lasted several months immediately after the presidential elections – and thus they try to smother any, albeit potential expression of dissatisfaction.

The Belarusian government tries to justify its approach with the unbelievable argument that the population is not yet mature for democracy and that Belarus must follow its own way. Thereby it openly denies the universality of the human rights.

The western community of values should not remain silent in regard to these inhuman actions, it must firmly and resolutely demand observance of human rights also in Belarus. It must help those prosecuted and convicted in Belarus for standing up for their values. This also should give voice to these brave people for them to be heard.

This collection of works of Belarusian political prisoners, which are very different in terms of genre, language, artistic professionalism and topics, provides not only insights into the ex-

periences of the people who found themselves in the grip of the repression machine. It further represents documentation of political persecution. At the same time it's a testimony to the bravery of the people who want to stay true to their ideals of freedom. It gives hope that Belarus will manage its way to democracy and human rights, back to the European family of common values.

*December 2013*

## РЫГОР БАРАДУЛІН

### *Голас волі*

Голас волі з-за кратаў,
Ён зрынае са стодаў
Крывісмокаў, вар’ятаў,
Трыстуноў млосных одаў.

Вея лютасьці вые,
Падрасьлі маладыя.
Не прымаюць іх шыі
Хамуты залатыя.

Рух ня спыняць ніколі
Ані здрадай, ні хлусьсю.
Сьцяг
Пагоню на волю
Ўзносіць над Беларусьсю.

Нашы дні, як навэлы,
Значаць крылы палёту.
Беларус –
Значыць сьмелы,
Непадлеглы прыгнёту.

Дух змаганьняў ня кволы –
Ні паразаў, ні стратаў.
Весьніць высі і долы
Голас волі з-за кратаў!

*23 кастрычніка 2013 г.*

# АД УКЛАДАЛЬНІКА

Ідэя гэтай Анталогіі ўзнікла ў 2011 годзе, калі яе ўкладальнік сам знаходзіўся ў зняволенні пасля прэзідэнцкіх выбараў, якія адбыліся ў Беларусі 19 снежня 2010 года. У адзіночнай камеры цяжка знайсці суразмоўцу, а суразмоўца быў вельмі патрэбны, каб не звар'яцець. І я пачаў пісаць вершы – як у юнацтве. Спачатку адрасаваў іх жонцы, пасля – сябрам. Затым я пачаў пісаць успаміны пра горад свайго дзяцінства.

І калі мне ўсё ж далі адносную свабоду – замянілі маленькую камеру-адзіночку вялізнай камерай, у якой жывуць амаль дзесяць мільёнаў беларусаў, – я зразумеў, што не для аднаго мяне актуалізавалася падчас няволі праблема суразмоўцы. Трэба было падзяліцца з кім-небудзь тым, што цябе хвалюе, пагаварыць. І найпрасцей было гэта зрабіць якраз на паперы.

Спачатку я хацеў сабраць толькі вершы. Я ўяўляў сабе нашую няздзейсненую рэвалюцыю як рэвалюцыю паэтаў. Нездарма кандыдатам, якога я падтрымліваў, быў сапраўды выдатны паэт Уладзімір Някляеў. Але высветлілася, што вершы ў турмах пісалі далёка не ўсе. Вабіла проза. Нехта пісаў успаміны, нехта – апавяданні.

І шмат хто працягваў пісаць, апынуўшыся, як і я, па той бок кратаў. Турэмны досвед стаўся запатрабаваным у чытачоў. Таму што многія з іх падзялялі нашыя погляды і перакананні – і, хоць і баяліся сабе ў гэтым прызнацца, разумелі: яны могуць падзяліць і наш лёс.

Таму першапачатковую ідэю амаль адразу давялося скарэкціраваць. У кнігу мусілі ўваходзіць не толькі вершы, але і іншыя тэксты, у якіх аўтары рэпрэзентавалі сябе, сваю краіну, свой час. І тэксты не толькі тых, хто пацярпеў за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года.

Палітзняволеныя з'явіліся ў найноўшай беларускай гісторыі ў 1996 годзе, калі паэт Славамір Адамовіч быў арыштаваны за верш «Убей президента», а палітыкі Юры Хадыка і Вячаслаў Сіўчык – за ўдзел у масавай акцыі «Чарнобыльскі шлях».

У 1997 годзе прайшла першая «справа журналістаў»: здымачная група карэспандэнцкага пункта Грамадскага расійскага тэлебачання была арыштаваная за сваю прафесійную дзейнасць. Арышт Паўла Шарамета і Дзмітрыя Завадскага выклікаў шырокі рэзананс: праблему вырашаў на міждзяржаўным узроўні прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын.

Тады ж была здзейснена расправа з аграрыямі, якія не дагадзілі кіраўніку беларускай дзяржавы. Былі асуджаныя заслужаны кіраўнік аграрнага прадпрыемства, ветэран Другой сусветнай вайны, праслаўлены яшчэ ў савецкую эпоху, Васіль Старавойтаў і міністр Васіль Лявонаў, які спрабаваў рэфармаваць сельскую гаспадарку ў Беларусі.

У тым жа 1997 годзе адбыліся суды над першымі непаўналетнімі апазіцыянерамі: гэты лёс выпаў Вадзіму Лабковічу. Ён, а таксама ягоны паплечнік па моладзевай арганізацыі «Малады фронт» Аляксей Шыдлоўскі былі асуджаныя за антыпрэзідэнцкія графіці.

У 1998 годзе адбылася расправа над яркім і самабытным палітыкам Андрэем Клімавым. У мінулым паспяховы бізнесмен, Клімаў, абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета, наважыўся падаць голас за імпічмент прэзідэнту і быў пакараны. Яго тройчы асуджалі да розных тэрмінаў зняволення і кожны раз пераконваліся, што зламаць яго немагчыма.

У 1999 годзе арыштавалі былога рэктара Гомельскага медыцынскага ўніверсітэта прафесара Юрыя Бандажэўскага, які меў магчымасць казаць праўду пра наступствы аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Гэта быў акт высокай грамадзянскай мужнасці: улады сцвярджалі, што небяспекі няма, што можна вырошчваць хлеб і жывёлу на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях і пасля ўжываць атрыманую харчовую прадукцыю.

Прыкладна ў той жа час за ўдзел у апазіцыйнай акцыі, скіраванай на абранне прэзідэнта Беларусі паводле Канстытуцыі 1994 года, незаконна скасаванай у 1996 годзе, быў асуджаны былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір. Рэпрэсіі закранулі практычна ўсю ягоную сям'ю: у выніку былі асуджаныя і жонка Юлія, і сын Аляксандр.

У 2002 годзе асуджаны вядомыя журналісты і грамадскія дзеячы Віктар Івашкевіч, Мікалай Маркевіч і Павел Мажэйка – ім інкрымінавалі паклёп на кіраўніка дзяржавы, хоць доступу да патрэбнай інфармацыі, якая магла б праліць святло на ісціну, прадстаўнікі недзяржаўных медыя не атрымліваюць у Беларусі з 1996 года.

У 2004 годзе былі зняволеныя актывісты прадпрымальніцкага прафсаюза з Гродна Валер Леванеўскі і Аляксандр Васільеў. Ім інкрымінавалі знявагу да асобы прэзідэнта Беларусі ў ананімных улётках, аўтарства якіх, па сутнасці, так і не было пацверджана належным чынам.

У той жа час, у 2004 годзе, асуджаны вядомы дыпламат і палітык Міхаіл Марыніч, які вылучыў сваю кандыдатуру на пост прэзідэнта падчас выбараў 2001 года. Гэта было публічнае цкаванне знанага дзяржаўнага дзеяча, які паспеў пабываць і мэрам Мінска, і міністрам, а таксама абіраўся дэпутатам парламента. Суд над Міхаілам Марынічам засведчыў: ніякія мінулыя дасягненні не могуць перашкодзіць уладам зацкаваць чыноўніка, калі ён пяройдзе ў апазіцыю.

У 2006 годзе была арыштаваная па абвінавачванні ў дзейнасці ад імя незарэгістраванай грамадскай арганізацыі група моладзевых актывістаў, якая каардынавала незалежнае назіранне на прэзідэнцкіх выбарах 2006 года.

У тым жа годзе быў зняволены экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Казулін. Былога рэктара галоўнага ўніверсітэта Беларусі прафесара Казуліна асудзілі да пяці з паловай гадоў пазбаўлення волі за арганізацыю мірнай акцыі супраціву. У знак пратэсту Казулін 53 дні трымаў галадоўку. У часе зняволення памерла ягоная жонка. Мужная жанчына, Ірына Казуліна з аднолькавай адвагай змагалася з ракам і з уладамі: хвароба забірала яе жыццё гэтаксама, як улада забрала ў яе мужа свабоду. Аляксандра Казуліна вызвалілі на час пахавання жонкі, якое ператварылася ў сапраўдную маніфестацыю. Адразу пасля гэтага экс-кандыдата ў прэзідэнты вярнулі ў калонію.

У тым жа 2006 годзе распачалася справа валкавыскага прадпрымальніка, актывіста руху ветэранаў афганскай вайны Мікалая Аўтуховіча. Пад прэсінгам міжнароднай су-

польнасці ўладам давялося вызваліць баявога афіцэра-ардэнаносца, аднак пасля ён зноў быў арыштаваны і асуджаны. Ён і цяпер знаходзіцца ў няволі.

2007 год зноў прайшоў пад знакам пераследу актывістаў Маладога фронту. Шмат каго з іх арыштавалі, асудзілі да штрафаў і адміністратыўнага пакарання. Вялікі рэзананс атрымала справа школьніка з г. Салігорска Івана Шылы: яму не далі скончыць навучанне ў сярэдняй школе, нягледзячы на добрыя адзнакі. Іван Шыла быў адлічаны, калі яму заставалася здаць усяго адзін іспыт. Пратэстуючы супраць такога беззаконня, звольнілася дырэктарка школы Вольга Сянькова, што стала адзіным на сённяшні дзень вядомым фактам, калі настаўнік падтрымаў вучня, якога пераследуюць за палітычныя погляды.

2008 год улады прысвяцілі барацьбе з прадпрымальнікамі. Рэзананснаю сталася «справа чатырнаццаці» – асудзілі чатырнаццаць актывістаў, якія ўдзельнічалі ў акцыі падтрымкі прадпрымальнікаў. Актывісты, якія вучыліся ў ВНУ, былі адлічаныя без права заканчэння навучання. У тым жа годзе зняволены актывіст прадпрымальніцкага руху з Віцебска, афіцэр міліцыі ў адстаўцы Сяргей Парсюкевіч, абвінавачаны ў расправе і спробе расправы з супрацоўнікам міліцыі.

Пасля выбараў 19 снежня 2010 года арыштаваныя кандыдаты ў прэзідэнты Беларусі Аляксей Міхалевіч, Уладзімір Някляеў, Віталь Рымашэўскі, Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, Дзмітрый Ус (затрымліваліся таксама, але былі неўзабаве вызваленыя кандыдаты Рыгор Кастусёў і Яраслаў Раманчук), а таксама кіраўнікі і актывісты іх перадвыбарных штабоў. Большасць з іх была асуджаная да розных тэрмінаў зняволення, у некаторых выпадках – да ўмоўнага альбо адтэрмінаванага пакарання. Агулам за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту 19 снежня затрымалі больш за 800 чалавек. Экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Мікалай Статкевіч і сёння знаходзіцца ў калоніі, нягледзячы на актыўныя патрабаванні міжнароднай супольнасці аб ягоным вызваленні.

За два дні да выбараў былі арыштаваныя актывісты Маладога фронту Зміцер Дашкевіч і Эдуард Лобаў. Ім быў інкрымінаваны ўдзел у бойцы. «Пацярпелыя», бясспрэчна,

былі міліцыянтаўскімі правакатарамі і нават не наважыліся адкрыта сведчыць падчас суда.

Судовая машына выносіла прысуды цягам усяго 2011 года. Акрамя ўдзельнікаў акцыі 19 снежня былі асуджаныя некалькі груповак моладзевых актывістаў, якія належалі да розных анархісцкіх плыняў: яны мелі мужнасць выступіць супраць КДБ і прадэманстраваць гэта публічна. Асуджаны журналіст Андрэй Пачобут, актывіст польскага нацыянальнага руху ў Беларусі. Арыштаваны і трымаў доўгатэрміновую галадоўку актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі Беларускага народнага фронту Сяргей Каваленка: ён выказаў свой пратэст тым, што вывесіў на гарадской навагодняй ялінцы ў Віцебску нацыянальны сцяг, які быў дзяржаўным сцягам Беларусі да 1995 года.

Нарэшце, у 2011 годзе быў зняволены лідар праваабарончага цэнтра «Вясна», літаратар і грамадскі дзеяч Алесь Бяляцкі. Яму інкрымінавалі ўхіленне ад выплаты падаткаў, хоць улады не хавалі таго, што пераследуюць Бяляцкага з той прычыны, што праз «Вясну» ажыццяўляецца найбольш істотная падтрымка ўсіх палітычных зняволеных. Суд над Бяляцкім атрымаў сусветны рэзананс яшчэ і таму, што паказаў усёй міжнароднай супольнасці: аўтарытарны рэжым выкарыстоўвае кожную законную магчымасць для пераследу сваіх палітычных апанентаў. У выпадку з Бяляцкім следства грунтавалася на дакументах, якія былі перададзеныя беларускім уладам дзяржструктурамі Літвы і Польшчы.

Гэты спіс не з’яўляецца вычарпальным, як ад пачатку не задумвалася вычарпальнай і нашая Анталогія. Шэраг аўтараў з той ці іншай прычыны адмовіліся змясціць свае тэксты. Нехта папросту не паспеў іх перадаць. Пра некаторыя тэксты мы даведаліся тады, калі праца над кнігай была збольшага скончаная. Чыесьці кнігі выйшлі дастаткова вялікімі накладамі зусім нядаўна і даступныя шырокаму чытачу ў інтэрнэце.

У гэтай Анталогіі аб’яднаныя тэксты і лёсы людзей, якія прытрымліваюцца розных палітычных поглядаў, але аднолькава любяць свабоду і вераць у ідэалы дэмакратыі. Гэта – галоўнае.

На жаль, няма падстаў сцвярджаць, што падобныя кнігі ў Беларусі не будуць з'яўляцца ў далейшым. Беларускі ПЭН-Цэнтр і Радыё «Свабода» нават заснавалі прэмію імя аднаго з першых беларускіх палітзняволеных савецкага часу пісьменніка і грамадскага дзеяча Францішка Аляхновіча, які пакінуў пасля сябе кнігу ўспамінаў «У капцюрох ГПУ» – турэмны тэкст таго часу. Але няма сумневу ў іншым: беларускія ўлады заўсёды будуць саромецца таго, што падобныя кнігі з'яўляюцца, а таму будуць пераследаваць зноў і зноў іх аўтараў і выдаўцоў.

Ніхто з аўтараў і ўкладальнік не атрымліваў за ўдзел у Анталогіі ганарару.

Тэксты ў Анталогіі змешчаныя ў адпаведнасці з беларускім алфавітам па прозвішчах аўтараў.

Біяграфічныя даведкі напісаныя ўкладальнікам і ўзгодненыя з аўтарамі альбо іх паўнамоцнымі прадстаўнікамі.

У Анталогію ўвайшлі вершы, успаміны, дзённікі, апавяданні і публіцыстычныя артыкулы тых асоб, якія зведалі рэпрэсіі. Некаторыя аўтары пастановамі міжнародных праваабарончых арганізацый вызнаваліся палітычнымі зняволенымі, некаторыя маюць статус вязняў сумлення.

Кожны аўтар мог асабіста альбо праз давераных асоб (сваякоў і сяброў) перадаць для Анталогіі тэксты на мове напісання, на ўласны выбар. Аб'ём, прапанаваны кожнаму, быў абмежаваны пяццю аўтарскімі аркушамі. Выключэнне было зроблена для дзённікаў Паўла Шарамета, бо яны ўтрымліваюць падрабязную інфармацыю пра арышт здымачнай групы, аднаго з членаў якой – Дзмітрыя Завадскага – верагодна, ужо няма сярод жывых. Дзмітрый Завадскі знік 7 ліпеня 2000 года пры загадкавых абставінах і паводле рашэння суда быў абвешчаны мёртвым.

Усе аўтарскія правы на тэксты належаць аўтарам і іх спадчыннікам. У апошнім выпадку гаворка ідзе пра трагічна загінулага неўзабаве пасля вызвалення Арцёма Грыбкова. Ягоная жонка Святлана чакала дзіця; нарадзіўся сын, Яраслаў, які ніколі не пабачыць свайго бацьку.

Укладальнік дзякуе Фонду Конрада Адэнаўэра і выдавецтву Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта за актыўнае спрыянне ў выхадзе Анталогіі.

*Аляксандр Фядута*

## FROM THE COMPILER

The idea for this anthology came in 2011 when its author was imprisoned after the presidential elections in Belarus that took place on December 19, 2010. It is difficult to find a companion in a solitary confinement, but it was necessary to have a companion not to go mad. I began to write poems – as in youth. First I addressed them to my wife, then to my friends. And then I started to write memoirs about the city of my childhood.

When I was released to have some relative freedom – a small solitary confinement was replaced by a huge one, where almost ten million Belarusians live, – I realised that I was not the only one to make actual the problem of a companion during detention. It was necessary to share with someone the things you care about, to talk. The easiest way to do this was paper.

At first, I just wanted to collect poems. I imagined our frustrated revolution as a revolution of poets. It was not in vain that the candidate whom I supported was an outstanding poet – Uladzimir Niakliaeu. But it turned out that not everyone was writing poems in prison. Prose was more attractive. Someone wrote memoirs, others stories.

Many were writing at the time when, like me, they found themselves on the other side of the bars. The prison experience came to be popular with the readers because many of them shared our views and beliefs – and though they were afraid to admit it, they understood that they could share our destiny.

So the original idea had to be amended. The book should include not only poetry, but also other texts in which the authors represented themselves, their country and their time. And not only the texts of those who suffered for their participation in the peaceful protest march on December 19, 2010.

Political prisoners appeared in the recent history of Belarus in 1996, when the poet Slavamir Adamovich was arrested for the poem *Kill the President,* and the politicians Yuri Khadyka and Viachaslau Siuchyk for taking part in the mass action "Charnobylski shliah" (Chernobyl March).

In 1997 the first “journalist case“ appeared: the crew of the Russian Public Television office in Belarus was arrested for their professional activities. The arrest of Paval Sharamet and Dzmitry Zavadzki aroused a wide resonance: President Boris Yeltsin of Russia solved the problem at the international level.

Reprisals against agrarians who did not please the Belarusian Head of State took place at the same time. Vasil Staravoitau, head of an agrarian enterprise and World War II veteran, who was famous in the Soviet times, and Minister Vasil Liavonau, who was trying to reform agriculture in Belarus, were convicted.

In the same year trials of the first underage oppositioners were held: this fate fell on Vadzim Labkovich. He and his fellow from the youth organization *Molodoi Front* (*Young Front)* Aliaksandar Shydlouski were convicted for anti-presidential graffiti.

In 1998 reprisals against the bright original politician Andrey Klimau tool place. A successful businessman in the past, Klimau had dared to call for the impeachment of the president when he became a member of the Supreme Soviet. He was demonstratively pinished for this. Three times he was sentenced to various terms of imprisonment, each time proving that it was impossible to crush him.

In 1999 the former rector of Gomel State Medical University professor Yury Bandazhevsky who dared to tell the truth about the consequences of the Chernobyl nuclear disaster was arrested. This required great civic courage: the authorities had been saying that there was no danger, that you could grow grain and graze cattle in the contaminated areas and consume the food produced there.

In the same year, former Prime Minister of Belarus Mikhail Chyhir was convicted for participation in the opposition campaign aimed at electing the President of Belarus in accordance with the 1994 Constitution that was illegally repealed in 1996. Repressions affected almost all the members of his family: in the long run, his wife Julia and son Alexander were also convicted.

In 2002 well-known journalists and public figures Viktar Ivashkievich, Mikalai Markievich and Paval Mazheika were convicted as well. They were incriminated with slander against the head of the state, although since 1996 representatives of indepen-

dent media had had no access to the required information that could help elicit the truth.

In 2004 activists of the entrepreneurs‘ union from Grodno Valery Levaneuski and Aliaksandar Vasilieu were convicted. They were charged with insulting the personality of the president of Belarus in unsigned leaflets, the authorship of which, in fact, was not properly confirmed.

In the same year, 2004, the famous diplomat and politician Mikhail Marynich who ran for presidency in 2001 was also convicted. It was a demonstrative reprisal against a prominent public officer who had occupied positions of the mayor of Minsk and Minister and had been elected deputy of the Belarusian Parliament. The trial of Mikhail Marynich was to show that no past merits would prevent the authorities from spifflicating a public officer if he joined the opposition.

In 2006 a group of young activists who organized observations at the 2006 presidential elections were arrested on a charge of acting on behalf of an unregistered NGO.

The former presidential candidate Professor Aliaksandar Kazulin was convicted. The former rector of the main university of Belarus Professor Kazulin was sentenced to 5.5 years in prison for organizing a peaceful protest act. In protest Professor Kazulin was on a hunger strike for 53 days. During his imprisonment his wife Iryna Kazulina, a courageous woman, who had been battling both with cancer and the authorities, died. The disease took away her life just like the authorities took away her husband‘s freedom. Alexander Kozulin was released to take part in the funeral of his wife that turned into a real demonstration. Then the ex-presidential candidate was returned to the colony.

At the same time, in 2006, the case of the Volkovysk entrepreneur and activist of the Afghan war veterans organization Mikalai Autukhovich started. Under international pressure, the brave army officer who had military awards was released for some time, but then re-arrested and convicted. Today he is still in prison.

2007 was marked by the persecution of *Molodoy Front* activisits. Many of them were tried and sentenced to fines and administrative arrests. The case of the Soligorsk student Ivan Shyla drew a wide response: he was not allowed to finish his studies at

a secondary school despite good results. Ivan Shyla was expelled when he had to pass only one more exam. In protest against this lawlessness the school principal Olga Senkova resigned. It was the only known fact when a teacher stood up for a student who was politicaly persecuted.

The authorities spent the year 2008 struggling with entrepreneurs. In 2008 the "case of fourteen" drew a wide response – fourteen activists who had participated in the campaign to support entrepreneurs were tried. Those of them who were students were expelled from universities without a possibility to finish studies. In the same year Siarhei Parsyukievich, an activist of the entrepreneurs' movement from Vitebsk, a retired police officer, was accused of violence and threat of violence to a police officer and was convicted.

After the elections on December 19, 2010 the presidential candidates Aliaksei Mikhalevich, Uladzimir Niakliaeu, Vitaly Ramasheusky, Andrei Sannikau, Mikalai Statkievich, Dzmitry Us as well as leaders and activists of their campaign headquarters were arrested. (The candidates Gregory Kastusyou and Yaraslau Ramanchuk were also detained and released). Most of them were sentenced to various terms of imprisonment, in some cases - conventional or suspended. More than 800 people were arrested during those days for participation in the peaceful protest on December 19, which was evaluated by the courts as riot or gross violation of public order. The former presidential candidate Mikalai Statkevich is still in prison, despite strenuous demands of the international democratic community to release him.

Two days before the elections two activists of *Molodoy Front (Young Front)* – Zmitser Dashkievich and Eduard Lobau – were arrested for alleged involvement in a fight. People who accused them were apparantely police provocateurs and did not even dare to testify openly at the trial.

The judicial machine issued verdicts during the whole year of 2011. In addition to the protesters of December 19, a few groups of young activists who adhered to various anarchist movements and dared to speak out against KGB and show it in public were convicted. The journalist Andrei Pachobut, an activist of the Polish national movement in Belarus, was also convicted. Siarhei

Kavalenka, a BNF Conservative Christian Party activist, who expressed his protest in putting a national flag on a Christmas tree in Vitebsk, was arrested and held a hunger strike. The flag was withdrawn from public use in 1995.

Finally, in 2011 the leader of the human rights center *Viasna*, writer and social activist Ales Bialiatski was convicted. He was charged with tax evasion, although the authorities did not conceal that the persecution took place because it was through *Viasna* that the most significant support to all political prisoners was provided. The trial of Bialiatski received special attention in the world because it showed to the international democratic community that the authoritarian regime uses any legal opportunity to persecute its opponents. In Bialiatski's case documents sent to the Belarusian authorities by the state agencies of Lithuania and Poland became the basis for the court procedure.

The list is not complete, as our Anthology is obviously not complete. For certain reasons, some authors have refused to provide their texts. Some people just did not have time to submit them. We found some texts only when the work on the book was almost completed. Someone else's books were published in large numbers not long ago and are available to the general audience in the Internet.

This Anthology combines texts and destinies of people who have different political views, but all of whom love freedom and believe in the ideals of democracy. This is the most important thing.

Unfortunately, there is no reason to believe that a book like this will not appear in Belarus again. The Belarusian PEN Center and Radio Liberty even established a prize named after one of the first Belarusian political prisoners of the Soviet times – the writer and politician Francishak Aliakhnovich, who left a book of memoirs *In the clutches of the GPU* – one of the earliest texts of the prison time. However, there is no doubt that the Belarusian authorities will be always ashamed of the fact that these books appear and, therefore, will persecute again and again their authors and publishers.

None of the authors and the compiler received any fee for participating in the Anthology.

Texts in the Anthology are arranged in accordance with the Belarusian alphabet by the author's name.

Biographical notes are written by the compiler and have been discussed with the authors or their authorized representatives.

The Anthology includes poetry, memoirs, diaries, stories and publicist articles by persons who were persecuted. Some authors are recognized by international human rights organizations as political prisoners; some of them have the status of prisoners of conscience.

Each author could personally or through authorized persons (friends and relatives) submit texts to the Anthology in the original language of the contribution. Each author was given five printer's sheets space. An exception was made for the diaries of Paval Sharamet, as they contain a detailed history of the arrest of the film crew, one of whose members – Dzmitry Zavadzki – is probably no longer alive. Dzmitry Zavadzki disappeared on July 7, 2000 under mysterious circumstances and was acknowledged by the court as dead.

All copyrights belong to the authors and their heirs. In the latter case we mean Artsiom Grybkou, a participant of peaceful protests on December 19, 2010, who died tragically shortly after his release. His wife, Sviatlana, was expecting a child; the son Yaraslau was born, but he was not destined to see his father.

The compiler would like to thank the Konrad Adenauer Foundation and the European Humanities University publishing house for their active assistance in publishing the Anthology.

*Aliaksandar Fiaduta*

Нарадзіўся 24 верасня 1983 года ў Мінску.

Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і электронікі.

Інжынер, спецыяліст па электроніцы; моладзевы актывіст. Працаваў у НПА «Пеленг».

Быў адным з актывістаў нефармальнага анархісцкага руху на Беларусі. 28 лістапада 2010 года скрадзены супрацоўнікамі беларускіх спецслужбаў у Маскве. Асуджаны 27 траўня 2011 года судом Завадскога раёна г. Мінска на 8 гадоў знаходжання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму за ўдзел у антымілітарысцкай акцыі каля Генеральнага штаба Беларусі 19 верасня 2009 года і нібыта ўдзеле ў падпальванні аўтамабіля каля пасольства Расійскай Федэрацыі 30 жніўня 2010 года. Па меркаванню праваабаронцаў, справа Аліневіча разглядалася з парушэннем права падсуднага на абарону, прадузята і палітычна матывавана.

Падчас знаходжання ў следчым ізалятары КДБ («амерыканка») Ігар Аліневіч падвяргаўся пыткам.

Ужо з калоніі Ігар перадаў на волю тэкст успамінаў «Я еду в Магадан», які друкаваўся ў перакладзе на беларускую мову ў газеце «Новы Час» і на мове арыгіналу ў зборніку «Еду в Магадан» (Санкт-Пецярбург, 2012) разам з палітычнымі артыкуламі Аліневіча.

Для Анталогіі тэкст успамінаў перададзены маці Ігара, сп. Валянцінай Аліневіч, і друкуецца цалкам.

He was born on September 24th, 1983 in Minsk.

He graduated from Belarusian State University of Informatics and Electronics.

He is an engineer, electronics specialist and a youth activist. Ihar worked in the NGO *Peleng*.

He was one of the activists of informal anarchist movement in Belarus. On November 28, 2010 he was abducted by members of Belarusian security forces in Moscow. On May 27, 2011 he was sentenced by the Minsk Zavodskoy district Court to maximum 8 years in a maximum security prison for taking part in an anti-militarist action near the Belarus General Staff Headquarters on September 19, 2009 and for involvement in the ignition of the vehicle near the Embassy of the Russian Federation on August 30, 2010. According to human rights activists, the case of Alinevich was considered in violation of the defendant's right of defense and was prejudiced and politically motivated.

During his stay in the KGB detention center ("Americanka") Ihar Alinevich was subjected to torture.

From prison Ihar passed the text with his memories *Ya edu v Magadan (I am going to Magadan)* which was published in translation in the Belarusian language in the newspaper *Novy Chas* and in the original language in the book *Ya edu v Magadan (I'm going to Magadan)* (St. Petersburg, 2012) together with his political articles.

The text of the memories was submitted to the Anthology by Ihar's mother Mrs. Valiantsina Alinevich, and is printed in full.

# ЕДУ В МАГАДАН

## *Часть 1*

***

28 ноября 2010 года, Москва, кафе торгового центра «У Горбушки», 14.45 на часах. От бессонной ночи слипаются глаза. Толпы людей, суета, озабоченные лица. В каждом втором мерещится сотрудник, как, например, эти трое в черных куртках. Дима сидит напротив. Смеемся над собственной паранойей. Ночью пришло предложение от Буратино (он же Лаптенок Антон) встретиться. В душе настойчивое желание отказаться, ведь мы знаем, что он – предатель. Но это необходимо. Дима нервничает. По плану, он должен наблюдать в бинокль за встречей, но он изначально против всей этой затеи. Конечно, Дима прав. И место, и план должны быть продуманы лучше, но три месяца в бегах притупляют чувство опасности, да и так не хочется думать, что и этот предал. Я должен успеть срисовать агентов во время встречи и дать по тапкам, попутно залив газом морду «казачка». Поздно что-либо менять. Уже время, пора выдвигаться.

Выходим из комплекса, с разных сторон метнулись четыре тени, схватив под руки. Я не удивился, ни один мускул не дрогнул. Дима отпрыгнул в сторону и бросился наутек. Случайный прохожий ставит ему подножку, но, к счастью, безуспешно. Страна господ, страна рабов.

Один из men in black (людей в черном) успокаивает: «Это мы вашим помогаем». Хм, эти «наши» – ваши, а не наши. Звякнули браслеты, запихнули в машину, шмон по карманам, мобила, кошелек, плейер. За часа полтора до встречи я включил телефон, с которого звонил Буре. Думал, что в людном месте не успеют найти или не будут искать вовсе, чтоб не рисковать. Дурацкая ошибка… Шапка на глаза, одна машина, затем другая, между собой люди в черном – фээсбэшники – не переговариваются, пишут текст на телефоне и передают друг другу. Пара остановок в туалет, смотришь на поле, лес, и кажется, что это сон…

...Граница с Беларусью. Голову втапливают в пол, значит, операция нелегальная. Передача местным в бусик. Московские говорят:

– Больше такой х... не подкидывайте.

– Конечно, за нами долг, мужики, – отвечают *тутэйшыя*.

Трогаемся. Начинают с угроз:

– Ты понял, что сказать надо? Или заедем в одно место для разъяснений?

– Да понял-понял, – отвечаю я, – чего уж тут...

Ага, как же. Не копаться в памяти, не сожалеть, считать секунды, успокаивать нервы. Нужно мобилизоваться, сосредоточиться на одной истине: «Не верь, не бойся, не проси...»

– Уже 20.30, заезжай.

Лязгнули ворота, машина заехала. На глазах по-прежнему шапка. Я полностью дезориентирован. Заводят в кабинет, садят на стул, лицом в стол, на шею опускается ребро чьей-то ладони. Впереди самая долгая ночь в моей жизни...

– ...Игорь, давай поговорим с тобой как человек с человеком, – раздался голос напротив.

– В таком положении люди не разговаривают, – я сам удивился своему голосу.

Видимо, они не ожидали сопротивления и на некоторое время замешкались. Это придало мне уверенности. Затем приступили:

– Мы все знаем, говори, признавайся!

– Не знаю, не был.

– Тебя уже все сдали, чего отнекиваться?

Мучает лишь один вопрос: Дима ушел или все же взяли позже? Но как это узнать?

– А что Дима? Дает показания?

– Какой Дима? Ты имеешь в виду Дубовского?

Ясно! Не взяли! Значит, все не так уже плохо.

– Какие новости в Интернете? Никого не похитили? Плохо работаете. О вашем «казачке» было известно заранее. Мы подготовились.

Открылась дверь, кто-то сказал:

– Действительно, уже висит на сайте.

Повисла неловкая пауза. Похоже, им было обидно признать, что в руках находились оба. Все, а их было трое или четверо, вышли. С сердца как камень свалился: Димон на воле, не растерялся, а Буратино вскрыт подчистую. Теперь предстоит пережить дознание. Именно на показаниях, данных в первые дни, как правило, строятся дела.

Вернулись дознаватели.

– Ты наивен. Ты думаешь, у тебя есть друзья? Тебя все предали, а ты подозревал не того!

Но я уже не слушал этот бред. Первое правило – «Не верь!». Все, что они говорят, – ложь, полуправда. А если и правда, то с целью дальнейших манипуляций. Методика была проста: начинали с одного эпизода, но, как только получали отпор, переходили к другому. Генштаб… Казино… Билборды… Профсоюзы… Банк… Посольство… ИВС… Банк… Казино… И так до бесконечности.

Брали измором. Я засыпал много раз и просыпался. Как только чувствовали усталость, сразу усиливали давление. В ход шло все: угрозы, лесть, шантаж, увещевания в бессмысленности борьбы, сомнения в сторону товарищей, упор на эгоизм и т.п. Я не знал, сколько времени прошло. Оно перестало существовать. Было неясно, где реальность, а где сон… «Закинем в хату к скинхедам! У нас есть специальная скинхата!.. Ты – красавчик, таких в тюрьмах любят… Тебя еще не били нормально… Зачем тебе это? Жил бы как все. Еще есть возможность!.. Ты занимаешься карате? Оно ведь иерархично, ты противоречишь своим принципам!.. Ты боишься взять, ты – трус!.. Ты сядешь. Вопрос решенный. Только вот на пять или десять лет, решать тебе… Я бы дал тебе 12, нет, даже 20 лет… Я звоню твоей бабушке. Пусть узнает о тебе все… Тебе никто не наймет адвоката… Нам нужно знать только одно: кто тебе заплатил?..»

Я включался только, чтобы сказать «Не знаю, не был», и вновь уходил в беспамятство. Второе правило гласит: «Не бойся». Как правило, они блефуют. Но даже если и нет, то только так можно узнать, выдержишь ты или нет. Кто испугался – уже побежден. Стоит показать страх – и ты на крючке, из тебя вытянут все, даже то, чего у тебя в мыслях не было. На

некоторое время сняли шапку. За столом сидел только один: «Эх, хороший ты парень. Инженер, здоровый образ жизни ведешь, спортом занимаешься. Нельзя так пропадать. Я же и сам понимаю, что вы очень многое правильно говорите, вот только реализация… А может, ну его все это?»

По ходу дознания периодически возникало чувство узнавания, что вот это и это я где-то читал. Эта мысль очень отрезвляла, подтверждала осознание того, что это все – инсценировка. Ведь возникало ощущение некой оторванности, подсознательно хотелось поверить в их аргументы и тем самым все прекратить. Психологическая защитная реакция. От нее никуда не деться.

Снова нацепили шапку на глаза. Пришел некто новый. Он не стал всесторонне распрягать, а со всем внушением, отборными фразами и специфическим тоном стал втирать, какое же я типа «ссыкло». …Снова ожидание. Ужасно хотелось пить и подмывало стрельнуть сигаретку. Но я знал, что этого делать нельзя. Любую просьбу нужно ставить в формат требования. Третье правило – «не проси». Любая просьба делает психологический климат мягче, и, может быть, именно этой капли будет достаточно, чтобы перевесить чашу весов в их пользу.

Сняли шапку, принесли еду. Опера сидят потухшие. Исчерпались. Чего-то ждем, очень долго. Через маленькую форточку пробивается свет. Значит, уже день. Вдруг подъем. Снова коридорами, лестницами, коротким переходом по внутреннему дворику, мимо множества кабинетов с табличкой «Идет допрос». Заводят к следователю. Тут же адвокат. Все культурно. Вручается ордер на арест по обвинению в акции у изолятора временного содержания на ул. Окрестина. Начинается допрос, на часах 16.00. В их лапах уже сутки. Дознание длилось 19 часов. Наконец-то сняли наручники… Это волшебное ощущение свободы подвигать руками…

Обыск. Изъятие вещей, отшмонали берцы, дали какие-то тапки довоенных времен. Уже не выдерживаю, засыпаю прямо на лавке в отстойнике. Поднимают, ведут в большой круглый холл с массивными стенами. Узкая лестница на второй этаж. Ощущение, что попал в какое-то совмещение

противоядерного бункера и колизея. Горизонтальная решетка закрывает весь проем со второго этажа на первый. В середине – центральный пульт с телефоном. Конвоир ведет меня вдоль дверей, одна за другой, по кругу. В руках у меня матрас, подушка, простыни. Остановка, открывается дверь № 3, и я захожу в камеру. Никого. Две железные кровати с жесткими прутьями, два табурета, вмонтированных в стену. Такой же стол. В углу пластиковое ведро с крышкой. На тумбочке стоит поднос: картошка, селедка, сок. Маленькое окошко за двойной решеткой в виде намордника связывает с внешним миром. С видом на кирпичную стену. Дверь с лязгом захлопывается. Падаю на матрас и моментально проваливаюсь в сон.

***

Проснулся от того, что в камеру вошел старший прапорщик и потребовал доклада.

«В камере один человек, писем и заявлений нет, прогулка 1 час. Дежурный по камере Олиневич», – так звучало каждый день.

Тянулись часы… Заняться было решительно нечем. Дикий холод и сквозняк, но закутаться в одеяло нельзя. Для тех, кто попадает сюда без теплых вещей, – это пытка. Особенно чувствуется отсутствие обуви. Ноги продувает в любых носках, даже вязаных. Помогает лишь укутывание стоп в свитер. Но это – мелочи. Самое важное – вокруг постоянная тишина, отсутствует время. Иногда доносятся шаги, скрип наручников, лязг «кормушек» (вертикальная дверца в двери для подачи пищи), «маяковые» уведомляющие удары в дверь, свист и шепот контролеров (они не разговаривали!).

За несколько дней начинаешь ловить и распознавать малейшие звуки. В сутки кормушка открывается несколько раз: завтрак, обед, ужин, лекарства. Дверь открывается 4 раза: утром и вечером в туалет, еще утром на обход дежурного, один раз на прогулку (если есть). И так месяцами, у некоторых годами с круглосуточным люминесцентным освещением.

Полная неизвестность, где я и что дальше. Часы забрали. Дни смешались… Просыпаешься и засыпаешь, не зная, ни как долго спал, ни времени суток.

Что такое сознание арестанта в первые дни? Это – рой креатива воображения под катализатором подсознательного животного страха. Лишь постоянные физические упражнения приводили в чувство реальности. Изоляция… Каково это? Жизнь человека сплетается из тысячи социальных нитей: общение, обязательства, планы, отношения, работа, даже салат в холодильнике – все имеет ниточку в нашем сознании. И в один миг ты начинаешь соскальзывать с этого прочного настила. Не сразу, а постепенно. Внезапно вспоминаешь о каких-то делах, от более оперативных до менее срочных, разум начинает как бы содрогаться, метаться, нужно что-то предпринять. Ты пытаешься ухватиться за нити, не упустить, как-то увязать по-новому, но вместо этого теряешь одну за другой все и падаешь в бездну пустоты. Это еще не самое страшное: тут хотя бы видишь, что теряешь…

…В этом кромешном вакууме первая передача и первое письмо от близких, как луч света, пробивает мрак и обжигает теплом. Помню, как вытащил из пакетов теплые носки и шерстяное одеяло. Закутался в него и тут же провалился в сон с ощущением дома и родительской заботы…

– …У меня есть о чем с вами поговорить, – сказал седой, но крепкий полковник из 4-го отделения КГБ. Из окна самого дальнего кабинета открывался внезапный вид ночного города, центрального проспекта Минска. Не поверю, что после камеры на кого-то это не произвело бы впечатления. Так близко и так далеко, длиною в годы… Чай, печенье, пряники, прочая обходительность, как в фильмах.

– Вы знаете, почему вы здесь? – прозвучал коварный вопрос, как это делала инквизиция столетия назад.

– Хотелось бы знать для начала, где я нахожусь? – ответил я.

– Это не тюрьма, слава Богу, а СИЗО КГБ. Есть разница. «Американка», как говорят в народе. В 30-е годы здесь было расстреляно более 30 тыс. человек. Печально, но уверяю вас, ни я, ни мои коллеги даже в мыслях не могут допускать больше такого, – продолжал полковник.

Три беседы до ночи: об анархическом движении, методах, личном выборе, смысле жизни и т.п. Я сразу решил вести разговор исключительно в рамках информации, доступной

в интернете. То есть, когда звучал вопрос, я представлял себе открытый источник, где есть такая информация, только затем отвечал. Никакой конкретики.

Полковник интересовался такими вещами, как «финансирование», «лидеры», «зарубежные связи», т.е потенциал движения в плане использования внешних сил для дестабилизации обстановки в стране. Ясно, у них мысль в одну сторону заточена. ***Никто уже не верит, что люди могут что-то делать самостоятельно из идейных побуждений.*** На третий день все закончилось вопросом: «А могут ли анархисты и власть идти вместе к светлому будущему? Хотели бы Вы создать собственную организацию?»

Тут, как щелчок, в памяти всплыл фрагмент из «Дневника источника», где через такое предложение и произошла вербовка!

«По окончании срока я собираюсь заняться вопросами альтернативной энергетики», – медленно, слово за словом, отчеканил я. Мой ответ сильно опечалил полковника… По дороге в камеру вспомнился Маяковский и его великое «…я лучше блядям в ресторанах буду подносить ананасную воду».

…Первая прогулка под падающим мокрым снегом, в дырявых матерчатых тапочках. Прогулка – это трехметровые суровые стены, дворик три на шесть шагов (!) и решетки с колючей проволокой под электрическим напряжением. Первый раз надолго отбивает охоту выходить снова, но ровно до тех пор, пока не приходит понимание того, что небо, пусть и в клеточку, лучше, чем неизменно грязно-белый потолок с неизменным светом 24 часа в сутки. Холодные капли дождя стекали по лицу, прямо как в том лесу, через который нам с Димой часто приходилось ходить на электричку, когда скрывались в Москве.

***

Когда в начале сентября произошли первые задержания, никто не думал, что все обернется столь серьезно. Я сразу связался с Димой, и вместе мы выжидали, надеясь, что все обойдется и всех отпустят. Но в течение трех дней нам стало известно, что менты (работал УБОП) хотят накрыть пять

квартир. Каждый день количество задержанных росло, и появилась информация, что товарищей раскручивают не только по посольству, а по многим другим эпизодам, даже совсем фантастическим. Но все равно не верилось, что кого-то посадят в тюрьму и тем более посадят с реальным сроком. За много лет мы привыкли, что никому не нужны: ни ментам, ни журналистам, ни политикам. Правда, в последнее время стали появляться тревожные признаки. На панк-концерты стали активно наведываться люди в штатском. Они же пытались установить связь под видом сочувствующих, а весной того же года свинтили мероприятие Беспартшколы (публичные лекции об анархизме). Но как-то никто не придавал этому большого значения.

Более интригующие события развернулись в интернете еще за пару дней до задержаний. Белорусская Индимедия, будучи свободной новостной платформой для анархистских и околоанархистских инициатив, применила цензуру, удалив сообщение об акции у посольства. Более того, их коллектив объявил акцию провокацией. Надо сказать, что радикальные действия анархистов стали регулярно осуществляться с 2008 года и в Беларуси, и в России. События в Греции, безусловно, явились главным катализатором. За много лет впервые было озвучено, что за бунтом стоят не какие-то абстрактные антиглобалисты, а вполне конкретные анархисты. За смерть юноши такой ответ, всеохватывающий и бескомпромиссный! Но за три года лишь в последней акции Индимедия узрела провокацию. Пользуясь общей неразберихой и простоем сайта «Революционного Действия», Индимедии удалось навязать свои оценки большинству движения, в том числе и за границей. Другая часть движения, меньшая, не повелась за остальными, но на тот момент силы были неравны. В бессильной ярости мы смотрели на откровенное отступничество и безумие. Было больно осознавать, что большая часть приверженцев свободы и разума воли ведет себя, как стадо, прогнувшись под уверения пары-тройки человек. Стало очевидно, что под этим скрывается откровенный страх за свою шкуру, и жалкая демагогия о правилах Индимедии не могла это-

Сустрэча ў парку з міліцыянтамі і бяздумнасць Сержука Сыса былі для мяне халодным душам. Было відавочна, што любая наша вулічная лозунгавая актыўнасць, як толькі яна стане вядомай КДБ, непазбежна прывядзе да нас, бо болей на той час у горадзе беларускіх актыўных асяродкаў і не было. А што было б потым, не хацелася і думаць. Я адганяў гэтыя думкі, як надакучлівых мух. Так мы спыніліся пісаць лозунгі, зноўку пераключыліся на працу і на пошук аднадумцаў. А тыя, хто зрабіў самы першы надпіс «Жыве Беларусь!» у Гомелі, так і не знайшліся. Мы не аднойчы ў сваіх размовах вярталіся да гэтага эпізоду і ўрэшце вырашылі, што гэта быў хтосьці з заезджых мінчукоў.

А ўжо значна пазней, у наш час, я прачытаў у кнізе Людмілы Аляксеевай пра дысідэнцкі рух у СССР, што менавіта 1983 год вылучаўся масавымі зачысткамі дысідэнтаў па ўсім Савецкім Саюзе. КДБ вырашыла назаўсёды пакончыць з дысідэнцкім рухам у СССР. І сотні, калі не тысячы іншадумцаў з Расіі, Украіны, Прыбалтыкі і Закаўказзя былі арыштаваныя, асуджаныя і паехалі ў псіхушкі і лагеры. Гэта быў змрочны, безнадзейны год, калі мароз таталітарызму, здавалася, на доўгія гады скаваў здранцвелае цела грамадства і наперадзе не было відаць ніякага прасвету.

Менавіта ў тыя гады адбываліся апісаныя мной падзеі. Вось так часам няведанне агульнай карціны дапамагае чалавеку захаваць лакальны аптымізм, не расчаравацца і не апусціць рукі. Тым не менш халоднае крыло магчымых наступстваў прашалясцела над нашымі маладымі галовамі.

*14 верасня 2011 года, «валадарка»*

## ПРА ЧАСОПІС «БУРАЧОК» І ПАЛКОЎНІКА ДАНІЛІНА

У 1987 годзе мы вырашылі на «Міктараце» выдаваць перыядычны часопіс. «Міктарат» – так мы называлі паміж сабой падпольную групу беларускай моладзі, якая арганізоўвала і рэальна кіравала ў той час беларускім маладзёж-

ным «нефармальным» рухам. Аб'яднанні, групы і групкі ў абласных гарадах і ў Мінску раслі тады як грыбы. «Талака», «Тутэйшыя», «Світанак» у Мінску, «Паходня» ў Гродне, «Узгорак» у Віцебску, свая «Талака» ў Гомелі ды іншыя групоўкі актыўна «варылі беларускую кашу», шукалі аднадумцаў, праводзілі асветніцкую ды адукацыйную працу, пачынаючы з 1987 года сустракаліся ды ладзілі супольныя акцыі, абмяркоўвалі бядотны стан, у якім тады знаходзілася Беларусь, складалі планы наконт будучыні. Мы былі амбітнымі і не баяліся думаць за ўсю Беларусь.

Часопіс назвалі «Бурачок» па асацыяцыі з псеўданімам Францішка Багушэвіча – Мацей Бурачок. У сваёй прадмове да «Дудкі беларускай» Ф. Багушэвіч упершыню, мабыць, так ясна і зразумела сфармуляваў беларускую ідэю, якая прывяла да стварэння беларускага нацыянальнага руху. Так і «Бурачок» мусіў, па нашай задумцы, выконваць ролю актывізатара разрозненага беларускага асяродку, уздымаць і выводзіць яго з культурна-асветніцкага на палітычны ўзровень. Размовы шэптам пра беларускую незалежнасць, дэмакратыю і свабоду мусілі стаць прадметам адкрытага абмеркавання.

Некаторыя матэрыялы для «Бурачка» мы абмяркоўвалі разам, вызначалі асноўныя думкі, праграмныя тэзы, якія, як мы лічылі, былі б важныя для агучвання і абмеркавання. Бралі ўдзел у падрыхтоўцы «Бурачка» Сяргей Дубавец, Вінцук Вячорка, Алесь Суша, Віктар Івашкевіч і я. Напісаныя матэрыялы збіраліся, друкаваліся на спецыяльна набытай для гэтай справы на нашы агульныя штомесячныя складнікі друкарскай партатыўнай машынцы. Раздрукоўкі рабілі на папяроснай паперы. У кожнай закладцы было 6–7 чытэльных асобнікаў. Усяго выдрукоўвалася да 50 асобнікаў «Бурачка», якія затым Яўген Івашкевіч, родны брат Віктара, рассылаў і разносіў па загадзя вызначаным спісе, у які ўваходзілі людзі, што, як мы меркавалі, маглі развіваць і трансліраваць далей выкладзеныя ў «Бурачку» думкі. З тых адрасатаў, каго я памятаю, «Бурачок» атрымлівалі Данута Бічэль-Загнетава ў Гродне і Алег Аблажэй у Вільнюсе.

Калі друкаваўся другі нумар «Бурачка», я вучыўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры Акадэміі навук і жыў у

аспіранцкім інтэрнаце на вуліцы Акадэмічнай, 3. Тады ж там жылі і вучыліся гісторык літаратуры Алесь Жлутка, гісторык Генадзь Сагановіч, археолагі Мікола Крывальцэвіч і Ірына Ганецкая. Пакой 33, у якім я жыў, быў на той час сапраўдным цэнтрам маладых беларускіх літаратараў. У ім ніколі не зачыняліся дзверы. Тут праходзілі першыя зборкі «Тутэйшых», амаль штодня бываў мой сябра, культавы паэт канца 1980-х – пачатку 1990-х гадоў Анатоль Сыс, заходзілі маладыя паэты Ігар Бабкоў, Сяргей Кавалёў, Людка Сільнова, празаікі Андрэй Федарэнка, Вітаўт Чаропка, Паліна Качаткова-Сцепаненка ды многія іншыя.

Я забраў друкарскую машынку ў Віктара Івашкевіча. Ён хаваў яе закапанай у зямлю недзе ў лесе пад Мінскам і даставаў яе толькі ў выпадку патрэбы. У нас былі дзве такія прыхаваныя друкаркі. Дзеля абы-чаго іх не выкарыстоўвалі, каб КДБ не змог па асаблівасцях адбіткаў літар і знакаў выйсці на гэтую машынку, а праз яе – і на нас. Затым я дамовіўся з Генадзем Сагановічам, які жыў у аднаасобным маленькім пакойчыку, што калі ён з'едзе, то пакіне мне ключ ад свайго жытла. Купіўшы пачак папяроснай паперы і пачак капіркі, я друкаваў цэлую ноч, устаўляючы закладку за закладкай, пакуль не выдрукаваў патрэбную колькасць асобнікаў. Зранку я вынес рэшткі нескарыстанай паперы і капіркі ў бак са смеццем. Затым старанна працёр друкарку ад адбіткаў пальцаў і аднёс яе Віктару разам з выдрукаванымі і змацаванымі асобнікамі «Бурачка». За вокладку пайшла звычайная пісчая папера. Пры маёй актыўнасці ў «Тутэйшых» такая начная праца была даволі небяспечнай. Але і давяраць яе каму-небудзь было небяспечна.

Першыя два нумары «Бурачка» нарабілі фурору. Але ён падштурхнуў і КДБ, што я неўзабаве адчуў на сабе. У адзін з ранкаў мяне паклікалі да тэлефона. Усе аспіранты ў інтэрнаце карысталіся ў той час адным гэтым тэлефонам, які стаяў на вахце. Калі я ўзяў слухаўку, мужчынскі голас паведаміў, што са мной хоча сустрэцца гродзенскі гісторык Міхась Ткачоў, вядомы як шчыры беларус і аўтар папулярнага даследавання «Замкі Беларусі», кіраўнік гродзенскай «Паходні». Я, быўшы тады старшынёй Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», даўно хацеў пазнаёміцца з Ткачовым.

І вось я, падскокваючы, хутка крочу ў цэнтральны будынак Акадэміі навук, заходжу ў вялікі хол, высланы бліскучым мармурам, і азіраюся, кручу галавой, вышукваю мажную постаць Ткачова, якога ведаў па фотаздымках. Літаральна адразу да мяне хуткай энергічнай хадою падыходзіць невысокі малады чалавек у касцюме, пад гальштукам, з кароткай акуратнай стрыжкай з праборам і сур'ёзным выразам на твары. Ён дастае чырвоную кніжачку, на якой я прачытваю: «Комитет государственной безопасности», прадстаўляецца старшым лейтэнантам і прапаноўвае прайсці за ім.

Каб апісаць мае тагачасныя пачуцці, трэба сабе хоць крыху ўяўляць тую магутную, нябачную, таямнічую і небяспечную сілу гэтай установы, якая мела агідную, крывавую гісторыю 1920–1950-х і якая бязлітасна пераследавала іншадумства ў 1970–1980-х. Я ўжо ведаў гісторыі пра разгром асяродку навукоўцаў Прашковіча – Чарняўскага ў 1970-я, якія былі выкінуты з працы і пераследаваліся за сувязь з украінскім падполлем. Я ведаў пра таямнічую смерць мастака Міколы Баразны, які ў 1970-я ачоліў супраціўленне разбурэнню старога Мінска, што метадычна праводзілі камуністычныя ўлады. Ён атрымаў у дворыку старой Нямігі нажом у сэрца. «Невядомага» злачынцу так і не знайшлі. Сустрэчу з гэбэшнікамі ў тыя часы можна параўнаць з сутыкненнем з гадзюкай на вузкай сцежцы пасярод дрыгвы.

Натуральна, я добра сабе ўяўляў, што раней ці пазней такая сустрэча адбудзецца. У Гомелі гэбэшнікі прыходзілі на кафедру беларускай літаратуры, распытвалі ў загадчыка кафедры Івана Штэйнера пра мяне. Але тады я ўжо атрымаў дыплом і паехаў настаўнічаць у Лельчыцкі раён. Едрусь Акулін распавядаў, што да яго ў школу ў Рэчыцкім раёне, дзе ён настаўнічаў, прыязджаў раённы гэбэшнік знаёміцца. Едрусь раіўся: што рабіць? «Ніякіх кантактаў і абяцанак», – параіў яму я. Да Сержука Сокалава-Воюша рэгулярна цягаліся полацкія гэбэшнікі. Ён распавядаў ім нейкія небыліцы, пра што потым дзяліўся з намі. Ды Вінцук адмоўна круціў галавою і папярэджваў яго: «Кінь, бо дагуляешся».

Перад гэтым выклікам у будынак Акадэміі навук былі яшчэ дзіўныя выпадкі. Як распавядала камендантка нашага

інтэрната, якая шчыра спачувала беларускай дзейнасці, неяк днём, калі мяне не было ў пакоі, з'явілася каманда маладых энергічных людзей, паказала ёй адпаведныя «корочки», а затым яны на дзве гадзіны заблакавалі палову другога паверха, акурат пад нашым пакоем. Мы вырашылі, што яны падводзілі да 33-га пакоя праслушку.

А неяк аднойчы Вася, здаровы, вусаты русак з Віцебска, з якім мы пэўны час жылі разам у пакоі, набраўшыся гарэлкі як цэбар, расперажаваўся, расплакаўся і распавёў, ікаючы, што яго шантажом (а было за што шантажыраваць) энергічныя хлопцы «з канторы» прымусілі пісаць на мяне даносы.

І вось зараз я пакорліва, як цялюк на аборцы, іду ўслед за энергічным маладым чалавекам з невыразным тварам, узыходжу па слізкіх мармуровых прыступках гэтага храма навукі. Малады чалавек вядзе мяне па высокіх акадэмічных калідорах, па бардовых бясшумных кілімавых дарожках. У галаве ў мяне – звонкая пустата. Мы падыходзім да дзвярэй без шыльды, ён ветліва расчыняе іх, і я заходжу ў маленькі пакойчык без вокнаў. Ён сціпла, але ўтульна абстаўлены, як бачна, менавіта для такіх вось дыскрэтных размоў. Такі патаемны гэбэшны кабінецік, туды цягалі «на размовы», мабыць, не аднаго навукоўца.

Малады чалавек асцярожна зачыняе дзверы за мной і знікае. А ў кабінеціку мне прадстаўляецца сівы і стараваты ўжо чалавек. Ён таксама ў гарнітуры і пад гальштукам. Ён таксама паказвае мне «корочку», у якой ад хвалявання я нічога не магу прачытаць, і гаворыць: «Палкоўнік Данілін». Затым ён працягвае: «У мяне ёсць да вас некалькі пытанняў». Ён прапануе мне прысесці, нічога не запісвае, а толькі зазірае ў свой штодзённік, дзе ў яго, відаць, запісаны план гэтай размовы. Мае адказы на ягоныя пытанні – асцярожныя і ўзважаныя. Хаця ўжо потым, пасля гэтай размовы-допыту, я буду моцна дакараць сябе за тое, што я «павёўся» на хітрыкі гэбэшнікаў з іхнім выклікам на сустрэчу з Міхасём Ткачовым. Трэба было адразу адмовіцца ад любой размовы.

Напачатку палкоўнік Данілін вырашыў стварыць уражанне, што ён ведае пра мяне значна болей, чым я здагадваўся, і што ён толькі дае магчымасць проста пацвердзіць тое, што яны і так ужо ведаюць. Ужо пазней мы прыйшлі да

высновы, што гэта быў стандартны прыём, які яны заўсёды ўжываюць перад пачаткам допыту.

Палкоўнік з абазнаным выглядам на твары запытаўся ў мяне, што я рабіў у гасцях у Цімоха Вострыкава. Цімох Вострыкаў быў легендарнай асобай – адным з беларускіх парашутыстаў, якога ў 1950-я гады амерыканцы скінулі з самалёта ў Налібоцкую пушчу ў складзе групы, якая мела паўнамоцтвы ад урада БНР на экзылі для арганізацыі антысавецкага падполля і наладжвання кантактаў з беларускай партызанкаю, якая, як тады меркавалі за мяжою, яшчэ існавала ў беларускіх лясах.

У гэтай групе быў двайны агент, які амаль адразу здаў усю групу. Вострыкаў дастаў 15 гадоў лагераў, адсядзеў тэрмін да апошняга дня, выйшаў і пасяліўся ў Гомелі, дзе працаваў на «Гомсельмашы». Жыў ён таксама ў раёне «Гомсельмаша». Я ездзіў да яго на сустрэчу па прапанове Сяргея Дубаўца, каб закантактаваць з ім. Дык вось першае пытанне Даніліна якраз і датычылася парашутыста Вострыкава.

Вось, халера, ліхаманкава падумаў я, ці ў кватэры ў Вострыкава стаялі мікрафоны, ці ён сам, асцерагаючыся мяне, невядомага яму да гэтай сустрэчы, баючыся правакацыі, вырашыў перастрахавацца і здаў мяне.

– А што, – дзёрзка агрызнуўся я, – ці ён зараз у чым вінаваты? Ці я не маю права з ім сустракацца?

– Ды не, – суха адказаў Данілін, – маеце.

Затым ён запытаўся наконт зборнічка вершаў апальнага паэта Тодара Лебяды, які, перазняты на фотаздымкі, я шмат каму даваў чытаць, у тым ліку і Андрэю Федарэнку. Вершы былі прысвечаныя сталінскім рэпрэсіям, бо сам паэт быў рэпрэсіраваны, а зборнік рыхтаваўся да друку ў 1944 годзе ў акупаваным Мінску. Фотаздымкі карэктуры зборніка з праўкамі аўтара Андрэй даваў чытаць у сваім асяроддзі студэнтам Інстытута культуры, дзе ён тады вучыўся. Некаму з іх ён, мабыць, і распавёў, адкуль у яго ўзяліся антысталінскія вершы Тодара Лебяды. Увесь гэты ланцужок падзей імгненна пракруціўся ў мяне ў галаве.

– Не даваў я нікому ніякіх вершаў, – адказаў я. Палкоўнік, здалося, здзівіўся такому нахабнаму адказу.

– Як не давалі? – аж устрапянуўся ён.

– Не, не даваў, – упарта паўтарыў я.

Наступныя пытанні былі пра «Тутэйшых», пра Анатоля Сыса: ці даўно мы знаёмыя, якая ягоная роля ў «Тутэйшых», ці таленавіты ён паэт і гэтак далей. Я ўхіляўся ад дакладных адказаў. А затым палкоўнік спытаўся пра «Бурачка»: ці чуў я пра яго, ці бачыў, ці чытаў, ці ведаю, хто яго робіць, ці магу па стылі тэксту вызначыць аўтара?

Стала зразумела, што гэтыя пытанні былі ключавымі ў ягонай сустрэчы са мной. Унутрана я быў гатовы да іх, таму адказваў спакойна і нескладана: не, не ведаю, не здагадваюся, не магу.

Не ведаю, ці быў палкоўнік задаволены маімі адказамі, але ён паспрабаваў замацаваць першы кантакт са мной і дамовіцца на наступную сустрэчу. Я адмовіўся.

Адразу пасля гэтай сустрэчы я распавёў пра яе Вінцуку (Вячорку. – *Рэд.*). Мы нават абмеркавалі ідэю пагадзіцца на наступную сустрэчу, узяць з сабой дыктафон і запісаць палкоўніка. Вінцук нават перадаў мне дыктафон, пазычаны ў Валеры Савянкова і схаваны ў выразаную сярэдзіну кніжкі. Але я, паслухаўшы скрып і шоргат, якія ішоў ад гэтага цуду тэхнікі, адмовіўся ад такой ідэі.

Палкоўнік Данілін званіў мне яшчэ два разы, запрашаў сустрэцца, прапаноўваў у падарунак рэдкую тады Біблію, але я паслядоўна адмаўляўся. Так гэтыя званкі і скончыліся.

Але гэбэшнікі не пакідалі намаганняў спыніць выхад «Бурачка». Яны адчувалі ўсё ж, што выходзіць ён з нашага асяродку, таму пільна цікавалі за намі. Калі Яўген Івашкевіч разносіў трэці нумар «Бурачка» па паштовых скрынях, яго затрымалі. Адразу ж пасля гэтага Віктар разбіў друкарку на кавалкі і выкінуў іх на сметніцу. Нам заставалася спадзявацца на вытрымку Яўгена. І ён вытрымаў. Яго пратрымалі пад арыштам тры дні. Але на двары стаяў ужо 1988-ы. З зон сотнямі выпускалі дысідэнтаў. Беларускія гэбэшнікі, пачухаўшы патыліцу, былі вымушаны адпусціць яго.

Такім чынам, на мяне другі раз, зараз ужо наўпрост, патыхнула сцюдзёнай хваляй магчымых рэпрэсій. Але я

адчуваў сябе ўпэўнена. Мы займаліся святою для нас адраджэнскай працай. А за яе, калі б так склалася, можна было б і пацярпець.

*21 кастрычніка 2011 года*

## НАБЛІЖАЛІ, ЯК МАГЛІ, ГІБЕЛЬ САВЕЦКАГА «ТЫТАНІКА»

Дарагая Алена!

Наступная гісторыя, якую я хачу табе распавесці, звязана, мабыць, з самай значнай падзеяй у маім жыцці.

1988 год быў першым з чатырох вызначальных для Беларусі гадоў. У той час адбываўся сапраўдны перелом у сусветнай гісторыі. Катастрофа камуністычнай імперыі, якая праз кроў, падман, нябачную дагэтуль падступнасць семдзесят гадоў, як ракавая пухліна, распаўзалася па свеце, захапіла палову Еўропы ды іншыя краіны ў розных частках свету. Але лад, які трымаецца на догмах, прымусе, на абмежаваннях і сляпым падпарадкаванні, непазбежна выклікае супраціў. Бо прага да свабоды закладзена ў гены чалавека ад нараджэння. Можна здушыць, можна замарозіць на нейкі час гэтую адну з падстаўных, сутнасных частак чалавечай душы, але яе нельга вынішчыць назаўсёды.

І вось пачалася гулкая кананада. Гэта ад закаванай лёдам камуністычнай Атлантыды пачалі адвальвацца асобныя краіны-айсбергі і на кожную з іх працягвала ўздзейнічаць разбуральная для таталітарызму гарачая хваля свабоды і дэмакратыі.

Дрыжаў і трашчаў Савецкі Саюз. Ён нагадваў «Тытанік», які атрымаў першы смяротны ўдар убок. І яшчэ круцяцца вялізныя вінты, і яшчэ коўзаюцца з вар'яцкай энергіяй вялізныя шатуны, яшчэ каманда дысцыплінавана выконвае свае абавязкі, яшчэ публіка танчыць і весяліцца, але тоны вады штосекунды ўліваюцца ў агромністае чэрава Савецкага Саюза. Адзін толькі капітан пакуль ведае пра прабоіну. Ён нервуецца, мітусіцца ў сваёй недасягальна высокай

шкляной капітанскай рубцы, але і ён яшчэ не ўсведамляе дарэшты, што выратавання ўжо няма, што пачалося разбурэнне, распад.

Тады, у 1988 годзе, мы прадбачылі такую ходу падзей, мы пракручвалі такі, здавалася б, неверагодны сцэнарый і ламалі галовы, як гэта так зрабіць, каб Беларусь пацярпела як найменш і каб нам адпасці ад Савецкага Саюза, ад Расіі, якая ланцугамі прывязала да сябе «саюзныя» рэспублікі, як мага далей.

Стратэгічныя тэарэтычныя развагі суправаджаліся практычнымі дзеяннямі. У снежні 1987-га незалежныя «нефармальныя» маладзёжныя суполкі правялі І Вальны сойм, у працы якога была распрацавана праграма будучых пераўтварэнняў у палітычнай, сацыяльнай, грамадскай і эканамічнай сферах. Гэта была першая комплексная праграма змен у нашай краіне, выкананне якой прывяло б Беларусь да рынкавай эканомікі, дэмакратычнай і прававой дзяржавы і незалежнасці.

У 1988 годзе прайшло некалькі людных грамадскіх акцый у розных гарадах Беларусі. Упершыню ў Наваполацку, Гродне, Гомелі людзі сабраліся на мітынгі і выступілі ў абарону экалогіі. У Мінску неўзабаве пасля артыкула ў «ЛіМе» Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты – дарога сьмерці» прайшла дэманстрацыя ў падтрымку галоснасці і праўды пра сталінскія злачынствы. Савецкі будынак улады быў пабудаваны на сталінскіх падмурках. І Зянон Пазьняк ударыў па іх, выбіваючы з-пад ног камуністаў зямлю. Мы працавалі ў гэтым жа накірунку. Маладзёжныя «нефармальныя» суполкі бралі ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні гэтых экалагічных і антысталінскіх акцый. Дэманстрацыя ў Мінску прайшла ўлетку 1988-га, яна скончылася жалобным мітынгам у Курапатах. У 1988-м была падхоплена і развіта ідэя стварэння шырокага народнага руху, якая ўпершыню была абвешчана і рэалізавана ў Эстоніі. Улетку 1988-га ў Мінску ішло актыўнае абмеркаванне ўтварэння найперш праваабарончай антысталінскай арганізацыі, а затым яно спалучылася з ідэяй стварэння Беларускага народнага фронту.

Творчыя саюзы – пісьменнікаў, мастакоў, кінематаграфістаў, падхопленыя пасіянарнасцю маладзёжных дэмакратыч-

ных арганізацый, далучыліся да гэтага працэсу. Вядома, што ўсё ішло не так гладка, як нам хацелася, былі бясконцыя размовы, угаворы, тлумачэнні і спрэчкі, але ўсё неяк рухалася ў слушным накірунку. Супрацьдзеянне знятых камуністаў не магло спыніць гэтага руху. Гэта быў той унікальны час, калі ўсе хацелі нешта рабіць. Такое было адчуванне, што падышлі мы да нейкай мяжы, што далей так нельга, такая была прага да змен!

У многіх гэты запал хутка пройдзе, многія вярнуцца ў звыклае стойла маўклівасці і паслухмянасці, многія зоймуцца звыклай калабарацыяй, але гэта будзе пазней. А тады ж стварэнне ў кастрычніку 1988-га «Мартыралогу Беларусі» і аргкамітэта Беларускага народнага фронту «Адраджэньне» было гістарычным выклікам савецкай сістэме, камуністам, якія адзінаўладна ўпраўлялі Беларуссю 70 гадоў. Гэта быў першы гук беларускага Звеставання. І кожны яго ўспрыняў па-свойму.

У верасні 1988-га маладзёжныя суполкі, найперш «Тутэйшыя» і «Талака», пачалі падрыхтоўку да Дзядоў. У 1987-м першае галоснае адзначэнне Дзядоў каля помніка Я. Купалу прайшло пад знакам ушанавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій. У сувязі з абнародаваннем праўды пра Курапаты меркавалася, што і гэтыя Дзяды–88 будуць мець таксама антыталітарны характар. Мы зноў прасілі ва ўлад для правядзення Дзядоў пляцоўку ў скверы Я. Купалы. Да «Тутэйшых» у якасці суарганізатара і кантралёра ад улад далучылася Гарадское таварыства аховы помнікаў, з чым мы пагадзіліся. Затым пачалася тузаніна з месцам правядзення Дзядоў. Улады пабаяліся пускаць Дзяды ў цэнтр горада, патлумачылі, што месца каля помніка Я. Купалу будзе занята нейкім іншым мерапрыемствам. Мы пагадзіліся на іншае прапанаванае ўладамі месца – луг каля Маскоўскіх могілак. А затым паступіла каманда зверху, і ад арганізацыі Дзядоў адвалілася Ахова помнікаў, а нам абвясцілі, што дазволу на правядзенне Дзядоў не будзе. Улады спалохаліся ўтворанага напярэдадні Дзядоў БНФ.

Заяўку на правядзенне Дзядоў ад «Тутэйшых», якія мелі хоць нейкую легітымнасць, бо мы былі пры Саюзе пісьмен-

нікаў, падавалі і падпісвалі, як і ў 1987 годзе, Анатоль Сыс і я. Анатоль тады працаваў на тэлебачанні, як ён казаў, «цягаў кабелі», падключаў тэлеабсталяванне да электрычнасці. Перад Дзядамі яго на працы ўзялі пад пільны кантроль. За Анатолем хадзіў спецыяльна прыстаўлены чалавек, так што ён не мог адысціся ні на хвіліну. Я ж вучыўся ў аспірантуры і быў, лічы, вольным казаком. Таму з усімі паперкамі з заявамі, на ўсе сустрэчы, узгадненні і перамовы цягаўся я. Як я гэтага ні любіў, як ні шкадаваў патрачанага на ненавісную бюракратыю часу, але дзявацца не было куды. Як кажуць, узяўся за воз, дык цягні.

Урэшце, калі ў другой палове кастрычніка ўсе спробы дамовіцца з уладамі скончыліся нічым, мы на «Міктараце» вырашылі, што ўсё роўна Дзяды будзем ладзіць, збіраем, запрашаем народ, нягледзячы ні на што. Мы ўпарта працягвалі падрыхтоўку, дамовіліся і патаемна надрукавалі на інстытуцкай памнажальнай машыне, на шэрхлай каляровай паперы некалькі тысяч абвестак-запрашэнняў на Дзяды, разрэзалі аркушы і заклеілі імі пад’езды.

У сваю чаргу ўлады праз «Вечерний Минск» і праз гарадское радыё заклікалі людзей не хадзіць на «несанкцыянаванае» мерапрыемства. Але гэтая афіцыйная перасцярога дала зусім іншы эфект. Мінчукі сапраўды шырока даведаліся пра дату, месца і час правядзення Дзядоў.

На адным з пасяджэнняў аргкамітэта Фронту, якія тады праходзілі ў малой зале Дома літаратара, я распавёў пра ўсе перыпетыі, звязаныя з арганізацыяй Дзядоў, і пра тое, што хоць Дзяды і забаранілі, але мы іх усё роўна будзем праводзіць. Зянон Пазьняк рашуча заявіў, што ён збіраецца ісці на мітынг-рэквіем у любым выпадку.

А за пару дзён да 30 кастрычніка, абранай даты Дзядоў, мяне выклікаў да сябе гарадскі пракурор. Я пайшоў на гэты выклік. Памятаю, што адчуваў унутраную трывогу і хваляванне. Пракурор абвясціў мне афіцыйнае папярэджанне, уручыў адпаведную паперку і прыгразіў, што калі адбудуцца беспарадкі, мне пагражае зняволенне да трох гадоў. Было зразумела, што ўлады не жартуюць, таксама было зразумела, што ў выпадку якіх правакацый крайнімі будуць арганіза-

тары. Але я не вагаўся ні хвіліны. Адступаць у гэтай сітуацыі – адмовіцца ад самога сябе.

Затым настали тыя Дзяды. Да Маскоўскіх могілак прыйшло нечакана шмат людзей. У міліцыі ж быў свой план. Як высветлілася пазней, яны распрацавалі цэлую аперацыю па разгоне мітынгу. Адразу як людзі яшчэ падыходзілі да месца збору, пачаўся хапун. Спецыяльна створаныя групы хапалі найперш арганізатараў і актывістаў. Я быў разам з Пазьняком, калі яго спрабавалі захапіць міліцыянты. Мы адбілі Пазьняка і, як пазней аказалася, такім чынам выратавалі мітынг. Ён прайшоў у поле, на пагорак, куды адышла частка людзей, цяснімая міліцыяй. Там выступілі Зянон Пазьняк і Уладзімір Арлоў, там упершыню ў новай гісторыі Беларусі адкрыта быў узняты бел-чырвона-белы сцяг.

Разгон Дзядоў, брутальныя паводзіны міліцыі выклікалі хвалю шырокага абурэння ў грамадстве. Пад націскам творчай інтэлігенцыі была створана ўрадавая камісія па расследаванні дзеянняў міліцыі. Вядома, што да праўды яна не дакапалася, не было жадання. Але сілавыя структуры былі троху прыпалоханыя і на цэлых сем гадоў, да прыходу Лукашэнкі ў 1995 годзе, у Беларусі мітынгі і дэманстрацыі не разганяліся.

Дзяды–88 мелі надзвычай важнае значэнне для далейшага развіцця дэмакратычнага руху ў Беларусі. Як сказаў Зянон Пазьняк, на Дзяды ў тым годзе ішоў натоўп, а вяртаўся ўжо беларускі народ.

Але я гэтага ўжо не бачыў, бо мне яшчэ на пачатку акцыі пырснулі ў твар слёзацечным газам, падхапілі з абодвух бакоў пад рукі і запіхалі ў цесны «сабачнік» – агароджаны ззаду адсек міліцэйскага «ўазіка». У мяне было адчуванне поўнага бяссілля і паразы. Затым мяне завезлі ў Першамайскі РУУС, завялі ў кабінет да нейкага міліцэйскага чына, дзе сядзеў таксама і журналіст міліцэйскай газеты «На страже Октября».

«Вы арганізоўвалі гэты мітынг?» – спытаўся міліцыянер. «Так, – адказаў я, а ў галаве мільганула: – Няўжо ўсё ж такі спраўдзяцца пагрозы пракурора?».

Затым мяне падвезлі да Першамайскага суда, які знаходзіўся побач, завялі ў пустую судовую залу, дзе сядзела адна

суддзя. Ад арганізацыі Дзядоў я не адмаўляўся, але вінавацію у забароне мітынгу ўлады.

Мне пашанцавала. Боек і разбурэнняў падчас разгону мітынгу не было. Людзі паводзілі сябе на дзіва стрымана і спакойна. А на аплату штрафу грошы мне сабралі супрацоўнікі Інстытута літаратуры.

Рэпрэсіўная савецкая машына толькі злёгку закранула мяне. У запале і азарце змагання я тады не надаў гэтай пагрозе сур'ёзнага значэння. Мы рызыкавалі і мы выйгравалі.

Да сустрэчы,

Алесь.

*28 верасня 2011 года, «валадарка»*

## «КАМУНІСТЫ І НЕ ДУМАЛІ ЗДАВАЦЦА»

1990 год прайшоў пад знакам змагання з камуністычнай сістэмай. Камуністычная партыя Беларусі, якая хоць і была забюракратызавана і аслаблена, тым не менш налічвала 600 тысяч сяброў і, як спрут, праціналала ўсё цела краіны, усе дзяржаўныя ўстановы. Кіраўніцтва партыі было далёкае ад разумення нацыянальных інтарэсаў, вылучалася недалёкасцю, закасцянеласцю і кансерватызмам. Нездарма пісьменнік Алесь Адамовіч назваў тагачаснае беларускае кіраўніцтва «беларускай Вандэяй». На той час відавочна было, што менавіта камуністычная партыя, камуністычная ідэалогія ўяўлялі сабой найбольшую пагрозу для незалежнасці Беларусі, якую мы выношвалі і выспельвалі ў той час, шчодра і ліхаманкава рассейваючы споры свабоды і незалежнасці па краіне. Змаганне за фізічнае выжыванне беларускага народа, якое распачаў БНФ у 1989 годзе, узняўшы праз мітынгі, інфармацыйныя кампаніі, навуковыя канферэнцыі тэму чарнобыльскай катастрофы і яе наступстваў, рэзка ўзняла аўтарытэт і вядомасць народнага руху ў вачах народа. Выявіліся непрыгожыя і нават злачынныя факты, калі нашыя партбосы адмовіліся ў Маскве ад саюзнай дапамогі, заявіўшы, што Беларусь сама справіцца з чарнобыльскай трагедыяй.

Затым беларускія ўлады дзе зусім схавалі, а дзе зменшылі рэальныя маштабы катастрофы, у выніку чаго дзясяткі тысяч людзей працягвалі гадамі жыць на забруджаных радыяцыяй землях. Такая сітуацыя была прамым вынікам адсутнасці права людзей атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю. Тым не менш камуністы і не думалі здавацца. Памятаю, як пасля першага Чарнобыльскага шляху, які прайшоў шматтысячным шэсцем ад парку Чалюскінцаў да плошчы Леніна (цяперашняй Незалежнасці), міліцыя аб'явіла аблаву на ягоных арганізатараў – Зянона Пазьняка і Генадзя Грушавога. Пэўны час яны хаваліся, пазбягаючы арышту. У прэсе пастаянна ішла зневажаючая кампанія супраць БНФ і тых ідэалаў незалежнасці, свабоды і дэмакратыі, за якія выступаў Фронт.

А ўвосень 1990 года Фронт пачаў падрыхтоўку да масавай антыкамуністычнай акцыі. Месцам яе правядзення выбралі плошчу Леніна з помнікам Леніну, які быў сімвалам камуністаў і фізічным увасабленнем камуністычнай ідэі. Акцыя меркавалася як чыста антыкамуністычная, чыста антысавецкая, выкліканая несумяшчальнасцю ідэалогій. Яшчэ 3–5 гадоў таму такое немагчыма было сабе ўявіць. Дзясяткі гадоў перад гэтым доўгія калоны дэманстрантаў праходзілі міма бронзавага Леніна і ўскладалі яму ў балванахвальстве вянкі і кветкі.

І вось 7 лістапада тысячы людзей сабраліся на плошчы з антыкамуністычнымі лозунгамі і крычалі: «Далоў камунізм!» Міліцыянты стрымлівалі націск людзей. Я спачатку апынуўся каля Чырвонага касцёла, а міліцыянты ўнізе адціскалі людзей, прымушаючы іх адступаць да гатэля «Мінск». Тады мы пачалі зрываць з галоў міліцыянтаў зімовыя шапкі і закідваць іх як падалей. Стройныя ланцугі супрацоўнікаў міліцыі змяшаліся. Голагаловыя пабеглі шукаць свае згубленыя шапкі. Затым грамада людзей перабудавалася, і разагрэтыя таўханінай людзі хістануліся наўпрост да помніка Леніну. Відаць, загаду ўжываць гвалт супраць дэманстрантаў не было, і людзі адцяснілі міліцыянтаў і прарваліся да Леніна. Прамоўцы выступалі проста з помніка. Да Леніна ўсклалі «дары» ад «удзячных беларусаў» – вянок, сплецены з калючага дроту, і лагерную фуфайку, а на сам помнік падвесілі «дасягненні» камунізму: сетку-авоську з пустымі пляшкамі ад гарэлкі і віна.

У чалавеку, які вазюкаўся з гэтай авоськай, у хутка надышоўшай восеньскай цемры я пазнаў майго знаёмага, былога аспіранта Інстытута філасофіі Акадэміі навук Валеру Сядова. Валера – высокі, гучнагалосы, экспрэсіўны і шчыры, блакітнавокі і барадаты – не раз быў госцем у маім аспіранцкім пакоі.

Акцыя скончылася, людзі спакойна разышліся. Але яна, мабыць, нагнала страху ў душы кіраўнікоў кампартыі. Яны ўпершыню ўбачылі, як шмат людзей выступае супраць камунізму. І гэты страх яны ўжо не забудуць. Ён узновіцца ў 1991 годзе, калі пасля няўдалага антыгарбачоўскага перавароту дэпутаты-камуністы пад ціскам фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце прагаласуюць за роспуск Камуністычнай партыі і за абвяшчэнне незалежнасці.

Але тады, у 1990 годзе, камуністычная ўлада яшчэ спрабавала кантраляваць сітуацыю. У выніку гэтай акцыі была ўзбуджана крымінальная справа: Валеру Сядова як аднаго з актывістаў арыштавалі і кінулі ў СІЗА. Такім чынам, ён стаў першым палітычным зняволеным у новай гісторыі Беларусі. За кратамі ён распачаў першую палітычную галадоўку. Зянон Пазьняк, які быў ужо дэпутатам Вярхоўнага Савета, разам з іншымі дэпутатамі-фронтаўцамі ўзнялі гвалт, і Валеру праз некаторы час выпусцілі з СІЗА. У сувязі з гэтай справай мяне выклікалі ў РУУС Цэнтральнага раёна, дзе следчы абвясціў мне, што я з’яўляюся сведкам па факце злачынства каля помніка і мушу даць паказанні. Я палічыў узбуджэнне гэтай крымінальнай справы незаконным. Відавочнай была яе палітычная падаплёка. Судзіць трэба было не тых, хто выступіў супраць камунізму, а сам камунізм як чалавеканенавісніцкую ідэалогію, якая прынесла столькі гора і нягод беларускаму народу.

Усё гэта з абурэннем і заўзятасцю я выказаў следчаму і абвясціў, што ў знак пратэсту адмаўляюся даваць хоць якія паказанні. Следчы паведаміў, што сведка мусіць гаварыць, інакш ён можа ўзбудзіць і супраць мяне крымінальную справу. Я ж заўпарціўся і стаяў на сваім. Следчага таксама заела, ён выклікаў сведкаў і склаў на мяне пратакол. Крымінальная справа па падзеях на плошчы Леніна ці то

завісла, ці то рассмакталася, але дзесьці праз месяц мяне зноў выклікалі ў міліцыю і паведамілі, што супраць мяне ўзбуджана крымінальная справа за адмову даваць паказанні ў якасці сведкі. Я быў азадачаны такім паваротам гэтага жыццёвага сюжэта. Ужо і справа, па якой я праходзіў сведкам, паехала ў архіў, ужо і Валера Сядоў даўно быў на свабодзе, а мяне спрабавалі пакараць.

Размаўляў са мною ўжо іншы следчы, хлопец гадоў 30 з кепскім зрокам. Ён сказаў мне, што цалкам разумее мае погляды, разумее, што першая справа была ўзбуджана па палітычных матывах і што ён з’яўляецца прыхільнікам дэмакратычных змен у Беларусі. Ён патлумачыў мне, што, згодна з Крымінальным кодэксам, сведка абавязаны даваць паказанні, а за адмову можна патрапіць у турму. Ён прапанаваў даць іх і запісаць у такім выглядзе: «не памятаю», «не магу дакладна сказаць», «не ўпэўнены». Я пагадзіўся са следчым, і гэтую дзіўную справу супраць мяне спынілі. Было такое адчуванне, што я адмахнуўся ад яе, як ад надакучлівага авадня, які немаведама чаму прычапіўся да мяне і спрабаваў уджаліць.

Ваўсю ішло стварэнне экспазіцыі музея Максіма Багдановіча, у якім я працаваў дырэктарам і які мусіў адчыніцца ў снежні 1991 года, ваўсю віравалі іншыя надзённыя палітычныя і грамадскія падзеі. І я быў завязаны ў гэтым па самыя вушы. Памірала савецкая і нараджалася Новая, Незалежная Беларусь. На нашых вачах і пры нашай дапамозе адбываўся гэты цуд, і мы спрыялі яму з усяе моцы.

*20 студзеня 2012 года*

## ГАРАЧАЯ ВЯСНА 96-га

1996 год быў, мабыць, самым трагічным годам у новай гісторыі Беларусі. Закладзеныя ў папярэднія гады праз кроў і пот дэмакратычных дэпутатаў ды шараговых актывістаў асновы нацыянальнай дэмакратычнай дзяржавы ламаліся-знішчаліся першым прэзідэнтам краіны. Горкі парадокс маладой беларускай дэмакратыі, якая, не паспеўшы

нарадзіцца, ужо пачала з’ядаць самую сябе. Ідэя выбару прэзідэнта ўсеагульным галасаваннем у грамадстве, у якім цалкам адсутнічалі дэмакратычныя традыцыі і палітычная культура, была заганнаю і легкадумнаю. Збітыя з панталыку эканамічнымі цяжкасцямі і беднасцю, людзі ў 1994 годзе падтрымалі дэмагога з языком без костак, які абяцаў адрадзіць савецкія парадкі і вярнуць мінулую адносную стабільнасць. Ягоная праграма была пабудавана на вяртанні ў мінулае. І вось пад адхон паляцела беларускамоўная адукацыя, пад’ёмным кранам з будынка Дома ўрада была скінута «Пагоня», а ягонымі апрычнікамі падраны на шкамуты бел-чырвона-белы сцяг. Прэзідэнт бесцырымонна падцягваў пад сябе заканадаўчую ўладу і суды. Ён, як бязлітасны карны меч, біў па самых балючых месцах маладой беларускай дэмакратыі.

Выбары ў Вярхоўны Савет у 1995-м і давыбары ў 1996 годзе былі халодным душам для фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. З былых франтаўцаў у новы кіраўнічы дзяржаўны орган не патрапіў ніхто. У гэты час палітычныя баталіі, якія раней праходзілі ў сценах Вярхоўнага Савета, выліліся на вуліцы.

Добра памятаю раніцу наступнага дня пасля збіцця дэпутатаў-франтаўцаў у зале пасяджэнняў ВС. Мы, паўтара дзясятка чалавек, прыгаломшаныя навінаю, выйшлі з аркі з боку будынка Мінскага гарсавета на ходнік. Дэпутат Шут трымаў бел-чырвона-белы сцяг. Гэта быў выхад адчаю, бо адбылося штосьці мярзотнае і агіднае, тое, чаго проста не магло быць. Хутка падбеглі міліцыянты і пачалі выпіхваць нас у бок Галоўпаштамта. Я і Галіна Вашчанка, дэпутаты гарсавета, спрабавалі супраціўляцца, махалі нашымі дэпутацкімі пасведчаннямі, але нас не слухалі і працягвалі штурхаць. Насупраць мяне падскокваў, ярыўся невысокі і худы старшы лейтэнанцік у берэтцы і цяльняшцы, піхаў мяне ў грудзі і крычаў, што такіх ён душыў і душыць будзе. Я запомніў ягоную неўтаймаваную злосць, малады румянец на шчаках і потым назіраў за ягонай кар’ерай. А вось цяпер, седзячы на «валадарцы», убачыў яго ў тэленавінах – пагрузнелы, у неверагодна высокай фуражцы і ў палкоўнічых

пагонах – атрымліваў ад Лукашэнкі прызначэнне на начальніка мінскай міліцыі.

Супраць рэферэндуму, супраць саюзных дамоў, супраць рэстаўрацыі таталітарнай сістэмы праходзілі шматлікія дэманстрацыі і пікеты. У 1995-м адбыўся першы, не заўважаны грамадствам палітычны судовы працэс. Судзілі аднаго з дэманстрантаў за бойку з міліцыянтамі. Ён быў асуджаны на год умоўна. Адміністрацыйныя пакаранні дажджом сыпаліся на актывістаў. Таму ўвесь 1995-ы і палову 1996-га года я як дэпутат Мінскага гарсавета быў заяўнікам масавых акцый. Суд не мог асудзіць мяне без дазволу гарсавета, а гарсавет, значную частку якога складалі дэмакратычныя дэпутаты, такога дазволу не даваў.

Некалькі такіх пікетаў запар мы ставілі насупраць расійскай амбасады, пратэстуючы супраць саюзных дамоў. Мяне як арганізатара забіралі ў міліцэйскі «ўазік», везлі ў суд Цэнтральнага раёна, што знаходзіўся побач, на вуліцы Багдановіча. Там я даставаў дэпутацкае пасведчанне, і мяне адпускалі. І гэтак паўтаралася разоў пяць. Аднойчы нават суддзя пачала судовы працэс, але я ўсчаў крык і яна адпусціла мяне. Пазней па пошце прыслалі судовае рашэнне, у якім мне выпісалі папярэджанне. Гэта было незаконна, але займацца абскарджваннем зусім не было часу – праходзілі наступныя і наступныя акцыі, якія забіралі ўсе сілы.

Мы з Вячаславам Сіўчыкам, будучы тады сакратарамі Управы БНФ, вадзілі калоны дэманстрантаў па праспекце Францішка Скарыны, абдурваючы міліцыянтаў, абыходзячы па дварах міліцэйскія ланцугі, якія перагароджвалі праспект. Гэта былі адчайныя спробы даступнымі і мірнымі сродкамі ўратаваць незалежнасць і дэмакратычныя заваёвы ранейшых часоў.

Вясна 1996 года была вельмі гарачаю. Шматлюдныя акцыі 15 сакавіка ў Дзень Канстытуцыі, 25 сакавіка ў Дзень Незалежнасці, 2 красавіка – супраць падпісання чарговай саюзнай дамовы і, урэшце, 26 красавіка – Чарнобыльскі шлях літаральна скаланалі Мінск.

Пасля дэманстрацыі на 25 сакавіка, якая патрабавала прамога эфіру для дэмакратаў, была ўзбуджана крымінальная справа і пачалося паляванне на Зянона Пазьняка. Ён хаваўся.

На Чарнобыльскі шлях сабралася некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Дэманстрацыя, якая ішла ад Акадэміі навук да плошчы Незалежнасці, набрала сілу на плошчы Коласа. Тая была ўся запруджана народам. Відовішча надзвычай маляўнічае: сотні бел-чырвона-белых сцягоў, транспаранты, плакаты, гербы розных гарадоў, стужкі, група студэнтаў з Мастацкай акадэміі, апранутых у балахоны і процівагазы. Людзі сабраліся, каб сказаць «Не!» анексіі Беларусі Расіяй і прэзідэнцкаму свавольству. Але выхад з плошчы на праспект перакрыла міліцыя. Упоперак дарогі паставілі нават некалькі міліцэйскіх легкавікоў. Дэманстрацыя была выключна мірная, але на Чарнобыльскі шлях прыехалі з дзясятак гарачых украінскіх хлопцаў. Яны, напрактыкаваныя змагацца з экіпіраванымі міліцыянтамі, голымі рукамі пры падтрымцы іншых удзельнікаў узламалі міліцэйскі завал, які перакрываў праспект. Распаленыя дэманстранты кульнулі адзін з легкавікоў, які перагароджваў шлях. Міліцыянты спрабавалі ўтрымаць грамаду, замільгалі дубінкі, але іх лёгка адсунулі і людская маса павалíла далей.

Там знаходзіўся і я. Я, наколькі памятаю, не быў гэтым разам ні заяўнікам, ні арганізатарам і не быў у месцы прарыву міліцэйскага кардона ў першых радах, а апынуўся каля міліцэйскіх аўтамабіляў, калі яны ўжо былі перакуленыя. Прайшоўшы трохі па праспекце разам з людзьмі, я ўбачыў свайго кума, беларускага літаратара Язэпа Янушкевіча, які бегаў ад аднаго міліцыянта да другога і спрабаваў утрымаць іх: «Хлопцы! Хлопцы!» А хлопцы, самі страшэнна напалоханыя, махалі сваімі гумовымі дручкамі і мясілі людзей. Я быў схапіў адзін такі ўзняты над галавою міліцыянта дручок, рэзка таргануў яго на сябе, міліцыянт ледзь не перакуліўся. Затым людская плынь, можа, у дзесяць рук падхапіла яго і адкінула да дома.

На перасячэнні з вуліцамі Казлова і Варвашэні праспект перагароджвалі зялёныя накрытыя тэнтамі грузавікі. Дэманстранты рассунулі іх рукамі і пайшлі далей. Але вось за цыркам, за перакрыжаваннем з вуліцай Янкі Купалы, на горцы праспект быў перакрыты вялізнай гурмою міліцыянтаў з дубінкамі і шчытамі. Ісці на іх азначала ісці на адкрыты штурм. Дэманстранты спыніліся на скрыжаванні, пастаялі,

пакуль падцягнуліся заднія шэрагі, а затым, ухіляючыся ад сутычак, павярнулі направа.

Дэманстранты прайшлі па вуліцы Купалы, затым павярнулі налева, на вуліцу Багдановіча. Тут проста пасярэдзіне вуліцы стаялі нечакана заспелыя грузавікі, запоўненыя спецназам. Людзі абыходзілі іх без усялякай агрэсіі. Хтосьці спрабаваў шлёгнуць вудзільнам па тэнце грузавіка, яго адразу спынілі: «Яны ж не вінаватыя!» Калі дэманстранты прайшлі мост праз Свіслач, міліцыя з дубінкамі зноў атакавала людзей, збягаючы яшчэ з гары Верхняга горада. Ізноў завязаліся дробныя сутычкі.

Мітынг прайшоў каля Палаца спорту.

Увечары міліцыя спрабавала штурмаваць памяшканне Управы БНФ, шукаючы Зянона Пазьняка. Ён выйшаў праз другія дзверы ва ўнутраны дворык, сеў у машыну і з’ехаў незаўважаным. Апоўначы па Мінску прайшлі арышты кіраўніцтва БНФ. Былі арыштаваны амаль усе намеснікі старшыні і сакратары. Засталіся толькі мы з Анатолем Крываротам. Памятаю тое ўнутранае напружанне, якое было ў мяне на наступны дзень. Мы сабралі рэшткі Управы ў арцы дома на праспекце Скарыны, насупраць Акадэміі міліцыі, вёў лятучае пасяджэнне я. І галоўным пытаннем было: што рабіць у бліжэйшыя дні? Мы адразу ж пачалі збіраць звесткі пра арыштаваных. Было цяжка, бо міліцыя нічога не паведамляла пра затрыманых, панавала атмасфера разгубленасці.

Затым у прэсе з’явілася інфармацыя з афіцыйных крыніц пра тое, што распачата крымінальная справа, пералічваліся прозвішчы арганізатараў «масавых беспарадкаў», патэнцыяльных падазроных, сярод якіх было і маё прозвішча. Ніякага страху не было. Я нават і ў думках не ўяўляў сабе, што можна з’ехаць куды-небудзь за мяжу і перачакаць там ці папрасіць палітычнага прытулку. Гэта быў не мой шлях.

Але было зразумела, што ў нашым жыцці і ў гісторыі Беларусі пачаўся новы перыяд, перыяд цяжкай і доўгай, зацятай барацьбы за незалежнасць, дэмакратыю і правы чалавека. Цягам сямі гадоў, з Дзядоў 88-га года, улады асцерагаліся ўжываць гвалт да мірных дэманстрантаў. Як высветлілася,

было арыштавана каля двухсот чалавек, мастаку Аляксею Марачкіну, які нёс абраз Маці Божай Чарнобыльскай, ударам дубінкі ледзь не выбілі вока. Гэта быў жорсткі, бязлітасны, цынічны гвалт. Для мяне стала відавочным, што наперадзе нас чакае шмат людскога цярпення і шмат ахвяр.

Тады і выспела ў мяне думка пра стварэнне праваабарончай арганізацыі, якая дапамагала б ахвярам палітычных рэпрэсій, бо вельмі важна, каб у часы рэпрэсій і пераследу людзі не заставаліся сам-насам з бяздушнай машынай гвалту. Так, з першай акцыі дапамогі пацярпелым за ўдзел у Чарнобыльскім шляху распачаў сваю працу Праваабарончы цэнтр «Вясна».

Праз тры дні пасля дэманстрацыі выйшлі на свабоду з ІЧУ Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч. А праз нейкі час мяне ў пракуратуру выклікаў следчы і паведаміў, што па справе аб масавых беспарадках 26 красавіка ўзбуджана крымінальная справа, па якой ён хоча дапытаць мяне ў якасці сведкі. Яго цікавіла мая роля як удзельніка і арганізатара акцыі. На ўсе пытанні я адказваў адмоўна ці няпэўна: не памятаю, не магу дакладна сказаць, не ўпэўнены. Следчы бойка адклацваў двума пальцамі па гузіках друкавальнай машынкі, запісваючы свае пытанні і мае адказы. А затым ён паказаў мне два невялікія чорна-белыя здымкі, уклееныя ў тоўсты следчы том, дзе я стаяў каля перакуленых міліцэйскіх машын з малітоўна складзенымі ад здзіўлення рукамі.

«Вы ўдзельнічалі ў сутычках?» – спытаўся следчы. «Ды не», – адказаў я. «А гэта вы?» – удакладніў ён. «Не ўпэўнены, – паўтарыў я. – Можа, так, а мо і не...» Дзякуй Богу, болей ніякіх здымкаў у справе не было.

Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык яшчэ сядзелі на «валадарцы» і трымалі галадоўку. Было зразумела, што калі ўлады захочуць зладзіць паказальны працэс над актывістамі апазіцыі, тады на лаву падсудных да іх могуць далучыць і іншых. Але, кажуць, званок Ельцына Лукашэнку з просьбай спыніць ціск даў станоўчы вынік. Праз тры тыдні пасля затрымання Хадыка і Сіўчык былі адпушчаны, а крымінальная справа, па ўсім відаць, была спынена, бо ні сядзельцаў, ні сведкаў па ёй болей ніхто не турбаваў.

Калі б мне хто тады сказаў, што гэты перыяд няспыннага супраціву, незлічоных грамадскіх ахвяр, зламаных лёсаў працягнецца сямнаццаць, а мо і болей гадоў, я б нізашто ў гэта не паверыў. Але ж, калі ўрэшце сітуацыя ў нас зменіцца на лепшае, хто тады асмеліцца сказаць, што незалежнасць краіны, грамадскія і палітычныя правы і свабоды дасталіся беларусам задарма? Цяпер ужо ніхто. Ніхто.

*20 студзеня 2012 года*

Нарадзіўся 6 студзеня 1989 года ў вёсцы Савашы Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Вучыўся ў Мінскім каледжы лёгкай прамысловасці; скончыў будаўнічую СПТВ у Карэлічах.

Жыў і працаваў у Мінску.

19 снежня 2010 года быў арыштаваны за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі выбараў. Адбыў 10 сутак адміністратыўнага арышту. 12 студзеня 2011 года зноў арыштаваны, утрымліваўся ў следчым ізалятары № 1 МУС Беларусі («валадарка»).

26 траўня 2011 года асуджаны Ленінскім судом г. Мінска на 4 гады зняволення са знаходжаннем у калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны 11 жніўня 2011 года і вызвалены.

Загінуў 13 снежня 2012 года ў аўтакатастрофе. Пасля гібелі Арцёма ў ягонай жонкі Святланы нарадзіўся сын Яраслаў.

Творы для Анталогіі перададзеныя ўдавой аўтара сп. Святланай Грыбковай і сп. Зміцерам Драздом.

He was born on January 6, 1989 in the village of Savashy in Karelichi district, Grodno region. He studied at the Minsk Light Industry College and finished Karelichy Construction Vocational Technical School. He lived and worked in Minsk.

On December 19, 2010 he was arrested for participating in a peaceful protest against the election fraud. He served 10 days of administrative arrest. On January 12, 2011 he was arrested again and detained on remand in prison No. 1 of the Ministry of Internal Affairs ("Valadarka").

On May 26, 2011 he was convicted by the Minsk Leninski district Court for 4 years of imprisonment in a maximum security prison. He was pardoned on August 11, 2011 and released.

He died on December 13, 2012 in a car accident. After his death Artsiom's wife, Sviatlana, gave birth to their son Yaraslau.

The works were submitted to the Anthology by the author's widow, Sviatlana Grybkova, and Mr. Zmitser Drozd.

## УЗГАДАЙ СВАЕ КАРАНІ

Узгадай жа свае карані ,
Што глыбока ў нетрах уюцца.
Час прыйшоў пазьбіраць камяні
І ад сну ўстрапянуцца, ачнуцца.

Хопіць цешыць надзеяй сябе,
Што ўсё памяняецца з часам,
Не абыдзе бяда і цябе,
Стопча вораг зямельку абцасам.

І ты лічыш, напэўна, даўно,
Што змагацца – без толку, пустое,
І бывае так толькі ў кіно,
Дзе на свеце ёсць шчасце людское.

Маешь рацыю, ды не зусім,
Людзі роўныя ўсе перад Богам.
Ды чамусьці  даўно ўжо ім
Промні праўды зацягнуты смогам.

Продкі-волаты крывёю сваёй
І мячамі нам праўды шукалі,
Годна правілі роднай зямлёй
І любоў да Радзімы спазналі.

І цяпер вось усё дагары,
Уся эліта зачынена ў вязні,
І краіна ў страшэнным віры,
Без паветра свабоды загразне.

Дык бяром жа, як продкі, мячы
І сядайма па вогненным коням,
Каб уражыну паліць і сячы,
Ці хоць з продкаў зямлі яе згонім.

## З МАЎЧАНАК І ТУПАТУ МАЛА КАРЫСЬЦІ

Ўсё помняць муры і маўклівыя вежы.
Агонь іх ня знішчыў, вада не стачыла.
Мяняліся ўлады, знішчаліся межы,
Хваробы з вайною тут побач хадзілі.

Ды часта з касою, зусім не ў поле,
Адзінага сына пускала жанчына.
Дзе чыстае неба – там лепшая доля.
Праз кроў здабываліся праўда і воля,
Калі заклікала Айчына.

Народ мой гаротны, бядою кляймёны,
Уздобрыў палеткі сваёю крывёю.
У сэрцы навечна герояў імёны,
Хоць косці даўно пад сырою зямлёю.

Ды часта блішчалі сьлязінкі расою,
Хавала матуля адзінага сына.
За сонца, што сьвеціць над галавою,
Ён быў для радзімы магутнай сьцяною,
Калі заклікала Айчына.

Прачніся ж цяпер, мой народ, як калісьці.
Ці чуеш ты, стогне як маці-зямліца?
З маўчанак і тупату мала карысьці.
Свабоду каб мець, трэба з ворагам біцца.

Разгорнем сьцягі, засланяючы неба.
Трасіся у ложку, як ты не мужчына.
Каб дзецям тваім быў і хлеб і да хлеба,
Яна мне сказала, што гэта ўсё трэба.
Ты чуеш, нас кліча Айчына.

## ЛЮБІМАЙ

Заўсёды, калі ранкам устану,
Адразу гляджу на Святлану,
На гэтыя вабныя вусны,
На тварык, мілы і спакусны,
На рукі, мякчэй за кужэлю,
Я ад жадання шалею.
Хачу я прыціснуць Святлану,
Рукамі абвіць вакол стану,
Дарыць ёй мае пацалункі,
У краме купляць пачастункі,
Увесь аддаваць свой заробак,
І разам пражыць гадоў сорак!!!!!

Ды толькі часценька бывае,
Святлана мяне дапякае,
Як рак тады ў міг чырванее,
У момант брыднее, дурнее,
Злуецца, крычыць  і галосіць,
Мяне па матулі паносіць.
Тады я хачу (паміж намі)
Яе накарміць тумакамі,
За шыю яе патрымаці,
Вяроўкай звязаць да криваці.

Ды толькі нічога, адходзіць –
І зноў да нас шчасце прыходзіць.
І добра мне з ёй на планеце,
І мы весялімся, як дзеці.

P.S. Скажу я адразу вам, брацці,
За верш палучу я па срацці!!!!

***

Мой ангел, дыханием лета
На ухо мне шепчеш: «Люблю!»
Как жаль, что тебя рядом нету,
Приходишь ты лишь, когда сплю.
И я просыпаюсь... Как дымка,
Твой образ уплыл в никуда.
Поверь, это страшная пытка.
Ну где ты, родная звезда?
Ты, может, меня и не помнишь.
Быть может, теперь уж с другим.
Ты рану сердечную солишь,
Мне мир стал чужим, нестерпим.
Но весточку-птичку ты всё же
Сумеешь отправить, прислать,
И всё-таки сжалится Боже,
И будет мне легче страдать...

***

Ты божество, сошла с Олимпа.
Русалка – вышла из глубин.
Ты – фея, ты как будто нимфа,
С ума ты сводишь всех мужчин.
И я один из них поддался
На томный взгляд, размах ресниц,
Тебе б я вечно поклонялся,
Стоял бы на коленях, лишь
Тебе служил бы, будто рыцарь,
Пришедший из других времён,
Мне приходилось часто биться,
Ни разу не был я сражён
Одним лишь взглядом из-под чёлки
Двух океанов голубых...
У розы есть шипы, иголки...
Но как познать любовь без них?!
Но ты мечта моя, не боле,
А я закрыт на долгий срок.
Ну а тебе, ведь ты на воле,

Открыты тысячи дорог...
Одна из них, возможно, где-то
Пересечётся и с моей...
И я готов, поверь мне, Света,
Быть скромной тенью лишь твоей...

## ИЗМЕНА

С пеной у рта
С испариной на лбу
Взирал на врата
Услышав мольбу

Три шага вперёд…
Попытка бежать
Крутой разворот
Чужая кровать

Теплее своей
Чужая жена
Намного  умней
Покуда жива

Пакет молока
Вечерний скандал
Работать пока
Он совсем не упал

Но двери узки
Соперник застрял
В стальные тиски
Рога-апахал

Рога – кустовые
Позорный финал

Должно быть не всё
Есть начало начал

Так сильно любить
Не будет никто
И шансы убить
Умножить на 100

И замкнутый круг
Сладострастья конец
Окровавленных рук
Священный венец…

## АХВЯРА

Хужэй за гестапо, прашпект перакрыты.
Ды не, не спыняюцца так барацьбіты.
У кішэнях разгульвае ветрык надзеяў,
А ў перадзе німб непазбежных падзеяў.

Ты ішла ў авангардзе ўпэўненым крокам,
Твае ногі ў крыві з бярозавым сокам,
Сцяг у руках, небасхіл рассцілаўся па ветры,
А ў вачах аганькі, акіянскія нетры…

АМАП быў гатовы: страшэнныя маскі,
І дзверы ў машынах чарнелі, як пасткі.
Ты губы шчаміла, і твар твой змяніўся,
Упэўненасць, спакой адразу з'явіўся.

Стала сталай адразу, у вачах злосць і вопыт.
Успаміны ўсплывалі:ператрусы і допыт,
Позвы, смех паліцаяў ды адменнае хамства.
І жыццё, што з маленства нагадвала рабства.

І бяссонныя ночы, яўкі, офіс, кватэры,
Кадэбэшнікі  – самыя лютыя зверы.
Ты рукой узмахнула, нечакана і проста,
І людзей ахіліла накіпеўшая помста.

Толькі куля-зладзейка, нібы чорная муха,
Ды крывавыя косы, па шчацэ аплявуха.
І народ перамог, незабыўная мара…
Ты сябе аддала перамозе… ахвяра…



## ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ / ДМИТРИЙ ДАШКЕВИЧ / ZMITSER DASHKIEVICH

Нарадзіўся 20 ліпеня 1981 года ў вёсцы Кушняры Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Вучыўся ў Гродзенскім сельскагаспадарчым універсітэце, пасля паступіў на аддзяленне славістыкі Вільнюскага педагагічнага ўніверсітэта.

Грамадскі і палітычны дзеяч. Дзеяч моладзевага руху Беларусі. Старшыня Маладога фронту (з 2006 года).

У 2004 годзе стаў адзіным з прысутных на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску, хто публічна пратэставаў супраць прызначэння рэферэндуму па скасаванні абмежаванняў для пераабрання Аляксандра Лукашэнкі на трэці тэрмін прэзідэнцтва.

У 2006 годзе быў арыштаваны за ўдзел у наметавым мястэчку, арганізаваным моладдзю ў знак пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. 1 лістапада 2006 года асуджаны на 1,5 года зняволення за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт». У тым жа годзе прызнаны Amnesty International вязнем сумлення.

Быў арыштаваны прэвентыўна 18 снежня 2010 года разам з сябрам Эдуардам Лобавым, каб не дапусціць іх удзелу ў магчымай мірнай акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. Асуджаны 24 сакавіка 2011 года на 2 гады зняволення. Ужо ў калоніі асуджаны 28 жніўня 2012 года на 1 год зняволення дадаткова. Адбыў тэрмін цалкам і быў вызвалены 28 жніўня 2013 года.

Аповесць «Чарвяк» – першы мастацкі твор Зміцера Дашкевіча. Урыўкі друкаваліся ў газеце «Наша Ніва». Артыкулы – на сайце http://naviny.by.

Тэксты для Анталогіі былі перададзеныя жонкай аўтара, Настай Палажанкай-Дашкевіч.

He was born on July 20, 1981 in the village of Kushniary of Ivatsevichy district, Brest region. He studied at the Grodno Agricultural University, after that he entered the Department of Slavonic Studies of Vilnius Pedagogical University.

Zmitser is a public and political figure, activist of the youth movement in Belarus. Chairman of *Malady Front (Young Front)* (since 2006).

In 2004 he was one of those present on October Square in Minsk, who publicly protested against the appointment of a referendum on the abolition of restrictions on re-election of Alexander Lukashenko for a third term of presidency.

In 2006 he was arrested for taking part in a tented town, organized by young people in protest against the rigged results of presidential elections. On November 1, 2006 he was sentenced to 1.5 years of imprisonment for acting on behalf of the unregistered organization *Maladoy Front (Young Front)*. In the same year, Amnesty International declared him a prisoner of conscience.

He was arrested preventively on December 18, 2010 together with his friend Eduard Lobau, to prevent their participation in possible peaceful protests after the presidential elections on December 19, 2010. On March 24, he was sentenced to 2 years' imprisonment. Already in prison, he was sentenced to an additional 1 year imprisonment on August 28, 2012. He served a sentence in full and was released on August 28, 2013.

The novel *Charviak (A worm)* is Dashkievich's first work of fiction. Fragments were published in the newspaper *Nasha Niva*, articles – on the website http://naviny.by.

Texts for the Anthology were handed over by the author's wife, Anastasiya Palazhanka-Dashkievich.

# ЧАРВЯК

Я стаяў у «клетцы». Гэта была адна з трох камер КПП-2 – 50 на 50 см, з цаглянымі сценамі і замест дзвярэй кратамі, якія гэтак жа адчыняліся і зачыняліся. Дзякуючы дызайнерскім асаблівасцям буды гэтыя і называюць у народзе клеткамі ці стаканамі.

КПП-2, як і кожнае такое КПП у іншых лагерах, падзяляе жылую і працоўную зоны. Апроч камер для правапарушальнікаў, на КПП, перадусім, знаходзяцца: пакой дзяжурнага, дзе ўсталяваны электронныя прыборы кантролю калоніі; у выглядзе дзвярной рамы – металашукальнік, праз які мусяць праходзіць зэкі, вяртаючыся з прамзоны. Ёсць тут яшчэ невялікі кабінецік, на сцяне яго вісіць пластыкавы макет зоны з усімі абарончымі рубяжамі: адначасова і пакой для інструктажу змены перад працаю, і перакусачная; а побач месціцца пакой для дагляду асуджаных перад закрыццём у «стакан». У пакоі гэтым чамусьці стаіць вялізны сейф.

– Што захоўваеце ў сейфе-та? – запытаў я неяк у кантралёра, які асабліва пільна там мяне распранаў.

– Паслядоўнасць растрэлу бандытаў пры надзвычайным становішчы, – ці тое ўсур’ёз, ці тое па прыколу заявіў мне даглядчык.

– Дык якія вам паслядоўнасці? – даў я ў сваю чаргу параду. – Шмаляйце ўсіх направа-налева і канцы ў ваду.

– Ну так, вады тут шмат, – загадкава пагадзіўся той.

Што мне было яшчэ казаць? Вады і сапраўды там шмат – зона стаіць у возеры. Віцебшчына – край блакітных азёраў.

– Трымай.

Я працягнуў з клеткі руку, і зэк гэтак жа хутка паклаў нешта мне ў далонь ды тут жа выйшаў у шэрагу асуджаных, што вярталіся з працы ў зону.

Я расціснуў кулак – то былі тры шакаладныя цукеркі. Мяне ажно праняло: не тое каб ад шакаладных пачастункаў (раздаваць якія невядома каму – гэта святатацтва для зэка), але ад разумення таго, што сярод гэтага шэра-чорнага натоўпу чалавекаў усё ж больш, чым можна было б меркаваць.

Вось гэты – невядома хто, але не пабаяўся падтрымаць, хоць, безумоўна, ведае, што вокамгненна можа патрапіць у нялаcку і стаць побач, у суседнюю клетку.

– Што там перадалі табе? – адразу падскочыў малы вяртлявы кантралёр.

– Цукеркі.

– Хто перадаў?

– Не ведаю.

– Пакажы.

Я дастаў цукеркі з кішэні.

– Давай сюды.

– Ды ўжо не перапрацоўвай ты, можа? – кінуў я спакойна, але з некаторым абурэннем.

– Я тут пакладу, – асёкчыся, апраўдаўся Дзяніска, – непаложана.

– На, – непаложана дык непаложана.

– Во, будуць наверсе, – і стаўшы на дыбачкі, ён паклаў непаложанае на дах майго стакану. – Па вызваленні забярэш.

Я прамаўчаў, даючы разумець, што забяру і без ягоных парадаў: дзе тое бачана, каб зэк шакалад мог забыць?!

Неўзабаве прыйшоў і мой вызваліцель – доўгі руды кантралёр з траха лупатымі вачыма. Адчыняючы клетку, ён з усмешкаю запытаў:

– Ну што ты, усё парушаеш?

– Канешне, – пацвердзіў я, выйшаўшы з камеры, і адразу згроб з даху цукеркі.

– Ты мо завязвай з гэтым?

– Не магу: парушаць рэжым – гэта маё крэда. І тут, і на волі.

– Раскруцяць жа.

– Ды кішка ў іх танка, – адсёк я ўпэўнена.

– Не, тут раскруцяць, павер мне, – паківаў той.

– Ну дык няхай і круцяць, у нас усё адно, за кожным вызваленнем ідзе арышт.

Пасля колькісекунднай паўзы рыжы зрабіў дапушчэнне:

– Тут ты мо і маеш рацыю.

– Гэта не я, гэта класік гулагаўскай прозы жыцця, – удакладніў я, ідучы да выхаду, і кінуў на развітанне: – Давай!

– Сёння ўжо не завітаеш да нас? – падкалоў мяне кантралёр.

– Куды ж ужо на ноч? Заўтра мо, пасля «промкі».

– Ну глядзі, нашыя апартаменты заўсёды радыя вас прыняць.

– Гэта не можа не абнадзейваць, Пятро! – падзякаваў я і выйшаў з КПП.

Перад адбоем я піў смачную гарбату са смачнымі шакаладнымі цукеркамі і думаў: «Дай Бог харошаму чалавеку здароўя і добрую жонку!»

Што такое «промка»? «Промка» – гэта галоўны інструмент перавыхавання зэка. Як падаткавікі маюць штомесячную разнарадку на колькасць злоўленых неплацельшчыкаў «мзды», дзяржкантрольшчыкі – на колькасць выяўленых сабатажнікаў мадэрнізацыі і г.д., і г.д., так і турэмшчыкі маюць спушчаны з вярхоў план на адсотак перавыхаванага кантынгенту, і адсотак не абы які – 100 працэнтных пунктаў. І няхай ніхто не думае, што гэта завялікія патрабаванні, бо зона іх не толькі выконвае, але і перавыконвае. Не, я не пра прыпіскі, усё адбываецца цалкам законна, па наступнай схеме. Выходзіць на прамзону, да прыкладу, 10 зэкаў – гэта азначае, што ўсе яны перавыхоўваюцца і перавыхаваныя да рэшты вызваляюцца ўмоўна-датэрмінова ці хаця б «па званку». Ужо маем 100 працэнтаў перавыхаваных. Праз колькі месяцаў– «дома» 9 з 10. Іх зноў перавыхоўваюць, зноў вызваляюць, і вось маем мы 190%! Канешне, было б 200%, але адзін, пасля першага перавыхавання, баршчануў на волі «максімкаю» і ад перадозу аддаў душу сваю іншым выхавальнікам. Сапсаваў, паскуднік, паказнікі!

Таму, каб паказнікі не псаваць, усе павінны выходзіць на «промку». Як там працуюць і ці працуюць увогуле – гэта іншая гаворка, а якая выніковасць – увогуле не адной дысертацыі тэма. Галоўнае – хадзіць, перавыхоўвацца. І я хадзіў, я ўмацоўваў справаздачнасць – каб турэмшчыкі мелі прэміі, каб былі сытымі і поўнымі сіл на нялёгкую місію перавыхавання.

І заўтрашнім пагожым чэрвеньскім днём я ішоў на промку з самымі шчырымі намерамі пазмагацца за працэнтныя

пункты – пазагараць. А дзень якраз выдаваўся сонечным, і пакуль неба дарыла такі шанец, я прыпальваў год не бачыўшую сонца скуру – скінуўшы кашулю, прагульваўся па пляцы.

Пляц – заасвальтаваная прастора метраў 20 на 50, якую атачаюць некалькі працоўных цэхаў прамзоны. На высокім ганку аднаго з будынкаў, насупраць цэху, у якім знаходзілася мая працоўная кніжка, сядзеў на зэдліку нехта белы, быццам анёл, ды, паблісківаючы на сонцы, схіліўся над кнігаю. Заўважыўшы мяне, белы чалавек махнуў рукой і нягучна, але дастаткова, каб я чуў, гукнуў:

– Здароў!

– Здароў, – адказаў я, падышоўшы бліжэй.

Анёлам апынуўся сярэдняга росту, плячысты, жыццярадасны зэк з прасветленым шырокаскулым тварам, блакітнымі вачыма. Чорныя бровы злучаліся ля самага носа, шыракаватыя ноздры якога маглі сведчыць аб характарнасці, а завяршаючы партрэт высокі лоб – аб мудрасці ці аб заўчасным аблысенні. Закрыўшы невялічкае выданне Новага Запавету «Братоў Гедэонаў», светлы чалавек адказаў на мой запытальны позірк:

– Гэта я табе ўчора цукеркі перадаў.

– А-а, – працягнуў я. – Дзякуй. А то ж я і не пазнаў бы – хутка неяк усё адбылося.

– Не забраў кантралёр?

– Ты што, як мог ён так рызыкаваць здароўем? – пасміхнуўся я і дадаў сур’ёзней: – Не, проста ўзяў на захаванне.

– Ну дык добра, – кіўнула астрыжаная пад нуль галава белага зэка.

Я стаяў перад ім і глядзеў на цэх, разважаючы, чым тут маглі б займацца.

– Пякарня, – кіўнуў мне суразмоўца.

– Зразумела цяпер, а то я думаю: «Што гэта такое: усе зэкі як зэкі – чорныя і чумазыя, а тут – белыя і чыстыя?» – патлумачыў я пра сваю цікаўнасць і запытаў, кіўнуўшы на Кнігу: – Веруючы?

– Так, канешне.

– «Канешне», – паўтарыў я. – Каму – «канешне», а большасці б пуза толькі забіць ды чыфірнуць пад цыгарэтку.

– Так і ёсць... – сумна прамовіў светлы чалавек, – але і на волі тое ж самое.

– Сапраўды, і на волі… – выдыхнуў я і задумаўся. – На волі толькі патрэбы іншыя.

Цяпер задумаліся мы абодва.

– Хадзіў у царкву па свабодзе? – перапыніў я паўзу, узгадаўшы аднаго свайго сябра са шклоўскай калоніі, які перад зняволеннем наведваў пратэстанцкую царкву, потым сышоў у свет, а са свету, як і мае быць, – у месцы не гэтак аддалёныя.

– Спрабаваў, захаджваў пару разоў… І ведаў, адчуваў у сэрцы, што кліча Бог… але… ведаеш, як яно бывае, – свет праглынуў…

– Ведаю, – паківаў галавою я.

– І вось навука, – белы зэк абвёў рукою будынкі, – ізноў тут.

– Колькі ж табе вучыцца прапісалі?

– Дванаццаць.

– Н-да… дванаццаць, – пры агучванні такіх тэрмінаў не ведаеш, што і казаць. – Гэта – ніколі.

– Зьміцер! – гукнуў ад майго цэху Віця – брыгадзір з зэкаў, да якога я быў прыстаўлены. Ці гэта ён да мяне быў прыстаўлены? Не ведаю, разабраць было цяжка.

– Нешта там хочуць, – кіўнуў я пекару. – Пайду пакуль.

– Паслухай, – спыніў ён мяне.

– Ну.

– Хацеў паразмаўляць з табою на адну тэму.

– Можна, – згадзіўся я, – тут жа суполка збіраецца ў царкву па нядзелях. Пойдзеш?

– Пайду.

– Дык во, сходзім, а пасля можна і пагаварыць.

– А ізалятар не выпішуць табе да нядзелі?

– Ну, мо, пратрымаюся на волі пару дзён, – выказаў я верагоднасць, усміхнуўшыся зэкаўскаму аксюмарану пра волю ў зоне.

Да нядзелі ўсё ж на свабодзе ўдалося пратрымацца. А 14-й, перад пачаткам служэння, я выйшаў з трохпавярховага будынку, у якім месціўся мой атрад, у «лакалку». Лакалкай называюць своеасаблівы панадворак – агароджаную трохпа-

вярховым прэнтам тэрыторыю вакол атрада, якая пазбаўляе зэкаў мажлівасці перасоўвацца па ўсёй зоне, лакалізуе іх, так бы мовіць, непасрэдна ля самай хаты. Як і любы плот у вёсцы якой, лакалка таксама мае весніцы, але тут – жалезныя, з тых жа прэнтаў, і на электрычных замках. Таму ў адрозненне ад панадворку ўласнай хаткі з панадворку зонаўскага зэк выйсці самастойна не можа – толькі пад суправаджэннем заўхоза атрада (з зэкаў) ці супрацоўніка калоніі.

Агледзеўшыся ў «лакалцы», якая ў выхадны сонечны дзень была падобна на ходнік сталічнага праспекта перад Макдакам, я ўбачыў ля весніц пекара, які, прыхіліўшыся да плота, слухаў кагосьці актыўна жэстыкулюючага перад ягоным тварам. Белы чалавек сёння быў ужо гэткім ж шэра-чорным, але выдзяляў яго з агульнае масы такі ж прасветлены твар і яшчэ вялікая Біблія, якую ён, узяўшы рукі пад пахі, прыціскаў да грудзей.

– Вітаю, – прамовіў я ціхшэй, каб не перашкаджаць размове – у прыстойным калектыве гэта не прынята – і махнуў галавою: – Ідзеш?

Якраз у гэты момант пачалі выходзіць з «лакалкі» асуджаныя, што меліся ісці на служэнне, і пекар з заўсёднаю ўсмешкаю спахапіўся: – О, хадзем!

Мы тут жа выйшлі ў шэрагі іншых жадаючых асвяціць сёмы дзень.

Пакойчык, дзе збіраліся па нядзелях хрысціяне, знаходзіўся ў суседнім будынку, старым корпусе зоны – базыльянскім кляштары. Веруючыя, будуючы яго ў XVII стагоддзі, наўрад ці маглі ўявіць, што сцены гэтыя будуць служыць людаедам бальшавіцкім, потым нацысцкім, потым ізноў бальшавіцкім, а ўрэшце рэшт стануцца самай жорсткай зонай Беларусі, дзе толькі ў некалькіх пакоях раз на тыдзень будзе дазволена маліцца.

Для таго ж, каб у пакойчык той патрапіць, трэба было загадзя падаваць замову адміністрацыі, якая складала спіс, і нядзельны паставы, які дзяжурыў на невялікім пятаку зоны – на выхадзе з двух «лакалак», – правяраў, ці не праціснуўся сюды лішні – які-небудзь жадаючы прабрацца са свайго корпуса ў суседні да земляка на гарбату.

Адзін раз перад гэтым я ўжо быў на служэнні, якое праводзіў дыякан мясцовай пратэстанцкай суполкі і якое наведвала штотыдня дзесяць-дванаццаць авец, некаторыя былі ўжо знойдзены. Гэтым разам нас таксама выйшла чалавек дзесяць. Кантралёр пералічыў паству па спісе, і я памкнуўся ўжо ісці за астатнімі, як заўважыў, што светлы чалавек стаіць са сваім таварышам на месцы ды гэтак жа прыціскае да грудзей Біблію, і таму я яго падахвоціў:

– Дык пайшлі!

– Не, я ж у праваслаўную, – адмоўна закруціў ён галавою.

– Праваслаўную? – утаропіўся я.

– Так.

– Ну… давай тады… мо як убачымся, – прамармытаў я і пасунуўся за сваімі адзінаверцамі, што ўжо заходзілі ў суседні лакальны ўчастак кляштарскага корпуса.

Цікава, праваслаўны… І адкуль прыйшло мне, што пратэстант ён? Зрэшты, праваслаўны – і дзякаваць Богу – Хрыстос Адзін. Мо яшчэ пагаворым калі-небудзь – бліжэйшыя паўгода нікуды з зоны я не збіраюся.

* * *

– Можа, давай у ніжнюю пасадзіш, каб не валачы кешэры гэтыя.

– Не, Зьміцер, ніжнія цякуць там пастаянна, давай наверх, – адказаў на маю просьбу старэйшы змены, мой цёзка прапаршчык Зміцер.

Прыйшлося цягнуць дзве торбы пажыткаў па вузкай жалезнай лесвіцы, якая пад вострым вуглом злучала адзіночныя камеры першага і другога паверхаў. Паставіўшы рэчы на падлогу, зробленую з навараных прэнтаў так, што можна было бачыць скрозь іх ніжні паверх, я спусціўся за матрацам. Гэтым разам прапаршчык падняўся следам за мною, адчыніў другую ад вугла камеру – 20-ю і з усмешкаю прамовіў:

– Міласці просім!

– Дзякуй за сэрвіс!

Як толькі дзверы за мною зачыніліся, хуткімі ўдарамі ў сцены затарабаніў сусед – жыхар сярэдняй з пяці адзіночак на паверсе. Гэта быў маяк на сувязь, і я крыкнуў:

– Гавары!

– Хто заехаў?

– Дашкевіч.

– А-а… І што далі?

– Год.

– Нармальна… Ну дык з новым годам!

– Дзякуй, і табе не хварэць, – адказаў я, зацягваючы рэчы далей, углыб камеры. – Давай пазней перамовім, трэба раскласціся.

– Добра, – згадзіўся зэк з 21-й, – маякуй як што!

Для раскладвання, у прынцыпе, варыянтаў шмат не было: усёй адзіночкі маёй было метр ушыркі і два ў даўжыню. Адразу ля дзвярэй знаходзіўся пляскаты ўнітаз з кранам над ім. За эканамічным вынаходніцтвам унітаза-ўмывальніка мацавалася да сцяны яшчэ адна знаходка камуна-гулагаўскай інжынерыі – ложак-стол: жалезныя нары, да якіх знізу прываранparam столік у 25 на 25 сантыметраў. Калі нары на дзень падымаліся і прышпільваліся да сцяны – у хаце з'яўляўся столік, калі нары на ноч апускаліся – столік знікаў. Побач з нарамі быў уваране ў дол жалезны зэдлік, але, аддадзім належнае, з прышрубаванаю на ім у часы «перабудовы» драўлянаю дошчачкаю. На ноч зэдлік знікаў таксама – на яго кладліся нары. У сцяне насупраць дзвярэй была даволі вялікая, і тым больш для адзіночкі, фортка шырынёю амаль у шырыню самой камеры і вышынёю троху больш за метр. Пад акном дзве шырокія трубы служылі батарэяй.

Такія адзіночкі вы не сустрэнеце ў Беларусі больш нідзе. Так сведчаць стрыжаныя. Гэта толькі тут – у былой, адной з трох на ўсю краіну Саветаў, зоне асобага рэжыму. Цяпер «асобікаў» сядзіць у калоніі ўсяго тры камеры, а вось дзесяць адзіночак, для іх прызначаных, служаць усім «страгачам».

Агледзеўшы гаспадарку сваю, я ўзяўся за выкананне галоўнага рытуалу зэка – варку гарбаты. Хоча зэк тое ці не вельмі жадае, але, як толькі з'яўляюцца пад рукою кіпяцільнік і разетка, зэк абавязаны заварыць чорнай травы. Пры адсутнасці прылад для варкі зэк мучыцца доўга не будзе: ён раскладзе вогнішча, сцягне агонь з неба ці яшчэ што-небудзь вынайдзе, але травы, чорнай, як ягонае жыццё, заварыць.

Я расклаў нары, якія не замыкнулі – меў права карыстацца імі і ўдзень: да ўступлення прысуду ў законную сілу я быў у статусе падследчага і сядзеў у адзіночцы ва ўмовах агульнага рэжыму. Стала бачна, што пашпацыраваць тут ужо не атрымаецца – ад сцяны да нараў заставалася сантыметраў трыццаць. «Ладна, яшчэ панашпацыруюся», – думаў я, раскручваючы на жалезным ложку тонкую сваю «вату», на якую з гарачым кубкам у руках адразу прысеў і прыхіліўся да сцяны.

Цяпер можна было б нават выдахнуць, быццам пераадолеўшы самы цяжкі жыццёвы этап. Этап і сапраўды быў не з простых, але колькі іх зараз наперадзе, этапаў гэтых, і дзе канец іхні – ведае ўжо адзін толькі Бог. Таму расслабляцца не выпадала. Аднак так хацелася троху адысці ад рэальнасці, перавесці дыханне, забыць пра ўсё!.. Хаця б на гэтыя шэсць сутак. Шэсць сутак, якія я маю да новага этапу ў невядомасць.

«Здароў, Дзёня!», «Дзёня, здароў!», «Дзяніс, здаровенька!» – віталіся пэкатэшнікі, падымаючыся па жалезнай лесвіцы на шпацыр.

«Здароўкі!», «Вітаю, сябры!», «Здаровенька!» – адказваў зэк з 19-й, той вуглавой адзіночкі ля самае лесвіцы.

Так паўтаралася тры разы – у калоніі было тры камеры ПКТ, якія знаходзіліся ў суседнім будынку, што амаль прыліпаў да нашага, – тут месціліся і мы, і прагулачныя дворыкі, таму пэкатэшнікі ішлі гуляць паўз адзіночкі.

Завёўшы на прагулку ПКТ, кантралёр падышоў да нашых камер і запытаў у 19-й: «Зараз на “гулку” пойдзеш ці пасля абеду»?

– Давай зараз, – адказаў надта папулярны арыштант з вуглавой.

– А ты? – адчыніў старшына вочка ў маёй хаце.

– Давай таксама зараз, – пацвердзіў я, вырашыўшы падымацца. Чатырнаццаць гадзін сну для першага разу дастаткова, ды хацелася таксама і з пэкатэшнікамі перасекчыся (некаторых з іх ведаў з часу сваёй адсідкі ў ПКТ), і карцела пабачыць, што ж за сусед у мяне такі аўтарытэтны.

Апытваць астатнія адзіночкі кантралёр не пайшоў – шасцярых прагулачных дворыкаў на ўсіх не хапала ўсё роў-

на, і змена ў любым выпадку вымушана была выводзіць на прагулку яшчэ адну партыю, замест таго каб сядзець спакойна пасля абеду і пацягваць «купчык».

Кантралёр завёў майго суседа і прыйшоў за мною.

– Пайшлі, – кіўнуў ён, адчыніўшы дзверы.

– Пайшлі.

Мінуўшы адзін невялікі пакой, які аддзяляў адзіночкі ад дворыкаў, я адчыніў дзверы на вуліцу і ступіў на дах. Так, такіх дзівосных дворыкаў для прагулкі няма нідзе: апроч таго што яны на даху, дык яшчэ і сцен не маюць, замест іх – краты, і таму можна не толькі пабачыць зэкаў з суседніх камер, але і назіраць за цудоўнымі краявідамі, якія адкрываюцца з даху: возерам, лесам, дарогаю за ім, а потым ізноў возерам, лесам, прыгожымі домікамі дзіўнага краю блакітных азёр, кляштароў і зон.

– Здаровенька! – павітаўся я.

У адказ загучала некалькі галасоў. Я зайшоў у апошні дворык. Перада мною адзін быў вольны, у наступным гуляла чалавек шэсць, у іншых таксама соўгаліся шэрыя постаці.

– Ну як ты, Дзімыч, асудзіўся? – запытаў Віталя, адзін са знаёмых мне па ПКТ асуджаных.

– Дык дзякаваць Богу, асудзіўся.

– Ведаем мы ўжо, ведаем. Нармальна адважылі табе, мы тут не думалі, што столькі дадуць.

– Ды я і сам не думаў. Спачатку я не думаў, што пачнуць круціць; потым я не думаў, што раскруцяць; потым – што так адважаць, – я ўсміхнуўся. – А цяпер яно і сапраўды: далей лепш ужо нічога і не думаць.

– Да, бо ёсць у стацці чатыры-адзін-адзін пачатак і няма ў ёй канца, – агучыў філасофію ўсіх парушальнікаў рэжыму адзін з зэкаў і, сустрэўшыся са мною позіркам, запытаў: – Памятаеш мяне?

Я паглядзеў на зэка, потым іншых агледзеў: большасць з іх я не ведаў – за тры месяцы пасля майго вызвалення з ПКТ кантынгент змяніўся амаль цалкам. Гэты ж твар быў быццам знаёмы, але ніяк не мог прыгадаць, дзе я яго бачыў?

– Не.

– Алег мяне, памятаеш: у каранціне, у «Горках», гарбату мы пілі, фоткі я свае табе паказваў?

– Ага, было такое, – узгадаў я. – Ты прабач, не заўсёды прыгадаеш адразу – столькі гэтых турмаў-этапаў-зонаў. А ў «Горках» што я там? Пару дзён каранціна і – у ізалятар, а потым як выйшаў, дык вас там ужо па атрадах раскідалі.

– Ну так, павалтузілі цябе. Але я сачу за табою! – рапартаваў Алег. – Чытаю ў «Народнай Волі» пастаянна. Ты – маладзец, я це гавару, руліш граматна.

– Граматна? – у дадзеным кантэксце такі выраз азначаў, што я сам сабе шукаю прыгодаў. – Век бы грамацейства гэтага не бачыць. Я проста не магу дазволіць перамалаціць сябе, ды яшчэ каб задарма, – патлумачыў я сваю грамату і дадаў рэалістычную ацэнку: – Канешне, могуць сажраць, але хаця б пару чалавек ды падавіцца.

Прайшоўшы пару разоў па клетцы, узгадаў я добрым словам беснаватую горкаўскую калонію і запытаў:

– А што, чытаюць такія газеты яшчэ ў «Горках»?

– З цяжкасцямі. Гэта ўжо як ты паехаў, блатныя хадзілі і забаранялі «Народную Волю», «БелГазету» падпісваць. А не, каму – у мазгі, каму – «рамсоў» навешаюць, ты ж ведаеш, як яно там робіцца, калі хто супраць операддзела.

– Ага, троху сербануў.

– Ну во, сам не разумею – як выграб? – выказаў здзіўленне Алег і зацягнуўся цыгарэтаю. – Я ж там па справе пісаў усё, і ў «БелГазету» дасылаў некалькі разоў, але ў «Горках» не выпускаюць такое. Паскандаліў потым з блатнымі, далі паўгода ПКТ і адразу вывезлі. Ды і дзякуй Богу! Зараз, во, хоць даслаў у «Белку» дакуманты свае. Мо хаця б яны развярушаць што, бо спадзявацца ў гэтай дзяржаве няма на каго.

– Гэта так, спадзявацца можна толькі на скуру сваю, – згадзіўся я і вырашыў пацікавіцца яшчэ пра лёс аднаго свайго завочнага сябра, які сербануў у «Горках» за мяне добра: – А што Ладноў Дзяніс, вызваліўся?

– Ну так, выйшаў з ПКТ і праз тыдзень – на волю.

– Дык а прыязджалі да яго з праверкамі?

– Былі нейкія, але ён пайшоў у адмову: не было такога, я – ні я.

– Як так? Яго ж там пры мне калацілі… Сіні як ізалента быў, – не мог зразумець я такой «адмовы», узгадваючы тым больш, як лупілі Дзяніса на «прадоле» ізалятара і, каб не чутны быў ягоны дзікі роў, цягнулі па падлозе ў лазню. Лазня ж у «Горках» выконвае дзве функцыі: пакой для мыцця, дзе зручна раз на тыдзень адшараваць гразь, і пакой для біцця, дзе яшчэ зручней збіваць біялагічную адзінку пад назваю «зэк»: па-першае, ніхто не чуе, а па-другое, хутка змываецца кроў са сцен і падлогі – толькі пару тазікаў вады і трэба.

– Ты што, не разумееш, што такое «дзявятка»? Гэта цябе там – ды яшчэ з адвакатам – пабойваліся. А так – праверка прыехала і ўехала, а людзям жыць потым як? Ды нават калі і пакажаш пабоі, – махнуў рукою Алег і задаў самае важнае пытанне: – Як дакажаш, што ця блатныя з мусарамі валтузілі? А потым прыдуць блацюкі ў камеру, паламаюць косці і шчэ ў «петушатню» загоняць. І колькі там такіх выпадкаў было! Таму каму гэта трэба, Дзімон?

– Н-да, сітуацыя вясёлая… – паківаў я галавою і выказаў найбольш для мяне і заўсёды незразумелае: – Самае парадаксальнае, што церпяць жа, рабы!.. Ды і з гэтымі, беснаватымі, ніхто нічога зрабіць не можа.

– Пастой, прыйдзе іхні час, павер ты мне. Адзін там ужо быў, вызваліўся, пасля знайшлі з паламаным хрыбтом. Хутка дадуць справаздачу і ванькі з петраковічамі, – упэўнена і пасміхаючыся сцвердзіў мой горкаўскі знаёмы і, настойваючы, паўтарыў: – Час прыйдзе.

Нельга было не пагадзіцца з такою лагічнаю высноваю, аднак у нашым выпадку падалося мне неабходным удакладніць:

– Прыйдзе, але не таму, што нехта прыспешыць, а таму што ёсць жалезны закон быцця, які яшчэ ніхто не перахітрыў: *што пасее чалавек, тое і пажне*.

– Не, гэта таксама праўда, – кіўнуў Алег, закурваючы наступную. – Во, Кавалёва ж знялі.

– Да ты што, ён жа помнік?! – здзівіўся я, узгадваючы каларытнага персанажа – начальніка горкаўскай зоны Кавалёва, які такім шалёным лямантам гарланіў на мяне падчас выпісвання ізалятара, што я не мог разабраць ні слова,

і толькі ягоны наменік Лапатка перакладаў мне: «Пшол во-о-он!»

– Бывае, і помнікі аб зямлю грукаюцца, – трапна адзначыў суразмоўца. – Але «чаму», толкам ніхто там не ведае. Прыехала нейкая праверка на промку, быццам выявілі там процьму чорных схем, па якіх муцілі з мэбляй і лесам. Некалькі галоваў паляцела. Мо самі хутка некаторыя апрануць?! – Алег патрос рукою на грудзях робу.

Сапраўды, часам шанец апрануць робу выпадае і тым, хто сёння сам зэкаў у гэтую робу апранае, але толькі ў тым разе, калі заграбаў персанаж і не дзяліўся. А калі распіл адбываецца на ўсе лапы справу робячых і яе кантралюючых, дык схема жалезабетонная і стаіць доўга, вельмі доўга. Амаль вечна… «Дык няўжо хапугі ўсе такія, начальнікі зонаўскія?» – законна абурыцца хто-небудзь. Не, канешне, не ўсе – паўсюль ёсць людзі сумленныя. Але ж і з гэтага боку ўсё тое самае, што і з таго: улада, улада поўная, абсалютная і ніякім абскарджваннем непадлягаючая. Як утрымацца ад гэткае ап'яняючае спакусы і ўсіх даброццяў, з ёю звязаных? Ясная справа, гэта не дзесяць мільёнаў, але нават калі пару тысяч рабоў пад тваім абцасам, як жа тут не абзавесціся сваім Кіраўніцтвам справамі?

– Пагулялі, і харош! – агучыў устаноўку зайшоўшы на дах прапар.

Салдацік-навабранец, які, кантралюючы нас, хадзіў уздоўж дворыкаў, пачаў адчыняць адну з клетак з пэкатэшнікамі.

– Што, ужо ўсё? – абурыліся тыя, хаця і самі ведалі, што «ўсё».

– А як хацелі? Усё па кодэксе: патрэслі касцямі паўгадзіны і – у склеп свой.

Жыхары склепа спрачацца не збіраліся і вярталіся ў хаты, развітваючыся са мною і такім шануемым страгачамі чэлам з іншае адзіночкі, які гуляў у скрайнім ад мяне, першым дворыку. І калі ўсе выйшлі, я ўгледзеў, што суседам маім, Дзёнем, ёсць колішні знаёмы – белы пекар. Я радасна ўзняў далонь.

– Здароў!

– Здароў! – махнуў у адказ і светлы чалавек.

– Як гэта ты тут апынуўся? – прыкрыкнуў я, зважаючы на чатыры клеткі паміж намі.

– О, доўгая гісторыя, – з незыходзячай з твару ўсмешкаю адказаў ён і запытаў кантралёра: – Не выводзяць нас яшчэ?

– Не, на агульных жа ўмовах – гуляеце гадзіну.

– Ды, на працы там… – хіба нехаця пачаў Дзяніс, – прыйшлося ўгаманіць аднаго.

– Гэта тая бойка? – прыгадаў я абмяркоўваемую апошнімі днямі між зэкаў падзею – рукапашную на прамзоне.

– Ну, – кіўнуў пекар, – не здолеў стрываць.

– Усяк жа бывае. Яно мо і не заўсёды правільна – трываць.

– Не, я ведаю: мяне Госпад вучыў цярпенню, пакоры. А я сарваўся.

Я сам сабе ўсміхнуўся: філасофія пакоры для Беларусі не новая. Многія памылкова (а мо і адмыслова) інтэпрэтуюць біблійны заклік упакорыцца Хрысту як загад упакорыцца ўсяму і кожнаму. Не ведаю як каго, а мяне гэтая ідэалогія памяркоўных і талерантна-прыгнечаных, узведзеная некаторымі тэолагамі ў культ, прымушае праведна абурыцца і пасекчы апанента параю новазапаветных прыкладаў (найбольш падабаецца мне памяркоўны Павал, які першасвятару, загадаўшаму ўдарыць апостала па твары, кажа чыста так па-памяркоўнаму: «Дык няхай ударыць цябе Бог, сцяна пабеленая!»(Дзеян. 23: 3) ), але тут абурацца ніяк я не мог: з аднога боку, было бачна, што Дзёня ўсё ж не з тых, хто чалавекам упакорвацца будзе, а з другога – нават калі і патрапіў ён пад недарэчныя ідэі, але выказваўся з такім прасветленым абліччам, што мог я толькі ўсцешана ўсміхнуцца:

– Што ж за нягоднік збіў цябе са шляху?

– Ёсць там зэк адзін, камендант прамзоны.

– А гэта што? – такой зэкаўскай пасады чуць у калоніях мне яшчэ не даводзілася.

– Ды ніхто толкам і не ведае «што», – махнуў рукою Дзёня. – Ходзіць буры такі ды ўсё кімсьці камандаваць спрабуе. У асноўным муціць з кабелямі: кілаграмы на сябе закрывае, зэкам – па пару блокаў «Прымы». А ў дадатак і жыць спакойна не дае: то жалеза забярэ, каб спортам не займаліся

(ходзяць яны потым свае ж гантэлі ў яго выкупляюць); то не выпускае ў душ, пакуль зэк норму медзі не здаў. А калі няма кабеляў, дык што, не мыцца зэку? – пекар спыніўся ў дворыку і, паглядзеўшы на мяне, дадаў: – Ты ж ведаеш, у якіх умовах працуюць людзі, як цярпець такое?

Што адказаць Дзянісу, я не ведаў – не хацелася мне яго засмучваць зусім: тыя ўмовы, у якіх працуюць у «Глыбокім», дзе на промцы ёсць лазня ў 15–20 душавых кранаў і мыйся хоць кожны дзень – люксавыя, калі параўнаць з тым, што бачыў я хаця б у папярэдняй сваёй камандзіроўцы – у «Горках».

Горкаўскія цэхі па дабычы каляровых металаў (у асноўным медзі і алюмінія) з адпрацаванага кабелю, умяшчаюць сотню-другую мурзатых твараў.

Перад пачаткам працы да цэха пад'язджае які МАЗ і вывальвае пад «лакалку» гару кабелю, на якую зэкі тут жа кідаюцца з усіх бакоў, і яна ператвараецца ў жывы арганізм: адзін цягне кабель, другі – зэка за нагу, трэці з чацьвёртым чысцяць лычы адзін аднаму – ідзе грамадзянская вайна, у якой кожны імкнецца заваяваць паболей здабычы.

Пасля падбітыя ваякі цягнуць трафеі ў цэхі і – усе ў мазуце, саляры і шчэ якой гадасці – пачынаюць іх драць, здабываючы для радзімы каляровы метал. Тут нябёсы разраджаюцца дажджом (а дажджы неяк вельмі любяць цудоўную горкаўскую зямлю і дзікунскую горкаўскую калонію), і цэхі ператвараюцца ў вялікую душавую кабіну – зліва з даху палівае ўсё: чорных рабоў, кабелі, мазут і нават «мусара» якога, што зайшоў пракантраляваць медны руднік. А пячорныя людзі каменнага веку, хоць у руках у іх прылады металёвыя, усё дзяруць, дзяруць, дзяруць: норма-та – 60 кг!

(Чытач, калі ты маеш дома адпрацаваны медны, алюміневы ці любы іншы кабель, ніколі, ніколі не здавай яго на пункт перапрацоўкі! «Закапай яго!» – умаляюць цябе разам са мною ўсе зэкі Беларусі. – Не ўмацоўвай рабаўладальніцкі лад на Бацькаўшчыне!)

Паўцэнтнера алюмінію (гэта ж цэлы воз!), канешне, здаць за змену нерэальна і ніхто ўстаноўку са столі ўзятую не выконвае. Падавалася б тады: навошта ўвогуле норма гэ-

тая, хворымі людзьмі выдуманая? Аж не, людзі-та не хворыя, людзі – граматныя і добра прашараныя: норма для таго, каб любога і ў любую секунду можна было прыцягнуць у цугундзер за яе невыкананне.

Пасля працы пячорнаму рабу хацелася б прыняць не імправізаваны небам, а просты, штучны душ. І вось заходзіць ён на ўмывальнікі і што бачыць? На ўмывальніках ён бачыць чатыры ракавіны і тут жа, за невялікаю перагародкаю, – чатыры, адна ля адной, дзіркі (даруйце, даруйце мне дзеці, жанчыны, натуры тонкія і вытанчаныя – усе даруйце!), за дзень сотняю зэкаў заваленыя натуральнымі і ненатуральнымі выкідамі замучаных баландаю страўнікаў. У такой абстаноўцы мыйся як хочаш: тут – чатыры ракавіны, дзе ценяў восем, паздымаўшы кашулі, штурхаючыся, шаруюць далонямі па грудзях, а побач – дыміцца чатыры гары…

Я скажу дакладна: каб не быў я зэкам, каб быў я нармальным чалавекам і прачытаў такое, седзячы пры гальштучку за кампьютарам, альбо ў газетцы, у халаціку разваліўшыся на канапе, не паверыў бы я і сам, што такое можа быць у III тысячагоддзі. Але клянуся вам: так і ёсць! Абы толькі не ехалі вы правяраць мяне ў «Горкі»!

Ну і ці можна з такім дзікунствам параўнаць што-небудзь у свеце? Можа быць, толькі канцлагеры ў Паўночнай Карэі.

Ізноў, хацелася б абурыцца: чаму рабы церпяць?! Чаму не патрабуюць наймінімальнейшых умоў, якія адрозніваюць чалавека ад быдлоты?! Але ўзгадваю я словы Алега пра наступствы для патрабуючых… і разумею, што і абвінаваціць няма каго: каб стацца свабодным, раб павінен быць гатовы развітацца са сваім рабскім жыццём. А гэтыя: хочуць хаця б неяк, але існаваць, думаючы, што, выбраўшыся з дзвюхтысячнай зоны ў дзесяцімільённую, яны будуць вольнымі.

– Як цярпець? – паўтарыў Дзяніс.

– Нельга цярпець, – згадзіўся я. – Але ж церпяць.

– Я спакойна глядзець на такое не магу, – адрэзаў праўдашукальнік і, вытрымаўшы паўзу, працягнуў: – Неяк кажу яму: «Што ты тварыш, ё-маё?! Ты з людзей маеш, дык дай жа і ім дыхаць!» Ён на нейкі час супакоіўся, а потым ізноў:

панапрыдумваў «лакалкі» варыць каля цэхаў, каб зэкі не маглі з амбараў сваіх выходзіць нават паветрам падыхаць. У нас там, ля пякарні, таксама пачалі варыць клетку, а ён бегае ўсё і кантралюе. Я, гледзячы на рух такі, прыкалоўся: «Вам, – кажу, – і наглядчыкаў не трэба, вы тут самі гатовыя пазаварваць сябе з усіх бакоў у арматуру». Ну і што ты думаеш? Пайшоў ён аперам наплакаўся, што хаджу я, маўляў, ды агітую зэкаў кіпішаваць супраць «лакалак». Мяне выклікаюць, я ім тлумачу: «Якая мне розніца, вараць яны самі сабе наморднікі, дык няхай вараць – кожны ж вызначаецца перад начальствам як можа». Ну троху прыкаloліся мы, ды пайшоў я з мірам.

А тут, праз пару дзён, рушым мы на абед з сябрам маім, Максам, і *гэты* насустрач: «Ну што, раздухарыла ця? Думаеш, адмазаўся? – запытваецца нахабненька так і дадае са смяшком: – Пачакай!» Але я ўжо не чакаў: даў раз у зубы і – з капыт небарака. Падняўся ды пабег. Макс кажа: «Ну што, пайшлі на “кічу” пераапранацца?» «Пайшлі», – кажу. Ну і сапраўды, толькі мы пераапрануліся, за намі прыляцела ўжо змена. Далі нам спачатку па дзесяць сутак – ціпа не па форме адзення хадзілі па промцы, а потым Макса ў зону вызвалілі, мяне – на агульныя ўмовы ў адзіночку ды паабяцалі цягам месяца вывезці.

– І ў чым сэнс? – запытаў я, не разумеючы такіх падыходаў.

– Каб не было канфліктных сітуацый надалей, – патлумачыў добры пекар і па сумяшчальніцтву ўгамонвальнік борзых, – кагосьці з двух трэба вывозіць. Зрэшты, нармальна, зменім абстаноўку. Ва ўсім трэба шукаць станоўчыя моманты. Для мяне гісторыя гэтая – мажлівасць пераасэнсаваць рэчы некаторыя, гардыню сваю ўпакорыць, хаця б трошку цярпенню навучыцца…

Дзяніс задумаўся.

– На ўсё Ягоная воля. Хто я такі, Дзімон?

– Чалавек, – усміхнуўся я гэтаму простаму пытанню.

– Чарвяк я, – таксама з усмешкаю, але асвечанаю сумам абвесціў светлы чалавек. – Калі Ён так дапусціў, Ён ведае, што робіць.

Сапраўды, хто мы такія у гэтым валадарстве ценяў: чалавекі ці чарвякі? У такой дылеме сходу разабрацца было цяжкавата, і я пацвердзіў тое, у чым быў перакананы:

– Так, *Ягоныя шляхі, не нашыя шляхі*.

– Ну і самы пазітыўны аспект, – Дзёня строс сум і зноў заззяў, – з табою ўбачыліся.

– Да ты што, – сумеўся я. – Ці яно таго каштавала?

– Каштавала. Бачыш, які провід Божы: планавалі мы планавалі сустрэцца, а тут во – у адзіночках стрэліся.

Нейкі час пахадзілі мы туды-сюды па клетках сваіх, разважаючы над провідам Божым, пакуль не прыйшоў прапаршчык і за намі.

– Дзімон, – клікнуў Дзёня, калі мы былі ўжо ў адзіночках.

– Ну, – адказаў я, лежачы на нарах і нават на крык не пераходзячы – акустыка ў будах нашых была такая, што можна было размаўляць праз сцены звычайным голасам.

– Маеш што есці?

– Перад судом хадзіў у атаварку, дык троху карамелек шчэ засталося, – адказаў я, ды ніякавата самому стала ад гэткага сумнага падрахавання, і я натхнёней дадаў: – І паўпачкі маргарына!

– Дык я «заганю» табе па абедзе.

– Ды не, супакойся ты, табе б самому было.

– У мяне ёсць, – запэўніў сусед. – Мяне ж на агульныя ўмовы закрывалі з атрада, з усімі рэчамі, а перад кічаю паспеў я перадачу атрымаць ад мамкі.

– Дзёня, усё роўна неяк няёмка аб'ядаць цябе. Ты сам кушай, а я хутка на турме буду, там ад'емся да этапа.

Праз паўхвіліны Дзёня, з крыху засмучанай інтанацыяй, гукнуў:

– Паслухай, Дзімон, ты так не гавары. Я ж ад шчырага сэрца.

І хаця трэці закон зоны ніхто не адмяняў, але не пагадзіцца тут было ўжо нельга – гэта сапраўды засмуціла б чалавека, які жадае дапамагчы ў прастаце сэрца. І я, крануты шчырасцю добрага пекара, адказаў:

– Добра, сябар, давай пачастуемся!

Праз пару гадзін, па абедзе, раздатчык ежы выдаў мне суп з кашаю і перадаў ад Дзяніса, якога карміў перад гэтым, па-

кунак. Я адразу, як ісцінны галадаючы, пачаў даставаць усё, што там было – о, сады Семіраміды! – цукеркі, кавалак сыра, каўбасы, маянэз, яблычкі, яшчэ нешта і нават піражкі самаробныя – выглядала на тое, што гулянка будзе ў мяне сёння да самае ночы.

– Дзёня!

– Так, Дзімон.

– Дай табе Бог здароўя і добрую жонку!

– Дзякуй, – засмяяўся Дзяніс, – кушай на здароўе!

Назаўтра мы дамовіліся ісці на прагулку пасля абеду, асобна ад ПКТ, каб можна было спакойна пагаварыць. Нас вывелі ўтрох: мяне, Дзёню і высокага бледнатварага зэка гадоў трыццаці – суседа з 21-й, які і віншаваў мяне з новым годам. Сусед гэты быў пастаянна навесяле і на радасцях ажно прыпрыгваў падчас хады, а калі спыняўся, каб што-небудзь паведаміць суразмоўцам, твар ягоны, не абцяжараны пакутнымі развагамі аб быцці, прыўкрасна лыбіўся і час ад часу падміргваў правым вокам.

– Санчоўс, дык і ты вырашыў прагуляцца? – звярнуўся да яго Дзяніс.

– Канешне, – правае вока міргнула, – трэба падыхаць восенню.

Так, надышоў першы дзень восені: быццам па каляндарным загадзе, лес фарбуецца ў жоўта-барвовыя адценні, а паветра свяжэе. Мы стаялі, узіраючыся ў краявіды і паглынаючы першавераснёўскае хараство…

…А ў памяці паўставалі ўспаміны аб першым верасні: бесклапотнае дзяцінства – кветкі, ранец, новыя сшыткі і кнігі з натхняючым пахам друкарні, лінейка, першакласніца са званочкам у руках на плячы ў выпускніка. «Чаго дасягнулі мы з тых далёкіх часінаў, якія патанаюць у восеньскім ранішнім тумане?» – думаў, напэўна, кожны. Ці споўніліся летуценні дзіцячыя? Наўрад ці нехта з нас уявіць мог, што калі-небудзь першага верасня мы будзем выходзіць не на школьную лінейку, не ва ўніверсітэцкую аўдыторыю і не на працу на карысць Бацькаўшчыны, а як парушальнікі ўсіх рэжымаў гэтай Бацькаўшчыны пасунемся са сваіх адзіночак у прагулачныя клеткі, радуючыся, што цэлых 60 хвілін дазволена нам

глядзець на свабоду і дыхаць вольным першавераснёўскім паветрам.

– Эх, прыгажосць! – гукнуў Дзёня. – Глядзеў бы і глядзеў!

– Пакуль што гэта ўсё, што нам застаецца, – прыпрыгнуў Санчоўс.

– Нічога, загляне сонца і ў нашае ваконца, – абнадзеіў я.

– Калі ў маё загляне, Дзімон, – з сумам выдухнуў пекар, углядаючыся ў далягляд, – я і думаць не жадаю – наперадзе восем зім.

Мы пачалі шпацыраваць па клетках, і я запытаў:

– І што, надзеі на перагляд ніякай?

– Па маім артыкуле, 139-м, і пісаць-та няма сэнсу, бо я ж мог выхапіць і 25-ку, і лоб зялёнкай.

– Да ты што? – здзівіўся я, спрабуючы ўявіць сабе светлага чалавека з зялёнкаю на ілбе.

– Так, таму я і казаў табе, што яшчэ сарваўся. Але як па судовай справе і па тым, што было насамрэч, дык я канкрэтна ўзгруз, аднак справу ніхто не перакваліфікуе і не перадаследуе… Таму – сядзець, Дзімон, трэба сядзець.

На маю просьбу распавесці пра справу Дзяніс пачаў аповед.

– «Дзялюга» такая. Быў там у нас, у Паставах, чэл адзін, бандзюкаваты такі. Праўда, я і сам з тых. Па-першае, з маладосці так склалася – як далі мне ў 16 год «трошку» за хуліганку – ажно галава затрэслася – так і пайшло па накатанай. Па-другое, і гарадок у нас даволі бандзіцкі – да апошняга часу нават «абшчак» збіраўся на «жулікаў», чаго ў Беларусі ўжо даўным-даўно не бачана. І вось чэл гэты, Кірыл, судзімы-перасудзімы, спаліў машыну сяброў маіх, двух братоў. Потым ён чамусьці вырашае (відаць, каб разборак пазбегнуць) сплаціць за машыну ды просіць мяне звесці яго з братамі, якія судзімыя самі і таму заяву не падавалі. Ну, я звёў – прыйшлі мы разам да іх на хату. З чэламі гэтымі я, дарэчы, прайшоў агонь і ваду, і якіх толькі дзялюг не муцілі, і перакананы я быў у іх, як у самім сабе. Карацей, сядзяць яны там на кухні і размаўляюць, а я ў іншым пакоі, з дзяўчынаю піўко папіваю. Чую тут, што нейкая спрэчка ўсчыняецца, я – туды. Высвятляецца, што яго не задавальняе кошт,

якi за машыну выставiлi. Ну я, праўдашукальнiк… цi што я там шукаў? Не ведаю. Прыгодаў на сваю… Кажу яму: «Ты не бурэй, скажы дзякуй, што з табой проста размаўляюць за тачку спаленую. Заплоцiш столькi, колькi табе скажуць». Не ведаю, што перасмыкнула таго, але ён – за нож i на мяне, троху нават падрэзаў. Я, праўда, угаманіў яго адразу і на каня падсеўшы вымалаціў добра. Аб'ехаў той па сцяне пасля апошняй падачы і сіпіць: «Усё, Дзёня, харош. Я зразумеў». Ну, зразумеў дык зразумеў. Я, яго больш не чапаючы, адразу зваліў адтуль. Выйшаў, кашулю зняў, кроў парасціраў па целу, потым анучу гэтую выкінуў і пайшоў дахаты. Назаўтра за мною прыязджаюць і садзяць у ізалятар часовага ўтрымання. Справа ж, як я потым даведаўся, была ў тым, што пасля мяне дабілі браты чэла таго і павезлі закапалі. Следакі робяць экспертызу, высвятляецца, што Кірыла закапалі яшчэ жывога. Становіцца зразумела, што я ні пры чым і мяне з «кічы» вызваляюць пад падпіску. Тыя ж сядзяць і ім інкрымінуюць укрыццё цела; а я бяру ўсё на сябе, але настойваю на самаабароне, тым больш што пабоі – парэзы – з мяне знялі таксама. Аднак тут прыязджаюць следакі з вобласці, кажуць: «Э не, так не пойдзе: Дзёня хітры чэл – ён і сябе адмазвае, і вас з турмы выцягвае. Нас такі расклад не задавальняе». Перарабляюць яны экспертызу, і тая дае ўжо, што Кірыла закапалі мёртвага, а не жывога.

– Як жа так?! – абурыўся я, быццам бы першы раз чуў пра метады працы МУС РБ і як бы сам са спецамі фальсіфікацыяў не знаёмы быў ніколі.

– Ну як… – хмыкнуў Дзяніс. – У нас паўсюль аднолькава робіцца: следакам трэба гучнае злачынства ды каб пацяжэй, раскрыццё, нейтралізацыя бандытызму і – як вынік – статыстыка, зорачкі з прэміямі ды павышэнні. Вось знайшлі і справу, і бандыта: мяне закрываюць ізноў, а братоў вызваляюць, і пачынаюць тыя грузіць мяне па поўнай. Я ў жаху... Ды што зробіш? Ім сказалі: «Ці вам 25 – "вышка", ці яго грузіце». Ну і ўсё, даводзяць мяне па забойству да суду. А гарадок-та невялікі, усе ўсё ведаюць, і зразумела і суддзі, і пракурору, што я не забіваў. Там і маці Кірыла на судзе пратэставала, заяўляючы, што забілі браты, а не я. Але ўсё было загадзя

вырашана, і мяне прыгаворваюць. У гэтым і прычына, што далі *толькі* дванаццаць па такім артыкуле.

Н-да, «толькі»… – адно і заставалася пахітаць галавою мне.

Колькі я слухаю такія сведчанні, столькі не стамляюся дзівіцца таму ўзроўню бясчынства, у якім усе мы жывём. І колькі іх такіх сядзіць па абвінавачваннях, высмактаных з пальца ці ўвогуле выдуманых хворай (і – прашаранай) фантазіяй следчых?..

Калі мяне закрывалі першы раз, у 2006-м, я быў перакананы, што пад прэсам у нашай дзяржаве знаходзяцца толькі палітычныя апаненты, але, як толькі я агледзеўся навокал, з жахам зразумеў: пад прэсам у нас усё грамадства – бізнесмены, чынавенства, моладзь – усе і кожны.

Ты можаш самастойна зарабляць і не крышуешся ціцянковічамі? У турму! Ты малады, энергічны, няўрымслівы і недзе спатыкнуўся? Мы дапаможам табе знайсці жыццёвы шлях! У турму! Ты кіраваў калгасам і не мадэрнізаваў вілы? У турму! (А ён табе казаў: «Сядзеш!») Ты быў у абойме і, асмялеўшы на нейкім фуршэце, сказаў усё, што ты пра яго думаеш? Тваё месца там – у турме! Але ў гэтым выпадку не наракай таксама: ты ведаў чорта лысага, якому служыш.

Можа скласціся ўражанне, што коцікі тут усе такія пушыстыя сядзяць і чыноўнікі-небаракі. Безумоўна, гэта не так – сядзяць і злачынцы. Але расклад, паназіраннях маіх, прыблізна такі: 1/3 трэба адсюль выгнаць адразу, другую 1/3 адшлёпаць па срацы і адпусціць каго да мамкі, а каго да жонкі. З астатняю 1/3 трэба разбірацца – недзе столькі, відаць, сядзець маюць, але і тое не па такіх вар'яцкіх тэрмінах.

Вось такая карціна маслам, на якой «палітычныя» пачуваюць сябе значна больш упэўненымі, чым іншыя, – за палітвязняў ёсць хаця б каму заступіцца: пра іх пішуць СМІ айчынныя і міжнародныя, па іх прымаюць петыцыі праваабаронцы ўсяго свету, вызвалення іхняга патрабуюць дзяржавы. А хто заступіцца за гэтых? Хто спатрабуе для іх вызвалення?

А Дзёня, сябра мой на турэмным шляху? Хто дамажацца для яго справядлівага суду? Ці нарабіў ён на 12 без права на

амністыю і датэрміновае вызваленне? (Па 139-м артыкуле амністыю не выдаюць і па замене рэжыму такіх не выпускаюць.) І ўвогуле: які суд загляне ў душу? Які можа ўбачыць у вачах прагу да новага жыцця? Пад цяперашняй акупацыяй і разважаць пра тое не выпадае. Адбылося б гэта хоць пры незалежнай фемідзе, тады, мо, і сядзім не задарма.

– А што тыя два, што загрузілі цябе? – запытаў Санчоўс.

– Тыя па году ўзялі за сукрыццё цела – і ўсё.

– Ты скажы мне, дзе яны мешкаюць – праз месяц я ўжо на волі і перакажу ім за цябе прывітулькі.

– Супакойся, Санёк, – упікнуў Дзяніс, – ты ж збіраўся завязваць.

– Я яшчэ паспею, гадоў трыццаць мушу мець наперадзе, але за цябе, Дзёня, – і Санёк артыстычна грукнуў сябе ў грудзі, – я сплачу ім спаўна!

– Не трэба за мяне сплочваць, там кожны сам сваё сплаціў: у аднаго дзіця памерла, а другі патануў па п’янцы.

– Ну і правільна, што ж яны думалі – на дванаццаць год загрузіць чалавека невіноўнага!

– Але я ім, Санёк, зла не жадаў, я ўсё адпусціў. Проста так не бывае, каб рабіў ты злое, а спажываў добрае. Ды і не невінаваты я таксама – нарабіў «будзь здароў» у сваім жыцці, за што не адказваў. Таму вось цяпер і атрымліваю сваё ды нікога не віню: ні людзей, ні тым больш Бога, – Дзёня спыніўся і глянуў на мяне. – Шкада вельмі, што так позна разумеем многія элементарныя рэчы!

– Позна – гэта калі ўжо ў дамавіне, – паправіў я сябра, – а пакуль у гэтым свеце, ніколі не позна.

– Так-та яно так, – паківаў Дзяніс, – але як уяўлю сабе, колькіх можна было б пазбегнуць бедаў, каб раней прышоў у царкву. А лепш, каб з дзяцінства, – ён учапіўся за краты і патрос іх, – каб ніколі гэтага не бачыць!

– Не толькі табе хацелася б з дзяцінства, але як я, дык такіх людзей не ведаю, – я задумаўся і перабраў у памяці ўсіх знаёмых сваіх братоў і сясцёр і не знайшоў нікога, хто хадзіў бы ў царкву з дзяцінства – усе пакаяліся ў свядомым веку. Для хрысціянскай краіны такое было б дзікунствам, а для нашай – норма, галоўная прычына якой ляжыць на паверхні,

і таму я дадаў: – Ды яно і не дзіва – выпальвалі зямлю пад нагамі з 1917 года. Што тут гаварыць…

– Так, камуністы знішчылі духоўнасць, цара забілі! – згадзіўся ў праведным абурэнні Дзяніс і рэзка запытаў: – А хто такі цар?

– Хто? – цікава было даведацца мне.

– Гэта заступнік наш перад Богам.

«Так, усё зразумела», – падумаў я. Але спрачацца было няможна і тут – з такой непасрэднасцю глядзеў на мяне цароў заступнік і прасіў згоды. Я зрабіў выгляд, што не разумею, аб чым гаворка:

– Ты думаеш?

– Канешне ж! – здзівіўся неразумнасці маёй сябар. – Мы з табою хто, Дзімон?

На гэтае пытанне адказаць было прасцей – я ўжо ў ім трошку разабраўся і таму пацвердзіў:

– Чарвякі, Дзёня.

– Вось, а цар – хадатай перад Госпадам, ён адной малітвай мог адмаліць грахі ўсіх нас! А мы ўсе разам і аднаго цара не адмолім.

Я выдыхнуў. Усё ж выходзіла на тое, што ў тэалагічную дыскусію прыйдзецца ўступіць. Гэта вам не тэорыя цярпімасці – тут усё сур’ёзней.

– Разумееш, Дзяніс, гэта неяк не вельмі па-біблійнаму, – асцярожна пачаў я. – Ісус сведчыць: «Што папросіце Айца ў імя Маё, Я вам дам». Дык нашто нам яшчэ нейкія пасрэднікі і заступнікі? Ён ужо ёсць – Хрыстос, іншых быць не можа: «Прасіце Мяне ў імя Маё ці Айца ў імя Маё – і будзе вам!» – усё на гэтым.

Але Дзёня як сапраўдны праведнік у тэалагічныя разборкі ўцягвацца не збіраўся і спакойна прамовіў:

– Я ведаю адно, Дзімон, я проста ніякі… Чарвяк я. Я такога нарабіў у сваім жыцці… Па такіх я па мурзачах прайшоў.

– Што гэта такое? – запытаў я пра новы тэрмін, не жадаючы тэалагізаваць таксама.

– Мурзачы? Гэта дно жыцця нашага: секс, наркотыкі і рок-н-рол. Ці па-нашаму: шлюхі, бырла і папса. Хаця, пры жаданні, і наркаты таксама хапала...

Дзяніс узбуджана пашпацыраваў па дворыку, спыніўся, пільна на мяне глянуў і пытальна ўзмахнуў галавою:

– Ведаеш, як я жыў?

– Як? – узмахнуў і я.

– Па поўнай! – адрэзаў ёй. – Калі рабіў нешта – рабіў на ўсю! Калі бухаў, дык так, каб да блявоціны! Калі ўмазваўся наркатой, дык так, каб «у саплях»! Калі па бабах… Карацей, на паўабароты не рабіў нічога. І таму цяпер я вырашыў: калі мяняць жыццё, дык мяняць усё і цалкам! Бо інакш – проста няма ніякага сэнсу. Ды і не атрымаецца інакш.

– Так, інакш не атрымаецца, гэта праверана, – засведчыў я. – У кожнага, скажу я табе, свае мурзачы ў гэтым свеце. Ты праз адны прайшоў, я – праз іншыя. Санёк вунь, – кіўнуў я ў бок Санчоўса, – праз свае. Так, Санёк?

– Так, – пагадзіўся той, падскокваючы па хадзе.

– Але сутнасць, сутнасць-та – паўсюль адна і тая ж і адпаведна ў кожнага свой цяжкі і няпросты шлях да веры, – хацелася падзяліцца мне асабістым і хаця б трошку, але абнадзеіць сябра. – Вось і я таксама на шляху гэтым, калі паспрабаваў у кучу сабрацца, заходжваў у царкву, таксама выразна разумеў патрэбу перамен, але прыходзіў вораг, абкрадаў мяне, і, як я яму моцна ні супраціўляўся, – свет паглынаў… – Я ўздыхнуў, узгадваючы, як шмат часу згубіў у бадзяннях сваіх, і заставалася толькі пацвердзіць Дзёніна вызначэнне чалавечай сутнасці: – Адным словам, чарвякі мы, Дзёня.

– Чарвякі, Дзімон, – усміхнуўся і светлы чалавек.

– І я падумаў, – працягваў я, натхніўшыся Дзёнінай праўдай жыцця, якая і ў маім жыцці шмат што тлумачыла, – няхай так, няхай не стае сіл падняцца, я буду тады паўзці, паўзці, каб толькі ў гэтай калюзе не валяцца. Яно ж не ўсім сходу лётаць дадзена! – пацепаўшы плячыма, я кіўнуў Дзянісу. – Дык будзем, чарвякі, паўзці – мо калі і выпаўзем. Як ты мяркуеш, Дзёня?

– Выпаўзем, Дзімон, – цвёрда запэўніў Дзяніс. – Не можа быць, каб не выпаўзлі. І я цяпер думаю так, што нават гэтыя выпрабаванні дадзеныя нам, каб выпаўзлі. Ва ўсялякім разе мне дык дакладна. І я дзякую Богу за гэтую «дванашку»: што яно такое ў параўнанні з тым, што я знайшоў Хрыста?

Вось тут, у зоне, першы раз за 25 год адчуў сябе свабодным і шчаслівым. – Дзяніс пранікнёна паглядзеў на мяне. – Лічыш, я вар'ят?

І хаця толькі з замілаваннем можна было глядзець у вочы Дзяніса, дыягназ трэба было ставіць.

– Так, вар'ят. Для тых, што ідуць у пагібель, ты – вар'ят.

Я замаўчаў, але, каб моцна не засмучваць светлага чалавека ды быць ужо да канца праўдзівым псіхатэрапеўтам, дадаў пасля паўзы:

– Але ты не думай, я і сам вар'ят для многіх.

«Не, такіх пасвячоных людзей, – думаў я, лежачы на нарах, – сярод усіх тых баракаў і камер, якія ўмудрыўся я прапаўзці, не сустракаў». Як так атрымалася, што прыйшоў да гэткае высновы, сказаць цяжка. Можа, раней кепска глядзеў? Можа быць. Хаця наведваў пратэстанцкую суполку і ў «Шклове», і паспеў перасекчыся з некаторымі ў «Горках», і тут вось заходжваў, але… неяк так выходзіла, што большасць свайго шукае. Нават так бывае, калі некаторыя з пачуццямі шчырымі, дый і тыя навывучваюць біблійных цытатаў з дакладным веданнем нумара раздзела і верша (за 5, 10 ці 15 гадоў-та!), бегаюць усё ды нешта адзін аднаму даказваюць, спрачаюцца па прычыне і без.

Дайшло да таго, што пачаў я расчароўвацца ды многіх у сэрцы асуджаць. Асабліва калі бачу: у нядзелю ён на малітве прычашчаецца, а потым – цыгарэта ў зубах, і не магу яго ў натоўпе адрозніць ад любога іншага тонучага. О, тады я думаў, што стаю! «А калі ты думаеш, што стаіш, глядзі, каб не ўпаў!» (1 Кар. 10: 12). І я не проста ўпаў, я ў такі бруд зарыўся, што той, з цыгарэтаю ў зубах, у параўнанні са мною праведнік! Яшчэ адзін закон быцця: калі ты думаеш, што ты нешта, ты становішся нічым.

Потым, дзякаваць Богу, троху, але прасвятлеў: што патрабаваць ад таго няшчаснага, хто жыў усё жыццё ў цемры і толькі ў зоне, сярод ванітаў гэтых і нянавісці, адчуў побач промень сонца і хаця сляпы, аднак спрабуе да святла ісці? А калі так разабрацца, ці не ўсе мы ў зоне, дзе з аднаго боку надзіраючыя за табою, а з другога – жадаючыя выжыць? Ці мала нас такіх – у гэткай жа цемры? Ва ўсялякім разе я

дык дакладна. Так кажа Дзёня, гэты пасвячоны чарвяк, які свайго не шукае, нікому тэалогію не ўцірае, а ўпакорвае сэрца – толькі каб стаяць на праведным шляху, нават калі на ім і прыходзіцца ўгамоньваць асабліва борзых. Ну а з кім не бывае? Ва ўсялякім выпадку са мною, дык нават часта. Так кажа Дзёня, гэты пасвячоны чарвяк.

– Ты ведаеш, Дзёня, – гучна прамовіў я, заклаўшы рукі пад галаву і гледзячы ў столь.

– Ну, Дзімон, – адказаў Дзяніс.

– Можа, няшмат, гады толькі чатыры пратуляўся я па розных камерах, а такіх праведнікаў, як ты, не сустракаў.

– Ды ладна, Дзімон, – выбачаючыся, запярэчыў сябар. – Я проста ніякі перад Богам, чарвяк я.

– І я чарвяк. Але ты чарвяк не такі, ты – чарвяк праведны, – пацвердзіў я яшчэ раз і, узгадаўшы наш «сумесны» паход у царкву, вырашыў распавесці праваслаўнаму чарвяку свае першыя аб ім уражанні. – І разумееш якая справа, быў я перакананы спачатку, што ты пратэстант.

– Чаму? – з усмешкаю ў голасе перапытаў Дзяніс.

– Відаць, з-за Бібліі: і тады, калі мы ў царкву дамаўляліся ісці, чытаў ты яе, і потым бачыў я цябе пару разоў, – у памяці маёй паўстаў белы чалавек, што пастаянна чытае Біблію на высокім ганку пякарні. – А тое ж многія нават не адкрываюць яе ды ўмудраюцца лічыць сябе веруючымі. У лепшым выпадку, калі трапляецца рэлігійны праваслаўны, дык чытае якіх-небудзь пустэльнікаў.

– Я таксама чытаю… – нібы засмуціўся Дзяніс.

– Гэта іншае, сябар, – паспрабаваў я мякка патлумачыць свае словы, – і я чытаю, і ўсё, што трапляецца пад рукі: і пратэстантаў, і каталіцкіх багасловаў, і нават праваслаўных, якія даказваюць, што апроч як у праваслаўі збаўлення няма. Нават у самых адыёзных аўтараў можна нешта знайсці для сябе. Таму чытаць трэба ўсё, але, не чытаючы Біблію, чалавек не можа быць хрысціянінам. А гэта ўсё словы: праваслаўе, каталіцтва, пратэстантызм – Хрыстос не ствараў канфесіі. Я знайшоў Яго ў пратэстанцкім храме, ты – у праваслаўным, але гэта другасна, першасна – Біблія! – сцвердзіў я, ужо стоячы на нарах ля акна, і заклікаў сябра мяне падтрымаць: – Разумееш, Дзёня?

– Разумею, – сцішана прамовіў той.

– Біблія і малітва – рэчы, без якіх нельга быць хрысціянінам, – хацелася мне аптымістычна завершыць сваё казанне, але выйшла гэта з некатораю журботаю. З журботаю прамовіў я тыя два словы, бо і тады адчуваў, і разумею сёння, наколькі цяжка, а часам нават немагчыма трымацца такіх, падавалася б, простых арыентыраў: Бібліі і малітвы. Бывае, не стае ніякіх сіл, каб элементарна адкрыць Кнігу Кніг ці проста пагаварыць са Стваральнікам. Хаця падумаць можна: ну якая тут праблема – адкрыў ды пачытаў, узняў рукі ды заклікаў Бога? Не ведаю, але часам гэта не проста праблема, а праблема сур'ёзная: чытаеш, а галава пустая, і, перагортваючы старонку, не разумееш нават, аб чым ты толькі што варушыў вуснамі; пачынаеш маліцца, а разумееш, што можаш толькі стагнаць. І тады пераконваеш сябе: ладна, давай хаця б выць – лепш так, чым ніяк. І выеш. А бывае, што пераконваеш, пераконваеш і пераканаць не можаш. І тады шукаеш, чым бы такім важным і лёсавызначальным заняцца. Адбываецца гэта нават у падсвядомасці, бо свядомасць баіцца табе прызнацца, што ўсе твае жыццёва неабходныя справы – гэта адно толькі прыкрыццё поўнага духоўнага бяссілля. І я, каб не быць у вачах Дзёні кімсьці, кім я не ёсць, хацеў было распавесці яму, што часта сам няверны ў тым, да чаго заклікаю яго, але тут да нашай міжкамернай евангелізацыі далучыўся Санёк:

– І што, так ужо ўсе Біблію чытаюць?

– Мала хто, Санёк, – уздыхнуў я, – вельмі мала.

– А астатнія, па табе выходзіць, – колка гукнуў ён у адказ, – няверуючыя?

Даваць цвёрдую ежу суседу майму было нельга – толькі малако, і таму я вырашыў не ўжываць радыкальных фармулёвак, а падрабязней патлумачыць.

– Санёк, – прамовіў я па-сяброўску, – навошта нам гэтыя спрэчкі? Вызначэнне веруючага дае сам Хрыстос. Ведаеш, што Ён адказвае на тваё пытанне?

– Што?

– Веруючы ў Мяне – гэта той, гаворыць Ісус, *хто слухае словы Мае і выконвае іх*. Дык вось цяпер скажы, як можа не-

хта быць веруючым, хто не тое што не выконвае, але нават і не слухае?

– Не ведаю… але ж людзі кажуць, што верац, – ужо без іроніі адказаў Санчоўс.

– Кажуць-та яны кажуць, – давялося мне паўтарыць, абдумваючы, чым бы секануць па гэтым «кажуць», і тут жа прыгадаў, што самы падыходзячы меч ёсць у Якуба. – Але Біблія сведчыць: «Ты верыш? Добра робіш, але і бесы верац ды дрыжаць!» Ты чуеш мову гэтую, Санчоўс?! – узвысіў я голас.

– Чую, – пакорліва адказаў той.

– Ну і ўдумайся тады: бесы таксама верац! Але чым твая вера адрозніваецца ад бесаўской?

Санёк, відаць, ушчэнт заблытаўся ў філасофіі сучасных вернікаў, бо раздражнёна прамовіў:

– А фіг яго ведае.

А я працягваў апеляваць халоднай зброяй:

– Таму і атрымліваецца, што чалавек, які Біблію не чытае і не моліцца, каб чуць і выконваць Яго слова, мае такую ж веру, як і бесы. Але людзям, Саня, – захоплены, я ізноў падняў дэцыбелы, – так хочацца называць сябе веруючымі! Яны-та лічаць, што набываюць гэтым квіток у Валадарства Божае! Аднак іх чакае сур'ёзны абломчык у той дзень, калі апостал Пётар, трымаючы у правай руцэ ключыкі, скажа ім: «А вы хто?» «Дык гэта, Пётра, мы ж, веруючыя», – адкажуць тыя. Пятра, ясна рэч, нахабнасць такая здзівіць: «Ну-ка, нука, давайце разбяромся», – скажа ён, так, па-простаму, і, узяўшы ў рукі Пісанне, прачытае: «Кожны, хто прыходзіць да Мяне, казаў вам Хрыстос, і слухае словы Мае і выконвае іх» (Лк. 6: 47), – згорне Кнігу Пётра на апошніх словах і паглядзіць на тых, з фальшывымі квіткамі ў руках. «Цяпер вы – слухалі Ягонае слова?» «Не», – палыпаюць небаракі вачыма. «А выконвалі слова?» – запытае апостал ізноў. «Не», – адно і застанецца адказаць тым, бо ніхто яшчэ не прыдумаў, як выконваць тое, што не чуеш і не чытаеш. «Дык а якія ж вы веруючыя?» – будзе падведзена выснова. «Ну во такія і веруючыя, Пётра!» – развядуць рукамі цуда-вернікі. «Ну во ў такое і валадарства вам тады!» – скончыць праверку апос-

тал-камень і леваю рукою ачысціць ад самападманваючыхся нябёсы, і зваляцца гэткія веруючыя ў сваё валадарства, дзе верацъ і дрыжаць веруючыя бесы.

– Ну ты і нагаварыў, Зміцер, – уражана прамовіў Санёк.

– Ды я і сам у шоку, – адказаў я паўжартам і клікнуў на помач Дзёню: – Дзёня, ну скажы ты яму: так ці не?!

– Санчоўс! – крыкнуў Дзёня.

– Ну.

– Слухай Дзімона, ён кажа праўду.

Казанне скончылася дружным гогатам.

У гэткім духу бавілі мы тыя дні. Увайшло ў нас у парадак баўбатаць, лежачы на нарах, доўга і аб усім. Бывала, мы замаўкалі на гадзін пару, у асноўным калі елі і спалі, і тады Санёк вылазіў на рэшку і выдаваў:

– Дзёня!

– Ну, – адгукнуўся ён.

– Завадзі баркас! – гучала патрабаванне, што азначала: «Давай-ка пабаўбочам пра што-небудзь!».

– Не, Санчоўс, не магу, – не згаджаўся Дзяніс, – у нас і так рты не зачыняюцца. Вось Дзімон паедзе, і я зусім завязваю з гэтым.

– Скажы вось, Дзёня, як мне выграбсці па вызваленні? – працягваў сваю лінію Санёк.

– Дык я адкуль ведаю, Санька? Я сам ніякі, чарвяк я. Так, Дзімон?

– Так, – адказваў я, – чарвякі мы.

Але, спатрабоўваючы духоўных парадаў, Санёк усё ж баркас заводзіў і ўцягваў у яго нас усіх – гадзіну-другую мы разважалі над законамі быцця, час ад часу абменьваючыся пытаннем-адказам:

– Чарвякі мы, так, Дзімон?

– Так, Дзёня, чарвякі.

Ці:

– Чарвякі мы, Дзёня.

– Так, Дзімон, чарвякі!

Калі ноч перавальвала за палову, мы ўгамоньваліся. Дзяніс перад сном перабіраў пацеркі і раўнамерна, ціха і прыгожа чытаў малітвы ў сваёй адзіночцы. А я слухаў. Слу-

хаў і маліўся таксама. Правільней сказаць, у тыя мае дні якраз стагнаў, стагнаў, як піша Павал, *уздыханнямі невымоўнымі*.

Аднак Санчоўс вырашыў унесці разынку ў гэткае нашае спакойнае і размеранае жыццё. Справа ў тым, што надта ўжо захацелася курыць яму. Цыгарэты, занычкаваныя чынарыкі і мяцёлка былі пакураныя, а таму паўставала законнае пытанне: як жыць далей? Адным з варыянтаў для тых, хто ўтрымліваецца ў ШІЗА-ПКТ, было наведванне санчасткі, і варыянтам гэтым Санёк вырашыў скарыстацца.

У санчастку вёў кантралёр, і там за зэкам як парушальнікам рэжыму і адбываючым дысцыплінарнае пакаранне назіраў: каб не збег з-пад арышту, каб не перамаўляў з іншымі асуджанымі ў санчастцы ды каб ніхто і нічога не ўмудрыўся яму перадаць.

У зоне дзівакоў хапае, але каб збягаць з ізалятара зоны ў проста зону, дык нават там такіх не знойдзеш. Гэта ж не зона ў 200 тыс. км$^2$, у якой умудраюцца некаторыя па дарозе ў ізалятар выклікаць хуткую і даць потым дзёру з рук медработнікаў (ёсць пару такіх герояў у белапазіцыі); а куды бегчы ў зоне ў 1/100 км$^2$? У якую дзірку не ўшчэмішся – і прыдуць, і за пятую кропку выцягнуць, і па пятай кропцы надаюць, і ў пуню ізноў закінуць. А вось каб перахапіць на санчастцы ў каго-небудзь курыва – свяшчэнная справа. Але гэта тады толькі, калі які спачуваючы гатовы пайсці на рызыку і ўсучыць зэку пару цыгарак. Часіны ж цяпер нялёгкія, цяжкія часіны – на аднаго жадаючага рызыкнуць знойдзецца дзевяноста дзевяць, якія ўжо ў мокрых портках.

Аднак тым разам Санчоўсу пашанцавала – напаткаў ён таго першага і перахапіў такі на дзянёк курыва. Ды толькі і ахова не дарэмна хлеб свой ела ў той дзень – па вяртанні ў камеру сусед наш быў дагледжаны, цыгарэты знойдзеныя і адабраныя ў даход дзяржавы. І вось тут пачаўся цырк на дроце.

– Серы, ты не дурэй, дай цыгарэты назад, – спачатку ціха адчальваў баркас Санчоўса.

– Забаронена перадаваць цыгарэты, – таксама спакойна адказаў кантралёр.

– Ды што тут забароненага?

– Ты ж на ўмовах ПКТ у адзіночцы?

– Ну.

– Дык ведаеш сам, што нічога браць у асуджаных табе нельга.

– Да ты паслухай, – павялічваў баркас абароты, – пару цыгарэт – не злачынства!..

– Табе не злачынства, а мне – злачынства, – тлумачыў Сяргей. – Бачылі мы такіх: спачатку просяць, а потым у операддзел бягуць.

Тут Серы казаў праўду. Кантралёрам ён быў небядовым і з зэкаў кроў не смактаў. Раней, бывала, гатовы быў паспрыяць стрыжанаму ў якой дробнай бытавой справе: заплюшчыць вочы на тыя ж цыгарэты; дазволіць раздатчыку ежы перадаць з камеры ў камеру заварку гарбаты; не перашкодзіць выведзенаму з ізалятара ў душ зэку апрануць на сябе пасля памыўкі зменку – другую пару сподняй бялізны і шкарпэтак, каб зусім не акалеў пасінеўшы парушальнік рэжыму ў ШІЗАўскіх 10 градусах.

Усё ж нават сярод гэтай сістэмы служачых ёсць некаторыя, хто ўмудрыліся захаваць людскасць. Але з кожным годам праяў велікадушнасці назіраецца ўсё меней і меней. А прычына – шырокая агентурная сетка, з зэкаў, пераважна, навербаваная.

Вымаліць зэк цыгарэту ў кантралёра і сам жа яго ў операддзел закладзе; альбо, наадварот, нападхалімнічае якому-небудзь старлею, увойдзе ў давер, а потым раз – і пачак цыгарэт яму на стол, а цыгарэткі няпростыя, цыгарэткі з меткаю. І ідзе нічога не падазраючы супрацоўнік да начальніка операддзела, які невядома чаму выклікае пагаварыць, а опер, так, між слоў, кажа: «Дай, таварыш, закурыць, а то забыўся свае». Ліцёха без задняе думкі дастае той самы пачак, працягвае оперу і на гэтым развітваецца не толькі з цыгарэтамі, але і са сваімі квартальнымі прэміяльнымі. Па гэтай жа схеме і многіх, многіх іншых прыгожых інтрыгах ідуць у топку ўсе: кантралёры, афіцэры, зэкі ўсіх рангаў і нават вальнячыя майстры з прамзоны.

Можа ўзнікнуць пытанне: для чаго гэта зэку-сексоту? Зэк за гэта атрымлівае плюсік, а за назбіраныя плюсікі можна стаць на ўзмоцненае харчаванне (самы шыкоўны бонус, аса-

бліва калі няма каму «грэць»), атрымаць дадатковую пасылку, палепшыць бытавыя ўмовы ў атрадзе і… шмат, шмат што яшчэ можна – абы плюсікі былі!

Таму небядовы хлопец Серы меў поўна прычын перастрахавацца. Аднак ці тое заўвага аб бегаючых у операаддзел абразіла Санчоўса, ці прага атрымаць дозу некацінавага яду ўзяла верх над розумам, але завёў Санёк баркас па поўнай:

– Ды ты не ламайся… піп… дай ты… піп-піп… сюды цыгарэты… піп.

Па гуках было падобна, што Серы, спартыўнага складу хлопец, пачаў запіхваць суседа нашага ў камеру, на што той запратэставаў таксама:

– Давай паакуратней… піп-піп… а то і ў адмашку магу пайсці… піп-піп.

– Ты, у адмашку? – пакпіў кантралёр. – Баюся, ад цябе мала што застанецца.

– Усе вы… піп-піп… смелыя, як з дубінкаю ды па форме… піп-піп… а сустрэнеш вас дзе пад вуглом, сціскаецеся ў штонікі без памперсаў… піііііііііп… – тут пакутуючы па нікаціне перайшоў ужо на персоны, і апошнія словаформы, калі ён канчаткова зразумеў, што цыгарэты будзе паліць нехта іншы, былі асабліва брутальнымі. Сярога абавязаны быў на іх рэагаваць:

– Ты… піп… за словы свае гатовы адказваць? – гаркнуў ён сваім басам.

– Я заўсёды адказваю, – ганарлівым тэнарком праспяваў з-за дзвярэй Саня-Тэрмінатар.

– Ну глядзі, – ужо спакойна адказаў Серы і сышоў.

Не паспелі мы з Дзёнем і падзівіцца, як чудзіць курыльшчык без баяну, аж загрукалі тут некалькі пар ботаў па жалезнай лесвіцы і зарыпелі дзверы Санінай адзіночкі.

– Выходзь! – крыкнуў Сяргей.

Санчоўс выйшаў моўчкі, і ўсе рушылі ўніз, на першы паверх. Добрая гучнасць дазваляла нам чуць і тое, што адбывалася паверхам ніжэй. Прагучалі ўладарныя загады: «Да сцяны!», «Ногі!», «Шырэй!», «Шырэй ногі!», пасля чаго пачуліся пяшчотныя паляпванні гумавымі прыкурвальнікамі, а за імі

ўдзячныя воклічы закурваючага Санчоўса: «А вой!», «Да ты што!», «Што ж вы творыце!», «Харош, Серы!».

Мы з Дзянісам спачувалі як маглі – ледзь не плакалі, рагочучы ад пуза.

– Во, той, што ў адмашку пайшоў! – крыкнуў я.

– Так, зараз яму находзяць! – падтрымаў Дзёня.

Серы ж спыніў працу і прыгадаў:

– Дык ты ж збіраўся за словы свае адказваць?

– Ты мяне не так зразумеў, Серы! – адказаў як мог за свае словы Санёк.

Пасля яшчэ некалькі свістаў перавыхавальніка ў паветры, якія канчаліся лясканнем аб мяккія тканіны і па іх галашэннямі: «А-ёечкі!», «А-ёй!», «А-ё-ёй!», перавыхоўваемы быў вернуты ў хату.

Мы з Дзянісам ажно заходзіліся:

– Ну што, Санька, закурыў? – гагатаў Дзёня.

– Закуры-ы-ў… – працягла праскавытаў аматар тытунёвых смол, што нагадала мне застаўку да аднога са спеваў Вінцэнта.

– А мы казалі табе: папрасі прабачэння, пакуль не позна, – нагадаў Дзяніс.

– Таблеткі на раз прапісалі ці яшчэ будзеш прымаць? – хахатаў я.

– Не, хопіць аднаго разу… – стагнаў пацыент.

– Ну як што, гавары, – працягваў канцэрт па заяўках Дзяніс, – мы з Серым дамовімся, каб яшчэ пару рэцэптаў выпісаў!

– Мне б пакуль гэтыя пераварыць рэцэпты…

– Мо ўжо і з курывам завяжаш?

– Мо, Дзёня, і трэба, я ж збіраўся, – узгадаў раптам курэц аб сваіх намерах на новае жыццё.

– Глыбоцкая медыцына – самая лепшая медыцына ў свеце! – не стрымаўся я, каб не парадавацца за Санчоўса і айчынных паслядоўнікаў Гіпакрата.

– А як збочваць пачнеш, дык ты і на волі можаш звяртацца да Серага – за бюлетэнямі, – слушна параіў Дзяніс, – і пад’язджай ды заводзь баркас свой!

– Не, гэты баркас лепш не заводзіць, – ужо і сам праз стогн пасмейваўся ацалёны ад палення Санёк.

У перадапошні вечар знаходжання майго сярод блакітных азёраў Дзёня клікнуў мяне:

– Дзімон, давай мо заварым што?

– Давай.

– Я вару каву, а ты?

– Дык і я каву, – згадзіўся я з выбарам.

– Тады праз дзесяць хвілін – «на рэшцы».

– Дабро.

У зоне прапанова што-небудзь зварыць і папіць разам зусім не азначае, што нехта прагне спатоліць смагу. Зэк можа толькі што заправіцца кубкам заваркі, але калі падыдзе да яго таварыш і прапануе заварыць, ніколі не адмовіць. Прапанова «Давай заварым!» азначае нішто іншае, як «Сябар, давай-ка з табою пагаворым!». Рэдка якая гутарка ў зоне адбываецца без гарбаткі, што дыміцца ў кругалі на стале барака ці на лаве-лакалцы.

Вось і мы пасля прапановы папіць што-ніць разам, кожны ў сябе дома варылі пітво, а потым сустракаліся на лоджыі – «вылазілі на рэшку» – стаялі ля вокнаў у сваіх адзіночках і, пацягваючы гарачы напой, заводзілі баркас – разважалі аб долі нашай зэкаўскай, не забываючы і на матэрыі высокія.

– Дзімон, дык ты ведаеш, пра што я хацеў паразмаўляць з табой?

– Цікава, – усміхнуўся я, – няўжо мы пра гэта яшчэ не паразмаўлялі?

– Не, – без жарцікаў адказаў Дзяніс.

– Ну дык што там у нас на павестцы?

– Кітайцы.

– Да ты што?! – ледзь не падавіўся я.

– Так, і вось што ты пра іх думаеш?

Сутнасць пытання была зразумелая. Я адкашляўся і агучыў адпаведзь:

– А што пра іх думаць – старэючая, выміраючая нацыя.

– Як так? – здзівіўся ўжо Дзяніс. – А як жа правідцы… якія прадказвалі, што паглыне Русь жоўтая раса?

– Правідцы, Дзёня, пэўне памыліліся, – перавёў я на жарт і ўжо на сур'ёзе патлумачыў: – Першае – гэта аборты, якія з'яўляюцца часткаю дзяржаўнай палітыкі Кітая, і таму ўстаноўка «адна сям'я – адзін дзіцёнак» вельмі хутка справу сваю зробіць. Другое, у Кітая няма ні ідэалогіі цэментуючай, што яшчэ можна ўбачыць на Захадзе, ні агрэсіўнай веры, пад сцягам якой ідзе Усход. Таму, сябар, забудзь жоўтых чалавечыкаў – ніякае небяспекі.

– А хто тады небяспека? – разгубіўся Дзёня.

– Ну… – пачаў было я, але надумаў гукнуць стырнавога баркасу: – Санёк, ты з намі?

– Так, ляжу тут на падлозе, – адказаў ён.

– Адпачывай, табе пасцельны рэжым карысны. Ты толькі прабач, што мы без цябе тут каву папіваем, – перапрасіў я і прышпільнуўся з курца: – Каб ты таблеткамі не балававаўся, маглі б разам.

– Ды ладна, я ўжо на свабодзе буду хутка заварваць і какаву з малаком, і што заўгодна, – весела адказаў Санёк, якому пасля выпісаных рэцэптаў выпісалі яшчэ і дзесяць сутак ШІЗА. А пераведзены з пэкатэшнага рэжыму на ізалятарскі не меў права нічога мець пры сабе, апроч сродкаў асабістай гігіены.

– Дык вось, Дзёня, – працягваў я, – большая небяспека – мусульмане: маналітная вера, моцная на яе падмурку ідэалогія, здаровыя сем'і па дзесяць дзяцей; і педзікаў ніхто не жэніць, і дзетазабойства ніхто не ўзаконьвае.

– Гэта так, – прамовіў з сумам Дзяніс і, троху падумаўшы, рашуча выдаў план: – Трэба неяк супрацьстаць ім!

Можна было толькі ўсцешыцца такою непасрэднасцю. Трэба аддаць належнае гарачым праваслаўным – паўстаць за сваю нацыю яны гатовы ў любую хвіліну дня і ночы. Узнікла палымянае жаданне падтрымаць брата па веры і запісацца разам з ім у добраахвотнікі, каб вырашыць праблему адным марш-кідком. Але перад гэтым хацелася зазірнуць і ў корань.

– Супрацьстаяць трэба, – пачаў я, – але, пакуль мы дзяцей забіваем, а яны нараджаюць, любое нашае супрацьстаянне – фікцыя. Таму, сябар, толькі асабістым духоўным адраджэннем. Хаця прагі да яго народ наш «веруючы» не праяўляе… –

корань апынуўся не вельмі абнадзейваючым. Каб не было на душы так гаротна, вырашыў я пералічыць і станоўчыя аспекты: – Але расстройвацца не трэба, Дзёня, няхай ідуць – трэба ж камусьці будзе засяліць нашу зямлю, і Еўропу гэту дэградуючую таксама. А ў нашым царстве глядзі як добра ім будзе: нават сцяг мяняць не трэба – той жа чырвоны-зялёны і тут, ну мо толькі мову падправіць прыйдзецца, ды і тое таксама не нашую – нашую мы ўжо даўно за танны газ прoдалі. Дык якая нам розніцца, Дзёня? Няхай ідуць!

– Вось, Дзімон, а чаму мы так да мовы роднай адносімся? – падхапіў Дзяніс. – Яна такая ж у нас прыгожая…

– Прыгожая, Дзёня, прыгожая… Выхоўваюць нас такімі бяспамятнымі і бязроднымі… – з заўсёдным болем прамовіў я. А што было мне яшчэ казаць? Я зрабіў пару глыткоў моцнай кавы і задаў сябру рытарычнае пытанне: – Але там, дзе чалавек можа мовы выракчыся, дык чаму ён не можа выракчыся духоўнасці? Вось і жывём: адзін кажа, маўляў, каму ў век глабалізацыі трэба ваша мова, давайце «гаварыць нармальна»; а іншы гаворыць: каму ў век лібералізма трэба вашы сем'і, давайце жаніць гамасекаў. Таму, Дзёня, усё законна: духоўна – дэградуем, фізічна – выміраем.

Дзёня слухаць такое спакойна ўжо не мог і, абурыўшыся, знайшоў канцы:

– Усё гэта ачмурэнне ідзе да нас з Захаду, са Штатаў! У нас, на Русі, у праваслаўных, ніколі такога не было.

«Ну во, – усміхнуўся я сам сабе, – не паспеў парадавацца я такому клопату за мову, як паляцела чарговая дзіда». Такі наезд на Штаты трошку засмучваў: ЗША – любімая мая краіна. Пасля, канешне, Ізраіля. Але калі я вытрываў святога Мікалая II, дык і тут трэба было трываць. Тым больш, як бы гэта так мякчэй мовіць, «нелюбоў» да Амерыкі – гэта не праваслаўная канцэпцыя. Дзе ты ні размаўляй у нас з чалавекам, у якога баліць за духоўную дэградацыю народа, абавязкова выявіш па Фарынгейту ад 33 да 212 градусаў нянавісці да Еўропы і ЗША – Садома і Гаморы сучаснасці. Безумоўна, некаторая аргументацыя ў такім стаўленні ёсць (асабліва калі гаварыць пра Садом), але надзвычай павярхоўная, а болей тут эмоцый чыста на псіхалагічным узроўні – ненавідзець

Захад нас вучаць ужо год сто. Мінімум. Гэтую нянавісць асуджаць нельга, гэтая нянавісць ратавальная: яна проста і хутка тлумачыць усе нашыя беды – раз; яна абсалютна пераконвае нас, што мы лепшыя за іх, – два.

Не, праведны чарвяк зусім не дыхаў нянавісцю, ён проста трошку памыляўся, і таму я вырашыў акуратна сябра падкарэктаваць.

– Не зусім яно так, Дзяніс, калісьці ні ў нас не было дзікунства такога, ні ў іх. Але паглядзі: каталіцкая Польшча – аборты і шлюбы гамасекаў забароненыя; пратэстанцкія ЗША – забароненыя ў 39 штатах з 50. І там, заўваж, шмат палітыкаў нацыянальнага ўзроўню, якія імкнуцца забараніць дзетазабойства і шлюбы педэрастаў шляхам правак у Канстытуцыі. Той жа Ромні, што цяпер балатуецца ў Штатах, – пад палову Амерыкі падтрымлівае яго, – цвёрдым голасам прамовіў я кожны сказ і прапанаваў: – А зараз давай нас возьмем: дзе ты бачыў такіх палітыкаў, каб у прэзідэнцкай праграме была прапісана забарона абортаў і садоміі? Вось табе, браце, і праведная Русь!

– Гэта нейкі жах, Дзімон… – пасля доўгай паўзы прамовіў ён.

– Гэта нават і не выказаць «што», Дзёня.

– Санчоўс, ну а ты што думаеш?

– А што тут думаць, – як заўсёды, імпэтна адгукнуўся той, – підарасаў – у топку, а жанчына… няхай сама вырашае – гэта ейнае асабістае жыццё і яе цела.

Так, наконт педэрасціі ў турме нікому нічога даказваць не трэба. Хаця і тут ёсць свае нюансікі. Калі з таго боку зоны педэраст – гэта і той, каго, і той, хто, дык з гэтага боку педэрастам лічыцца толькі той, каго, а той, хто, – гэта нармальны ціпа мужык, які за пару пачак «Прымы» проста спраўляе жывёльныя свае інстынкты.

А з абортамі адмазкі з гэтага боку зоны гэткія ж алагічныя ды абсурдныя, як і з таго. Я, пачуўшы іх з вуснаў Санчоўса, нават саркастычна хмыкнуў, – паўсюль адно і тое ж. Чаму так? Мо таму, што і Сатана паўсюль адзін і той жа?

– Санёк… – выдыхнуў я, ужо нават троху стаміўшыся ад гэтай паўсюднай аднолькавасці, – калі б жанчына сама па

сабе і рабіла аборт, дык была б хоць логіка ў тваіх словах. Ці мужанёк ейны каб рабіў ёй. На іх саміх і было б тады гэтае пракляцце. Але ж не, яны не робяць самі, яны ідуць да дзяржавы! А дзяржава гэта хто, Санёк?! – ужо і не заўважаў я сам, як павялічваў гучнасць – так хацелася мне выказаць набалелае хаця б гэтым сценам, – дзяржава – гэта ўсе мы! І таму кроў на ўсіх нас! І на ўсіх пракляцце: на дэпутатах найперш, прымаючых такія законы; на прэзідэнце, падпісваючым іх; як вынік – на ўсіх, хто такіх заканадаўцаў абірае; на медыцыне ўсёй, якая чалавеказабойствам займаецца… Ды на ўсіх, Санёк, на ўсіх! І замест таго каб узняцца, мы адмахваемся: гэта асабістая справа жанчыны! І дзяржава маўчыць – ёй таго і трэба! Цэрквы сядзяць на месцы, баяцца іх згубіць!

Мы ўсе замоўклі. У мяне ад крыку нямога, які крычы, а не выкрычыш, усё ўнутры калацілася. І самае жахлівае было ў тым, што з адзіночак тых я мог дакрычацца да большае колькасці людзей, чым калі б галасіў на якой шматлюднай плошчы.

– Праваслаўе і Філарэт, Дзімон, – паправіў мяне Дзяніс, – заўжды катэгарычна выступалі супраць абортаў.

– Не выступаць трэба, Дзяніс! – крыкнуў я, усміхнуўшыся ў сваёй адзіночцы, – гэта мы з табою ўсё, што можам з нашых клетак, дык толькі супраць выступаць. А Філарэт не ў клетцы і не пратэстант, якіх трымае дзяржава за ворагаў, і не каталік, якіх пабойваецца, а мае сур'ёзную ўладу, з якою мог бы, – зрабіў дапушчэнне я, але тут жа выправіўся, – ды не «мог бы», але абавязаны зайсці ў кабінет да самадзержца і, умоўна гаворачы, адкрыўшы дзверы нагою, паставіць яго перад фактам: «Заўтра аборты будуць забароненыя!» А ён замест гэтага абвешаў узурпатара з ног да галавы ордэнамі за духоўнае адраджэнне Беларусі! А ў чым адраджэнне, Дзёня? У тым, мо, што за 20 год тры мільёна дзетак абартавана?

Канешне, пытанне было ў нікуды – за што кіраўнік Беларускага экзархата Маскоўскага патрыярхата панавешваў на грудзі праваслаўнага атэіста кучу ордэнаў, ніхто не скажа. Хаця я такія-сякія думкі на гэты конт меў ды не хацеў згаршаць імі чыстае Дзёніна сэрца.

Было гэта, падаецца, у 2006-м, бо якраз тады выйшаў зварот Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта з нагоды 20-й гадавіны трагедыі на ЧАЭС. У звароце тым уладыка мільёнаў сямі праваслаўных пісаў пра дзве трагедыі нашага народу напрыканцы 1980-х – пачатку 1990-х. «Няўжо другая трагедыя, – падумаў я, – гэта развал краіны ГУЛАГаў?». У такую выснову паверыць было ніяк нельга, і я пра яе забыў. Але не так, каб назусім і імгненна ўзгадаў, калі надарыўся выпадак сустрэць аўтара (а было гэта, дарэчы, у тых жа любімых амерыканцаў – на прыёме па святкаванні 230-годдзя Дэкларацыі іхняе незалежнасці).

І вось я нагадваю мітрапаліту пра той зварот і запытваюся: «Няўжо пад другой трагедыяй вы мелі на ўвазе СССР, гэтую турму народаў, якая ў тым ліку і праваслаўных столькіх замардавала?!» «Гэта наша гісторыя», – адказаў мне з прыдыханнем былы «народны» дэпутат ВС СССР. У галаве маёй хаатычна забегалі ўсе прусакі, я быў пачаў нешта тлумачыць-даказваць пра людаедаў-камуністаў, але галоўны праваслаўны Беларусі быў непахісны. Я ўпаў у адчай і скарыстаў апошні аргумент: «Дык і Гітлер для Германіі – гэта таксама гісторыя, – сказаў я, – што зусім не сведчыць аб неабходнасці шкадаваць аб развале ІІІ Рэйху». Філарэт ветліва, з яснымі – ці тое шклянымі – вачыма са мною развітаўся.

Дык калі можна шкадаваць аб руйнаванні імперыі зла, якая толькі ў сябе дома вынішчыла больш, чым ІІІ Рэйх ва ўсім свеце, дык чаму б не прышпіліць ордэнаў пару на грудзі таго, пры кім усяго толькі тры мільёна дзетак знішчылі? 19 мільёнаў на рахунку фашызму ва ўсім свеце і – 19,5 мільёна на рахунку камуністаў толькі ў сябе дома (Эрліхман В.В. «Страты народанасельніцтва ў ХХ», даведнік. М.: Выдавецтва «Руская панарама», 2004).

– А ці паслухаўся б *той* Філарэта? – паспрабаваў абараніць мітрапаліта Дзяніс.

– А куды б гэты *той* дзеўся? – іранічна перапытаў я і патлумачыў: – А не, медалі з ордэнамі – на стол! І будзь пэўны, што забараніў бы імгненна, бо з васьмюдзесяццю працэнтамі праваслаўных трэба ж заігрываць манарху – згубіць прыязнасць у вачах іхніх ніяк нельга, а тым больш

у крызісны наш час, калі трон і так ледзь рыпіць. Але ж не, і першасвятар заігрывае, толькі з цэзарам, каб цэрквы будаваць, што пустуюць потым; каб шанавалі цябе валадары зямныя на ўсіх прыёмах. Славы хочацца, а ўрэшце рэшт уся справа ў гэтым: «Славу людзей больш узлюбілі, чым славу Божую!» – эмацыйна завершыў я словамі евангеліста Яна і пасля паўзы спакайней дадаў: – Што ж, яны сваё пажнуць, як пажалі іх папярэднікі, толькі тады гэта ўжо нікому не будзе цікава – тады нас, па ацэнках ААН, будзе паўтара-два мільёна пад канец стагоддзя. І гэта па ацэнках аптымістычных.

Я замоўк. Дзяніс маўчаў таксама. У цішы ён уражана прамовіў:

– Страшна нават спаць класціся пасля такога.

– Ды я і сам у шоку, – давялося мне ўздыхнуць: так выклаўся я ў размове гэтай, што адышоў ад рэшкі і сеў на нару, трымаючы ў руках пусты кубак. – Але, Дзёня, пакуль ёсць пару-тройку чарвякоў, гатовых пуза пакласці, дык мо шчэ не ўмёрла надзея?

– Так, Дзімон, ёсць яшчэ ў нас надзея! – рашуча пацвердзіў праведны чарвяк.

– Тады трэба зарывацца ў нару, сябра, выспацца. Заўтра ж ужо апошні дзень я ў пенатах гэтых.

– Можа, не паедзеш яшчэ?

– Паеду, Дзёня, інакш быць не можа. Ды і трэба ехаць, колькі ж можна лайдачыць тут?! – пасміхнуўся я. Людзі думаюць, што я тут пакутую, а я каўбасы жару і бакі вылежваю!

– Ды ладна, мог бы і адпачыць ужо троху, – заступіўся за мяне Дзяніс перад грамадскасцю.

– Я так наадпачываўся – далей няма куды. Тым больш ведаеш, як змагар адзін казаў: «Стаміўся? Адпачні. Але пасля гэтага ты ўжо не будзеш рэвалюцыянерам!» А мне ж, Дзёня, хочацца яшчэ паслужыць Бацькаўшчыне.

Падняўся я, як заўсёды, па пад'ёме, а пятай; а палове на шостую, як заўсёды, наеўся палажняковай кашы з Дзёнінымі каўбасамі і пірагамі; як заўсёды, ізноў лёг спаць; а дзясятай, як заўсёды, мяне пабудзілі галасы пэкатэшнікаў, якія раз наццаць прывіталіся з Дзёнем, на што ён столькі ж разоў ад-

казаў. Віталь, Алег і яшчэ нехта гукнулі вітанні мне, і я спрасоння пракрычаў тры разы «Здаровенька!».

Перад бяссоннаю этапнаю ноччу трэба было б добра выспацца, і я намерыўся працягнуць рэалізацыю баявой задачы, але тут прыйшоў атраднік і выдаў вопісі, каб да абеду я перапісаў усе свае пажыткі. Раней я павярхоўна выконваў гэтае заданне, аднак бывала пару разоў так, што па прыбыцці на новае месца дыслакацыі рэчы, не запісаныя ў вопісі, вымаліся на склад калоніі, а адтуль забраць іх ужо нельга – толькі пры пераездзе ці вызваленні. А можна і не забраць – так знікла ўсё маё нажытае непасільнаю працаю дабро, калі выкідвалі мяне ў 2008-м са «Шклова». Цяпер я стаўлюся да падрахавання маёмасці з усёй адказнасцю.

Пасля таго як я ўсю раніцу адваяваў у баях з крывавым рэжымам, зрабіць столькі працы – за пару гадзін улічыць кожную нітку і тры разы зафіксаваць яе ў трох копіях вопісі – было няпроста, але надзвычай неабходна – без гэтага ў новую атаку (чытай: на этап) мяне не пусцілі б.

Таму, па сваей глыбоцкай завядзёнцы, закіпяціў я салодкую гарбату, якую атрымаў яшчэ раніцою, засыпаў у яе сапраўдную заварку і распачаў бухгалтэрыю.

– Дзімон, ты як там?

– Усё пад кантролем, Дзёня. Вопісі дарабліваю – запарыўся, як пару вагонаў разгрузіўшы.

– Ну так справа не з прыемных, – паспачуваў мне сябар і прапанаваў: – Мо заварым што на гулку?

– Дык давай. Што варыць будзем?

– Я завару каву, а ты стаканец вазьмі з сабою.

– Дамовіліся.

– І фотаальбом захаплю, паглядзіш на маіх.

– О, я таксама вазьму, – падтрымаў я ідэю, але ўзгадаў, чыя змена працуе сёння, і выказаў сумнеў, што атрымаецца ў нас фоткі прагледзець: – Толькі трэба будзе неяк дамовіцца з Жорам, каб у суседнія дворыкі завёў, бо гэты лёгка можа занаравіцца.

– Жору бяру на сябе, – запэўніў Дзяніс, – я з ім на адной назе.

Я засмяяўся.

– Ну, глядзі.

На прагулку выходзілі мы ўдвох – Санёк на ўмовах ШІЗА на прагулку не меў права. Адчыніўшы дзверы на дах, я паспрабаваў зайсці ў бліжэйшы да Дзёні дворык, але Жора загадаў:

– Давай праз адзін.

Жора быў кантралёр (ды што кантралёр – чалавек) вельмі моташны. Выдурваў ён галаву зэкам так, як ніхто іншы ў гэтай зоне.

Спыняў ён, напрыклад, брыгаду перад выхадам на працу і палову выправоджваў назад, у атрад, каб лепей выгольваліся – да бляску, а на саміх парушальнікаў рэжыму складаў рапарт за неналежны выгляд. Пяцідзесяцігадовыя зэкі потым апраўдваліся перад начальнікам: «Куды ж я выгалюся, мне шосты дзясятак, а не васемнаццаць годзікаў?! Ды станком, якому другі год». І нават калі начальства разумела абсурднасць ці беспадстаўнасць рапартаў тых, прызнаць, што зэк мае рацыю, – ніяк нельга, гэта ж пахісне аўтарытэт улады! Гэта ж кожны возьмецца тады правы свае даказваць! – разважалі кіраўнікі рэжыму. А псіхалогія рэжымаў аднолькавая на ўсіх кантынетах. І хоць ты прывядзеш сведкам Ісуса Хрыста, рапарт супрацоўніка зоны/МУС/АМАПа і г.д., і г.д. на зэка – ісціна ў апошняй інстанцыі, і зламыснік павінен быць пакараны; таму старыкі пазбаўляліся перадач, сустрэч з роднымі, атаваркі і, абыякавыя, клыпалі да сваіх станкоў на прамзону. Усё адно – перадачы ім не было каму вазіць, на сустрэчы да іх не было каму ездзіць, атаварвацца ім не было за што.

Калі ж зэк трапляўся з характарам, а асабліва такі, што на ўмоўна-датэрміновае вызваленне не збіраўся і таму на парушэнні чхаць хацеў з Эйфелевай вежы (чытай: з ізалятара), то Жору высылалі па месцы непасрэднага прызначэння і тады Жорык куралесіў на ўсю – рапартаў пісаў столькі, у кольких накірунках яго прасілі імгненна знікнуць. У такім выпадку зэк загружаўся на сутак 10–30 у пуню.

Апошнімі ж днямі пайшла такая пагалоска, што Жорж збіраецца не абы-куды, а за «вышкаю» (не ў гуманны суд РБ, а ў Акадэмію МУС РБ). І ўжо самі кантралёры, сутаварышы

ягоныя, скардзіліся парушальнікам: «Вось, цяпер Жора вам душу вымотвае, а стане праз пару год каляровым, будзе нам мозг гвалціць, – круцілі яны пысамі і дадавалі рашуча: – Трэба звальняцца!»

Неяк на прагулцы, падчас знаходжання майго ў ПКТ, пачуў я, як Жора аднаму са «злоснікаў» даказвае: «Я б тут і задарма працаваў – трэба ж камусьці вас, бандытаў, ахоўваць!» І тады я ўжо сам не стрываў і выказаў бескарыснаму вертухаю ўсё, што я, злосны парушальнік рэжыму, аб ім думаю. Зрэшты не, не ўсё – адсоткаў дзесяць, але іх было дастаткова, каб Жора надзьмуўся, пачырванеў і заявіў, што на мяне будзе складзены рапарт і, адпаведна, я сяду ў ізалятар. Я парыраваў пачутым калісь ад бывалага: «Ды мне начхаць, Жора, я ў гэтых ізалятарах вырас!»

Вярнуўшыся тады з прагулкі ў камеру, я адкруціў назад, да сваіх 10%, прагледзеў іх, потым зноў назад прагнаў і рэтрансляваў яшчэ раз і мне сталася сорамна. Каб хто староннi паслухаў тыя мае дзесяць адсоткаў, дык сказаў бы: «Няўжо гэты так можа?» Я пачырванеў яшчэ больш і вырашыў папрасіць у Жорыка прабачэння. Але як прасіць? Падумае, што баюся ізалятара.

Не, перапрашаць не выпадала. Вось каб я ведаў, што не напіша рапарт, тады б выбачыўся. Але гэты не мог не напісаць, і я пачаў рыхтавацца да дзесяцісуткавага сну на падлозе: адклаў рушнік, мыла, зубную пасту са шчоткаю, рулон туалетнай паперы паболей, што будзе служыць падушкаю, апрануў цяплейшыя шкарпэткі і зняў лішнюю адзёжу – у ізалятары дазволена мець на сабе толькі споднюю бялізну, лёгенькую, аж празрыстую, баваўняную кашулю і гэткія ж штонікі. Ну і, у поўным зборы, чакаў, калі за мной прыйдуць.

Прайшоў той дзень, за ім наступны, потым мінуў яшчэ адзін, і я зразумеў, што Жорык рапарт не напісаў і ў ізалятар я не еду. Я нават абрадаваўся: цяпер мог, не выходзячы за межы гардыні, павініцца. Трэба было толькі падлавіць момант, каб сам-насам. І адзін такі я напаткаў, але… так і не сказаў шмат разоў абдуманых слоў. І не тое каб з-за пыхі, як з-за нейкае сарамлівасці… А мо гэта і ёсць пыха?

Пачуўшы ў Жоравай манеры выкананую забарону гуляць нам у суседніх дворыках, я ўжо збіраўся пару адсоткаў выдаць, але тут жа, узгадаўшы нясплачаны Жору даўжок, асёкся, закрыў рот і пачаў тусіць па клетцы, разумеючы, што гаварыць не маю права і прасіць Жоржа бессэнсоўна.

– Жора, дык дворыкі ж вольныя, давай мы побач пагуляем, – папрасіў спакойна, але трошку абурана Дзяніс.

– Нельга, – няўмольна адказаў той.

– Ды не прасі ты, Дзёня, гэта ж – Жора, – кінуў я Жорына імя як абразу.

– Не, я Жору ведаю іншым, ён нармальны, добры чэл, – не пагадзіўся Дзяніс, прамаўляючы гэтую характарыстыку нам абодвум, і павярнуўся на кантралёра: – Жора, я ж памятаю цябе харошым хлопцам, як ты яшчэ працаваць прыйшоў: на пякарню да нас завітваў, па-людску мы заўсёды з табою і ты з намі. Калі цябе абазлілі некаторыя, дык ты ж на ўсіх не адыгрывайся.

Дзяніс спыніўся і, счакаўшы, дадаў з усмешкаю:

– Тым больш на нас з Дзімонам, мы ж чарвякі ды і толькі.

Жорык нешта прабурчэў у адказ, а мы, засмучаныя, пачалі туды-сюды шпацыраваць. Было шкада, што апошняя мая прагулка ў «Глыбокім» выходзіла так няўдала: вось і фотак паглядзелі, вось і кавы папілі, вось і паразмаўлялі па-людску на развітанне – недзе так разважалі мы.

І тут Жора, ён самы, адчыняе суседнюю з Дзянісам клетку, потым маю і ківае мне:

– Пераходзь.

Гэтым ён агаломшыў так мяне другі раз і канчаткова. А я ўжо амаль стаўся зэкам!.. А выходзіць, каб змякчыць сэрца любога ў свеце «Жоры», насуперак эмоцыям трэба вось так, па-божаму: «Жора, я ж памятаю цябе харошым хлопцам! Ты добры, нармальны чэл, Жора! Давай па-людску, Жора, – мы ж проста чарвякі ў гэтым свеце!»

– Усё ж, Дзімон, суперскі дзянёк сёння! – абвясціў Дзяніс, адліўшы палову кавы са свайго стакана ў мой.

– Суперскі, Дзёня, – адсёрбнуў я гэтага вугальнага колеру пітва і вымушаны быў дапоўніць з усмешкаю: – І кава суперская, заўсёды такую варыш?

Дзёня падняў на святло стакан і, углядаючыся ў яго, спрабаваў вызначыць, колькі кілатон прыпадае на паўстакана гэтага чорнага эліксіру.

– Ну, раз на дзень можна, – урэшце быў завершаны ім спектральны аналіз.

– Раз на дзень – так. Хаця, ты ведаеш, каву не піў зусім, лічы, да год трыццаці. Гэта ўжо каханая прывучыла мяне да арыстакратыі.

– О, фоткі ўзяў? – падхапіў Дзяніс.

– Канешне, – я дастаў з кішэні фотаальбом і перадаў яго праз краты.

– Твая? – тыкнуў ён пальцам у фота Насценькі.

– Мая! – з гонарам адказаў я. Зэкі заўсёды так адказваюць на гэтае пытанне – такая танальнасць азначае, што хоць ты і ізгой грамадства, але яшчэ камусьці патрэбны ў гэтым свеце.

– Прыго-ожанькая! – працягнуў Дзёня – І колькі ёй?

– Дваццаць два толькі споўнілася.

– Пастой, – глянуў на мяне ён. – А табе?

– Во, трыццаць адзін ляснуў па рэбрах.

– Дык ты нармальны чэл!

– Ну дык да, – усё яшчэ працягваў лыбіцца я.

– Як яе?

– Анастасія.

– Прыгожа, – гэткім жа ўзнёслым голасам, як і ў мяне, адказаў ён і запытаў: – Я так і не зразумеў, вы жанаты?

Лыбіцца я перастаў і ўздыхнуўшы адказаў:

– Не.

– А што так?

Я набраў поўныя грудзі паветра і пачаў апавядаць гісторыю, па матывах якой яшчэ напішу лірычны кінасцэнар і вазьму «Оскара».

– Справа такая, Дзёня: канчаткова я ўсвядоміў, што не магу жыць без яе, калі быў ужо ў турме. У прынцыпе, за гэта я ёй найперш і ўдзячны, – я ўсміхнуўся і ўдакладніў: – Турме. Але, калі мы вырашылі ў «Горках» распісацца, высветлілася, што няма ў мяне пашпарта. Мы туды-сюды, давай шукаць яго і знаходзім канцы ў КДБ – канфіскавала гэб'ё ў аднаго нашага сябра, па справе аб мітынгах. Як ён у таго апынуўся?.. –

пацепаўшы плячыма, запытаўся я сам у сябе. – Я і цяпер рады не дам. Давай мы пісаць чэкістам, але тыя ўрубаюць свой звычайны рэжым – «дурачок»: ці не адказваюць на запыты нашыя, ці адказваюць нейкую ахінею накшталт: «Не можам высветліць месцазнаходжанне».

– Як жа так? – абурыўся сябар, разам са мной суперажываючы.

– Я і сам не ведаю, – развёў я рукамі. – Дурню плюй у вочы, а ён кажа: дождж ідзе. Так і гэтыя: я ім – дакументы аб тым, дзе пашпарт і па якой справе імі ж канфіскаваны, а яны мне: дождж ідзе. Плюнуў я на іх канчаткова і вырашыў рабіць у «Глыбокім» новы. Але і ў гэтых дождж: не можам рабіць новы, пакуль ты маеш стары – замкнёнае кола. «Бог з ім, – разважылі мы, – на ўсё Ягоная воля, трошку пачакаем», – я ўздыхнуў і рэзка запытаў: – Але тут што, Дзёня?

– Што?

– Раскрутка, вось што! – радасная іронія тут якраз пасавала. – І я так прыкінуў, што маю ўсе шанцы да года 37-га катацца па камандзіроўках…

– Чаму да 37-га? – спыніўшыся, утаропіўся ў мяне Дзёня.

Спыніўся і я – трэба было тлумачыць прынцып функцыянавання беларускага султанату.

– Таму, браце, што Саня да Колі. А Колі 35 будзе ў 37-м. На Русі ж нашай, – захацелася мне па-сяброўску прышпільнуцца з Дзёні, а мо і з сябе таксама, – як прынята? Прыходзіць на трон новы самадзержац і старым палітзэкам дае амністыю. Карацей, – перайшоў я на сур'ёзны лад, – раскручваць-та могуць бясконца, і таму свабоды чакаць ужо ніяк не выпадала. Давай я скандаліць, каб рабілі пашпарт мясцовыя. Марозілі яны, тармазілі як маглі і ўрэшце рэшт разам з позваю на новы суд выдалі мне новы пашпарт. І цяпер вось падалі мы дакументы ў загс, якія таксама прытрымлівалі да ўпору.

– А якая ім тут розніца? – Дзяніс нахмурыўся: ён не разумеў падыходы, па якіх жэняць у нашай краіне маладафронтаўцаў.

Трэба было прыгадаць і аб назве султанату.

– Дзёня, дзе мы жывём з табою? БССР! Усе і ўсяго баяцца! Такое ўражанне, што, цень уласны ўбачыўшы, кожны з іх аб-

дзелацца гатовы тут жа, па месцы. Яны, відаць што, – зрабіў я адзінае мажлівае дапушчэнне ў тэатры абсурду, – думаюць калі распішуць нас, дык гэтая ячэйка рэвалюцыі пахісне асновы рэжыму.

– Дык загс прызначыў роспіс? – зусім расхваляваўся мой сябар.

– Прызначыў, – кіўнуў я і адвёў позірк на возера, – на 6-е.

– Ну дык распішыцеся!

– Дзёня, 6-е – заўтра, а сёння мяне вывозяць.

– Да ты што?! – Дзяніс у роспачы, не меншым за мой, ляпнуў сябе па сцёгнах.

– Во так. У іх жа павязана ўсё. Дый і ў загсе сядзяць трасуцца і гэтаксама гатовыя да ўсяго. Таму… на новым месцы ўжо ажэнімся, мо ў «Мазырах» якіх, – нявесела скончыў я і паспрабаваў усміхнуцца: – Ды не будзем аб сумным. Давай твае фоткі глянем.

Дзяніс перадаў мне праз краты фотаздымкі, і я пачаў іх гартаць.

– Ты? – на фотцы стаіць з вудаю ля ровара белабрысы хлопчык.

– Я! – Дзёня задаволена тыкнуў сябе пальцам у грудзі.

– Рыбак?

– Ну, захапляўся да малалеткі.

– Я таксама рыбак, – пацвердзіў я з каменным тварам.

– Так? – абрадаваўся рыбалоў, адшукаўшы сваяцкую душу. – Рыбак рыбаку, як родны брат брату. Асабліва калі пасярод акіяна плывуць яны ўдвух на адзінокай льдзіне ў вір.

– Так! – я ўжо ледзь не кляўся. – Рыбачу па прынцыпе: рыба плавае па дну, не злавіць це ні адну.

Пакуль Дзёня супакойваўся (мне-та смяяцца не было чаго з такое рыбацкае долі), я разглядаў фотку, на якой гэты ж рыбак з прыгожаю жанчынаю сярэдняга веку стаялі на тле вясковае хаты і квітнеючых яблынь.

– Матуля твая?

– Так, – вочы Дзяніса напоўніліся замілаваннем і сумам. – Гэта мы каля нашай хаткі, што пад самымі Паставамі, – ён усміхнуўся і працягваў: – Цікавая гісторыя з домам гэтым звязана. Я яшчэ зусім малы быў, мы з маці ехалі

на машыне дахаты з Віцебска, ад цёткі. І тут, каля дарогі, на ўскрайку вёскі, стаіць пустуючы дом, а побач – самотны сад. Я ўпрасіў мамку спыніцца і натрэсці троху яблык, бо свайго саду ці вёскі якой у нас не было. Набраў я поўную запазуху белага наліву, іду да машыны і хрушчу яблыкам, а яны такія сакавітыя, што ажно мёд цячэ па барадзе… і кажу я матулі, як было б добра такі домік мець! І, уяві сабе, яна яго набыла праз год! Вось тыя яблычкі, якія ты ўпадабаў, якраз з гэтага саду.

Я таксама ўсцешана паківаў галавою, узгадваючы, што адзін мядова-сакавіты яблык я яшчэ пакінуў на начны перакус у сталыпіне.

Дзёня ж строс з сябе рэшткі суму і радасна запэўніў:

– Як сустрэнемся на волі, я цябе абавязкова запрашаю, разам з Анастасіяй! Заедзем, цяпельца раскладзём…

– Гуся засмажым! – усплыла мроя і перада мною.

– Так, ёсць там гусі, суседскія.

– Не, Дзёня, суседскіх не трэба – мы яго даесці не паспеем.

– Ну што ты! – як бы абурыўся Дзяніс, але з усмешкаю: – Мы ж дамовімся.

– А, калі дамовімся, дык добра, – зацвердзіў я суседскага. – Што ў нас там яшчэ да гуся?

– Хлеба я напяку, – пекар аж прыўзняўся, – гарбаткі заварым… Ды і хопіць, што яшчэ нам, зэкам, трэба?! – Дзяніс мне моргнуў: – Узгадаем адзіночкі…

– «Чарвяка» з «баркасам»… – сам сабою напрасіўся працяг думкі.

Мы стаялі моўчкі, узіраючыся ў блакіт небасхілу, на якім праплываючыя аблокі малявалі гуся ў яблыках, напечаны Дзёнем хлеб, чорную гарбатку, што дыміць на драўляным стале, над якім раскінулі свае шатры старэнькія, але яшчэ моцныя яблыні…

– Хто гэта? – паказаў я на шатэнку гадоў сямнаццаці.

– Была сяброўка ў мяне адна… – выдыхнуў Дзёня. – Пазнаёміўся я з ёю за месяц да арышту. Перад гэтым я два гады, з самае малалеткі, з іншаю сустракаўся, нават распісвацца збіраліся. Але нешта рассварыліся мы троху, і пайшоў я налева, пазнаёміўся якраз вось з гэтай шатэнкай, Вікай. І хаця

мы былі знаёмыя толькі месяц, ваявала яна за мяне пасля арышту дзень і ноч, – Дзёня паглыбіўся ў мінулае, і я яму не перашкаджаў. Мы моўчкі прайшліся пару разоў па сваіх клетках і сябар працягваў.

– Жанчыны, скажу я табе, гэта незвычайныя людзі! – усклікнуў ён. – Калі прымае яна рашэнне – усё, няхай не трапляюцца на дарозе – ідзе львіца, якая будзе рваць за цябе направа-налева ўсё і ўся. Вось так і гэтая. Падавалася б: ну хто я ёй такі? А мяне толькі закрылі, яна – тут як тут: на наступны ж дзень адчыняюцца ў хаце дзверы і кажа мне начальнік «кічы»: «Выходзь, прыйшлі да цябе!» Я падумаў, слядак мо які. Заводзяць у пакой, а там – яна! Ты прыкідваеш?!

Я не адказваў – прыкінуць было цяжка нават відаўшым віды. Дзёня распавядаў далей:

– Кідаецца на шыю мне, плача: «Дзянісанька, вырвемся!», «Буду чакаць!», «Жыць не магу!». Я такі шакаваны быў… Мамка яшчэ не паспела зразумець, дзе я і што, а гэтая імгненна! І ўзялася яна па поўнай праграме: год і перадачы цягала, і мамку маю падтрымлівала, і па сведках бегала, і па следаках – усё даказвала: «Вы ж ведаеце, ён невінаваты!» Падняла на ногі нават сваю маці. А ейная маці ведаеш хто?

– Хто?

– Пракурорша! – крыкнуў Дзяніс і патрос рукою ў паветры. – І пракурорша, якая мяне на малалетку закрывала!

– Во ты выдаеш… – уразіўся я такім паваротам і запытаў: – А тая што, з якой распісвацца меліся, кіданула?

– Яна… – сябар мой уздыхнуў. – Апынулася, што была цяжарная.

– Н-да… проста нейкая санта-барбара.

– Так, Дзімон, але я потым даведаўся. Яна, відаць, не магла дараваць мне здраду ды ўжо сувязі са мною не шукала. Бацькі ёй кажуць: «Рабі аборт!», але яна не зважаючы ні на што адмовілася. Дык, падумай ты сабе, выгналі з дому!

– Час ад часу не лягчэй, – уздыхнуў і я, усё ж падобна было болей на тыповую трагедыю па-савецку. – І што?

– Нарадзіла ўсё-ткі. Потым выйшла замуж, за вайскоўца, харошага хлопца – я яго ведаю – сына ваенных таксама.

Нарадзіўся ў іх яшчэ адзін дзіцёнак. Урэшце, і ейныя бацькі шчаслівыя, і ягоныя.

– Рэдкі выпадак…

– Дзякаваць Богу, Ён уладкаваў.

– Ну а Віка? – мяне ўжо вельмі цікавіў працяг турэмнага рамана, такога сімвалічнага для нашага веку.

– Віка вяла за мяне няроўны бой да самага прысуду. А потым зляпіў я з ёю расход, – выдаў Дзяніс трагічную канцоўку ўзнёслага аповеду, але зрабіў гэта даволі спакойным тонам.

Я ўтаропіўся ў сябра – мне хацелася, каб усё завяршылася каханнем «да смерці» – і са здзіўленнем запытаў:

– Навошта?

– Да ты што, Дзімон… – махнуў рукой Дзёня. – Маладая дзеўка, усё жыццё наперадзе, а тут я – і «дванаццатка»… Ды як падумаў я таксама: сядзі і потым заганяйся: дзе яна? з кім?.. І я адпісаў ёй з «кічы», што ўсё, сканчваем гэтую любоўна-турэмную рамантыку. Так бы, ведаеш, мо і не асмеліўся б, але быў у аднаго чэла гераін, і мы пару дзён – «у саплях», ну вось я вырашыў і яе вызваліць, і сябе. Віка, праўда, доўга не згаджалася; матуля яе вельмі палюбіла і наракала на мяне потым, што дурань я такі-сякі… Але што вырашана, тое вырашана, – завяршыў Дзяніс, скрыгатнуўшы сківіцамі.

– Ну ты чэл канкрэтны… – уражана прамармытаў я.

– Нядаўна замуж выйшла, – працягваў прыхільнік радыкальных рашэнняў, – але ў нас добрыя адносіны: піша мне, падтрымлівае, нават дапамагае маёй матулі перадачы збіраць… хаця і прайшло столькі год, ды яшчэ пасля таго, як я яе выправадзіў. Можаш сабе ўявіць, які чалавек?

На гэтае пытанне можна было толькі паківаць галавою – я і мог сабе ўявіць, бо прыклады – і іх шмат – перад намі, і не мог, бо розумам чалавечым такое спасцігнуць нельга.

Зэк і жанчына – самая загадкавая, дзіўная і неспасцігальная сфера турэмнага жыцця (а можа быць, і ўсяго жыцця пад нябёсамі). І якіх толькі лёсаў не сустрэнеш! Яму даюць «дваццаціпятку» за забойства палюбоўніцы, з якою ён паралельна жыў, а яна даруе ўсё, выбіваецца з апошняе моцы, але збірае перадачы, ездзіць на спатканні… піша, плача, свята чакае.

А колькі едуць у зону браць шлюб з зэкам, якога ведаюць толькі па некалькіх лістах перапіскі ці двух-трох забароненых размовах па мабільніку?.. Не спыняе нічога: ні кот у меху, ні калючы дрот вакол месца жыхарства абранніка, ні 5, 10–25 год, якія гэтаму кату-абранніку пад аховаю аўчарак трэба пражыць. І гэтак жа свята будзе плакаць, пісаць, ездзіць і… чакаць, чакаць, чакаць. Уявіць жа, каб на гэтую ахвяру душы быў здольны мужчына, ніяк нельга. Не, такое, канешне, мусіць недзе быць, але я пакуль не бачыў.

А нават такое часам сустрэнеш, калі выправоджвае яе зэк (ці вызваліць жадае, як Дзёня, ці найграўся кот з гэтаю мышкаю і палюе ўжо на іншую), а яна шчэ ўмольвае і спадзяецца.

Не, розумам чалавечым такое спасцігнуць нельга, такое можна спасцігнуць толькі душою.

– А цяпер пішашся з якою? – запытаў я пасля хвіліннага маўчання.

Дзяніс усміхнуўся і ўсцешана адказаў:

– Пішуся, ёсць адна дзяўчына, Марыя. У Ельску жыве, ведаеш?

– Ведаю, – кіўнуў я, узгадваючы адну з двух сваіх малых радзімаў. – А як пазнаёміліся?

– Адрас даў яе стрыечны брат, з якім я тут разам год на пякарні працаваў, а цяпер ён ужо на свабодзе.

– І што, пра адносіны не размаўлялі яшчэ?

– Размаўлялі, я ёй напісаў пра сваё бачанне сям’і, пра веру. Яна ва ўсім згодна, але са шлюбам мы вырашылі пачакаць.

– Чакаць? – даўся дзіву я. – Табе колькі яшчэ сядзець, Дзёня?

– Восем. Да званка. Гады два мо і «адкушу».

– Во, восем! Ці шэсць – у лепшым выпадку. І ты кажаш: чакаць? Ну вось я амаль два адчакаў і што? – прыгадваў я свой досвед. – Адарві і выкінь! А ты збіраешся восем год зарыць. Калі ёсць пэўнасць, трэба рабіць адразу. А калі няма… – я пранікліва паглядзеў на сябра, – дык мо лепш ні ёй не тлуміць розум, ні сабе?..

Перад самым абедам заляскаў ля маёй каморкі ключнік і, адчыніўшы дзверы, прамовіў:

– Пайшлі.

– Куды? – я начапіў феску і ўскочыў у туфлі.

– Там убачыш, – быццам бы інтрыгуючы, адказаў кантралёр.

На волі такога кшталту адказ сапраўды можа інтрыгаваць, але ў турме – толькі напружваць. І як не пераймацца? Ідзеш і не ведаеш куды: да любімага чалавека, што прыехаў на спатканне, ці да следака, што прыпёрся падшыць на цябе яшчэ пару паказанняў? Пасля шматлікіх паўтораў эмоцыі, пры руху ў невядомасць, прытупляюцца, але не тое каб зусім ужо – хаця б трошку, але сэрца будзе адбіваць усхвалявана: «Тух-тух, тух-тух, тух-тух, а раптам убачу зараз каханую?» – думае яно.

Мяне прывялі ў суседні, прылеплены будынак. На прадоле ізалятара з аднога боку месцяцца камеры ШІЗА і ПКТ, а з другога стаіць драўляны прамавугольны стол, які выкарыстоўвае повар падчас кармёжкі камер. Цяпер жа на ім стаяла тыповая торба «у клетачку», сімвал двух катэгорый чаўнакоў у нашым сацыялізме – тых, што возяць у іх па рынках свой тавар, і тых, што цягаюць у іх па этапах усю сваю маёмасць. Ля кешэра гаманілі рэжымнік і дзве маладыя жанчынкі – бландзінка і брунетка – супрацоўніцы з гэтак званых спатканак – пакояў для каротка- і доўгатэрміновых сустрэч зэкаў з роднымі.

– Правярай, – суха прамовіў рэжымнік і сунуў мне аркуш паперы, на якім я адразу пазнаў почырк Настачкі – клапатлівыя пальчыкі спісалі цэлую старонку пералікам прадуктаў.

– Насценька перадавала прывітанне, казала, што вельмі кахае, сумуе, чакае, – узнёсла выгаварыла кожнае слова брунетка.

– Дзякуй вам вялікі, – адказаў я, крануты, бо яна ж зусім не абавязана была перадаваць мне вітанні, але вось жа зрабіла гэта і нават так пяшчотна. Добрыя сэрцам супрацоўніцы заўжды суперажывалі нашай з Насценькаю барацьбе за мой пашпарт ды шматлікім нашым спробам прарвацца да загса і стацца нарэшце мужам і жонкаю.

Перавярнуўшы на стале аркуш, я напісаў на адваротным баку стандартныя словы, якія ўжо так даўно не прамаўляў: «Перадачу атрымаў цалкам, прэтэнзій няма».

– Дык вы пра-аве-ерце, – расцягнула гукі бландзінка.
– Я вам веру, – усміхнуўся я, ставячы дату і подпіс.

Зэк рэдка калі правярае перадачу па спісе. Калі табе яе прыносяць, ты ўсхваляванымі рукамі, што трасуцца ад радасці, хутка драпаеш пяць слоў, дату, подпіс і цягнеш скарб у сваю павуціну. Радасць жа складаецца з дзвюх частак: пяшчотнай радасці, бо ты напоўнены пачуццём удзячнасці за клопат і вестку ад любімых, і галоднай радасці, бо ты напоўнены пачуццём удзячнасці за ежу. Тое, якая з частак радасці пераважае ў агульнай эйфарыі, залежыць ад таго, колькі год сніцца табе гусь у яблыках. Гэтым разам рукі ў мяне трэсліся больш ад пяшчотнае радасці, але, каб не даеў я раніцою Дзёніны гасцінцы, пераважала б радасць галодная. Бо для зэка, а перадусім зэка-злосніка (злосна парушаючага ўсталяваны парадак адбыцця пакарання), ежа – гэта адвечнае летуценне і адвечная праблема.

Уся перавыхаваўчая сістэма «нэагулагу» – зон і турмаў ДВП (Дэпартамента выканання пакаранняў) МУС РБ, заснаваная на тым, што зэк заўсёды павінен быць галодны, не зважаючы нават на тое, што паводле судовага выраку мне забаранілі колькі там год дыхаць вольным паветрам, а не пазбавілі права есці.

У СІЗА, калі ты знаходзішся ў статусе падследчага і маеш права на безлімітную атаварку і перадачу ў 30 кг штомесяц, з галадаморам сустракаешся рэдка, толькі калі сядзіш у вялікай хаце, дзе ўсе прадукты ў цябе хутка павыпрошваюць. У зоне ж голад – гэта дыягназ. Выключэнні здараюцца толькі тады, калі ты атрымаў перадачу і пару тыдняў вядзеш з сябрамі разгульны лад жыцця. Вось як я з Дзёнем, патрапіўшы на ягонага «кабана». Увесь жа астатні час ты сядзіш на «палажняковай» пайцы.

Што такое «палажняк» – сказаць цяжка, бо ў кожнай зоне мадыфікацыя баланды залежыць ад таго, колькі дзясятак пар рук цягне з зэкаўскага катла. Нават калі недзе нейкім цудам не цягнуць надзіральнікі, будуць цягнуць зэкі (таму месца каля катлоў з мясам, цыбуляю і часнаком каштуе найбольш плюсікаў). Вельмі сумняваюся, ці мог бы ты наесціся,

каб нават па тых нормах накладвалі табе ў шлёмку, а пасля таго, як самыя ласыя кавалкі з бакаў выцягнутыя, шансаў перамагчы ў няроўнай бітве з голадам – ніякіх.

У цывілізаванай краіне пазбаўленне права хоць раз на дзень, але наесціся, назвалі б катаваннем, а ў нас гэта горда імянуюць «перавыхаваўчым працэсам». Гэты перавыхаваўчы працэс – каб на «агульным рэжыме» ты меў чатыры перадачы па 30 кг у год, а на «строгім» – дзве. Каб ты мог атаварвацца ў зонаўскай крамцы на пару даляраў у месяц. І тое будзеш мець ты на ўсё гэта права толькі тады, калі ходзіш перад гарантам рэжыму на дыбачках. Калі ж ты нешта недзе пікнуў, калі гузік не зашпіліў на кашулі, галодная смерць грукаецца ў твае дзверы, часцей за ўсё – дзверы ізалятара, бо за кожную правіну перад рэжымам ты разлічваешся перадачамі, атаваркаю, сустрэчамі з роднымі, а калі пазбавіць цябе ўжо няма чаго – едзеш у ШІЗА, на ізалятарскую баланду.

Вось такія асноўныя рысы «перавыхаваўчага працэсу», хаця і не сустракаў я яшчэ ніводнага, каго б гэткімі метадамі перавыхавалі. Відавочна, што эфектыўнасць такіх падыходаў разумеюць і рэжым утрымоўваючыя, але ні ў кога і не стаіць такой задачы – нешта людскае выхаваць у чалавеку. Задача ў тым, каб кожнае імгненне адчуваў ты, што ты раб, якога толькі з ласкі Галоўнага рэжымніка кормяць пару разоў на дзень «палажняком». І ўсе гады, пакуль ты жарэш гэтую падачку, ты павінен убіваць у падкорку сваю, што, каб мець да шлёмкі баланды яшчэ і костку, ты мусіш хадзіць на дыбачках і зашпільвацца на ўсе гузікі.

– Куды вазілі? – гукнуў Дзёня, калі дзверы за мною зачыніліся.

– Насценька прыязджала, – радасна адказаў я.

– Во! – здзівіўся сябар. – Ні на крок ад цябе.

– І каб ты ведаў, колькі ўжо год – ні на крок, дык не паверыў бы. Я часам сам не разумею нават, хто больш гэтыя мае тэрміны матае – я ці яна?

– А што, такая хуткая сіданка ў цябе?

– Да ты што, Дзёня, не для таго раскручвалі, каб потым сіданкі выпісваць, – уздыхнуў я з сумам. – Дазволілі ёй толькі перадачу перадаць.

– Н-да, зусім табе няпроста, гляджу я… – разгублена зазначыў Дзяніс, пачаўшы, відаць, разумець, што працуюць тут па персанальных падыходах. – Звычайна калі прыязджае да каго-небудзь дзяўчына, дык кароткую сустрэчу дазваляюць, а можна нават і на доўгатэрміновую дамовіцца.

– Гэта казка не пра нас.

– Дык я яшчэ дзіўлюся, як табе перадачу дазволілі з такімі раскладамі.

– Я ж як падследчы цяпер, пасля раскруткі, – патлумачыў я, – дык 30 кг на месяц маю. Толькі і я не думаў, што ўжо ў зоне магу атрымаць, але, бачыш ты, і сюды прабілася, клапатлівая… – прамовіў я, сам яшчэ не разумеючы, як такое адбылося. – Ірвану цяпер у атаку з поўным баекамплектам.

– А калі этап? – схапіўся Дзяніс.

– А палове недзе на першую.

– Было б класна разам паехаць.

– Ну, было б прыкольна, – усміхнуўся я, не першы раз адчуўшы, як пачуццё вялікай прыязнасці напаўняе мяне да гэтага чалавека.

– Мо і я яшчэ паеду?

– Не, Дзёня, табе б вопісі ўжо прынеслі. Таму пакуль што стартую я адзін.

– А куды едзеш? – усчаміўся і Санчоўс.

– Дакладна не ведаю, але хутчэй за ўсё ў «Мазыр».

– Паведамілі табе?

– Не… але якія яшчэ варыянты? – хмыкнуў я. – У беснаватых «Горках» быў, у «Глыбокім» выхапіў, засталося толькі ў «Мазыр» пракаціцца – канцлагер, кажуць, там яшчэ той.

– Я ж у «Мазыры» першы тэрмін сядзеў, – нечакана выдаў Санчоўс.

– Да ты што! І як там?

– У зоне рэжым такі, што не прадыхнуць, але ж ты «пад дахам» пастаянна будзеш? – удакладніў экс-мазырчанін, у перакладзе на цывільную мову запытваючыся: «Будзеш па ШІЗА/ПКТ сядзець?»

– Толькі так, – цвёрда запэўніў я.

– Дык там будзе табе добра, – тут жа была дадзена мне раскладка. – Кічу там «грэюць» нармальна, «курыць-варыць» у

кожнай хаце. І сам будынак новы, 2004 года – усё па еўрастандартах і са шклопакетамі.

Як толькі пачуў я гэтае дзівоснае апісанне будучыні сваёй, імгненна сэрца выкінула ў артэрыі гадавую дозу эндарфіна і замілаванне жыццём хваляю накрыла мяне з галавы да ног – я ўявіў сабе шклопакеты ў ізалятары і па еўрастандартах мяггенькую драўляную падлогу, на якой могуць з'явіцца неблагія шанцы пераждаць будучую зіму, бо яшчэ адну глыбоцкую, з пяццю пад'ёмамі на ноч на 20–30-хвілінную зарадку (каб не здохнуць ад холаду) я мог бы ўжо і не выцягнуць.

– Санёк! – задаволена гукнуў я. – Ты натхніў мяне неймаверна! «Курыць-варыць», праўда, сто год мне не трэба, а вось Біблію хацелася бы неяк адваяваць.

– Там у кожнай хаце, – спакойна заявіў Санёк інтанацыяй усёведаючага, якая вызначаецца крыху ганарлівым тэмбрам.

– Ды не можа быць! – я ўжо ледзь не шалеў ад радасці.

– Точна табе кажу!

– Во ё-маё! Сядзеў бы і сядзеў бы ў такім санаторыі!

– Хе-хе, – гагатнуў добры сусед. – Ну дык пасядзіш.

Перад вячэраю я развітваўся з зонаю – здаў матрац, падушку, коўдру, дзве прастыні, навалачку, алюміневы «кругаль». Вызваліўшы шконку, падняў яе да сцяны, усеўся на з'явіўшымся зэдліку ды пачаў да Насцюлечкі «этапны» ліст, які меўся працягнуць на сталыпінскіх нарах, а завяршыць у «Віцебску» і адтуль жа даслаць. (Пры пераездах люблю пісаць храналагічныя пасланні.)

– Дзімон, а ты ведаеш, што я зрабіў? – клікнуў тут мне Дзёня з пэўным выклікам.

– Што? – падыграў я.

– Падумаў я аб словах тваіх, на вас вось з Анастасіяй паглядзеў і напісаў сваёй.

– І што напісаў?

– Так і так, пішу, Машанька, давай, можа, вызначымся мы з табою ў планах нашых і стасунках. Каб не было гэтае няпэўнасці. Ці давай распішамся, ці з мірам усё скончым… Яшчэ раз нагадаў пра погляды свае на жыццё; пра тое, што сям'ю можна стварыць толькі на падмурку Хрыста. А калі інакш, дык лепш і не ствараць – нічога добрага не выйдзе.

Дзяніс агучыў сваё рашэнне раўнамерна і спакойным тонам, але і з некаторым у голасе хваляваннем – словы гэтыя, відавочна, абдумваў ён не аднойчы.

– Гэта ты правільна, – я паклаў асадку і падняўся – хацелася падтрымаць сябра. – І з каштоўнасцямі, канешне, трэба вызначацца адразу. Каб у адным духу быць.

– Так, бо наглядзеўся я на сем'і гэтыя, без Бога – сканчваецца ўсё трагічна. Я нават па сваіх бацьках гляджу: жылі сабе жылі, а потым – раз, і разышліся…– Дзяніс самотна ўздыхнуў і пасля некалькісекунднай паўзы эмацыйна працягваў: – Дык у нашых бацькоў хаця б нейкую мараль заклалі! Раней для дзяўчыны пацалавацца з хлопцам было неймавернай дзеяй, а паглядзі, што цяпер робіцца?! Цяпер яна з класа ўжо восьмага такое вытворвае, што і казаць сорамна. Калі мне прыносіць хто ў барак газеткі гэтыя жоўценькія, ганю прэч. Бо неяк узяўся раз чытаць, як там дзяўчынкі ў чатырнаццаць выпісваюць, дык сам сяджу і чырванею ад сораму. І вось ствары тут сям'ю, што гэта будзе?

– Нармальны будзе мурзач! – весела ўсклікнуў Санёк.

– Бачна, усё ж кепскавата цябе падлячылі, – абурыўся недарэчнай рэплікай Дзёня і запытаў: – Ты сам хацеў бы сям'ю такую?

– Ды ладна, Дзянёк, я ж прышпільнуўся, – паспрабаваў выправіцца той, разумеючы, што жарт не да месца. – Ясная справа, каму такое трэба?

– Вось і мне не трэба.

– З іншага боку, Дзімон, – памаўчаўшы, звярнуўся да мяне Дзёня, – я як пагляджу на сябе… я ж сам – ніякі! Што я вырабляў? Як жыў?.. Такіх наўчыняў я дзеяў у сваім жыцці, яшчэ і пакруцей, чым тая, з чатырнаццаці каторая. Дык і не ведаю, ці апраўдаюся калі-небудзь ад гэтага і ці можна ўсё гэта калі-небудзь выправіць?! – пытанне прагучала рэзка і з нейкім нават адчаем, патрабуючы, як я падумаў, якой-небудзь рады.

– Дзёня, – звярнуўся я да сябра з усмешкаю, якой ён не мог бачыць, але павінен быў чуць у маім голасе, – ты не думай толькі, што ты нейкае выключэнне ў гэтым свеце. Я магу за сябе сведчыць: я – такі ж самы, ды яшчэ і бруднейшы, бо

ты сваё жыццё аплакаў і пачаў жыць новым, а я колькі аплакваў, а потым яшчэ горш рабіў.

– Ды не, Дзімон, ты так не гавары.

– Павер, Дзёня, я гавару тое, што дакладна ведаю, дый яшчэ і не ўсё, бо ўсё ведае толькі Бог. – Я прайшоўся тудысюды і, спыніўшыся каля акна, працягнуў: – І я таксама ці не да апошняга заганяўся тым, як гэта збавіцца ад учыненага і выправіць невыпраўляльнае. А потым зразумеў: невыпраўляльнае выправіць нельга, разумееш, Дзёня, – яшчэ раз звярнуўся я да яго, але, не чакаючы адказу, паўтарыў: – Нельга, – і, павысіўшы голас, дадаў: – Але можна зрабіць лепш! Зрабіць са свайго злачынства правільную выснову, абярнуўшы пракляцце за яго дабраслаўленнем!

Скончыўшы сказ абнадзейваючым клічнікам, я ўжо ведаў, якую жадаю дзіўную апавесці сябру гісторыю.

– І ведаеш, хто ёсць самым дзівосным прыкладам у гэтым? – запытаў я, інтрыгуючы.

– Хто? – перапытаў Дзёня.

– Цар Давід – самы вялікі цар у гісторыі чалавецтва. Памятаеш ягоную гісторыю з Вірсавіяй?

– Ну, нагадай.

– Санёк, ты з намі? – праверыў я сувязь з другім суседам.

– Канешне, – буркнуў той як заўсёды радасна, – я ў баркасе, валяюся тут, на падлозе.

– Валяйся – табе таксама будзе карысна паслухаць.

Я пачаў вечаровы шпацыр і гэткі ж размераны аповед.

– Справа была даволі банальная, – сказаў я, адмераўшы чатыры крокі ад дзвярэй і чатыры назад, да акна, трымаючы пры гэтым адну руку ў кішэні, а другою рассякаючы паветра, быццам гэтым мог і цераз сцену мовай жэстаў дапамагчы мове вуснай. – Жыў сабе пажываў цар, усяго было ўдосталь у яго і нават больш за тое. І неяк адным пагожым днём угледзеў ён на суседніх сотках жанчыну і ўпадабаў яе. Гарод жа належыў ягонаму генералу (які ў той момант за гэтага самага Давіда і біўся на вайне), а жанчына, Вірсавія, была жонкаю палкаводца. Але Давід, нейкім чынам даўшы месца д'яблу, на такія акалічнасці ўвагі ўжо не звяртаў – узяў чужую жонку і з ёю зблудзіў. Праз нейкі час высвят-

ляецца, што Вірсавія цяжарная. Што рабіць? (Закон такі: калі грэх не амыты, Сатана бярэ ў абарот на ўсю і за адным злачынствам ідзе іншае – звычайна яшчэ больш жахлівае, і так да мяжы, каб злоўленаму бесамі чалавеку шляху навяртання ўжо не было.) Давід задумаўся, але не як навярнуцца, а як выкруціцца, і загадвае паставіць генерала ў заведама правільны фланг на фронце, дзе таго ў баі і забіваюць. Усё, заваліўся, як бачым, Давід па поўнай. Сатана на радасцях пацірае рукі – ён-та перакананы ўжо на ўсе сто, што знішчыў самы вялікі план Божы адносна чалавецтва. Бо, Дзёня, галоўны аспект-та ў чым? (Трэба было зрабіць важнае адступленне.) У тым, – я спыніўся ля рэшкі і махнуў перад сваёй аўдыторыяй расчэпленай далонню вольнае рукі, – што Бог, уцаравіўшы Давіда, даў яму прароцтва, што з Давіда пойдзе Збаўляльнік свету, Каторы выкупіць грахі чалавецтва – Ісус Хрыстос. І Сам Сын Божы сведчыць аб сабе ў «Адкрыцці» Яна: «Я – корань і род Давідаў». То бок можаш ты ўявіць сабе маштаб асобы і магутнасць?! – з павялічанай гучнасцю запытаў я, сам захапіўшыся і ўжо дзвюма рукамі перад кратамі патрасаючы.

Адказу я не чакаў і, працягваючы шпацыр, далей размахваў праваю далонню:

– І вось цяпер да нашае сітуацыі: цар, што мусіць стацца прабацькам Хрыста – і такое падзенне! Ну і не дзіва пры такім раскладзе, што Сатана святкуе самую сваю вялікую перамогу. І яно так бы і сталася, але тут прыходзіць да Давіда прарок і, Дзёня, што яму апавядае?

– Што, Дзімон? – захоплена перапытаў галоўны і самы ўважлівы мой слухач за апошнія два гады. (Следакоў, канешне, я не лічу. Тым больш, апроч імя свайго, я ім нічога больш не прамаўляў.)

– Апавядае ён цару дзіўную некаторую гісторыю і просіць Давіда рассудзіць. Ведаеш ты, – выдыхнуў я і прызнаўся: – Калі чытаю гэтае месца, я амаль заўсёды плачу. Зараз зачытаю табе.

Я палез у кешэр, дастаў у сёмухаўскім перакладзе Біблію, пагартаўшы якую знайшоў патрэбныя вершы, і, зноў стаўшы перад акном, працягнуў:

– Вось слухай Дзёня, гэта 12-ы раздзел 2-й кнігі Царстваў: «І паслаў Гасподзь Натана прарока да Давіда, і той прышоў да яго і сказаў яму: у адным горадзе былі два чалавекі, адзін багаты, а другі бедны; у багатага было вельмі многа дробнага і буйнога быдла, а ў беднага нічога, апрача адной авечкі, якую ён купіў маленькую і выкарміў, і яна вырасла ў яго разам з дзецьмі ягонымі; хлеб ягоны ела, і з ягонай чашы піла, і на грудзях у яго спала, і была яму, як дачка; і прыйшоў да багатага чалавека дарожнік, і той пашкадваў узяць са сваіх авечак ці валоў, каб прыгатаваць дарожніку, які прыйшоў да яго, а ўзяў авечку беднага і прыгатаваў яе чалавеку, які прыйшоў да яго. Моцна ўгневаўся Давід на гэтага чалавека і сказаў Натану: жывы Гасподзь! Варты смерці чалавек, які зрабіў гэта; і за авечку ён павінен заплаціць учацьвёра, за тое, што ён зрабіў гэта, і за тое, што не меў спагады. І сказаў Натан Давіду: Ты – той чалавек, які зрабіў гэта!».

Я падняў вочы ад Бібліі і паглядзеў на аконныя краты – нібы ў вочы Дзёніны ўзіраючыся.

– Бачыш, сябар, якая сур'ёзная і нават страшная гісторыя.

– Ну так, – здрыгануўшы голасам, адказаў ён, – узрушвае. – Па гучнасці зразумеў я, што стаіць Дзёня на нарах, ці не да самых кратаў галавою прытуліўшыся.

– Якраз тут і надышоў самы вырашальны момант, – цішэй апавядаў я далей. – Давід, як уладар, мог бы сказаць апавядальніку: «Ідзі ты, Натан, ды не дуры мне галаву – цар я ці проста так?» А мог бы і юліць пачаць: «Я – ні я». І так калі, і так – усё было б па-чалавечаму граматна, і юрыдычна законна. Але Давід хітрыць не стаў – ён сказаў прароку: «Зграшыў я перад Госпадам». І што тады гаворыць прарок? Прарок анулюе пакаранне. «І Гасподзь зняў з цябе грэх твой, – сказаў Натан. – ты не памрэш». Разумееш, Дзёня?

– Разумею.

– А ты толькі падумай сабе, што было б, каб цар занараві ўся? Усё – канец і яму, і, адпаведна, Божаму плану збавіць чалавецтва ад граху! – узвысіў голас я, у адной руцэ трымаючы Біблію, а другою ўчапіўшыся за трубу батарэі. – Але Давід робіць адзіна правільную выснову – не ўпадае ў роспач ад невыпраўляльнасці мінулага, не апраўдваецца паводле люд-

ское логікі, а каецца ў злачынстве, чым не толькі сябе ратуе, але і дае месца самаму парадаксальнаму цуду ў гісторыі чалавецтва! Ведаеш якому?

– Распавядай, якому? – падахвоціў мяне цалкам паланёны гісторыяй Дзёня.

– Бог упісвае гэтую самую Вірсавію ў радавод Хрыста! – голасна абвесціў я, захлопнуўшы Біблію і адарваўшыся ад батарэі. – Яна становіцца ягонаю прамаці. Уяўляеш гэткую неймаверную рэч? І хаця за злачынства з Вірсавіяй прыйшлося Давіду моцна пацярпець (бо дзе грэх, там і ягоныя плады, і дзіця, ёю народжанае, памерла, паўстаў на Давіда ягоны ж сын, усіх паваявалі, вялікі цар ледзь уратаваўся і доўга бадзяўся па пячорах), але потым урэшце рэшт Бог ягоную ўладу аднавіў, у той жа час страты былі вялікія і раны глыбокія. Аднак спавяданне Давіда дазваляе Госпаду пераўтварыць праклятце праз грэх у блаславенне праз пакаянне, і там, дзе Сатана думаў атрымаць самую вялікую перамогу, ён атрымлівае самую сваю вялікую паразу – Вірсавія нараджае Давіду другое дзіця, Саламона, які і становіцца наступным па Давідзе царом ды працягвае радавод Хрыста. І ўсё гэта – дзякуючы правільнай выснове, якую зрабіў Давід з таго, што ўжо не выправіш.

Дык я цябе пытаю: калі ў Давіда атрымалася, дык чаму ў нас не атрымаецца? Мо і атрымаецца ў нас, га, Дзёня?

– Мо і атрымаецца, Дзімон, – Чарвяк узрушана ўздыхнуў. – Павінна атрымаецца. Бо навошта тады ўсё?..

Пасля адбою на голыя нары я ўжо не ўкладваўся – вырашыў перад этапам прагуляцца, балазе было гадзінкі чатыры, каб памаліцца ды паразважаць пра будучыню, якая як ні круці, але беспрасветнасцю сваёю пужала.

Недзе праз гадзіну сцішыўся гук Дзёнінай малітвы. «Прыкірнуў, мабыць, чарвяк», – падумаў я, і чамусьці сталася зусім сумна, так хацелася перад дэпартацыяй крыкнуць пару добрых слоў гэтаму Божаму чарвяку. «Гэта ж вынайсці такое – “чарвяк”, – усміхаўся я сам сабе. – І як актуальна!».

Насамрэч бывае так часам, калі ў якой-небудзь супольнасці знаёмых (ці не вельмі) людзей нейкі жарт, рэпліка,

проста слова становяцца афарызмам самі сабою, незалежна ад кантэксту і прамоўцы. Тады нехта прамаўляе яго, і ўсе ўсміхаюцца, ці смяюцца, ці разважаюць над нейкімі ўспамінамі, ці, паглыбіўшыся ў сябе, думае кожны аб асабістым. І вось «чарвяк» гэты стаўся сымбалем шасці маіх сутак у адзіночцы, за якія я сапраўды адпачыў душою і, перахапіўшы паветра, гатовы на новы рывок у цемру. Дзякуй табе, чарвяк, цяпер гатовы.

Хаця, падавалася б, ну што можа нас аб'ядноўваць? У яго свае ўстаноўкі, у мяне – свае: ён можа памаліцца «святому» самадзержцу, я – не прызнаю; ён не вельмі любіць Амерыку, я – люблю; ён – русіч, я – ліцвін. Але ён спавядае Айца, Сына і Духа Святога – і я спавядаю; ён любіць дзіўную матчыну мову – і я люблю; ён – беларус, дык і я, *здурэўшы кажу, тым больш!*

І ці не ў тым спрадвечная бяда наша, што найперш шукаем мы не тое, што нас яднае, а тое, што адрознівае?.. Хаця, падумаць толькі, наколькі ж усё гэта пустое: злева направа ці справа налева, трыма пярстамі ці двума, ад Айца ці ад Айца і Сына, ды нават: святыя тыя ўзурпатары ці не святыя?! Усё, усё пустое. Навошта мне яно, калі я ведаю, што сам – ніякі, калі я бачу, як шмат ўва мне нават элементарных рэчаў, над якімі працаваць яшчэ і працаваць.

Канешне, хочацца, каб кожны веруючы ў Хрыста меў цэласны біблійны светапогляд, без забабонаў і рэлігійнай зашоранасці, каб быць паспяховым на ўсіх шляхах і пераможцам ва ўсіх справах. Аднак, калі нехта бачыць пэўны аспект жыцця ў адрозным ад майго святле, ці падстава гэта для таго, каб я кагосьці адмовіў ці за гэта вінаваціў? Ды не, навошта мне браць на сябе працу Сатаны, пра якога Ян у тым жа «Адкрыцці» піша: «…Скінуты абвінаваўца братоў нашых, які абвінавачваў іх перад Богам нашым днём і ўночы» (Адкр.12: 10). Во як: не грэшнікаў абвінавачвае Сатана (тыя самі сабе прысуды падпісваюць), а святых абвінавачвае ў Хрысце! Не, не буду дапамагаць – няхай робіць вораг сваю рабацёнку сам. Я думаю так. Хаця, на жаль, некаторыя не толькі дапамагаюць, але так горача захопліваюцца гэтай місіяй, так граматна выводзяць догмы аб праўдзівасці аднаго пункту гледжання і лжывасці другога; так слёзна даказваюць, што,

толькі гэтаму вучэнню належачы, выратуешся, а як іншаму – загінеш. І ўсё так горача, так граматна, так слёзна, што самі пачынаюць верыць у беззаганнае сваё зачацце. А што ім зробіш? Няхай. Такім ужо нічога не дакажаш.

Такі стан рэчаў прадбачыў дзве тысячы год таму аўтар трацiны Новага Запавету Павал, словы якога для маючых вушы гучаць і цяпер: «Нямоглага ў веры прымайце без спрэчак пра погляды ягоныя. Бо адзін упэўнены, што можна есці ўсё, а нямоглы есць гародніну. …Адзін адрознівае дзень ад дня, а другі мяркуе пра ўсякі дзень аднолькава. Кожны хай будзе цвёрды ў сваім перакананні. Хто лічыцца з днём, дзеля Госпада лічыцца; і хто ня лічыцца з днём, дзеля Госпада не лічыцца. Хто есць, дзеля Госпада есць, бо дзякуе Богу; і хто ня есць, дзеля Госпада ня есць і дзякуе Богу» (Рым 14: 1–2, 5–6).

Дай Бог, каб кожны быў у веры моцны, каб кожны еў усё, каб кожны адрозніваў дзень ад дня – тады і ён бы радзіў вялікія плады і народ быў бы ўсялякім дабрабытам дабраславёны. Але Бог з ім, як бы ні было, не гэта самае галоўнае, самае галоўнае – упакоранае сэрца. Вось, як у Дзёні, Чарвяка. А будзе яно – астатнім Бог напоўніць: і мудрасцю, каб адрозніваць дні, і Духам, каб быць пераможцам.

Гэтак разважыў я ў сваёй шафе, ходзячы туды-сюды па чатырох рыпучых дошках даўжынёю 2,5 метра.

Спыніўся, прыслухаўся: ціха-ціха. «Усё ж спіць», – падумаў я і глянуў на гадзіннік: а палове на дванаццатую – да этапа з гадзінку. «Спаць», – сказала цела. «Пратрымайся», – запярэчыў дух. Я з замілаваннем агледзеў прывабны куточак пад акном. «Спаць», – паўтарыла цела. «Рабі што хочаш», – адказаў дух. «Ну ладна, не злуйся, – папрасіў я, – мы навярстаем». (Не, тут не было падману!)

Я дастаў рулон туалетнай паперы, паклаў яго пад плінтус і скурчыўся-такі на гэтым сваім ложку, так упадабаным мною глыбоцкімі ізалятарамі. Сон паглынуў імгненна.

…Залязгалі дзвярныя засаўкі. Я падскочыў.

– Ну што, Зміцер, гатоў? – адчыніўшы дзверы, запытаў прапаршчык Зміцер, той самы, што і змяшчаў мяне на шэсць сутак вакацый.

– Гатовы, Зміцер! – пацвердзіў я і пачаў выцягваць свае хатулі.

– Куды цяпер?

– Спачатку трэба неяк «Віцебск» пераЖыць, а там мо «Мазыры» якія.

– Чаму Мазыр?

– Кажуць бывалыя, што такіх, як я, трымаюць у «Горках» ці «Мазырах».

– І што, думаеш, там лепш будзе? – хмыкнуў іранічна мой цёзка.

– Я не думаю, Зміцер, я ведаю – там будзе толькі горш.

– Дык і на якую яно табе халеру?

Я выпрастаўся і паглядзеў на Змітра. «Сапраўды, а на якую яно мне халеру?!» – кінулася з правага паўшар'я ў левае здзекліва-лагічная думка.

– Я ж не выбіраю… – уздыхнуў я. – *Мяне вядуць і я паведзены*, – імгненна ўзяўшы сябе ў рукі прерафразаваў я Ярэмію і сам сабе ўзгадаў: «А табе казалі: пратрымайся!».

Зміцер у адказ сумна ўсміхнуўся. (Дай Бог яму здароўя і добрую жонку! – ён заўсёды быў спагадлівы да мяне!)

Выцягнуўшы свае пажыткі да лесвіцы, я прыслухаўся да вуглавой адзіночкі: цішыня. «Так, спіць», – прашаптаў я. Што ж, адпачывай, браце-чарвяк, і табе трэба сілы.

А я, таксама чарвяк,«чарвяк, а не чалавек, знявага ў людзей і пагарда ў народзе» (Псалом 2 цара Давіда, верш 7), пасунуўся далей па гэтым шляху. Недзе ж павінна яно атрымацца і ў нас. Павінна атрымацца, бо той, хто прызнаў сябе зняважаным і пагарджаным чарвяком, быў таксама і самым вялікім царом пад нябёсамі, з роду якога пайшоў Той, Хто і нас, зняважаных і пагарджаных чарвякоў, робіць *царамі на зямлі і валадарамі* (Адкрыццё 5: 10).

Адпачывай, чарвяк, а я пасунуся. Я веру: атрымаецца і ў нас. Бо навошта тады ўсё?..

## НОВАЕ ПАКАЛЕНЬНЕ

**Пасьля «выбараў» 2001 года Лукашэнка заявіў, што ягоная ўлада будзе трымацца на трох складніках – мясцовых саветах, прафсаюзах і моладзі. Зусім за кароткі тэрмін была зьдзейсьнена зачыстка мясцовых саветаў. Цяпер, да прыкладу, сярод блізу з 22 500 дэпутатаў мясцовых саветаў каля 10 чалавек прадстаўляюць дэмакратычную супольнасьць, што ў працэнтным вымярэньні складае 0,044%. Нішто не гаворыць на карысьць таго, што пасьля выбарчага маратону-2010 адсотак гэты павялічыцца. Таксама вельмі хутка было праведзена «ператрахіваньне» кіруючых кадраў Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Стартавая пляцоўка кандыдата Ганчарыка перайшла пад поўны кантроль гаранта Канстытуцыі.**

Для выкананьня трэцяга пасьлявыбарчага абяцаньня, напярэдадні выбарчай кампаніі-2006, пачаў дзейнічаць артыкул 193'1 Крымінальнага кодэкса, які прадуглежваў і прадугледжвае дагэтуль адказнасьць за дзейнасьць ад імя незарэгістраванае арганізацыі. Першымі пад дзеяньне новаўвядзеньня патрапілі лідары «Партнэрства», якія плянавалі зьдзейсьніць назіраньне за «выбарамі». Крымінальны працэс паставіў кропку на дзейнасьці «Партнэрства», і гэтым артыкул 193'1 пацьвердзіў сваю эфэктыўнасьць у барацьбе зь іншадумствам. Правёўшы тэставыя выпрабаваньні, рэжым вырашыў узяцца за моладзь. Крымінальная справа на лідараў Маладога фронту была ўзбуджана ў дзень разгону «Плошчы Каліноўскага», 24 сакавіка 2006 года, і даведзеная да ладу 1 лістапада, калі мне самому пашчасьціла з двух мажлівых гадоў па гэтым артыкуле атрымаць паўтары. Лукашэнку рапартавалі аб выкананьні ягонага палітычнага пажаданьня, агучанага на паседжаньні Рады Бясьпекі яшчэ ў 2004 годзе. «Я не дазволю ў Беларусі дзейнасьці такіх арганізацыяў, як Малады фронт і Зубр», – заявіў тады гарант стабільнасьці. Але рапарты былі заўчаснымі. Рэпрэсіўнаму апарату спатрэбілася засудзіць па артыкуле 193'1 КК РБ яшчэ дзесяць маладафронтаўцаў(!), каб зразумець, што трэці

пункт пасьлявыбарчай праграмы 2001 года выканаць будзе немажліва.

## *Цэласны сьветапогляд*

Чаму даволі пасьпяховыя і вядомыя ў свой час «зубры» палічылі за лепшае самараспусьціцца і што дазволіла Маладому фронту выстаяць у гэтым выпрабаваньні? Адказ на гэтыя пытаньні трэба шукаць у каштоўнасным падмурку. Многія грамадзка-палітычныя лідары Беларусі базуюць сваю праграмную дзейнасьць на крытыцы існуючага ладу і таго, хто гэты лад утрымоўвае. Ня дзіва, што і моладзевыя актывісты ставяць за асноўную мэту сваёй дзейнасьці пратэст, які ўвасабляецца ў даволі пашыраным меркаваньні: «Скінем (кагалам) Лукашэнку, а там ужо разьбяромся». І першыя і другія пры гэтым забываюцца, што Лукашэнка ёсьць адно толькі лагічным вынікам нашага з вамі грамадзтва, косьць ад касьці свайго народу. У 1994 годзе яго абралі на дэмакратычных выбарах пераважнаю большасьцю галасоў. І тады, ды і цяпер, ён увасабляе чаканьні і ідэалагічныя арыентыры пераважнай/значнай часткі беларускага грамадзтва. У дадатак да гэтага цалкам мажліва такое разьвіцьцё падзеяў, калі з пратэстна-дэмакратычнага асяродзьдзя на зьмену Лукашэнку прыйдзе яшчэ горшы за яго. Ужо цяпер можна пачуць галасы барацьбітоў за дэмакратыю аб тым, што Лукашэнка вядзе нас да саюзнай дзяржавы кепска, а яны, гэтыя барацьбіты, зробяць тое лепей. Ужо цяпер некаторыя зь іх прапаноўваюць увесьці расейскі рубель замест апастылеўшага ім «зайчыка». А што будзе, калі такія лідары возьмуцца кіраваць 10-мільённым народам? Пытаньне вялікае…

Па гэтых прычынах Малады фронт ніколі не базаваў сваю дзейнасьць на крытыканстве і не яднаўся вакол лозунгаў: «Супраць ...!», «Далоў …!» і г.д. Але, наадварот, МФ заўсёды надаваў першасную ўвагу каштоўнасным аспэктам, распрацоўцы праграмных і стратэгічных дакумантаў, якія б ставілі за мэту ня крытыку і адно толькі пратэст, але бачаньне разьвіцьця Беларусі на падмурку спавядаемых намі каштоўнасьцяў – нацыянальнай ідэі і хрысьціянскіх прынцыпаў. Як

гаварыў вядомы рэвалюцыянэр Валодзя Ўльянаў: «Сапраўдная рэвалюцыйнасьць вызначаецца ня гучнасьцю лёзунгаў, але цэласнасьцю сьветапогляду».

Менавіта каштоўнасны падмурак дазволіў Маладому фронту вытрываць на няпростым трынаццацігадовым шляху, у той час калі многія «масавыя рухі», што меліся абʼяднаць вакол пратэстных лозунгаў моладзь і «пакласьці канец дыктатуры», згаслі, гаснуць і будуць надалей працягваць гаснуць пры іх узьнікненьні. Дзейнасьць па прынцыпе «зьяднаемся супраць» яшчэ ніколі і нікому не прыносіла вынікаў. Ва ўсялякім выпадку, станоўчых і доўгатэрміновых.

Ёсьць яшчэ адзін вельмі важкі чыньнік, які адрозьнівае Малады фронт нават ад некаторых ідэалагічна блізкіх арганізацыяў. Гэтае адрозьненьне палягае ў хрысьціянскім стрыжні, на якім трымаецца наша нацыянальная ідэя. Для значнай часткі і пратэстных дэмакратаў, і нацыянальна арыентаваных патрыётаў гэты хрысьціянскі стрыжань ёсьць «камянём спатыкненьня», аб які спатыкаюцца і разьбіваюцца многія.

Дастаткова шмат у свой час атрымаў Малады фронт, ды і працягвае атрымоўваць, крытыкі за «радыкалізм», «рэлігійны фанатызм», «клерыканства» і г.д. Тым ня менш мы цьвёрда стаім на тым, што нацыянальная ідэя Беларусі, а адпаведна – нацыянальнае Адраджэньне, перамены ў нашай краіне могуць базавацца толькі на хрысьціянскіх каштоўнасьцях. І толькі хрысьціянскія каштоўнасьці могуць зрабіць гэтыя перамены якаснымі па сутнасьці і трывалымі ў часе. Ну, для ілюстрацыі, абярэм мы заўтра дэмакратычны ўрад і заменім чырвона-зялёны сьцяг на бел-чырвона-белы, але пʼяных грамадзянаў будзе больш, чым цьвярозых. Ці можна будзе гаварыць нам пра нейкія перамены ў Беларусі? Ну, перавядзём мы заўтра ўсе навучальныя ўстановы краіны на беларускую мову, але абартаваных дзяцей будзе больш, чым народжаных. Хто будзе вучыцца на той мове і размаўляць на ёй, калі, па прагнозах экспэртаў ААН, да канца стагоддзя беларусаў застанецца ў чатыры разы меней?! Ці можна будзе гаварыць нам пра нацыянальнае Адраджэньне Беларусі? Адказы на гэтыя пытаньні відавочныя: без духовага стрыжня

ўся наша праца – проста нішто. Якая розьніца будзе беларусам напачатку XXII стагоддзя ў тым, за што, супраць каго і пад якімі сьцягамі мы змагаліся, калі іх застанецца каля двух мільёнаў?..

У дадатак да ўсяго нацыянальная ідэя, не базуючыся на духовым падмурку хрысьціянства, рызыкуе вельмі хутка пераўтварыцца ў адарваную ад жыцьця дэспатычную ідэалогію. Прыклад імпэрскага мысьленьня і расейскага шавінізму перад намі.

Нашая апазыцыйнасць да моладзевых субʼектаў аўтарытарнай дзяржавы таксама палягае ў ідэалагічнай сфэры, але, канешне, у яшчэ больш шырокіх аспэктах, што ставіць нас у прамое і радыкальнае супрацьпастаўленьне (якраз ад лац. oppositio) беларускаму рэжыму.

Па гэтай прычыне не выпадае зьдзіўляцца, чаму Малады фронт знаходзіцца ў жорсткай і пасьлядоўнай апазыцыі да кіруючага рэжыму. Хачу тут адразу адзначыць – менавіта рэжыму, які мы ніколі не называем «уладаю», бо ўлада – гэта Божы інстытут, які ўсталяваны, як гаворыць Біблія, для таго, каб дапамагаць тым, хто робіць дабро, і караць тых, хто робіць зло. Калі ж кіраўнік ня толькі робіць усё з дакладнасьцю наадварот, але яшчэ зьяўляецца і самаабвешчаным, любы чалавек мае поўнае маральнае і законнае права не падпарадкоўвацца такому кіраўніцтву. У гэтым і палягае адзін з асноўных прынцыпаў свабоды. Як гаварыў Джон Лок: «Без свабоды супраціўляцца незаконнай уладзе ўсе астатнія свабоды губляюць сваё значэньне».

Але мы пакуль пра іншае. Пра ідэалагічныя адрозьненьні Маладога фронту ад БРСМаў, піянэраў і іншых нашчадкаў «кастрычніка».

У той час калі ідэалогія Маладога фронту нацыянальная па форме і хрысьціянская па зьмесьце, бээрсэмаўцы і піянэры лічаць сябе прамымі правапераемнікамі Усесаюзнага ленінскага камсамолу моладзі. Ужо непасрэдна ў гэтым палягае адказ на пытаньне ідэалагічных разыходжаньняў Маладога фронту з імі. Як могуць супрацоўнічаць людзі, атаясамляючыя сябе з хрысьціянскімі каштоўнасьцямі, і тыя, хто называе сябе імём заснавальніка «чырвонага тэрору»,

якія заклікаў сваіх пасьлядоўнікаў, што рабавалі царкоўную маёмасьць: «Чым большую колькасьць прадстаўнікоў рэакцыйнага духавенства пры гэтым мы здолеем зьнішчыць, тым лепш» (У. Ленін)?

Але, з другога боку, трэба разумець, што пераважная большасьць чальцоў БРСМ абсалютна не ўсьведамляюць, што за каштоўнасьці спавядае арганізацыя, у якую іх загналі ў школе ці ўнівэрсітэце. Больш за тое, гэта не разумеюць нават многія лідары на месцах. Нават частка актывістаў МФ у свой час былі сябрамі БРСМ. Такім чынам, калі мы гаворым пра магчымасьць супрацы такіх антаганістычных аб'яднаньняў, як Малады фронт і БРСМ, можна гаварыць толькі аб пэрсанальнай супрацы маладафронтаўцаў з актывам і лідарамі піянэрскіх і камсамольскіх аб'яднаньняў. Мы ведаем шэраг выпадкаў, калі маладафронтаўскіх лідараў у рэгіёнах запрашалі ў камітэт па ідэалогіі ці ЦК БРСМ і прапаноўвалі падтрымку ў рэалізацыі сумесных праграмаў па беларусізацыі альбо іншых кампаніяў. Натуральна, у такіх выпадках мы не адмаўляліся ад супрацы і лічым яе эфэктыўнай. Бо, па-першае, яна цалкам заснавана на спавядаемых намі каштоўнасьцях і, па-другое, прыносіць канкрэтны вынік для нашага грамадзтва. І гэта ня ёсьць адступленьнем ад нашых перакананьняў, як не было адступленьнем ад Сваіх перакананьняў для Ісуса Хрыста прыходзіць у дамы да фарысеяў і пераконваць іх Сваімі поглядамі. Галоўнае – не перамяняцца пад каштоўнасьці гэтага сьвету, а сьвет перамяняць сваімі каштоўнасьцямі.

Адна з задачаў Маладога фронту – ня толькі закладаць каштоўнасны падмурак у маладое пакаленьне, але яднаць вакол гэтых каштоўнасьцяў і іншыя моладзевыя арганізацыі дэмакратычнага руху. Калі адштурхоўвацца ад прэзэнтаванага Маладым фронтам інфармацыйнага маніторынгу, які адлюстроўвае дзейнасьць грамадзкіх і палітычных аб'яднаньняў за 2009 год, у Беларусі дзейнічае ня менш 13 моладзевых арганізацыяў і ініцыятываў. Ад абвешчанага ў 2007 годзе «Бунту», які 15 незалежных СМІ цягам 2009 году ўзгадалі 8 разоў, да Маладога фронту, аб дзейнасьці якога было зьмешчана 2485 навінаў цягам мінулага году.

У сьнежні 2009 году Малады фронт стаўся ініцыятарам стварэньня моладзевай кааліцыі «Новае пакаленьне», у якую, апроч Маладога фронту ўвайшлі восем аб'яднаньняў – моладзевыя крылы партыяў ПБНФ, БХД, БСДП «НГ», руху салідарнасьці «Разам», незалежныя арганізацыі «Правы альянс», «Ініцыятыва», «Вольная моладзь», МХСС «Маладыя дэмакраты». Мэта кааліцыі «Новае пакаленьне» – ня проста каардынаваць сваю дзейнасьць падчас выбарчай кампаніі ў мясцовыя саветы і іншых, але зрабіць усё мажлівае, каб моладзь сталася сур'ёзнай ідэйнай і палітычнай сілаю, якая б уплывала на палітычны працэс, чаго не назіралася падчас прэзыдэнцкай кампаніі 2001 году і практычна не назіралася падчас прэзыдэнцкай кампаніі 2006 году. Абсалютна відавочна, што без кансалідацыі моладзевага патэнцыялу ў Беларусі ня можа быць праведзена ніводная сур'ёзная палітычная кампанія, не гаворачы ўжо аб прэзыдэнцкай кампаніі 2011 году. І нашая задача – зрабіць усё мажлівае, каб кансалідаваць гэты патэнцыял, мабілізаваць маладое пакаленьне беларусаў на ўчасткі для галасаваньня і, самае галоўнае, на адстойваньне свайго голасу на плошчы.

### *Мясцовыя «выбары» як мажлівасьць атрымаць досьвед*

Этапам па кансалідацыі моладзевага патэнцыялу ў Беларусі ёсьць і выбарчая кампанія 2010 году ў мясцовыя саветы. Натуральна, мы ўсьведамляем і канстатуем, што выбараў у Беларусі няма з таго самага 1994 году. Па гэтай прычыне панятак «выбары» мы ўжываем даволі ўмоўна і цалкам разумеем тых нашых сябраў, хто адмаўляецца ад удзелу ў іх. Зь іншага боку, для нас вельмі важна ня толькі ідэалагічна фармаваць новае пакаленьне беларускага грамадзтва, але і фактычна, дапамагаючы нашым актывістам набываць досьвед удзелу ў важкіх электаральных кампаніях. Відавочна, што рэжым Лукашэнкі ня доўгатэрміновы. Колькі б яму ні засталося, год ці адзінаццаць. І мы імкнемся, каб тады, калі насьпеюць перамены, нашыя актывісты былі да іх падрыхтаванымі, каб яны мелі досьвед ня толькі арганізацыі мітынгаў

і ўдзелу ў іх, але і працы ў сур’ёзных, у тым ліку і выбарчых, кампаніях. У адваротным выпадку мы, гадамі ламаючы гэты мур і прабіўшы яго ўрэшце рэшт, апынемся на пэрыфэрыі. У ворганы ўлады ўсіх узроўняў прыдзе чынавенства, перафарбаваная ідэалагічная вэртыкаль, зьмяніўшыя значкі бээрсээмаўцы. Менавіта неразуменьне гэтых законаў прывяло да нараджэньня ісьціны, паводле якой рэвалюцыю робяць адны, а вынікамі яе карыстаюцца іншыя. Мы ж не жадаем, каб вынікамі нашае работы карыстаўся нехта іншы. Працаваць і зьбіраць плады будзем мы самі.

*20 красавіка 2010 года*

## МЫ ГАТОВЫЯ ЗАПЛАЦІЦЬ КОШТ

**«Я скажу пра Плошчу, якая мае быць на гэтых выбарах. Нельга дапусьціць, каб яна была радыкальнай». Так сфармуляваў сваю грамадзянскую пазыцыю Аляксандр Мілінкевіч у інтэрвію газеце «Свободные новости плюс».**

Журналіст «СН+» Віталь Цыганкоў называе Мілінкевіча стратэгам і стаерам, мусіць, у адрозьненьне ад іншых палітыкаў – бегуноў на кароткія дыстанцыі. Але, як аказваецца, Мілінкевіч яшчэ і вернік: «Перш за ўсё – я цьвёрды прыхільнік мірных акцыяў. І тады, і сёньня я лічу, што калі па віне палітыкаў праліваецца кроў і гінуць людзі – гэта велізарная трагедыя. Я вернік, і для мяне жыцьцё чалавека ня мае цаны». Вось як проста можна прыкрывацца!

Не зразумела толькі, ці ведае што-небудзь аб хрысьціянскай веры і хрысьціянскай самаахвярнасьці спадар Мілінкевіч, аб тым, колькі жыцьцяў і крыві, пачынаючы ад крыві Ісуса Хрыста, было аддадзена за перамогу хрысьціянства? Хутчэй за ўсё, не, таму нагадаем адзін з галоўных прынцыпаў хрысьціянскае веры: «Ніхто ня мае большай любові за тую, калі хто аддае жыцьцё сваё за сваіх сяброў» (Яна, 15: 13). Кіруючыся гэтым прынцыпам, Ісус Хрыстос і Ягоныя апосталы перамаглі сьвет. Яны разумелі тое, што вельмі важна

зразумець нарэшце і нам: калі ты нешта прапаведуеш, ты павінен быць гатовы ў імя гэтых ідэяў нечым і ахвяраваць. Гэта ня толькі закон Біблійны, гэта закон і жыцьця: калі адзін чалавек верыць у нешта, за што гатовы аддаць жыцьцё, а дзесяць іншых вераць у іншае, за што гатовыя галасаваць, – адзін будзе пісаць законы для дзесяці.

Больш правільным для Мілінкевіча было б калі і не папрасіць прабачэньне за 19 сакавіка 2006 году, дык хаця б сказаць: «Можа, і памыляўся. Гісторыя рассудзіць». Але ён ня толькі палітычнае прыкрыцьцё сабе прыдумаў: «Давайце задумаемся, што мы маглі дамагчыся штурмам? Мы выдатна ведалі, што не набралі 50%, нават разам з Казуліным», але нават і верою надумаў прыкрывацца. Атрымоўваецца, што астатнія, хто з гэтым нязгодны і хто ахвяраваў сабою ў імя пераменаў у сваёй радзіме, – людзі «няверуючыя»? Тыя мільёны жыхароў Усходняга Бэрліну, якія ў 1989 годзе пад прыцэламі аўтаматаў і парушаючы дзяржаўную мяжу пераходзілі Бярлінскую сьцяну (а яны таксама не набралі 50% на выбарах – ніякіх выбараў не было!), – людзі «няверуючыя»? Тыя сотні тысяч жыхароў Чэхаславакіі, якія выйшлі ў 1989 годзе пад прыцэламі аўтаматаў на масавыя мітынгі, патрабуючы зьмены камуністычнага рэжыму (50% на выбарах прыхільнікі пераменаў таксама не набралі – ніякіх выбараў не было!), – людзі «няверуючыя»? І Вацлаў Гавэл, які заклікаў іх на вуліцы, – чалавек таксама «няверуючы»? Тыя сотні тысячаў палякаў, якія выйшлі на вуліцы сваіх гарадоў у 1981 годзе, патрабуючы зьмены камуністычнага рэжыму (як вы можаце здагадацца, 50% на выбарах таксама не набралі – выбараў не было!), – людзі «няверуючыя»? Як і Лех Валенса, што заклікаў іх на мітынгі выходзіць, пры падаўленьні якіх некалькі дзясяткаў чалавек загінула? Тыя тысячы літоўцаў, што ў 1991 годзе выйшлі бараніць адміністратыўныя будынкі і Незалежнасьць сваёй краіны (50% на выбарах яны таксама не ўзялі – выбараў не было!), – людзі «няверуючыя»? Як і Вітаўт Ландзбергіс, на заклікі якога грамадзяне Літвы выходзілі на абарону сваёй дзяржавы, што абышлося ў 15 чалавечых жыцьцяў?

Пералік гэтых «няверуючых» можна было б працягваць і працягваць, але і так ужо відавочна: «веруючы» ў нас толькі

адзін – Аляксандр Мілінкевіч. І задача ў яго – зрабіць так, каб – о, барані Божа! – Плошча не была радыкальнаю! Скажу вам, аднак, што такая функцыя – нават не «адбельвальніка», а «паслужніка».

Безумоўна, нельга вініць у паразе 2006 году толькі Мілінкевіча, як і ў паразе 2001 году толькі Ганчарыка. Гэткага кшталту палітыкі становяцца раз ад разу нашымі «правадырамі» дзякуючы таму, што маюць пэўную падтрымку сваіх поглядаў у дэмакратычным асяродзьдзі. Вось ужо і адзін з ідэйных нашчадкаў Мілінкевіча ня толькі заявіў, што ставіць простую задачу: патрэніравацца ды некалькі там адсоткаў набраць, але нават і супраць чырвона-зялёнага сцягу ён нічога ня мае. No comment, што называецца.

Але, канешне, і такія маюць права рэалізоўваць сваю «цуда-дзейнасьць». Адно толькі хацелася б іх заклікаць не крывадушнічаць перад грамадзянамі Беларусі, а, зьбіраючы подпісы, так і гаварыць: «Пастаўце подпіс за нашага кандыдата – дапамажыце яму сагрэцца і ўмацаваць партыю!», «Падпішыцеся за нашага кандыдата – дапамажыце яму раскруціцца й падрыхтавацца да наступных выбараў!». Мажліва, тысяч 100 «эвалюцыяністаў» на дваіх і загітуюць. Асабліва калі па паліклініках паходзяць добра.

Аднак асабіста я пакідаю за сабою права супрацьстаяць іхняму кар'ерызму і палітыканству. Я рашуча абвяшчаю сябе ў апазыцыі да гэткага кшталту «апазыцыянэраў», да прагматыкаў, да «эвалюцыяністаў», да ціпа «стаераў» і падобных ім. Бог гаворыць: «Я зьнішчу мудрасьць мудрацоў і розум разумных адкіну. /…/ Бо мудрасьць гэтага сьвету ёсьць глупства перад Богам, як напісана: ловіць мудрых у хітрасьці іхняй» (1 Кар. 1: 19, 3: 19). І я таксама абвяшчаю «стратэгам», «прагматыкам» і «мудрацам»: вы будзеце злоўлены ў вашай хітрасьці і пасаромлены!

Ня маюць ніякага значэньня ўсе нашыя лёзунгі і ідэалы, калі мы не гатовыя дзеля іх рэалізацыі ахвяраваць. І, канешне, тут павінны кожны адказваць сам за сябе. Я, ідучы на Плошчу, іду з усьведамленьнем таго, што гатовы ў імя пераменаў ахвяраваць сваёю свабодаю, а калі спатрэбіцца – і сваім жыцьцём. Ня думаю, што я самотны ў гэтым памк-

неньні. Няхай нас, можа, не мільёны, але тысячы – дакладна. Перакананы: дастаткова і гэтага. Галоўнае – каб усе мы бясстрашна выйшлі бараніць незалежнасьць і свабоду сваёй краіны, дамагацца справядлівых выбараў.

Можа быць, 19 сьнежня Стваральнік неба ды зямлі і палічыць, што наш народ ужо дастаткова прынёс ахвяраў, каб стацца нарэшце вольным і незалежным. А можа быць, цану гэтую нам трэба яшчэ заплаціць. Ніхто ня ведае, але відавочна адно: дзеля таго, каб адбыліся перамены, мы павінны быць гатовымі заплаціць за іх кошт.

*20 кастрычніка 2010 года*

## ГАСПОДЗЬ ДАЕ ШАНЕЦ

**Рэжым на закаце. 17 + 5 = 22. І гэтую арыфмэтыку разумеюць многія. Канешне, засталіся і тыя, хто працягвае прапаведаваць тэорыю эвалюцыі. Усё ж не дарма бальшавічкі ўбівалі нам яе ў мазгі 70 год. Гэтым людзям, можа, і ахвота дажыць свой век пад «закатам над багнаю», але большасьць, і я разам зь імі, ня могуць чакаць больш ні дня.**

Многа было сказана аб тым, што выбарчая кампанія-2010 не дае шанцаў на перамены. Дагэтуль пішуць аб тым, што няма ў апазыцыі еднасьці, што ня будзе Плошчы, што Захад і Усход з Гарантам дамовяцца.

Што датычна Захаду з Усходам, дык многім і без дадатковых камэнтараў ясна, што ніякія зьнешнія сілы не паспрыяюць нам, калі мы самі не даможамся перамогі. А вось з астатнімі шанцамі і пасыламі трэба разабрацца сур'ёзьней.

Па-першае, вельмі дзівіць тое, зь якою настойлівасьцю некаторыя таварышы дагэтуль заклінаюць на адзінага кандыдата. Няўжо не хапіла вам адзінага кандыдата ў 2001 годзе і адзінага ў 2006-м? Чаму ж нашыя памылкі нас так нічому і ня вучаць?! Папярэднія выбарчыя кампаніі прэзыдэнта засьведчылі, што «адзіны» – гэта далёка ня выхад для дэмакратаў і не падстава сьвяткаваць перамогу.

Ад нашага «адзінага» разьліву 2001 года многія палітолягі і сучасныя настрадамусы былі проста ў захапленьні! Ну і як жа інакш?! Цэлым 4-мільённым корпусам прафсаюзьнікаў кіруе! Стратэгі ўжо ўяўлялі сабе, як гэтыя 4 мільёны прагаласуюць за Ганчарыка, а потым выйдуць на Плошчу, каб рэалізаваць югаслаўскі сцэнар. Але прафсаюзьнікі па масе сваёй прагаласавалі за Гаранта, а гэтак званы «адзіны» выйшаў на Плошчу і галасіў: «Мы пабядзілі – расхадзіцесь!» Тое ж рэфрэнам паўтарала і кіраўніца ягонага штабу Палевікова, высунуўшыся з вакна захопленага Палацу прафсаюзаў: «Спасіба вам, людзі! Мы пабядзілі – расхадзіцесь!» Ну што ж?.. Разышліся.

Сабраліся наступны раз праз 5 год. 30–35 тысячаў доўга чакала «адзінага» разьліву 2006 году. Калі ж «адзіны–2006», падтрыманы і левымі, і правымі, і нацыяналістамі, і камуністамі, нарэшце да Плошчы дабраўся, там заставалася ўжо тысяч 25. А калі ён разам зь іншымі яшчэ пару гадзінак павяшчаў «пра караблі, каторыя баразьдзят прасторы опэрнага», засталося і зусім 15–20. А калі «адзіны-адзінственны» заклікаў з кветачкамі сьцягацца, выйшла тышчонак 7, а дайшло толькі 3. Вось такая невясёлая гісторыя «адзіных» у беларускай апазыцыі.

І тут нам прапаноўваюць тыя ж граблі! Давай ім «адзінага» і ўсё. А які сэнс? Сэнс ад «адзінага» можа быць толькі тады, калі падлічваюцца галасы. Калі трэба мабілізаваць увесь электарат на выбары дзеля выхаду ў другі тур альбо дзеля перамогі ў першым. Але калі галасы ня лічацца? Калі датэрміновага галасаваньня 30%? Калі назіральнікаў некалькі соцень на ўсю краіну? Калі апазыцыі няма ва ўчастковых камісіях? Што з гэтых адзіных? Рытарычныя пытаньні, адказ на якія відавочны: паспрабавалі пару разоў «адзіных» – і харош.

Для мяне відавочна, што выбарчая кампанія 2010 года значна больш жывейшая і пэрспэктыўная, чым папярэднія, дзякуючы таму, што мы маем цэлы шэраг моцных апазыцыйных лідараў. Кожны зь іх знайшоў свой электарат. Нехта ўзмацніў настроі і аптымізм апазыцыйнага. Нехта адкусіў ад нявызначыўшыхся. Нехта пакваліўся на пару проц. Вялікага

Только ночью иначее сердце
У иконы окна вспыхнет свечкой.
Только ночью так хочется смерти
И так ясно, что я вечен.

***

Даруй мне, Господи, не час тоски чарующей,
Не час спокойной гордости над сделанным,
Не час в её объятьях коронующих,
Не час в кругу бесчисленных наследников,
Не час восторженной любви «народных масс»,
Не час поэзии всемирного сияния,
Даруй мне, Господи, последний час –
Час покаяния.

***

Господи, в руки Твои я ложусь спать
На Земле – не в постели,
Пошли мне удачу открыть
Глаза ночью – увидеть звёзды,
Глаза утром – увидеть море,
И всегда, чтобы видеть Тебя.
Господи, в руки Твои я ложусь спать.

***

Я люблю Тебя, Боже! – молюсь, словно вру
И себе, и Ему – это таинство,
Это чувство должно до ожога…

Вечен Бог и Любовь – я умру,
Ни души от меня не останется,
Только Божья Любовь и Любовь к Богу.

Нарадзіўся 9 лістапада 1989 года ў Гродне. Вучыўся на гістарычным факультэце Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Адклаў сканчэнне вучобы, бо заняўся актыўнай грамадскай і палітычнай дзейнасцю.

На момант прэзідэнцкіх выбараў 2010 – моладзевы актывіст, намеснік старшыні Маладога фронту.

Арыштаваны ў Гродне 28 студзеня 2011 года за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. Адвезены ў Мінск і змешчаны ў СІЗА КДБ. Асуджаны 5 траўня 2011 года на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны. Вызвалены 1 верасня 2011 года.

Паэт, публіцыст, перакладчык. Вершы друкаваліся ў газеце «Наша Ніва», эсэ «Вясна. Анталія. Вялікдзень» – у часопісе «Дзеяслоў». Тэксты вершаў і артыкулаў для нашай Анталогіі прадстаўленыя аўтарам.

He was born on November 9, 1989 in Grodno. He studied at the Department of History at Grodno Yanka Kupala State University. Ales postponed the completion of his studies as he was engaged in active social and political work.

At the time of the 2010 presidential elections he was a youth activist and deputy chairman of *Maladoy Front (Young Front)*.

He was arrested in Grodno on January 28, 2011 for participating in peaceful protests after the presidential elections on December 19, 2010, taken to Minsk and placed in the KGB detention center. On May 5, 2011 he was sentenced to 4 years' imprisonment in a maximum security prison. He was pardoned and released on September 1, 2011.

Ales is a poet, essayist and translator. His poems were published in the newspaper *Nasha Niva*, and the essay *Viasna. Antalya. Vialikdzien* (*Spring. Antalya. Easter)* – in the magazine *Dzeuaslou*. The texts of the poems and articles for our Anthology are presented by the author.

Пад Раство нарадзілася Нацыя
Паміж парашай і закратаваным акном.
«Народ прынёс дары, – гучыць па рацыі, –
Апроч сцягоў ды смірны… прыхаваны лом».
Ідзе хапун. Гарыць звязда. Згасае знічка пакрысе.
Таўкуць жанчын. Таўкуць ваўкоў. Жанчын паболей…
Хто мог – сышоў. Змаглі не ўсе.
«Даволі, – запытаеш, – ці ДаКолі?»
Я адкажу: «Да Волі!».

*Снежань 2010 года, «Акрэсціна»*

* * *

На полі цудаў засталіся мы ўдзвох –
Я ды... Ўсемагутны Бог.
Налева – зырк, направа – зырк,
Сусвет гарыць агнямі, нібы цырк,
Гандлюе мэтр, крычыць актор, гудзяць машыны,
Нясецца шчэ адзін герой, забыўшыся на міны.
Усе пры справе і ніводзін у журбе,
Знайсці б дзе-небудзь тут крыювку для сябе...
«Пайдзеш?» – «Пайду». – «А можа пачакаеш?
Яшчэ гадок – жыцця зусім не знаеш...» –
«Я...» – «Ведаю, і ведаў загаддзя,
Заросла мохам роспачы ладдзя.
Вазьмі што іншае, падумай, прыгадай,
Каб адляцець куды? У Р-А-Й».
«“Ура” – маскальскі кліч», – сказаў. Асёкся. Праглынуў.
«А наш – “Рубон”» – і як прыдурак лыч замкнуў.
Ён паглядзеў мне ў вочы, а пасля на лес, пасля – зноў на мяне.
Я зразумеў: чым зараз тут стаяць, мне ўтапіцца лепей у лай-
не...
«Прабачце», – я кажу, Ён усміхнуўся – я збялеў.
«Хаціш ісці – ідзі!» – і схамянуліся дзясяткі дрэў
(Гасподзь не паважаў літаратурнай мовы).
«А... хоць якія там умовы?» –
Паспеў спытаць. Дарма спытаў. Кляну сябе.
Усё лепшае, вучылі мяне так, ствараецца ў барацьбе...

«Не. Пачакай. Пастой тут. Рэчы пры табе?»
(тут акурат машына праняслась – Пачобута вязлі ў КДБ).
«Пры мне». – «А ведаеш… я пазваню, трымай!».
Расплюшчыў вочы я – у руцэ картонны пачак, напісана «Чай».
Я паглядзеў, я азірнуўся, бачу толькі панараму:
Начное поле, на ўзбочыне агні, экраны.
Там шоў: Ірына Дарафеева, Зімоўскі, «RockerJoker».
Вось тоўсты дзядзька з вертыкалі, кажуць, «полупокер».
Пайду… шукаць дарогу ды адказы на пытанні «Што? Дзе? Як?».
Я памалюся за сяброў ды… пачак пакладу ў плецак.

*Студзень 2011 года, Гродна*
*(перад судом за «Марш Статкевіча» 16.12.10)*

* * *

Было і будзе
Небасхіл
Падалей ад людскіх магіл
Дзе Бог зямлю расой амыў
Забрудзіць там ня змогуць людзі
…І часам траўню пагражае студзень
Калі каханых не забудзем –
Хай будзе!

*31 сакавіка 2011 года, «амерыканка»*

* * *

Зажывуць разадраныя рукі,
Усміхнецца вясёлкаю неба.
Смак салёны мядовай разлукі
Адчуваю ў бохане хлеба.
Берцы бою чакаюць на складзе,
Расцвітуць перавулкі сцягамі.
Не шукай супакою ў ладзе
Сёння з імі ты, заўтра – з намі!

Краты рэжуць блакіт небасхілу,
Пыл адчаю ў лёгкіх асядзе.
Рэшту кіне рука на магілу…
Хто каму?
Пажывём ды паглядзім!

*Травень 2011 года, «валадарка»*

* * *

Усе мінае –
Краты, шмоны, сутарэнні.
Нам застанецца
Гонар і сумленне,
Пах восеньскага лісця
І туман,
Усё астатняе –
Лухта, падман.
І ўсё адно мы вернемся,
Дасць Бог,
Пакласці кветкі
Маці на парог.

*Травень – чэрвень 2011 года, «валадарка»*

* * *

Лунае дзень, як сцяг,
Блакіт празрысты,
І не адбудзецца працяг –
Не спаліць лісця.
Агонь і попел скроняў не крануць,
А розум застанецца чыстым,
Усё паўторыцца ізноў,
Усё карысна.

*Лета 2011 года, ПК-10, Наваполацк*

* * *

Апоўдні ліпень прысыпае стружкай твары,
Драўніны пах, як добры ўспамін
Аб тым, што недзе мак цвіце крывавы,
А з коміна віецца шэры дым.

Там людзі любяцца, працуюць, нараджаюць –
Гадуецца ў мурашніку чарговы дзень.
Яго не ўсмокча д'ябалава джала,
Не скрые злых этапаў цень.

Праз ягазу ці шчыліны між кратаў
Мая літаратура кветкай прарасце.
Па полі мінным пройдзе зноў араты,
Каб хоць камусьці жыць было прасцей!

*Лета 2011 года, ПК-10, Наваполацк*

* * *

Схадзіў у лазню, напісаў лісты.
Чакаю, што пашле мне Неба:
Кавалак цэглы ці краюху хлеба –
Паліць масты ці не паліць масты.

Не веру прэзідэнту, веру Богу,
Не бачаць вочы, убачыла душа:
Пад небам сінім сцелецца шаша,
А мо ў сталоўку шэрая дарога...

Я лягу спаць, няма мяне, знікаю.
Маю свядомасць раніца туманам прынясе,
Змачыўшы ногі недзе па расе –
Там, дзе шаша сягае небакраю.

*27 жніўня 2011 года, ПК-10, Наваполацк*

* * *

Як хочаш жыць – шукай сабе прытулак.
Як хочаш быць – рабі ўсё, як раней.
Ты з вуліцы бяжыш у перавулак,
Агня шукаеш там, дзе менш агней.

Няма бяспекі ў тваёй кватэры,
А злодзей у пагонах слухае любы пяшчотны гук.
Ужо з надзеяй не глядзіш на дзверы
І ведаеш: не хопіць моцы рук...

Як зможаш – пакладзі жыццё на карту.
Як зможаш – запалі свячу ў вакне,
Хаця святла свячы той ты не варты,
А варты той, хто запаліў свячу на самым дне.

*Лістапад 2011 года, Гродна*

* * *

Сёння пасля абеду паэтам усім зойме мову,
Голас з рэчы каштоўнай станецца раптам нічым.
Бо сёння надыйдзе хмара і лішнімі стануцца словы
І адлятуць разам з лісцем у сонечную далячынь.

Дажджы не бываюць сляпымі, бо лёс ёсць заўжды відушчым,
І несправядлівасць у свеце не болей за ветру цень.
Усё нармавана адсоткам кузюрак, якіх мы трушчым,
Седзячы ў альтанцы, чакаючы перамен.

*Травень 2012 года, Гродна*

## КАНДЫДАТУ

Паболей афіцэрскіх лычак партыяў,
Прамоваў з офісаў, вядомасці ў СМІ,
Каб палітолаг Мудакоў назваў вас вартымі,
Цікавымі і перспектыўнымі людзьмі.

Усё зглытне фэйсбук, сажрэ газета
Партрэт, праграму і бясконцыя нулі.
Кавалак восені, шматочак лета...
Рабілі як маглі – зрабілі, што змаглі.

Прайгралі... ці не выпіць нам за гэта?
Сцяг над сталом – хоць рукі выцірай...
Тым часам краты-рэбры рэжуць небакрай
Для тых, хто барацьбу абраў за мэту.

*Лета – восень 2012 года, Гродна*

* * *

Ці напішаш мне першая
Вершам,
А можа, прозай.
Ты можаш па-рознаму,
Ведаю,
Паклікаць мяне на сустрэчу,
Як цемра апусціцца вечарам.
Ведаеш, цемру –
Перамагаюць свечы!
Яны былі б сёння дарэчы
У нашым зямным раю...
«Ведаеш?» –
«Ведаю...»

*Верасень 2012 года, Гродна*

* * *

Не думай, што гэта лёгка –
Чуць, як грызуць знутры
Сэрца тваё і лёгкія
З вечара да зары.
Але перамога салодкая
Вуснамі зліжа мёд:
Залежы, поўнач, ходка,
Рэйкі, калючы дрот…
Задратаванае сэрца
Сыпле вуголлем вон.
«Буржуйкі прыкрыйце дзверцу,
Каб не спаліць вагон…»

***

Туман.
Ідзе ў Курапаты
Калона з кветак і сцягоў.
Інэрцыі сказаных слоў
Адпачываюць у кюветах:
Жыццё,
Вясна,
З крыніцаў кроў,
І лета.
У камеры цывільнага спынілася імгненне,
Мікрараён нянавісцю дрыжыць,
Прыметнікі, прыпынкі, гаражы...
А нехта хоча ўпасці на калені
Ад лені,
Бо
Залёгкія ў нас крыжы.

***

Самотна камяням брукоўкі,
Сплываючаму ў цемру снегу,
Сцяне, шэрай ад нецікавых людзей.
Горад спіць без падзей.

Арыён завіс над дворыкам
Ды вішняй са шпакоўнямі,
Дзівацтвам мастака.
На небе поўня,
У душы таска,
Агонь у вокнах.
Няўпэўнасць у сабе
Ды мабільным апаратары.
Чаканне на званок з кішэні,
Дзе руку грэюць пацеркі
Ды вулканічны каменчык:
Ты не адзін!
Пацярпі
Да вясны – пару гадзін.

* * *

Твой кожны дзень – праверка Веры і даверу.
Наколькі хопіць рук – ламіся ў дзверы,
Сарві замок,
Разбі партрэт,
Спалі паперы,
Бо звер, пусціўшы кулю ў скронь,
Запэцкае шпалеры,
Пачуўшы толькі твой рашучы крок –
Я веру!

* * *

Нязвыклая табе кватэра,
І холад б’е з-пад шыбаў шкла.
Раство – у стравах, на паперы,
У znічцы на краі стала,
У парку – там, наўпрост на лаўцы,
Спіць абмарожаным бамжом,
Сталёвым болем рэжа пальцы,
Калядным сніць астаннім сном.
У снезе, што прайшоў палямі,
У ветры, што лічыў да ста,
У літарах, палях ліста…

Драўляных лавах у вясковым храме,
Аблічча змучаным Хрыста.

***

Як снег спакволь лягае на брукоўку,
Так лёгка, калі побач Ты,
І белай робіцца ватоўка,
Ад літар чорнымі – лісты.

Вагоны мерзнуць – так, без толку,
І з праведніцай мы на «ты»,
А Ты ў нататнічку на золку
Лістоўкі пішаш – як лісты.

## ЗА «ДРОТ»

– …За «Дрот».

– Хто?

– Не «хто», а «за што», – з націскам прамовіў акулярык, прыцягнуўшы ўвагу хлопца з газетай з-за суседняга століка. – Пацан адзін напісаў чухню поўную, аповед – «Дрот» называецца… Тыпу за нашу арганізацыю. Спускаць такое нельга – адназначна. Ён працуе на кантору, упэўнены…

Як усе аля-беларускія кавярні, падвальчык у Ракаўскім прадмесці быў нібыта нават утульным, але ненатуральным. Дакладней, небеларускім. Тут было ўсё: старыя прасы на вугалях, вясковая сячкарня, убудаваная ў барную стойку, дрэва, дрэва, дрэва… Драўляная цывілізацыя, як у Ластоўскага. Але разам з тым музыка з савецкіх фільмаў ды расейскамоўныя афіцыянткі ў абцягваючых форменных спадніцах. Трое хлопцаў пілі гарбату.

– А пра што там? – зацікавіўся субяседнік з адкрытым зазвычай ротам.

– Хер-р-рня поўная! Пра п’янкі там, пра бл…ва… Пра актывіста, тыпу… нашага. Фэйсбук, перапосты, там ужо каментаў пад 150…

– А чаму «Дрот»?

– Там напачатку за зону пара славаў… Але не сутнасць. Іншага гаўна хапае.

– Прыкольна, – сербануў з кубка юнак з разяўленым ротам. – Што рабіць будзем?..

Акулярык дастаў джынсавую сумку, адкуль выцягнуў асадку ды пару аркушыкаў – фірмовых, вынесеных калісьці з нейкага заходняга гатэля як дармавыя. На дне сумкі засталіся штодзённік, такое ж дармавое мыла, шампунь у пакеціку, пара аднаразавых пакуначкаў цукру з лагатыпамі віленскіх кавярняў і адзін са значком украінскай чыгункі. Акулярык распісаў асадку ды пачаў нешта выводзіць на белых кавалках паперы, хлопцы побач шмыгалі носам ды цягнулі гарбату.

«У природы нет плохой погоды…» – неслася з дынамікаў. Недалёка сядзела англамоўная група: чатыры мужчыны і адна дзяўчына.

– Прыгожая, хіба наша, перакладчыца, – скарыстаўшыся вольнай ад «справы» хвілінкай, заўважыў чарнявы юнак з прабітым вухам.

– Іхнія не такія класныя, – заўсміхаўся разява, глянуўшы спачатку на бландзінку з сабранымі валасамі, што сядзела да яго спінай, а пасля на акулярыка, які так і не падняў вачэй ад паперак.

– …І разумееш, – працягваў чарнявы, – яны ж, гэтыя шведы ці ангельцы, думаюць, што гэта – Беларусь, аўтэнтыка, ну, кавярня гэтая. Паглядзі на экран за барам – матрошкі, хахлама. Меню па-расейску. Ну і музыка, бля… – зглытнуў канчатак, – крыўдна!

Тым часам акулярык ужо нешта дапісаў і працягнуў паперу… спачатку чарняваму. Паперка папаўзла па стале далей, міма памятай сурвэткі, аднаразавай лыжачкі, меню ў скуранай вокладцы ды двух парваных пакецікаў ад цукру. За столікам запанавала ціша.

– Такія справы, браты… – нібыта падагульніў акулярык. І зноўку паўза.

– Прабачце! – зусім нечакана для сяброў кінуўся чарнявы да афіцыянткі, што праходзіла міма. – А чаму ў вас зубачысткі з аднаго канца зялёныя? Што, зялёнкай мажаце?

У такія моманты ягоны няголены твар захоўваў каменны выраз і толькі вочы іранічна паблісквалі не менш за срэбраную завушніцу.

– Ну, у нас они де-зин-фи-цированы, – не менш сур'ёзна адказала шатэнка ў эрзац-вышыванцы, але хутка знайшлася і з усмешкай дадала: – Если надо, могу спросить у администратора.

– Не, не трэба, – замест сябра адрэзаў акулярык, – рахунак прынясіце.

– …Э-э-э, что?

– Разлічыце нас.

– Угу, – матлянула галавой дзяўчына ды пакорліва пайшла да стойкі.

– Эх, з табой мы ніколі беларусізацыю не правядзём, – усміхнуўся чарнявы, падымаючыся з-за стала. – А дзе тут прыбіральня?

Акулярык зглытнуў ды падціснуў вусны, але глядзеў зусім не на свайго таварыша па «справе».

– Там за шафай такой вялікай, – замахаў рукамі разява, – направа… А над унітазам «Жыве Беларусь» напісана, прыкінь?

– Прыкіну, дзякуй.

– Эта, а хто… – прыхіліўся і шэптам ужо даволі занепакоена запытаўся разява ў суседа з джынсавай сумкай на каленях.

– Зараз, Пірсінг ве-е-ернецца… – нібыта абыякава да ўсяго прамовіў акулярык, адкінуўшыся на разную сядушку. – …Будзем зубачысткі цягнуць!

Упершыню за ўвесь вечар вусны «правадыра» расплыліся ва ўсмешцы, а вочы сутыкнуліся з вачыма сябра. Той ажно закрыў рот: выцвілыя шэра-блакітныя зеркі глядзелі не толькі скрозь шкельцы, але і скрозь яго, скрозь шведскую кампанію за суседнім столікам, скрозь прыбіральню з надпісам «Жыве Беларусь» ды фанацкімі налепкамі на люстэрка з расколінай, мажліва, нават скрозь час і прастору…

Хуткім адпрацаваным рухам яшчэ адзін нявыкарыстаны пакецік з цукрам зваліўся на дно джынсавай сумкі.

* * *

**Jendrus:** у нас залева на тыдні была. Цяпер халодна
**Nata:** у ваве таксама. Імжыць
**Jendrus:** ага. Ім жыць, А нам?..))
**Nata:** А вам – залева))

Хударлявы хлопец з раннімі залысінамі ды парай сівых валасоў на скронях пасміхнуўся ўголас. Паходжанне ягоных сівых валасоў было для ўсіх таямніцай – школа, офісы НДА, вучоба за мяжой. Усё неяк роўна, без напругі. Ці то схаваныя стрэсы далі ведаць аб сабе, ці то гены, а мо і пячатка злога лёсу…

**Jendrus:** Давай, буські…

Трэ было развітвацца ў скайпе ды сыходзіць, а прывабная і спакусная для ўсёй рэдакцыі «Незалежнага Радыё» Nata на апошнюю рэпліку як назло нічога не адказвала… Не ў першы раз. Ён жа ёй і кніжку сваю дарыў з аўтографам, і цукеркі ў дадатак.

Нічога. Наперадзе сустрэча ў кавярні са старой знаёмай, яшчэ па колішніх журналісцкіх семінарах – рудой і таму жыццярадаснай Ганкай. Тут можна было ўключыць фантазію – стала крыху лягчэй…

Малады перспектыўны журналіст Андрусь Павіевіч прыязджаў дахаты прыкладна адзін раз на месяц: праца чакала ў Варшаве, перад гэтым была вучоба ў Познані, сябры па ўсёй Польшчы. Тут, у дажджлівай дэпрэсіўнай Беларусі можна было час-почас сустракацца са старымі сяброўкамі ды сябрамі, набірацца натхнення для пастоў у блогу, рабіць здымкі паўпрафесійным здымачом.

«Take me high, take me high, my airplane…» – паспеў яшчэ праспяваць Вакарчук з нэт-бука… «Хлоп!» – адным рухам агрэгат быў пераведзены ў спячы рэжым. Трэба спяшацца. На стале, як заўсёды, недапітая кава, пара падручнікаў польскай мовы яшчэ з вучобы, Хадановіч ды Кустава ў мяккіх вокладках (з аўтографамі, вядома), вільготныя сурвэткі, прахадное пасведчанне ў пазнанскае сужывецтва, асадка, падпісаныя паштоўкі з відамі касцёлаў, польская драбяза…

«Бух! Чык-чрык!» – жалезныя дзверы зачыненыя. «Сапраўды, імжыць – ім жыць – добрая ідэя, трэба неяк выкарыстаць…» – круцілася ў галаве блогера. Ліфт сёння не працаваў…

«М-м-м-м-м», – заварушылася нешта ў кішэні пухавіка.

«Курдэ!» – схаваўшы ключы на карабіне «Незалежнага Радыё», Павіевіч палез па мабільнік.

Дзявочы голас са слухаўкі цікавіўся наконт нашумелага апавядання «Дрот» у інтэрнэт-версіі «Народнай Нівы» і патрабаваў каментара з першых вуснаў: аповед атрымаў шырокі рэзананс у чытачоў.

Некаторыя Андрусёвы тэксты сапраўды карысталіся надзвычайнай папулярнасцю. Асабліва тыя, дзе нехта камусьці «даваў» на паедзеным шашалем падаконніку вясковай хаты або забіваў касякі з падручнікаў Абэцэдарскага ў будынку правінцыйнай школы… Павіевіч «ставіў дыягназы», «агольваў праўду», збіраў на сайтах каментары, нібыта ў дзяцінстве чарніцы каля роднай вёскі ў Лунінецкім раёне.

Правінцыйную тэму ён ведаў як ніхто з маладых аўтараў.

Апошняе апавяданне выклікала фурор: нехта яго ўхваляў, нехта паспяшаўся назваць аўтара чэкістам альбо наўпрост сугучным назве твора тэрмінам. Мала каго тэкст пакінуў абыякавым.

Трэ было нешта адказваць, шпарка збягаючы па прыступках:

«Мой “Дрот” – рэзанансное наватарскае апавяданне, так, прынамсі, адрэагавалі крытыкі…

Дык-дык-дык-дык-дык-дык-дык-дык – затупалі ашанаўскія кеды па сходах.

…Табуяваных тэм у свабоднай краіне, на маю думку, быць НЕ МОЖА!..

Дык-дык-дык-дык-дык-дык-дык-дык.

…Ну, а інтэрнэт-тролі, яны ж на тое і тролі. Грамадства ў нас такое…

Дык-дык-дык-дык-дык-дык-дык-дык.

…Таталітарнае мысленне, самі разумееце…

Дык-дык-дык-дык-дык-дык-дык-дык.

…Твор адбыўся, таму… нельга сказаць, што я шкадую…

Дык-дык-дык-дык-дык-дык-дык-дык.

Дзякуй вам! – і падумаўшы роўна імгненне, задаволена дадаў: – …Да сустрэчы!».

Скончыўся апошні лесвічны пралёт з выцвілымі зуброўскімі налепкамі з 2001 года над смеццеправодам, абсмаленай пімпай ліфта ды маркерам запісаным крыху вышэй тэлефонам.

«Chyba że jest zajebista…» – аўтаматычна ўзгадалася Павіевічу. Ён быў задаволены сабой, непрыемны асадак ад размовы ў скайпе амаль знік.

…Каля выхаду з пад'езду тусіў нейкі гопнік з насунутай на вочы шапкай. Твар журналіста зноўку стаў сур'ёзным, глянуўшы раз, Павіевіч адразу апусціў вочы.

«Хіба з сябрамі тут на суткі кватэру здымаюць пабухаць… Дожылі, нават не ведаем сваіх суседзяў – нехта памёр, нехта здае на суткі. Такім вось… Як тут можна жыць?..»

«Фух!» – характэрна адгукнуўся на ўдар варшаўскі пухавік. «Фух, фух!» – яшчэ двойчы. Андрусь прытуліўся да сцяны, нібыта шукаючы падтрымкі ў прыгажуні з дошкі аб'яў, якая прапаноўвае перацягнуць канапу за палову леташняга кошту. Павіевіч са здзіўленнем для сябе не крычаў, але скуголіў, па твары пакаціліся слёзы.

Загрукацела па бруднай плітцы адкінутая ўбок заточаная адкрутка.

«П-лам!» – зачыніліся дагэтуль падпёртыя кавалкам сілікатнай цэглы дзверы дамафона.

У святле пакаселага над пад'ездам ліхтара йшоў ледзь бачны снег.

* * *

– Разрешите.

– Заходи, – не адрываючыся ад камп'ютара, нізкім голасам запрасіў палкоўнік. – Что скажешь?

– …СМИ подают как убийство, «Хартия», «Партизан» – в один голос. Пишут: «Рука КГБ»… и прочее. Он же сам – писака, ну и на «Независимом Радио» работал в последнее время…

– Угу, – сівы палкоўнік падняўся з крэсла ды накіраваўся да падаконніка.

– Есть информация о причастности активистов «Молодого патриота». Данные такого характера мы получили только сейчас, поэтому… предотвратить не смогли. Скорее всего они думали, что журналист… наш агент.

– Почему?

– Журналист этот написал рассказ – там о их организации нелестно, скажем так… За «Дрот», получается отомстили...

– Кто задрот?

– Ну, рассказ так называется, Александр Олегович. «Дрот» – колючая проволока по-бела…

– А-а-а.

– Во-от… Подумали, что текст заказной, и пошли на такие меры… Нетипичные. Две группы готовы выехать по адресам, мобильники у подозреваемых включены…

Палкоўнік моўчкі адпіў зялёнай гарбаты з кубка з выявай чаплі – пад стыль японскіх гравюраў XVIII ст. Унізе бясшумна рухаўся праспект Незалежнасці, людзі стаялі на святлафорах альбо ішлі па справах, ніяк не звязаных з пытаннямі дзяржаўнай бяспекі (прынамсі, ім так падавалася). Трафейны нямецкі гадзіннік са «сталінкі» насупраць паказваў дзесяць хвілін на адзінаццатую. «Как в рекламе», – прыгадаў палкоўнік.

– Ты зае…л, у нас либерализация на носу. Сегодня встреча папского нунция на высшем уровне. Не поверит же никто. Обождать надо… – палкоўнік паставіў кубак на падаконнік. – Вопросы?

– Никак нет.

– Иди.

Дзверы зачыніліся, сівы палкоўнік застаўся сам-насам з дубовым лакіраваным гербам камітэта на сцяне, парай нікім не чытаных падораных кніжак на паліцы – біяграфіі чэкістаў ды юбілейныя выданні, якія пасля пераедуць на дачу або апынуцца ў сметніцы, камп'ютарам з уключаным пасьянсам «Павук». Свінцовыя хмары над сталіцай абяцалі ўсё пакінуць на сваіх месцах яшчэ год на 150… Было халодна, але без снегу.

«Задроты, б…ть. Ну почему именно сейчас?..»

Выпадак не адпавядаў логіцы палкоўніка, не ўкладаўся ў план.

Палкоўнік яшчэ раз, нібыта развітваючыся, агледзеў велічны кабінет у стылі ампір.

Экран камп’ютара, на якім былі раскладзеныя каралі, валеты, шасцёркі, незаўважна згас.

*11 лістапада 2012 года, Гродна – Мінск*

## ТРЫ ГІСТОРЫІ З НЯМЕЦКАЙ ТУРМЫ

Каго толькі ні сустрэнеш на закратным шляху: алкаголікі, наркаманы, аліментшчыкі, бізнесмены… Людзі збольшага выпадковыя. Трапляюцца, аднак, тыя, для каго турма – частка жыцця, часам нават галоўная. За плячыма ў такім выпадку могуць быць не толькі беларускія засценкі, але і турмы іншых краін – зазвычай еўрапейскіх. Ніжэйпададзеныя гісторыі я пачуў ад выпадковага знаёмага, які, перад тым як трапіць у беларускую вязніцу, ужо адседзеў у Польшчы і Германіі.

Турма ў Дзюсельдорфе.

Аповеды датычаць 1990-х, таму шмат што ў іх страціла актуальнасць. Пры гэтым асобныя моманты могуць падацца цікавымі як знаёмаму, так і не знаёмаму з беларускай пенітэнцыярнай сістэмай чытачу. Далейшы аповед ідзе ад першай асобы.

### *«Für lieben Uwe»*

Падчас маёй адсідкі ў Дзюсельдорфе адзін немец неяк паказаў нядаўна дасланае фота сваёй жонкі. Разгляд фота – звычайная справа, папярэдне, як бывае, размова ішла акурат пра жонак. На фота – маладая жанчына, троху разваліўшыся, сядзіць на непрыбраным ложку. На ёй на хуткую руку

накінуты халат, валасы непрычасаныя. Ззаду надпіс: «Für lieben Uwe». Не ведаю, можа, і нармальна адсылаць такія фота, але я б прынамсі не паказваў іх іншым.

– Слухай, Увэ, а хто яе фатаграфаваў?

– …

Немец не адразу нават зразумеў, пра што я. Некалькі наступных дзён мой суразмоўца не паказваўся. Толькі схадзіўшы на кароткае спатканне, ён зноўку знайшоў мяне і паведаміў, што разыходзіцца з жонкай.

– Аказваецца, фота зрабіў мой стары сябар, пасля таго як…

Пасля Увэ яшчэ доўга жартаваў: «Не паказвайце рускаму сямейных фота! Жыў бы сабе спакойна, каб не паказаў… Адзін негатыў ад гэтых рускіх!»

## *Албанец*

Албанцы мне вельмі нагадваюць прадстаўнікоў малалікіх каўказскіх народаў – найперш ганарлівасцю, ваяўнічасцю. Я не супраць, проста ў іх выпадку гэта спалучаецца з нізкім узроўнем адукацыі. Нават людзей, па-сапраўднаму цікавых, я сярод албанцаў не сустракаў. Нездарма яны, як і чаркесы, заўсёды служылі наймітамі падчас канфліктаў на кантыненце.

Я табе ўжо расказваў пра немца, які працаваў у ахоўным агенцтве, у тым ліку нёс варту на ўваходзе да дыскатэк і клубаў. Папярэдне іх падрабязна інструктавалі: пускаць не больш за трох-чатырох неграў, арабаў – толькі адэкватнага выгляду, туркаў – толькі без залатых упрыгожанняў (прыкмета «пантоў» і патэнцыйнай агрэсіі). Што да албанцаў, дык у сур’ёзныя ўстановы іх забаранялася пускаць у прынцыпе.

– Але як вы іх адрозніваеце? Шмат албанцаў маюць светлыя валасы і блакітныя вочы, – запярэчыў я.

– Галоўная прыкмета – прыадкрыты рот, – усміхнуўся хлопец.

Пасля гэтай размовы я пачаў адрозніваць албанцаў беспамылкова. Характэрна, што ў нас адкрытая «пашча» звычай асацыіруецца з разгубленасцю, тупасцю, але ў албан-

цаў фізіяноміі ў гэты момант злыя ды нахабныя. Дзівоснае спалучэнне!

Я вырас на поўдні Расіі, таму шмат разоў бачыў агрэсію як нацыянальную асаблівасць, але албанцы пераўзышлі ўсіх. Уяві сабе: 23-гадовы хлопец разам з дзяўчынай-немкай спрабуе прайсці ў начны клуб. Ахова пускае толькі дзяўчыну, а яго не, маюць права – прыватная ўстанова, прычын могуць не тлумачыць. Хлопец кідаецца ў бойку, але дзе там: ахова – здаровыя дзецюкі. Выкінулі яго, паліцыі не выклікалі, на сваю бяду… Хлопец гэты, дзіця гор, спяшаецца дахаты, бярэ помпавае ружжо, набоі, вяртаецца да клуба і… расстрэльвае ахову: два трупы, адзін інвалід, цудам застаўся жывы.

Хлопца злавілі, далі пажыццёвае… Я сядзеў з ім і, канечне, запытаўся:

– На якую халеру ты гэта зрабіў? Цяпер табе адсюль ніколі не выйсці!

На момант майго знаёмства гэты хлопец паспеў ужо адседзець гады тры, падумаць пра тое, што адбылося. Яго адказ быў больш чым грунтоўным. А сказаў ён мне так:

– Ніякая гніда не можа абразіць мяне беспакарана, я зрабіў усё правільна. Зараз кожны будзе думаць, перад тым як дачапіцца да албанца. Дзякуючы мне больш немцаў застанецца жывымі!..

На ўсялякі выпадак я перапытаў наконт стаўлення яго сям'і і пра тое, ці адэкватная гэта была помста. Ведаеш, што ён сказаў? Ён сказаў:

– У маім родным сяле мной ганарацца, а маім імем называюць дзяцей. Наконт адэкватнасці я не паруся: такая мярзота не мае права жыць.

Такія вось норавы. У нямецкіх турмах албанцы наогул сядзяць канфліктна, складана з імі. Але ж немцы майстры прыняцця мер: пасля першага ж мардабою садзяць у «адзіночкі».

### *Курдскі сцяг і нямецкая юстыцыя*

Пасля суда мяне накіравалі ў турму ў горадзе Верль. Яна для вязняў, што здзейснілі асабліва цяжкія злачынствы, але,

як заўжды ў «іншым свеце», умовы ў такой турме нашмат лепшыя, чым там, дзе сядзяць «легкавагавікі». На кожным паверсе ёсць кухня з добрым посудам ды інш. Шмат хто тут мае пажыццёвае (яны ўтрымліваюцца разам з усімі), таму абжываецца па максімуме.

Адна з асаблівасцей вялікіх турмаў – выданне ўнутранага часопіса. Пішуць туды, ясна, зэкі. Рэдактар – таксама зэк. Інфармацыя самая розная: ад жыццёвых гісторый, умоў у іншых турмах да… кулінарных рэцэптаў.

Дык вось, прыходзіць да мяне неяк рэдактар Крыстаф і расказвае гісторыю пра нядаўна прывезенага сюды курда, які быў сябром КПП – Курдскай працоўнай партыі – у Германіі. Сеў ён за тэрарызм, ягоная партыя гэта часам практыкуе… Падчас першага «шмону» па заездзе ў ягоных рэчах знайшлі сцяг КПП (гэтая сімволіка не была тады забароненай). Але сцяг прапускаць усё адно не хацелі: знайшлося нейкае правіла, згодна з якім сцяг пры сабе трымаць можна, але пэўных памераў. Сцяг курда перавышаў стандарт шырыні на 15 см: супрацоўнікі турмы прапанавалі ўладальніку альбо адрэзаць «непатрэбнае», альбо пакінуць рэліквію на складзе… Канечне, курд абраў апошняе.

Крыстаф, ясная справа, напісаў пра гэта ў сваім часопісе: «Вось яна, бюракратыя, нічым яе не ўзяць…» Перад друкам макет часопіса чытае дырэктар турмы, каб не было парнаграфіі альбо чаго забароненага. Але гэта не цэнзура! Яе ў краіне няма. Дырэктар, значыцца, прачытаў, пагадзіўся, але зацемку пра сцяг загадаў прыбраць. Крыстаф пачаў абурацца, але штомесячны часопіс так і не выйшаў…

– Чым магу дапамагчы? – пацікавіўся я, уважліва даслухаўшы аповед.

– Ты ж ведаеш, у турме ёсць каналы на розных мовах, – здалёк пачаў Крыстаф, – на арабскай, італьянскай… А вось расійскага няма – хоць ты «рускі» (няхай і адзіны на той момант у турме). Адміністрацыя парушае тваё законнае права на інфармацыю…

– Чакай, я ведаю нямецкую. Мне болей не трэба, дый не цікава, пра што маскалі брэшуць…

– Ты не разумееш: выпадак пра сцяг курда будзе разбіраць суд, бо часопіс зарэгістраваны як грамадскі орган дру-

ку, цэнзура ў ім недапушчальная. Ад цябе патрабуецца толькі пацвердзіць, што і цябе прыціскае адміністрацыя па нацыянальнай прыкмеце.

Я даў згоду з умовай, што ў якасці пацярпелага нідзе ніколі выступаць не буду, ды і падпісваць таксама нічога не буду. Прычыны гэтага я доўга тлумачыў Крыстафу, але ён да канца іх так і не зразумеў… («Паняццяў» у нашым разуменні ў іх турмах не існуе).

Скончылася ўсё тым, што суд прызнаў рацыю рэдактара часопіса. Зацемка пра сцяг была надрукаваная з апісаннем усёй гісторыі. Цікава, што пасля суда ўдзельнікі разбіральніцтва не трапілі пад рэпрэсіі з боку адміністрацыі. Іх дзяржслужбоўцам, канечне, уласцівая дробязная помслівасць, але выглядае яна зусім інакш. Раскажу іншым разам…

## МОВА ЯК ПРЫНЦЫП: У СЯМ’І, НА ВУЛІЦЫ, У ЗОНЕ

Упершыню мне стала сорамна за няведанне мовы ў 12 гадоў.

У 2001-м, падчас акцыі са знічкамі на Савецкай вуліцы ў Гродне, на «Дзяды». Тады я прыйшоў з маці, трымаючы ў руках паўлітровы слоік з агеньчыкам унутры. Нейкі студэнт побач не быў такім абачлівым і ягоная свечка на вятрыску ўвесь час гасла. Кожнага разу ён прасіў запаліць яе ў мяне. Прасіў па-беларуску. Я гугніва спрабаваў яму нешта адказаць, але нічога не выходзіла. У школе ж нас вучылі арфаграфічным правілам, але не вучылі размаўляць па-беларуску.

У першым гродзенскім ліцэі ў 2005-м ад пачатку мы з парай хлопцаў нават дамаўляліся на перапынках размаўляць выключна па-беларуску.

Гэта быў больш пафасна-дэманстратыўны крок, як, напрыклад, стоячы з рукой на сэрцы, слухаць «Пагоню» Багдановіча на занятках беларускай літаратуры. Зразумела, надоўга нас не хапіла…

Першых прынцыпова-беларускамоўных аднагодкаў я пабачыў толькі на гродзенскім гістфаку.

Хлопец і дзяўчына, двое на ўвесь курс, якія стойка трымаліся сваёй пазіцыі. Тады яны мяне нават злавалі, як злавала «апазіцыя», Беларусь, беларусы наогул і я сам, што даволі заканамерна ў 18 год.

Толькі пасля прыйшло ўсведамленне, што іншай краіны не будзе, а з гэтай трэба нешта рабіць, калі ўжо давялося ў ёй нарадзіцца. Пачынаючы, вядома, з сябе.

Ланцужок насамрэч просты: спачатку ты чытаеш ці слухаеш па-беларуску, пасля спяваеш, час-почас пішаш (калі спатрэбіцца), адказваеш беларускамоўным знаёмым на іх мове… Калі такіх знаёмых шмат – ты ўжо вымушаны падзяліць сваю моўную прастору на дзве часткі.

Далей – самае цяжкае: пачаць размаўляць у хаце, з роднымі.

Калі цябе выгналі з універа і ты раздзяўбай без працы ды яшчэ з дзіркай на джынсах, ясная справа, беларуская мова, як і што-кольвек, зыходзячае з тваіх вуснаў, будзе ўспрымацца крытычна. Таму варта мець больш-менш «роўныя» адносіны з блізкімі, прынамсі плаціць за кватэру, калі хочаш без праблем размаўляць за сталом у сямейным коле.

Калі выпрабаванне сям'ёй пройдзенае, рэшта ўжо будзе неістотнай: знаёмыя, мянты, мілыя цётухны на касах з адвечнымі пытаннямі: «Что-что? А-а-а, сахар. Как интересно, по-белорусски разговариваете…». Гэта ўжо справа прынцыпу і звычкі.

Тое самае з беларускай мовай «у ложку». Варта толькі пачаць. Зрэшты, там гэта і не галоўнае…

Беларуская мова на зоне – з'ява рэдкая, таму яе трэба адстойваць.

З досведу скажу, што каўказцы ці сярэднеазіяты лепш ставіліся да нашай мовы, чым прадстаўнікі «трох братніх народаў».

Кінуць размаўляць, аднак, немагчыма: такая рэч была б успрынята як слабасць.

Часам мова – добрая нагода пасмяяцца ды падсадзіць адміністрацыю «на каня»: так, у «амерыканцы» адзін прапар

неяк выпаліў падчас праверкі: «Какой “шпацыр”?! Мы что, по-польски с вами разговариваем?! Нет такого слова в словаре, я лично проверял! Давайте уважать родную белорусскую речь… “Шпацыр”, б…ть!..» – апошнюю фразу кінуў, ужо схаваўшыся за дзвярыма.

Для мяне як верніка пэўны час стаяла пытанне мовы ў Бібліі, штодзённай малітве.

Ведаю, што некаторыя беларускамоўныя пратэстанты, напрыклад, маўчаць, калі царква спявае гімны па-расейску альбо індывідуальна дублююць тую ж песню па-беларуску, калі ёсць пераклад. Як уніяту мне прасцей: у грэка-каталіцкай царкве літургія, тэксты малітваў, духоўная літаратура – усё па-беларуску.

Па маім перакананні, не варта накідвацца на знаёмых з пытаннем: «А чаму ты па-расейску размаўляеш?»

Большасць «фрыкаў», якія лезуць да вас з такімі папрокамі, маглі б атрымліваць штомесяц талоны на малако ад «камітэта» за дыскрэдытацыю беларускай мовы. Людзям патрэбен прыклад, а не папрокі.

На маю думку поўная беларусізацыя прыйдзе толькі зверху і толькі пасля змены рэжыму. Пакуль жа мова прасоўваецца як сродак зносінаў андэграўнду, «нелегальнай» Беларусі.

Напрыклад, расейскамоўныя заўзятары, як «правыя», так і «левыя», зараз абклейваюць гарады беларускамоўнай агіткай сваіх клубаў.

Тое, на чым раней спецыялізаваўся Малады фронт, зараз робяць яны – апаноўваюць беларускую вуліцу і робяць яе «беларускай».

Асабіста мне такія тэндэнцыі толькі дадаюць аптымізму.

## ПАЎЛУ ВІНАГРАДАВУ

Героям не спіцца за кратамі,
Мрояць яны свабоду,
Не злічаную каратамі
Ані маткамі дроту.
Сволач на гульбішчы цешыцца,
Мочаць упарта сумленне,
Зоркі ў гарэлцы плешчуцца,
Быццам у глебу насенне…
Героям не спіцца пад зоркаю,
Што чырванню ззяе з-за кратаў,
Дзе пахне мачой, хлоркаю
Ды сечкай з «Валгаграду».

## СВЯТЛО НА ДНЕ

*Маўклівыя серады*

За стойкаю бара драўлянаю
Хвіліны лічыць зручней
Да нашае акцыі цьмянае,
Якой павядзём мы рэй,
Да акцыі нашай бяззубае,
Якая цалуе ўзасос,
Бяз зброі і лаянкі грубае,
Яна патрабуе: «ШОС!»
Да акцыі нашай карціннае,
Якая збярэ зноў мянтоў,
Бо робіцца страшнае, дзіўнае –
Без партыяў, мітынгаў, слоў…

*Верасень 2011 года, Гродна*

## ВЯСНА. АНТАЛІЯ. ВЯЛІКДЗЕНЬ

*Філасофія турэмнага дворыка*

*«...Вер, і ўсё будзе добра».*

Яснае неба. Яснае, сіняе закратаванае неба. У сонечных промнях на сетцы вецер гойдае павуцінне і дробнае пер'е. Зусім як у верасні. Усё ж такі вясна і восень падобныя, як брат і сястра, як напалову пустая і напалову поўная бутэлька, як толькі што засеянае і толькі што выбранае поле, закіданае, быццам лушпінкамі сланечніка, чорнымі крумкачамі.

Праз усё неба – таўсценны след ад самалёта: ён плыве, а дакладней, вецер зносіць яго кудысьці за дамы, за гарызонт, у бок праспекта Незалежнасці. «На Анталію», – камусьці хочацца верыць і быць хоць у нечым саўдзельнікам гэтага палёту: хаця б ідэнтыфікаваць яго для тутэйшай публікі, выпадковых знаёмых, у кожнага з якіх ёсць свая «Анталія», няхай і ў выглядзе лецішча на беразе Нёмана, шмат больш жаданага і чаканага за які-кольвек турэцкі курорт.

Пралятае крумкач. За ім – белая галубка (двух рамантычных галубоў акурат вышкрабла чыясьці рука на металічных дзвярах дворыка).

Рымскія жрацы-аўгуры калісьці ўмелі гадаць па палёце ў птушак. Мажліва, яны ў суседнім дворыку. Тут ёсць мясцовая прыкмета – асоба, «абгаджаная» птушкамі ў дворыку, выпускаецца ў той жа дзень. Верагоднасць: прыблізна два з трох. Як правіла, трэцяя асоба перастае верыць у прыкметы... Тоўстую паласу ад самалёта «на Анталію» перасякае тонкая ад толькі што прайшоўшага новага маршрута. У выніку атрымліваецца ўсім зразумелы хрысціянскі сімвал – усё ж такі хутка Вялікдзень... Тлумачыць сэнс «знамення» нікому не трэба, акрамя разгубленых аўгураў з суседняга дворыка. Але праз пару хвілін і яны супакояцца, бо тлумачэнне простае: «Усё будзе добра», а дакладней: «Вер, і ўсё будзе добра!».

Высокая цагляная сцяна патанула ў сонечным святле. На ёй бултыхаюцца цені ад выпадковых рэчаў, вецер падхоплівае канвульсіі, але хутка адліў, і шэрая сцяна зноўку стане

шэрай, патанулыя прадметы знікнуць да раніцы і нават вецер не зможа іх да часу ўваскрасіць.

Між іншым, «футра», якое апранае мур, хавае ў сабе безліч малюнкаў і камбінацыяў: вось профіль сабачай галавы з гузікам-вокам, вось абрысы таемных кантынентаў, за мажлівасць існавання якіх ваююць вясёлыя ілжэвучоныя з сумнымі – ад афіцыйнай навукі, а вось характэрны востры каменьчык, на які я павешу сваю куртку – хай таксама адпачне!.. Быццам выбоіны ад стрэлаў – чорныя плямы: нехта тушыў свой «бычок», супакойваючы нервы. У шчылінах на бетоннай падлозе перазімавалі рэшткі дубовага лісця, нават яны могуць усцешыць позірк – адарваныя, спарахнелыя, знявечаныя сцюжай кавалачкі жыцця на шэрым абыякава-халодным тле…

Людзі рухаюцца альбо па коле, альбо ў разнабой, па прыкладуківача. Калі ўявіць, што дворык – гэта галава, а людзі – думкі ў ёй, то такі «броўнаўскі рух» акурат адпавядае руху думак у галаве вязня тут – ледзь не ў адзіным месцы, дзе ён можа пабыць сам-насам з уласнымі думкамі. Пра што? Вядома ж, пра вясну, Анталію і… Вялікдзень!

*20 красавіка 2011 года,*
*СІЗА КДБ, «амерыканка»*

Нарадзіўся 16 красавіка 1938 года ў вёсцы Дубінец Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці.

Скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі.

Дзяржаўны і палітычны дзеяч.

Працаваў дырэктарам саўгаса, намеснікам старшыні Магілёўскага аблвыканкама, сакратаром і першым сакратаром Магілёўскага абкама Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі (1994–1997).

Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі (1990–1994).

Быў арыштаваны 11 лістапада 1997 года ва ўласным кабінеце ў Міністэрстве па абвінавачванні ў падрыхтоўцы забойства кіраўніка службы кантролю прэзідэнта па Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага. Арышт адбываўся ў прысутнасці тэлевізійных камер.

Публічна абвінавачваўся прэзідэнтам у шэрагу злоўжыванняў, аднак на судзе Лявонаву інкрымініравалася хабарніцтва ў памеры менш за 2 тыс. долараў, што пацверджвалася паказаннямі толькі аднаго чалавека.

Ужо напярэдадні суда звярнуўся з адкрытым лістом да Аляксандра Лукашэнкі, у якім заявіў, што лічыць будучы працэс палітычна матываваным, а ягоны вынік – звядзеннем асабістых рахункаў кіраўніка дзяржавы.

14 студзеня 2000 года быў асуджаны на 4 гады зняволення. Вызвалены 5 кастрычніка 2000 года па амністыі.

Аўтар мемуарнай кнігі «Работа над ошибками» (2003). Са згоды аўтара мы друкуем першую частку гэтай кнігі з нязначнымі скарочаннямі.

He was born on April 16, 1938 in the village of Dubinets of Kostyukovichi district, Mogilev region.

He graduated from the Belarusian Institute of Agricultural Mechanization.

Vasil is a public and political figure.

He worked as director of a collective farm, Deputy Chairman of the Mogilev Regional Executive Committee, Secretary and First Secretary of the Mogilev Regional Committee of the Communist Party of the Soviet Union, Minister of Agriculture and Food of Belarus (1994–1997).

He was elected a deputy of the Supreme Soviet of Belarus (1990–1994).

He was arrested on November 11, 1997 in his office at the Ministry on charges of planning the murder of the head of the Mogilev region presidential control Yauheny Mikalutski. The arrest took place in front of television cameras.

The President publicly accused him of a number of abuses, but in court Liavonau was charged with a bribery of less than two thousand dollars, according to the testimony given by only one person.

On the eve of the trial, he wrote an open letter to Alexander Lukashenko, in which he stated that he considered the case to be politically motivated and its result – the settling of personal accounts of the head of state.

## РАБОТА НАД ОШИБКАМИ

Впервые Александра Лукашенко я увидел в конце 1979 года. Тогда работал в Могилеве секретарем обкома партии по сельскому хозяйству. Шло совещание в Шклове, и первый секретарь райкома Вера Феофановна Костенко подвела ко мне Лукашенко, молодого еще, но уже прилично лысеющего, и представила: дескать, вот он хочет быть председателем колхоза.

Во все времена не так просто было найти толкового председателя колхоза, особенно в районах, где не умели работать с кадрами. В Шкловском райкоме сложилась типичная по тем временам обстановка: в сейфе у секретаря райкома лежало несколько заявлений руководителей хозяйств с просьбой об освобождении от должности, но заменять вознамерившихся уйти было некем. И Лукашенко ко мне подвели для смотрин, а вдруг подойдет? После короткой беседы я спросил у претендента: «А кто вы по специальности?» – «Учитель». – «А почему не хотите работать в своей сфере, по профессии?» – «Я родился в деревне и хочу руководить хозяйством». – «Тогда Вам нужно закончить сельхозинститут и получить специальное образование. А пока я не вижу необходимости человека, никак не связанного с сельским хозяйством, ставить сразу руководителем».

К тому времени, казалось, навсегда канула в лету послевоенная эпоха руководителей-универсалов, когда вчера кто-то руководил коммунхозом, сегодня – культурой, завтра – народным образованием, послезавтра – колхозом или совхозом. Во всех сферах уже требовались профессионалы. Лукашенко через четырнадцать лет реанимирует эту систему, и на республиканском уровне банковской системой начнет руководить строитель, культурой и медициной – отставной полковник, прокуратуру возглавит человек без юридического образования, литературно-художественные издания – зацикленный на старине местечковый преподаватель, Академию наук – ординарный чиновник и т.д. А тогда Лукашенко, видимо, понял и сказал: «Хорошо, я буду учить-

ся». Приблизительно через полгода та же Вера Феофановна сообщила мне, что он действительно поступил в Горецкую сельхозакадемию на заочное отделение. Через три года у него уже был диплом специалиста, и с учетом настойчивых просьб и Шкловского райкома партии, и, прежде всего, Лукашенко, его определили в пригородный колхоз имени Ленина на должность заместителя председателя колхоза – секретаря парткома.

Было заведено: прежде чем кого-то рекомендовать руководителем хозяйства, необходимо было основательно изучить его в деле. Попав в резерв кадров, Лукашенко находился в поле зрения сельхозотдела обкома партии. Бывая в Шкловском районе, старались встретиться, побеседовать с ним. Я общался с ним несколько раз во время его работы заместителем председателя колхоза. В то время в области мы применяли и такой метод: когда уже приходили к выводу, что человек годится на самостоятельную работу, предлагалось руководителю хозяйства уйти в отпуск в самый горячий момент. Для некоторых, прямо скажем, это было неестественное предложение: как это так – бросить все в разгар работ и уйти отдыхать?! Но мы могли за это время приглядеться, как соискатель на руководящий пост справляется с работой в напряженный период. И здесь председатель колхоза изумился, узнав, что ему не просто предлагают уйти в отпуск, а еще и путевку дают, но подчинился.

А. Лукашенко остался руководить колхозом. Я хорошо помню, что он проходил аттестацию не на организации уборки, а на предмет низкой продуктивности дойного стада. Не хочу сказать, что он плохо разбирался в вопросах, – обстановкой в колхозе он владел. Я вернулся в Могилев и доложил: можно попробовать. И тогда было принято решение: послать коммуниста Лукашенко директором, пожалуй, самого отстающего в Шклове совхоза. Отстающего, поскольку там, где дела идут хорошо и руководитель справляется, его не меняют. Никто и не собирался предлагать Лукашенко хорошее, передовое хозяйство – даже если бы вдруг кого-то забрали на повышение и освободилась вакансия. У меня всегда была настороженность: если человек просится на должность,

сначала проверь, на что он способен. Вот и в данном случае: просишься – испробуй на отстающем участке.

В республике сложилась особая система работы с отстающими хозяйствами. Они были на контроле не только у руководителей области, но и у республиканского руководства. «Городец» традиционно считался «лежачим» совхозом: предшественник Лукашенко отработал в нем десять лет, не добившись серьезных изменений. В области было около тридцати таких хозяйств, по ним было принято совместное постановление бюро обкома и облисполкома, в котором определены конкретные меры помощи этим хозяйствам. Минсельхоз таким хозяйствам тоже помогал. Когда Лукашенко пришел работать в «Городец», была принята еще одна мера, касающаяся молодых руководителей отстающих хозяйств: все, кто на областном уровне распоряжался материальными и финансовыми ресурсами, «закреплялись» за такими хозяйствами, осуществляли над ними шефство, обязаны были постоянно навещать, оказывать организационно-методическую и материально-техническую помощь. За Лукашенко персонально был закреплен первый заместитель председателя облисполкома – руководитель облагропрома Евсей Корнеев. Корнееву надоело ездить без конца в совхоз, у него в распоряжении были все ресурсы, и он оказал солидную помощь «Городцу». В совхозе начали строить жилье, помогли техникой, дорожным строительством, осуществили ряд организационных мер силами специалистов области.

Бывал в хозяйстве и я, чтобы присмотреться поближе к директору. Первый год своего директорства (1986–1987) Лукашенко, как говорится, попал в струю – занялся арендой. Ему помогали специалисты из области: все хозяйство было «разбито» на арендные коллективы, новая организация труда заинтересовывала работников тем, что отменяла один из порочных принципов социализма – максимальный размер заработной платы, так называемый «потолок». Сокращение материальных затрат на производстве увеличивало размер заработной платы. Люди начинали проявлять инициативу, лучше работать. А Лукашенко, как и положено педагогу, быстро научился считать и докладывать. Докладывать он лю-

бил, даже тогда, когда не очень разбирался в происходящем. Приходилось поправлять, ставить его на место. Как-то, уже будучи президентом, он вспомнил, не скрывая обиды, мои слова: «Встань на колени, посмотри, что ты натворил на этой земле!» Я уже было и забыл, но потом вспомнил, что именно так и сказал ему будучи в «Городце» на уборке зерновых. Комбайны работали, как на гонках, земля была «усеяна» зерном, а молодой директор Лукашенко не удосужился внимательно посмотреть на стерню и был обескуражен по-своему, когда ему на эти потери пришлось указать. Позже убедился, что Лукашенко никогда ничего не забывает…

Говорить о том, что Александр Григорьевич вывел совхоз в передовые, о чем он повторял и повторяет, не приходится: совхоз лежал на боку, его приподняли и поставили кое-как на ноги коллективными усилиями. Дальше этого дело не пошло. Можно было работать по-другому, сделать совхоз (при такой поддержке обкома и облисполкома) если не крепким, то хотя бы зажиточным. Но, видимо, не это было в помыслах молодого директора: уже через полтора года после назначения Лукашенко признался секретарю райкома Володе Ермолицкому, что сельское хозяйство – это не его сфера, он будет заниматься политикой…

В 1989 году он вышел на выборы народных депутатов СССР в альтернативу Вячеславу Кебичу, тогда заместителю председателя Совета Министров БССР. Проиграл, но не пал духом. В 1990 году с головой ушел в новые выборы – теперь народных депутатов БССР, причем боролся на этот раз с Евсеем Корнеевым, первым зампредом облисполкома, тем самым Корнеевым, который всю область бросил в «Городец», держал там лучших спецов облагропрома, чтобы помочь Лукашенко вывести совхоз с прорыва. Теперь Лукашенко «благодарил» Корнеева за помощь, с присущей ему страстью убеждая избирателей, какой бяка этот партократ Корнеев…

Еще до выборов 1989 года с Лукашенко произошла некрасивая история: приехал в бригаду и избил абсолютно трезвого тракториста, избил жестоко – сапогами. Я узнал об этом в самый разгар предвыборной кампании, когда Лукашенко сам себя выдвинул в кандидаты. Тогда секретарь райкома

рассказал, что для этого выдвижения были две причины: во-первых, Лукашенко действительно думает, что победит заместителя председателя правительства республики, а во-вторых, таким образом надеется уйти от ответственности за рукоприкладство (как известно, тогда кандидаты в депутаты обладали статусом неприкосновенности). Прокуратура сразу же завела уголовное дело. Но времена были уже не те, члены партии состязались, кто больше и сильнее плюнет в партию. И прокурор области держал нос по ветру: а вдруг Лукашенко с его настырностью прорвется в депутаты? Дело было возбуждено, вынесено на сессию райсовета, депутатом которого был Лукашенко. Тогда на стороне Лукашенко активно выступал собкор газеты «Сельская жизнь» Анатолий Гуляев (газета была органом ЦК КПСС, авторитетным изданием). Гуляев приехал на сессию и своим авторитетом сильно поддержал Лукашенко. Тем более что и среди депутатов было немало лукашенковских коллег – руководителей хозяйств, которые и за собой знали подобные грешки. А прокурор области Николаев просто не стал передавать дело ни в республиканскую прокуратуру, ни на рассмотрение областного совета…

Уже когда шли выборы, мне несколько первых секретарей райкомов настоятельно рекомендовали надавить на Николаева с тем, чтобы делу все-таки дали ход. Но я всегда запрещал себе вмешиваться в ход следствия и судебный процесс: первый секретарь обкома партии – ведь все-таки не наместник Бога на земле, чтобы судить по своему усмотрению. Есть прокурор, пусть он за свои поступки сам и отвечает…

Теперь и в шутку, и всерьез кое-кто упрекает меня за то, что не вмешался. Кто его знает, кто его знает… История не знает сослагательного наклонения…

…Первым секретарем обкома я стал в 1982 году после гибели в автокатастрофе Виталия Викторовича Прищепчика, руководившего Могилевской областью. Прищепчик как бывший партизан пользовался большим авторитетом у Петра Мироновича Машерова. У меня никогда не возникало даже мысли, что мне придется сменить его на посту. Так получилось, что я хотел уехать из области. Вопрос уже был

не знаем мы:
Навошта нам турма без волі?
Навошта воля без турмы?

Бо ёсць адно – як ёсць другое,
Як дым з агнём,
агонь з вадою,
Які шалее без вады,
Як толькі тое дарагое,
Што страчанае назаўжды.

Як тая ноч... той ранак... дотык...
Як Бога шэпт на вуха ўпотай...
Як голас, у якога: «Хто ты?» –
Пытаюся, а мне ў адказ
Ручай між пальцамі – і праз
Глухія сцены чую глуха
Не шэпты Бога мне на вуха,
А стогны з дальніх, цёмных лёхаў,
З усіх вякоў, з усіх эпохаў,
І плач, і енк,
і крык нямы
З абдымкаў волі і турмы!

### *10*

Турма ў турме – і воля ў ёй.
Усе за кратамі ў краіне,
Дзе дух крывіцкі нема гіне,
Разняты з моваю сваёй.

Ён тут. Загнаны ў самы дальні
І цесны лёх, у змрочны кут,
Ён тут са мной у катавальні,
Са мной на допытах ён тут.

І калі кат мяне катуе,
І боль дратуе нажавы,
Крывіцкі дух мяне ратуе,

Хоць сам ад болю ледзь жывы.

Як ён Турме не даспадобы!
Яна каля яго заўжды
У чорным, нібы ў дзень жалобы,
Бурносе, нібы ў халады.

Змушае жыць каля парашы
На крапіве і лебядзе,
Не дакладзе паўмісы кашы,
На лусту хлеба абкрадзе.

Найлютаму аддасць канвою,
Каб той зламаў,
скруціў у рог!..
Ён дух... ён вольны... ён з Турмою,
Са мною б развітацца мог.

Але ў падменным і падманным,
Кайданным і закратаваным
Турэмным свеце, у лайне
Мой дух з хрыбтом пераламаным
Не пакідае ўсё ж мяне!

Ён сам абраў такую долю:
Цягнуць мяне з ярма, з дзярма, –
І ненавідзіць больш, чым Волю,
Яго
раўнівая Турма.

### *11*

Ах, Воля, Воля! Доля, Доля!
Ты ёсць – і гэтага даволі.
Няхай турма,
няхай адчай,
Усё – між пальцамі ручай...

«Не прыручай, не прыручай,

Як кошку, волю, – чую голас. –
Няхай спазнае холад, голад,
Як рысь,
што выгнана з нары,
У высь
узвые на гары,
Напоўніцца той сілай дзікай,
Што смерчы круціць і віры –
Тады яе ў кулак збяры
І бі, як дзідаю, як пікай,
У чалавечым гушчары,
Крыві не баючыся! Тая
Кроў вольная, яна – святая,
Як на Галгофе, на крыжы...

Вось дзіда.
Бі.
І не дрыжы.
Адна з іх лішняя...».

Якая?..

### *12*

І ўдарыў я! І кроў густая
Лінула з дзіды, з вастрыя!

Чыя?..

Тут здані! Тут пустая
Турма ў турме!.. «Яшчэ тут я...» –
На вастрыі змяя шыпела,
Круцілася, нібы кіпела,
Спаўзала з дзіды на кілім,
І чуў я на кіліме тым:
«З Турмой ты можаш быць нікім,
А з Воляй быць героем трэба,
Чапляцца, нібы дым, за неба,
І таяць, нібы ў небе дым,

Дзе так бязмежна, так трывожна,
Дзе свет драпежны, свет варожы,
А тут ты ў цёплай агарожы,
У чэраве маім... »

Чыім?..

### *13*

«Чыім? Чыім? Чыім?» –
Пытае верабейка ранкам
За кратамі.

– Ты быў каханкам
Турмы і волі, – кажа зноў
Той голас. – Ты прайшоў праз кроў.
Забіў. Ты выбраў паміж раем
І пеклам...
– Што?
– Мы выбіраем
Не волю ці турму. Любоў
Або нянавісць – вось наш выбар.
– Тады чыё я сэрца вырваў?
З кім біўся я?.. Каго забіў?!
– Ты ўсіх забіў, каго любіў,
Бо меў да іх любоў сляпую,
Якую ты, як дзіду тую,
Кідаў – а раптам пападзе!
І дзе твае каханкі? Дзе
Твае сябры? І дзе краіна,
Якую слепа ты любіў?
І дзе народ, які ў ёй быў,
Які, як зваць яго, забыўся?..
Збылося ўсё, а ён не збыўся!
І ўжо не збудзецца...
– Чаму?
– Бо любіць волю, як турму!

### *14*

О, Божа! Толькі аднаму
Табе
магу сказаць такое!
Народу – нельга! Ён – святое!
Яго нічым не зачапі!..

– Як хочаш піць – бяры і пі,
Іначай смагу не спатоліш, –
Той голас доўжыў. – Так і з воляй!
Як хочаш волі, дык бяры
Яе аберуч! І памры,
Але трымай яе аберуч!
Хай рыкае драпежным зверам,
Рве жылы, пырскае крывёй –
Пі кроў яе! Яна тваёй
Крывёю стане! І ніколі
Ты ўжо не зможаш
жыць без волі!..

### *15*

І піў, не знаючы спатолі,
Я кроў тваю! Кіпела ў ёй
Каханне, пырскала крывёй,
Сцякала па грудзях, якія
Я цалаваў, і па клубах,
Якія абдымаў, і ў пах
Струменіла з клубоў, і тыя,
Акругла-пругкія, літыя,
Як рыбы, то нырца давалі
Да дна жыцця, то, як дзве хвалі,
У вышыню ўздымалі, дзе
Няспраўджанае ў чарадзе
Чакае спраўджання, дзе вечны
Шлях семені, што ў небе Млечны,
А ў нетрах вулканічны шлях:
Шлях лавы, магмы, плазмы…
«Ах!..» –

Ва ўлонне!.. і глыбей!.. і болей!..
Каб Воля нарадзіла Волю!..
З крыві і болю!.. тут!.. пры мне!..

### *16*

«Турма народзіцца ў турме!» –
Пачуў я голас, у абдымку
З Турмой прачнуўшыся…
– Дзяўчынку
Ты ад мяне хацеў бы мець, –
Турма натолена спытала, –
Каб Воляй я дачку назвала,
Спялюшкала яе – і ў клець?..

### *17*

Ах, воля, воля! Што хацець,
Апроч цябе?.. Дальбог, нічога!

Калі ты не са мной – дарога
Ёсць да цябе, якой іду.

Я не люблю цябе:
ваду
не любяць –
проста п'юць, бо смага.

«Хіба табе са мною блага? –
Пытала голасам тваім
Турма. – Глядзі, які кілім
У нас для ўцехі… Я ж казала:
Ты закахаешся ў мяне…» –
«Не!..» –
«Ціха… Ціха… Праміне
Усё… На свеце ўсё мінае,
Апроч кахання, а кахае

Цябе адна Турма, яна
Адна заўжды цябе чакае
І верная табе адна
Яна… Ідзі ў яе… Ідзі…»

І да ўсявышняга суддзі
Ўзмаліў я: «Не судзі!» – і з лёхаў
Рвануўся крык з усіх эпохаў
Насустрач воклічу майму:
«Мы любім волю, як турму!
І ненавідзім так, як любім!..»

### *18*

– Вунь здані... Гэта ўчора – людзі,
Што сёння ценямі снуюць, –
Казаў мне голас. – Кружаць роем
Сексоты,
здраднікі,
героі...
Якія ў іх блукаюць мроі,
Якія жарсці ў іх жывуць?
У тым?.. У гэтым?..
Гэй, шкілет,
Ты хто?..
– Паэт.
– За што ж забілі
Цябе?..
– За тое, што паэт.
За тое, што мяне любілі.
– Любілі?
– Так.
– А хто любіў?
– Усе. І тыя, хто забіў.
Яны ў турме мне волю далі.
Турма і Воля абдымалі
Мяне – і клалі на кілім,
Шапталі на кіліме тым:
«З Турмой ты можаш быць нікім,

А з Воляй быць героем трэба,
Чапляцца, нібы дым, за неба,
І таяць, нібы ў небе дым...»
– Я гэта чуў!.. Даволі! Досыць!
– Маўчу, маўчу... Калі так просяць,
Дык калі ласка... Але дзіва:
Я здань,
я прывід столькі год,
А сёння мне чамусьці дзідай
Прабілі сэрца навылёт!
І кроў лінула… з пылу… з цвілі...
Жывая... Хоць мяне забілі
Даўно…
– А хто цябе забіў?
– Мой брат, які мяне любіў.
Турэмны кат.
– Ты быў каханкам
Турмы і Волі?
– Так... І ранкам
Яны прыйшлі і павялі...
– Куды?
– Да ката...

### *19*

– На зямлі,
На волі і ў турме дарога
Адна, – той голас доўжыў строга. –
У іх абдымках ты самога
Сябе не знойдзеш, будзеш тым,
Хто выбраў нары ці кілім...

Калі ты чуеш шэпты Бога,
Будзь з Ім – і болей ані з кім!

### *20*

«Ты будзь маім, маім, маім,
Са мной, адзінаю, адзіным...» –
Шыпела голасам змяіным

Турма...
Дык не яна на дзідзе
Круцілася?!
«Хай Воля прыйдзе!» –
Я крыкнуў…
І ўсю ноч Турма
Шаптала мне: «Яе няма...
Яе ніколі ўжо не будзе,
Бо ты прабіў ёй дзідай грудзі
І вырваў сэрца, выпіў кроў...
Цяпер ты вольны... Рык звяроў,
Крык птушак гэткі самы вольны,
Як ты, як дух твой неспатольны,
Што прагне волі зноў і зноў...»

### *21*

«Праз волю я згубіў любоў?
Праз волю загубіў паэта?..»

«І не шкадуй, згубіўшы гэта
І ўсё, што згубіш, – доўжыў дух. –
Ніякіх страт, ніякіх скрух
Не бойся! Бо нічога болей,
Чым кроў, пралітая за волю,
Няма чысцей,
няма святцей.
І кроў старых, і кроў дзяцей,
І кроў каханых волі варта!..»

### *22*

Нябесны Ойча! Як я ўпарта
Рабіў усё, што мог зрабіць,
Каб страціць волю! Не здабыць,
А страціць!.. Як так выйшла, Ойча?..
Са мной?.. З усімі?.. Ты аднойчы
Даў волю ўсім нам! Без крыві!
Праз ласку Боскую!.. «Жыві, –
Сказаў Ты ей, – у гэтым людзе,

Бо без цябе яго не будзе,
Бо без цябе ён прападзе!..»
Мы прападаем, Ойча!.. Дзе
Воля?!
Як?.. Чаму згубілі
Яе мы, Ойча?..

***23***

– Не любілі,
Таму згубілі, – мовіў дух. –
Затое кожны свой катух
Займеў... Хай цесны, але з кашай
Прасянай... З нарамі, парашай:
Паеў, паспаў… Вунь і кілім
Пасцелены… Турма на ім
Гуляе ў волю, непрыкрыта
То з гэтым цешыцца, то з тым...
Народ прасеяўся праз сіта:
Пустое ўсё ва ўсім пустым.
Няўтульна з воляй вам. Не сыта.
А дзе вам сыта? Ля карыта.
А дзе карыта? Там, дзе хлеў.

***24***

І з дальніх лёхаў даляцеў
Задушны стогн, жалобны спеў
Усіх
загнаных у скляпенні,
Тых,
хто пракляты ў пакаленнях
Праклёнам даўніны сівой:
«Бадай бы вам цягаць каменні
На дом чужы, а не на свой!»

***25***

Нябесны Ойча! Той праклён
На ўсе вякі? Такі наш кон:
Згубіць сваё і жыць з чужога?..

Такі наш лёс
па волі Бога?

Дом,
што не воляю сваёй
Пастаўлены,
стае турмой!

Турма – не сцены.
Для турмы
Не камяні сабраны. Мы.

Мы – краты і ключы астрога.

Без волі Бога быць нічога
Не можа! Волас не ўпадзе
Без волі Бога!..
На Судзе
Ахвяры злічаць, згубы, страты,
Спытаюць: «Хто ў тым вінаваты?..»
Ніхто, ніхто! Турма і каты
Не вінаваты!
Доля… Крыж...

Турмой і Воляю
паміж
Ударыў я! Паміж вякамі,
Што выціскалі волю з нас,
З якіх крывёю ліўся час
І глінай застываў, пяскамі,
Ставаў балотамі, а намі –
Ніяк,
ніяк,
          ніяк,
                    ніяк!..

І з прорвы часу быў мне знак:
Вякі рассунуліся, як

У парадзіхі дол – і ў доле
Я ўбачыў немаўлятка:
Волю!

### *26*

«Мой Ойча! Што рабіць мне з ёй?..» –
«Прыняць! Яна з тваёй крывёй!
Гадуй яе! Перахварэй
На ўсе хваробы... З ёй дурэй,
З ёй весяліся, плач... Няхай
Яна палюбіць гэты край,
Ці ўзненавідзіць, як спазнае,
Што тут салодкі вінаград,
Дзе ні садзі – не выспявае,
Тут застаецца братам
брат,
Які ў патыліцу страляе!

Няхай ці добраю, ці злой
Яна ўзрасце, але сваёй
Узгадаваная зямлёй,
Не дзічкай на пустэльнай выспе,
Не рыссю, кінутай у клець,
Якую ты ў вязніцы выснiў!..

І воля ў часе мусіць выспець –
І вы для волі ў час саспець.

Прымі яе. Гадуй. Спялі.
Няхай расце. Няхай мужае.
Зямля і воля на зямлі –
Або свая, або чужая».

### *27*

Сцяна між намі межавая –
Турэмная сцяна. Ах, Яска!
Даруй, даруй мне, калі ласка,
Сцяну! Вы, камяні ў сцяне,

Даруйце мне, даруйце мне!

Вы ў садзе камянёў маглі
Ляжаць – ды воля на зямлі
Альбо свая, альбо чужая!..

Яна ў вязніцы выжывае
У гэтым краі страт і скрух,
Але расце, але мужае,
І разам з ёй мужае дух,
Якому толькі воля трэба –
Нічога болей!..

Гэты дым,
Які чапляецца за неба
І растае высока ў ім…

*25–31 снежня 2010 года,*
*унутраная турма КДБ*

## ЛІСТЫ ДА ВОЛІ

*Вользе Някляевай*

* * *

Як плашчаніца, бел-чырвона-бела
Лунаў над лёсам сімвал Твой святы…
Калі ўдыхнуў Гасподзь душу мне ў цела –
Ёй стала Ты.

Ты, Воля беларуская, Ты, мара
Крывіцкая, Ты, крэўная мая!..
Калі Табе патрэбная ахвяра –
Ёй стану я.

*1 студзеня 2011 года*

* * *

Не ўсё дарэмна, што дарэмна…
Не ўсё брыдота, што ў брыдзе…

Па ветры,
сушы,
па вадзе,
Магчыма, нехта патаемна
Мяне да нечага вядзе.

Магчыма, шлях мой да астрога
Наўмысна скручаны ў клубок
За ніццю ніць,
за крокам крок…

Хто ж мой вядок? Ён служка Бога,
Ці служка д’ябла – мой вядок?
*2 студзеня 2011 года*

* * *

...І той, які махаў рукамі,
Нас падзываючы, і той,
Каго паклікалі мы самі –
Яны былі табе братамі,
А ты не стала ім сястрой,
І калі цемра праглынула
Апошні ўскрык братоў тваіх,
Нікога з іх ты не пачула,
Не ўбачыла нікога з іх,
Схаваўшыся ў маіх абдымках,
Дзе я люляў цябе, бярог,
Ды дзве крывінкі, дзве радзімкі
Не сцалаваў з плячэй, не змог...
*3 студзеня 2011 года*

* * *

Дождж, што ў снежні без патрэбы,
Сувязь між зямлёй і небам
Абарваў.
Сувязістку Бог забраў…

Страта ў страце…

Толькі з вока абраза,
Прад якім стаяла маці,
Ціха ўпала ў ціхай хаце
Вінаватая сляза.

*4 студзеня 2011 года*

* * *

Чыя дарога?.. Нічыя.
А на дарозе хто?.. Нікога.
І так адчуў я ласку Бога,
Нібы ў спякотны поўдзень я
Дайшоў да ручая ляснога.

І ўбачыў на дарозе цень,
Які на ёй стаяў без ценю,
І я падумаў: «Летуценні…» –
І ў цені тым заснуў на дзень,
Клубком скруціўся ў Боскай жмені.

*5 студзеня 2011 года*

* * *

Праз краты, праз калючыя драты
Апоўначы ўсміхнулася мне ты,
І я заснуў –
і праз драты,
праз краты
З тваёй усмешкай
паляцеў
дахаты.

*6 студзеня 2011 года*

* * *

Прыснілася, што я ў турме адзін
На васемнаццаць камер з прыбіральняй.
Рэальным сон быў. І турма – рэальнай.
Пад раніцу. Каля шасці гадзін.

А ў шэсць – пад'ём! І змрочны вартавы
Павёў у прыбіральню. Ледзянела
У ёй лайно. Дрыготка біла цела,
І адляталі сны ад галавы.

*7 студзеня 2011 года*

* * *

Як жыць не хочаш, дык памры.
Няма гульні. Распас.
Турэмны дворык два на тры –
І ў ім пяцёра нас.

І ў ім – з табой – усё, што меў,
І ўсе, што будзеш мець…

Квадратна-гнездавы пасеў.
Пляц.
«Кляц!»
Клець.

*8 студзеня 2011 года*

* * *

З чаго складаецца душа –
Няведама, бо ні шыша
З душы не ўзяць, а толькі з цела.

Вунь цела пашаньку арэ,
І што там з цела адляцела –
Ніхто не скажа, як памрэ.

Банальна?..
А ты як хацела?

*9 студзеня 2011 года*

* * *

Як ні спяшаеш, як ні гоніш коней,
Ні прагнеш жыць ажно да забыцця –
Не хопіць на жыццё твайго жыцця
І рэшту будзеш дажываць па сконе.

*10 студзеня 2011 года*

* * *

Калі я выйду з турмы на волю,
Не стану клясці ні лёс, ні долю,
А стану дубам у чыстым полі
Зялёным веццем шумець на волі.

І калі сядзе на веццe воран,
І калі каркне, што ён – мой вораг,
Не стану ў Бога вымольваць кары...
На тое й воран, каб жыць ды каркаць.

*11 студзеня 2011 года*

* * *

Падышоў да возера і лёг
На ваду, на хвалі галавою,
Каб заснуць – і ў сне сувоіў Бог
Тое, што ўва мне і пада мною,
Тое, што ўва мне і нада мной,
Дзе аблокі, поўныя вадою,
На якіх паклаўся галавой
Той, хто мною быў і стане мною,
Хто напяў між небам і зямлёй
Залатую нітачку сувою...

*12 студзеня 2011 года*

* * *

З нябожчыкамі параішся –
Адсюль туды не пара яшчэ...
Хоць скрозь парадкі адны:
Куды не йдзеш – упіраешся
У чатыры сцяны.

*13 студзеня 2011 года*

* * *

Паўзе па шкле, што раптам пачарнела
Начны павук.
На кожны рып напружваецца цела,
На кожны грук.

І замірае камера ў здранцвенні
На ўскрык нямы...
Тут некалі стралялі ў сутарэнні
Такіх, як мы.

*14 студзеня 2011 года*

* * *

Пераступіўшы праз парог
І ўбачыўшы, што за парогам
Няма нічога, я бярог
Усё, пра што ў сумоўі з Богам
Дамоўлена было, а Бог
За гэта ўсё
Мяне збярог.

*15 студзеня 2011 года*

* * *

Спіш яшчэ, мая ты сплюшка?
Дзве цукеркі пад падушкай
Там, дзе ты… А там, дзе я,
Дзверы з вочкам і кармушкай,
Камера дзявятая.

Да мяне прыйдзі ты ночкай,
На мяне зірні ты ў вочка
І кармушку адчыні,
Дай цукерку мне да чаю
І цукерку вертухаю,
Каб не гаўкаў дзень пры дні.

*16 студзеня 2011 года*

* * *

Так хочацца сябе парадаваць,
Пакінуць камерную клецьь,
Знайсці альтанку пад прысадамі,
Зайсці ў яе і пасядзець...

*17 студзеня 2011 года*

* * *

Збіты операм, на нары
Лёгшы ніц,
Я прыпомніў, як штукарыў
Дацкі прынц.

Тут ягоныя хістанні
Не ў цане,
Тут нямашака пытання
Быць ці не.

Калі ты каля парашы
Ніцма лёг,
Толькі б выжыць, зубы сцяўшы,
Даў бы Бог.

*18 студзеня 2011 года*

* * *

Я – ракой з берагоў,
Я – расой па траве,
Бо ў курыных багоў
Дзірачкі ў галаве…

*19 студзеня 2011 года*

* * *

Толькі снег. І на снезе сляды
У чатыры бакі. І куды
Ты ні ступіш, ні рушыш – твой шлях
Па слядах, па слядах, па слядах.

А калі завіруха на свет
Наляціць, замяце кожны след,
Нехта пойдзе, як па цаліку...
Так бывае на кожным вяку.

*20 студзеня 2011 года*

* * *

За дарогай
няма нічога,
І нічога –
сама дарога.

*21 студзеня 2011 года*

* * *

Перакінуўся праз лёс
Мост – і я па ім панёс
Тое, што на плечы ўзяў.

Мне ў дарозе месяц ззяў.
Я ішоў, не ведаў сна
Ад цямна і да цямна.

На плячах маіх сума,
А ў ёй воля ды турма.

І яшчэ, бы ў горле ком,
Лёс. Унізе. Пад мастом.

*22 студзеня 2011 года*

* * *

Не ў памеры Гамера
Ні харэй і ні ямб.
Меў на эпас намеры,
Ды, халера, аслаб.

Пасадзілі за краты –
І палюцый няма.
Не Гамер вінаваты.
Вінавата турма.

Бо ўсё цягне дадому,
Бо ў аддзел паясны
Не прыходзяць ад брому
Гамерычныя сны.

*23 студзеня 2011 года*

* * *

«Скажы, – спытала ты мяне, –
Што бачыш ты на самым дне
Жыцця?..». І я напружыў зрок
Так, што наплыў у вочы змрок,
І ў ім не ўбачыў я нічога
На дне – і нават дна самога…

*24 студзеня 2011 года*

* * *

«Ці ты хочаш, ці не хочаш, –
Цёмны вецер шэпча ночы, –
Я з табой пераначую...».

Вецер шэпча. Ноч не чуе.

«Ці ты хочаш, ці не хочаш, –
Кажа вязню ў цёмнай ночы
Каля шыбеніцы кат, –
А вяроўка акурат
Па табе...».
І ката чуе

Ноч, што з ветрам не начуе –
З вязнем хоча начаваць.

Каб хутчэй
пасцель
паслаць,
Паспяшацца ката просіць,
І плыве па ўсёй зямлі
Цемра ў цемру – і галосіць
Цёмны вецер у пятлі.

*25 студзеня 2011 года*

* * *

Сам дзіўлюся: мне – 65.
Па-салдацку ложак засцілаць
У турэмнай камеры вучуся...

Засцілаю ложак і дзіўлюся.

*26 студзеня 2011 года*

* * *

Зноў да сінечы следчы голены.
Парфума з пахам міндаля.
Мундзір з шыццём. Душа з пагонамі
І дзірачкай для медаля.

*27 студзеня 2011 года*

* * *

Пяць крокаў па камеры ўздоўж,
Упоперак – тры.

Пяць крокаў ступаю праз дождж
І тры – праз вятры.

*28 студзеня 2011 года*

* * *

Дзе свае? Дзе чужыя?
Цені ў дальнім акне.

Там, у той старане,
Дзе слупы межавыя,
Яшчэ тыя жывыя,
Хто кахае мяне.

*29 студзеня 2011 года,*
*унутраная турма КДБ*

* * *

Нечакана легла карта
Мне й табе.
Днём і ноччу ў хаце варта
КДБ.

Каля хаты цень гарбаты,
Чорны цень,
Праз які не выйсці з хаты
Ноч і дзень.

Праз яго не зойдзе ў хату
Госць, але ж:
«Сёння ў нашай хаце свята», –
Ты пяеш.

Бо запарваеш гарбату
Мне сама,
Бо ўсё ж хата – гэта хата.
Не турма.

*1 лютага 2011 года,*
*хатні арышт*

# ЗМЕНЫ СУВЯЗЯЎ

*Апавяданне*

– Я магу сказаць, што я пра вас думаю. Я не думаю пра вас нічога!

Гэта няпраўда. Ён пра мяне думае. Хутчэй за ўсё, думае нешта кепскае, таму кажа, што не думае нічога.

– Вы дарма ў гэта ўлезлі. Яно не магло ў вас выйсці, бо яно не ваша.

Бадай, так. А кажа, што нічога не думае.

– А вы ніколі нічым не сваім не займаліся, доктар?

Ён маўчыць, унурыўшыўся ў сваё, з чаго вынікае, што нічым не сваім ён не займаўся ніколі.

– І не змушалі вас?..

Маўчыць.

Што ж, сапраўды яно не магло ў мяне выйсці, бо яно не маё. Тое, што не тваё, выйсці ў цябе не можа. Гэта зразумела кожнаму ад пачатку. Але ад пачатку зразумела кожнаму і многае іншае. Напрыклад, тое, што ён памрэ і ёсць, хоць і няпэўная, верагоднасць, што паўстане па смерці перад Боскім судом. І што? Кожны баіцца суда? Ды кожны мяркуе, што ўсе сканаюць, а ён – не. Невядома як, але пазбегне смерці. Можа, праз дасягненні медыцыны.

Доктар, ці чалавек, якога лічу я доктарам, бо ён змушае мяне глынаць пігулкі, кажа:

– Гэта вам не дапаможа.

Ён не мае на ўвазе медыцыну. Хоць, можа быць, і мае, мы якраз пра яе гаварылі. Я стараюся не маўчаць, гаварыць і гаварыць з ім, каб ён услухаўся, угледзеўся ў мяне. Усвядоміў, хто я такі, і паспрыяў, каб з мяне знялі кайданкі, якімі я прышпілены да ложка.

– Трывайце.

Я трываю... Хачу толькі, каб ён зразумеў, што нельга з чалавекам, які не доктар, але пра тое, як ствараюць свае ланцужкі і ўзаемадзейнічаюць нейроны, ведае не менш за доктара, гэтак абыходзіцца.

– Я не магу спыніць актыўныя допыты.

Добра, няхай актыўныя допыты, як называюць тут катаванні, спыніць ён не можа, але ж ён доктар, ён даваў клятву Гіпакрата і абавязаны ў любым выпадку быць на маім баку. Угаварыць, упрасіць, каб з мяне знялі кайданкі, адшпілілі ад ложка, дазволілі зрабіць хоць некалькі крокаў ад сцяны да сцяны. Але ён нікога не ўгаворвае і не просіць ні аб чым нікога.

– Гэта не ў маёй кампетэнцыі.

У ягонай кампетэнцыі націскаць чырвоную кнопку над сталом – і, як толькі ён тую кнопку націскае, з'яўляецца худая, са шнарам над левым брывом медсястра. Яна моўчкі набірае ў шпрыц нейкай мярзоціны, якую падае ёй доктар, ці чалавек, якога лічу я доктарам, бо ён у белым халаце, і ён назірае, як медсястра робіць ін'екцыі, пасля якіх пачынаюцца гэткія спазмы, што я страчваю ад болю прытомнасць. Калі ачомваюся, мне спачатку выварочвае вантробы, а пасля перакручвае свядомасць: я раблюся як бы не я – і той, хто не я, нагаворвае на таго, хто я, што заўгодна. Ужо столькі я ўсяго на сябе самога нагаварыў, а ім усё мала, мала, мала, яны мяне катуюць, катуюць, катуюць – і ў іх прэтэнзіі да доктара:

– Вы змяншаеце дозы, доктар!.. Ці ён прывыкае?

Доктар дозы не змяншае, і я не прывыкаю. Да гэтага нельга прывыкнуць. Проста я не разумею, чаго яны хочуць ад мяне, і, падобна, яны ўжо самі не разумеюць гэтага.

І доктар не разумее.

– Чаго вы ўпіраецеся? Выгадная ўмова...

– Якая выгадная?

– Жыццё. Інакш вы сканаць можаце. Для актыўных допытаў ваша здароўе...

Ён пакручвае пальцамі так, што маё здароўе не выглядае прыдатным для актыўных допытаў.

Жыццё сапраўды някепская ўмова. Але чаму яе прапануюць мне яны? Хто яны такія?

– Хто яны такія, – пытаю я доктара, – каб прапаноўваць мне тое, што ўжо без іх даў Бог?

Доктар моршчыцца, ён кожны раз моршчыцца, калі я згадваю Бога. Потым дае мне пігулкі, якія заўсёды дае за паўгадзіны перад кожнай ін'екцыяй, і кажа паблажліва:

– Яны ўлада, якая ад Бога. Значыць, могуць прапанаваць тое самае.

Праз паўгадзіны – чарговы ўкол і допыт. Яны мне па гадзінах, па хвілінах распісалі актыўныя допыты, і самае страшнае – глядзець на гадзіннік, які вісіць над сталом, дзе чырвоная кнопка, і чакаць.

– Гэта мана.

Ён дастае з маленькай лядоўні, з нутра якой даносіцца нечакана моцны для такой малечы гуд, ампулу з мярзоцінай.

– Што мана?

– Што ўлада ад Бога. У аўтэнтычным тэксце Святога Пісання сказана: «Усялякая ўлада пад Богам». Гэта ўжо пры перакладзе пап*ы* прыдумалі для цароў, што ўсялякая ўлада ад Яго, а не пад Ім.

Доктар трохі думае пра нешта, потым кажа:

– Па-мойму, там усё ж сказана, што ўлада ад Бога, але гэта не важна. Бог да чалавека як да чалавека ўвогуле адносін не мае. Бо чалавек не чалавек.

Я не разумею: пра што ён?

– А хто?

– Жывёліна. У найпростым сэнсе. І пачакайце пярэчыць!.. Усё вызначаецца механізмамі ўзнаўлення, стварэння сабе падобных. Якія яны ў вас? Гэткія ж самыя, як у любой і кожнай жывёліны. Тады хто вы?..

– А вы?

– А калі вы не чалавек, – доўжыць, як не пачуўшы мяне, доктар, – дык і Бог для вас не Бог. І для іх, – ківае ён на дзверы, за якімі ў чорнай форме і чорных масках стаяць вартавыя. – Так што вы дарма з імі пра Боскі суд. Сорам, сумленне... Ваўку не сорамна зайца зжэрці.

Доктар, вядома, не жывёліна, не з ягонай фанабэрыяй жывёлінай сябе лічыць. Нешта ў ягоным жыцці не склалася, інакш не быў бы ён тут і не займаўся б тым, чым займаецца, праз што стаў звычайным чалавеканенавіснікам. Але быць проста мізантропам надта банальна, таму ён выдае сябе яшчэ й за цыніка. Філасофствуе.

Усё гэта праз тое, што ён – бязбожнік. Але быць проста бязбожнікам гэтаксама банальна, як быць проста мізан-

тропам, таму ён выдае сябе за верніка, які расчараваўся ў хрысціянстве. «Сын Бога, – тлумачыць ён прычыну свайго расчаравання, – не можа быць пакутнікам, які сам цягне свой крыж на Галгофу, каб быць раскрыжаваным за чужыя грахі. Кожны мусіць адказваць толькі за сваё».

Расчараваўшыся ў хрысціянстве, доктар спавядае індуізм, але не як рэлігію, а як філасофскую сістэму, і трыццаць першую частку трэцяй песні «Бхагавадгіты», прысвечаную рэінкарнацыі, лічыць найлепшым з усіх, якія калі-небудзь былі напісаныя, філасофскім трактатам, бо ў ім вырашаецца праблема суіснавання дабра і зла.

– Калі Бог – любоў і дабро, скуль зло і пакуты? Чаму гінуць дзеці?.. Пап*ы* з ксяндзамі выдумляюць такое, чаго самі не разумеюць, бо адказу на гэта няма ні ў Старым, ні ў Новым Запавеце. А ў ведах ёсць: рэінкарнацыя. За грахі папярэдняга жыцця ў новым жыцці спасцігае кара за іх. Усё лагічна.

У доктара ёсць якасць, уласцівая ўсім людзям з завышанай самаацэнкай: яны мяркуюць, што ніхто, хто жыў да іх, пра жыццё на гэтым свеце нічога не петрыў. Вось і пра тое, што напісана пра дабро і зло ў Ведах, доктар распавядае так, нібы сам пра гэта напісаў.

– Бог не ў дзеяннях, а ў іх прычынах.

– Ды кіньце!.. – паклаўшы на стол ампулу, націскае доктар чырвоную кнопку над сталом. – Адзін немец даўно сказаў: «Бог памёр!» Але немец гэты, як і ўсе немцы, паспяшаўся. Бог будзе жыць да той пары, пакуль мы не вызначым крыніцу нашай свядомасці.

Вось з чаго ён узяў, што ўсе немцы спяшаюцца?

– Дык ужо вызначылі. – І я чытаю яму па памяці, так у маіх мазгах ствараюць свае ланцужкі і ўзаемадзейнічаюць нейроны, што я даслоўна запамінаю тэксты, якія мне зусім без патрэбы: – «Меркаванне, што нейроны не здольныя да трансфармацыі і зменаў сувязяў аднаго з адным, абвергнутае. Працэсы зменаў сувязяў зафіксаваныя пакуль на мікраскапічнай частачцы галаўнога мозга, аднак гэтага дастаткова для разумення сутнасці нашай свядомасці».

Я думаю, што гэтага ўсё ж не дастаткова для разумення нашай свядомасці, аде доктара раздражняе не тое, што я ду-

маю, а тое, што лезу не ўсваё, таму ён злуе, б’е зверху кулаком па лядоўні – і тая змаўкае.

– Не лезце не ў сваё!.. Немцы зноў паспяшаліся – вызначанае імі нічога не вызначае! І ні на што не ўплывае! Хіба толькі на экспертаў камітэта па Нобелеўскіх прэміях можа паўплываць. – І кіўнуўшы на трох пахмурных мужчын за дзвярыма, якія адчыніла, уваходзячы, медсястра, ён кажа цішэй: – Але не на гэтых таварышаў.

Доктар ведае, што працэс змены сувязяў паміж нейронамі зафіксаваны нядаўна менавіта немцамі, а трое таварышаў, якія ўваходзяць за медсястрой у абкладзены сіняй кафляй, падобны да трупярні пакой, дзе мяне трымаюць ужо пятыя суткі, пра тое не ведаюць і ведаць не хочуць. Адзін з іх, таварыш генерал, ківае доктару, той ківае ў адказ, я ніяк не магу зразумець: што азначаюць гэтыя іх кіўкі адзін аднаму?.. – а да мяне падыходзяць вартавыя, прыціскаюць да ложка, сястра адломвае кончык ампулы, набірае шпрыц, перацягвае гумовым пасам вышэй за локаць маю правую, якая не ў кайданках, руку, робіць укол – і мяне торгае яшчэ да таго, як у кроў маю пачынае ўлівацца мярзоціна...

– Спакайней, спакайней, – назіраючы, як выціскае апошнія кроплі са шпрыца медсястра, кажа доктар. – Няма чаго торгацца. Так, каб торгацца, яшчэ не баліць.

Я ўжо ведаю, як яно будзе балець, і праз гэтае веданне пачынаю адчуваць боль яшчэ да таго, як ён торгне мяне, скруціць, праб’е ад пятаў да мазгоў, у якіх у чаканні болю панічна пачынаюць мітусіцца, парываючы ўсялякія сувязі паміж сабой і мной, нейроны.

Сястра моўчкі выходзіць і зачыняе дзверы. Двое, што ўвайшлі з генералам, старэйшы і маладзейшы, таксама глядзяць на доктара, і ён таксама ім ківае. Я не разумею, што гэта азначае, чаго доктар ківае і генералу, і гэтым двум, але ведаю, што маладзейшы сярод іх усіх насамрэч найстарэйшы. Найгалоўны, бо ён сын таго, які ўсіх іх сюды, у гэтую трупярню, да мяне пасылае.

Мяне прывезлі сюды чатыры дні таму. Уночы, з завязанымі вачыма. Была зіма, і пахаў ніякіх не адчувалася, толькі пах снегу, але, мяркуючы па цішыні, якая напоўніла вушы,

калі вывелі з машыны, прывезлі мяне ў лес. Лясная цішыня адрозная ад цішыні рачной ці палявой, я звык іх распазнаваць яшчэ ў дзяцінстве. Толькі ў дзяцінстве я не мог падумаць, пачуўшы лясную цішыню, што мяне ў ёй заб'юць, а тут падумаў, бо на першых допытах у турме, з якой сярод ночы мяне ў лес прывезлі, якраз гэтым палохалі…

Пад рукі мяне павялі прыступкамі ўніз, значыць, у лесе была нейкая будыніна – і калі развязалі вочы, я ўбачыў гэты халодна-голы, абкладзены сіняй кафляй, падобны да трупярні пакой. Пасярод яго стаяў ложак; каля адной сцяны з гадзіннікам на ёй – стол, крэсла і невялічкая лядоўня, а каля другой – штосьці падобнае на яшчэ адзін ложак, аблытаны правадамі, абстаўлены прыборамі ды прыстасаваннямі, адно з якіх было з гумовай камерай, як для мяча, якім гулялі мы ў дзяцінстве ў футбол. Я вырашыў, што гэта нешта для таго, каб дыхаць, і не памыліўся: аблытаны правадамі, абстаўлены прыборамі ды прыстасаваннямі ложак аказаўся апаратам для штучнай падтрымкі жыцця.

Яны не давалі тым, каго сюды прывозілі, памерці… Калі нехта не вытрымліваў на ложку пасярод пакою, яго перакладвалі на ложак каля сцяны. А потым зноў клалі на ложак пасярод пакою.

Госпадзі, што яны зробяць са мной?..

– У вас няма выбару... – кажа ў каторы раз адно і тое генерал. – Вы называеце краіны, канкрэтныя ведамствы і канкрэтных людзей, якія дапамагалі вам рыхтаваць дзяржаўны пераварот, мы ўводзім прэпарат – і болю не будзе.

Пераварот, прэпарат… Мне ўжо баліць, а ён: болю не будзе. Што значыць не будзе?.. Яны ўколяць мне нешта такое, ад чаго я сканаю?

– Я не рыхтаваў дзяржаўны пераварот.

– Вы называеце краіны, канкрэтныя ведамствы і канкрэтных людзей…

Доктар кажа: «У кожнага чалавека свой парог болю, які ён можа вытрываць. За гэтым парогам – смерць. Спыняецца ад болю сэрца». Ён мог гэтага й не казаць, я кожны раз здзіўляюся, калі боль пачынае спадаць, што сэрца не разарвалася. Я навыдумляў процьму краінаў, ведамстваў і людзей, якія мне

дапамагалі, але гэта не тыя краіны, не тыя ведамствы і не тыя людзі – ім патрэбныя іншыя. Я пытаю: «Якія?..» – а яны не кажуць. Бо самі не ведаюць, якія? Яны ўвогуле, падобна, не ведаюць, чаго хоча ад мяне чалавек, які імі кіруе і пасылае іх да мяне.

– У кожнага чалавека свой парог болю, які ён можа вытрываць, за гэтым парогам смерць, ад болю спыняецца сэрца, – паўтарае словы доктара сын таго чалавека, наймаладзейшы з гэтых трох, якіх паслаў ён да мяне. – І паварочваецца да доктара. – Так, доктар?

Доктар у каторы раз ківае: так.

Першы спазм!.. Госпадзі, дай мне не вытрываць, дай мне сканаць!..

Боль невыносны… і доўжыцца, здаецца, з дня, у які я нарадзіўся, і калі гэткія мукі чакаюць нас па смерці за грахі нашы, дык трэба ці не грашыць, ці не паміраць, а я паміраю, пачуў мяне Гасподзь… пачуў, але не прыняў, я кепскі вернік, ды не вернік я ніякі, бо ўвесь у спакусах, праз якія і ўлез у тое, што не магло ў мяне выйсці, бо яно не маё… і Гасподзь карае, пакідае мяне жыць у спазмах, у болю, які торгае, скручвае, працінае да мазгоў, у якіх панічна мітусяцца, парываючы ўсялякія сувязі паміж сабой і мной, нейроны… і калі я ачомваюся, іх выварочвае з мяне, я ванітую імі, нейронамі, маімі мазгамі, у якіх перакручваецца свядомасць: я раблюся як бы не я – і той, хто не я, на таго, хто я, нешта ўсё нагаворвае, нагаворвае, нагаворвае, а старэйшы з тых двух, што прыйшлі з генералам, запісвае, запісвае, запісвае на дыктафон і ў нататнік…

– Моцны вы… – кажа доктар, калі генерал і двое з ім выходзяць. – Ваш бацька ў якім веку памёр?

Я не помню, у якім веку памёр бацька.

– А маці?

І пра маці не помню… Я не помню нават пра сябе… Але помню пра доктара, якому спрабую сказаць: «Няхай вы не можаце гэтага спыніць, але…»

Мне цяжка прамаўляць не таму, што не хочуць слухацца язык і губы, а таму, што ў мазгах парваныя сувязі паміж ней-

ронамі – і думкі тыкаюцца сляпымі кацянятамі, шукаючы тыя, якія засталіся цэлымі, ланцужкі.

– Што «але»?

– Вы маглі б у гэтым не ўдзельнічаць.

Доктар глядзіць на мяне так, нібы тое, што я сказаў, яго надта здзівіла.

– Мы ж гаварылі з вамі пра індуізм, пра карму, пра рэінкарнацыю…

Так, мы гаварылі з ім пра індуізм, пра карму, пра рэінкарнацыю, пра змены сувязяў паміж нейронамі, мы пра многае гаварылі – і што з таго? Мяне катуюць, а ён вядзе гаворкі пра індуізм! Пра закон кармы, па якім калі ты нарадзіўся катам, дык найпершы твой абавязак – як мага лепей адсякаць галовы.

Хай нават так, хоць яно не зусім так, але ж ён не кат, а доктар. Менавіта гэта я хачу яму давесці, на што ён кажа: «Магчыма, у папярэднім жыцці я быў катам, выканаў карму ката і стаў доктарам».

Ён не выканаў карму ката і не стаў доктарам. Дактары не катуюць.

– Хіба я вас катую?

– А хто?

Ён ківае за дзверы…

– А мярзоціну хто мне ўшпільвае?

– Сястра. Кожны мусіць адказваць толькі за сваё.

Ён, значыць, адказвае за тое, што націскае чырвоную кнопку.

Тады за што адказвае генерал? І той, хто з ім? І сын таго, які ўсіх іх да мяне пасылае?..

Я не задаю гэтыя пытанні доктару, бо яны з тых, якіх ён не чуе, і сам пытае: «Я выконваю карму доктара, а вы – чыю?..»

Ён хоча, каб я толькі пра тое й думаў, што ўзяўся не за сваё.

Я думаю, што карму доктара ён выконвае не так, як трэба, але мала што я думаю… Я нават не ведаю, думаю я ўвогуле ці не?

Боль не можа думаць – проста баліць.

– Зрэшты, – кажа доктар, не дачакаўшыся адказу на тое, чыю карму я выконваю, – вы можаце гэтага й не ведаць. Таму й нагаворваеце на сябе абы што.

– Кожны з нас, нічога пра сябе не ведаючы, абы што на сябе нагаворвае.

Доктар маўчыць хвіліну, ківае галавой:

– Бадай, так. Хоць галоўнае пра сябе ведаюць усе.

Я не пытаю, што галоўнае пра сябе ўсе ведаюць – ён мне пра гэта ўжо казаў. «Націсні на любога – і з любога вылезе кавалак дзярма. Больш нічога». Калі я спрабую пярэчыць: «Дзярмо з сябе кожны мусіць выціскаць сам…» – ён кожны раз перапыняе:

– Мяне цікавіце не вы, а ваш боль.

Я намагаюся яго зразумець.

Ён кажа: «Усё вырашаецца тым, баліць табе ці не баліць, а калі баліць, дык як?» – і ў хвіліны, калі мне не баліць, я згодны прызнаць, што ў ягоных развагах ёсць праўда: усім нам шкада, калі нехта, рыба ці птушка, гіне ці нешта, кветка ці мова, знікае, але некаму – баліць, некаму – не.

– Вас цікавіць, ці баліць мне тое, праз што мяне прыкавалі да ложка ў вашай трупярні?

– Не. – Ён усміхаецца, усмешка ў яго пагардлівая. – Што вам можа балець? Свабода? Дэмакратыя?.. Такіх органаў у чалавеку няма.

Да болю прывыкнуць немагчыма, а да цынізму – можна. Мусібыць, я прывыкаю, бо пытаю: «А вам карма баліць ці рэінкарнацыя?..» – і ён, як заўсёды, не чуючы таго, чаго не хоча чуць, доўжыць: «Ёсць шлункі, ныркі, залозы. Яшчэ дзве-тры ін’екцыі – і вы кінеце гульні ў тое, у што вам не трэба гуляць, каб выжыць».

– Я помню, што ўва мне ёсць нешта яшчэ, апроч шлункаў.

– Забудзецеся. Як у новым жыцці забываюцца на жыццё папярэдняе. Чаму, дарэчы, мы нічога з яго не помнім? У гэтым палягала асноўнае пытанне, звязанае з ідэяй рэінкарнацыі. Брахманы знайшлі адказ: мы ўсё забываем праз боль народзінаў. Так напісана ў ведах. Не народзіны, а боль стварае новага ці як бы новага, бо ён ужо быў, чалавека.

Ён, можа, думае, што стварае ўва мне новага чалавека?..

– Вы, можа, думаеце, што ствараеце ўва мне новага чалавека, доктар?

– У пэўным сэнсе… Калі мы з’яўляемся ў свет праз боль, значыць, што?..

Ён робіць паўзу, чакае, пакуль нейроны ў маіх мазгах наладзяць такія сувязі, праз якія я здолею зразумець, дзеля чаго мы з’яўляемся ў свет праз боль, а я гляджу на гадзіннік, абедзьве стрэлкі на якім няўмольна набліжаюцца да рыскі болю, і доктар, пачакаўшы, сканчае:

– Значыць, боль – шлях да ісціны. Нездарма, калі баліць, крычаць.

– Што значыць нездарма?

– Нездарма, бо бачаць ісціну.

– Яна такая страшная?

– Яна такая простая.

Я, дарэчы, не помню, ці крычу. Не чую сябе праз боль.

– Я крычу?

– Яшчэ як… – зірнуўшы на гадзіннік, ідзе да лядоўні, каб узяць мярзоціну, доктар, а я кажу:

– Вы не далі мне пігулкі.

Ён спыняецца.

– Вось бачыце: вы ўжо нешта зразумелі. Нарэшце.

– Што?..

Доктар не паспявае растлумачыць мне, што я нарэшце зразумеў, бо насцеж расчыняюцца дзверы, у якіх з’яўляюцца трое – і адзін, генерал, кідае з парога:

– Доктар, вы гатовы?

Да ін’екцыі паўгадзіны.

– Яшчэ паўгадзіны… – разгублена глядзіць на генерала і тых двух, што ўвайшлі з ім, доктар, а сын таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, кажа адрывіста:

– Давайце раней. Каб не прывыкаў.

Яму ўсё здаецца, што я прывыкаю. Няхай бы сам прывыкнуць паспрабаваў.

– Але я не… – пачынае і змаўкае, наткнуўшыся на позірк генерала, доктар, падыходзіць да стала, стаўшы каля якога спінай да ўсіх, націскае чырвоную кнопку… раз… другі… трэці… а сястра, якая звычайна з’яўляецца імгненна, не

йдзе… не йдзе… не йдзе… і адзін з вартавых вінавата кажа ў дзвярах: «Яе няма. Выйшла, будзе праз паўгадзіны».

Шыя генерала над белым каўнерыкам кашулі пачынае наліваецца чырванню.

– Як няма?.. Куды выйшла?.. Тут закрыты аб'ект ці раённая паліклініка? – наступае ён на вартавых, потым рэзка паварочваецца і кідае доктару: – Значыць, сам!

Доктар таксама паварочваецца:

– Я не…

І зноў не дагаворвае.

– Што не?.. Калоць не ўмееш?.. – з пагрозлівым здзіўленнем пытае генерал, а той, які павінаваціўся, вартавы, прапануе:

– Давайце я… Я ўмею, нас вучылі.

Генералу, счырванеламу праз тое, што начальства прывёў не на закрыты аб'ект, а ў раённую паліклініку, праз што ў яго могуць быць праблемы, хочацца ўсё найхутчэй скончыць, ён згодна ківае: «Ну, давай ты, калі вучылі…» – і вартавы йдзе да майго ложка, але сын таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, раптам кажа: «Не! Кожны адказвае за сваё!» – і ва ўпор глядзіць на доктара, нібы падслухаўшы ўсё, пра што мы з доктарам гаварылі.

Можа, і слухаў… Яны і ў раённай паліклініцы слухаюць.

Доўгага позірку ва ўпор доктар не вытрымлівае, дастае з лядоўні ампулу з мярзоцінай, кладзе на стол, зноў націскае чырвоную кнопку… раз… другі… трэці… і рука, якой ён кнопку націскае, пачынае дрыжаць… а сястра не йдзе, не йдзе, не йдзе – і дзіўная рэч: мне хочацца, каб яна прыйшла, хоць я павінен хацець іншага, бо што мне гэты доктар, цынік, які даводзіў тут сваю выключнасць, а зараз яго ткнуць пысай у ягонае ж дзярмо, пакажуць, чаго ён варты, давядуць, што нічога ён не значыць, але вось жа я нешта для яго значу, калі ён хоча паказаць мне – бо каму яшчэ? – што не такі, як яны, што адказвае толькі за чырвоную кнопку, якую цісне, цісне, цісне, пакуль трэці з тых, што ўвайшлі, найстарэйшы з іх не крычыць: «Рабі, што кажуць!» – а генерал, якому перад сынам таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, толькі бунту ў раённай паліклініцы не хапала, падыходзіць да стала, бярэ ампулу і

падае яе доктару: «Ці ты колеш гэта яму, ці ён, – ківае генерал на вартаваго, які вызваўся зрабіць ін'екцыю, – коле гэта табе».

Генерал стаіць спінай да мяне, але нават па спіне генеральскай відаць, што чакае доктара, калі ён не возьме ампулу: вунь як вартавыя наструніліся! Доктар стаіць да мяне тварам – і па твары ягоным не скажаш, што ён гатовы зрабіць крок на шляху да ісціны, якая спасцігаецца праз боль. Такога развіцця падзей ён не чакаў, у мазгах ягоных рвуцца, лопаюцца звычныя сувязі паміж нейронамі, але чамусьці я не адчуваю праз гэта ніякага задавальнення, зласлівай радасці: вось табе, маўляў, трыццаць першая частка трэцяй песні «Бхагавадгіты»! Мне нават шкада доктара, бо якім бы ён ні быў цынікам, ён адзіны, хто адчувае за тое, што тут робіцца, хоць нейкі сорам… ці, магчыма, не сорам, нешта іншае, я не ведаю, што ў такіх выпадках адчуваюць цынікі… але нешта ж ён адчувае, калі спрабуе захаваць хоць рэшткі годнасці, няхай не падобна, што гэта яму ўдасца, хіба пасля рэінкарнацыі, у іншым жыцці… а можа, удасца і ў гэтым, бо ў дзверы ўскоквае запыханая медсястра: «Выбачайце!..» – і бярэ з рук генерала ампулу.

Пэўна, праз тое, што доктар не даў мне пігулкі, боль гэтым разам быў такі, што спынілася сэрца. «Вось бачыце: вы ўжо нешта зразумелі... нарэшце…» – чуўся ў снежнай лясной цішыні, не падобнай ні на цішыню рачную, ні на цішуню лугавую, нечы знаёмы голас, і мне ўсё хацелася ўспомніць, чый?.. і карцела дазнацца ў яго: што ж такое я нарэшце зрузумеў? – але наўрад ці пра гэта я калі-небудзь дазнаюся, бо, ачуняўшы на аблытаным правадамі ложку, дыхаючы праз гумовую, як для мяча, якім гуляў у дзяцінстве, камеру, убачыў у халодна-голым, абкладзеным сіняй кафляй пакоі зусім іншага, незнаёмага мне чалавека, якога праз тое, што быў ён у белым халаце, можна было прыняць за доктара.

*12–21 лютага 2011 года,*
*Мінск, хатні арышт*

## «Я НЕ ПРЫМУ АНІЯКАГА ПРЫСУДУ, АПРОЧ АПРАЎДАННЯ!»

*Апошняе слова ў судзе*

Следчы па маёй справе, калі скончыліся допыты і можна было размаўляць больш-менш па-чалавечы, распавёў мне гісторыю пра свайго маленькага сына.

Ягоны сын ходзіць у дзіцячы садок. Бацька забірае яго, вядзе дахаты і, як звычайна, пытае: «Што сёння рабіў, што было цікавага?» «Па-ангельску размаўляць вучыліся!» – падскокваючы, адказвае сын. «Ды ну! – здзіўляецца бацька. – І якія словы ты вывучыў?» «Дзякуй і да пабачэння!» – адказвае беларусу-бацьку беларус-сын.

Следчы Камітэта дзяржаўнай бяспекі, падпалкоўнік юстыцыі, распавёў гэтую гісторыю як вясёлую – і доўга думаў, калі я спытаў: «Вы хоць разумееце, што вы мне расказалі?..»

Я хачу, каб мы думалі хутчэй. Бо часу, каб падумаць і зразумець, а галоўнае, паспець нешта зрабіць, не засталося. Амаль.

Калі маленькі беларус, прамаўляючы словы на роднай мове, мяркуе, што ён прамаўляе іх па-замежнаму, гэта нацыянальная катастрофа! І яе ўжо немагчыма прадухіліць адукацыйнымі, культуралагічнымі высілкамі. Захаваць нас як нацыю могуць толькі неадкладныя палітычныя рашэнні! Вось найпершая прычына, па якой я, паэт, апынуўся ў палітыцы. Скарыстаўшы перад тым усе, якія толькі можна скарыстаць, іншыя магчымасці. Пісаў беларускія вершы, паэмы, песні, апавяданні, аповесці, працаваў у часопісах, у газетах, на тэлебачанні, у Саюзе пісьменнікаў, вёў перамовы з уладай, угаворваў яе стаць беларускай – нічога не дапамагала! Нідзе і нічога не вырашалася! Я ўгаворваю, а мне адказваюць, што па-беларуску нельга сказаць нічога вялікага! Толькі па-руску, па-кітайску і па-ангельску. І хто мне такое кажа? Кітайскі імператар? Рускі цар? Ангельская каралева? Не, беларускі прэзідэнт. Тады «дзякуй і да пабачэння»!

Вось мы і пабачыліся на прэзідэнцкіх выбарах. Вынік іх – гэты суд.

Зразумела, на гэтым судзе я не толькі праз тое, што адстойваю беларускую Беларусь. Я тут найперш праз тое, што не прымаю Беларусь дыктатарскую, адстойваючы Беларусь дэмакратычную. Але зноў жа: дэмакратыю нельга збудаваць ні на чым. Неабходны падмурак – і ён у нас ёсць. Гэта наша гісторыя, у якой быў парламент, які выбіраў тых, хто кіраваў дзяржавай. Гэта наша мова, на якой быў напісаны Статут Вялікага Княства Літоўскага – канстытуцыя, што стала ўзорам для пазнейшых дэмакратычных канстытуцый Еўропы і свету. Гэта наша культура, якая дала Усходняй Еўропе першаасветную постаць Францыска Скарыны. Вось тыя глыбы, на якіх павінна паўстаць і паўстане дэмакратычная Беларусь, змёўшы з гэтага падмурку друз і пыл дыктатуры.

Я на гэтым судзе праз тое, што хацеў, каб змесці смецце дыктатуры дапамаглі нам суседзі з усходу і захаду, Расія і Еўразвяз. Я хацеў, каб яны паразумеліся ў гэтым – і не цягнулі Беларусь, як коўдру, кожны на сябе. Каб яны ўбачылі Беларусь не паміж сабой, а побач з імі, з імі разам. Гэтаксама як і Украіну. Толькі ў такім выпадку можа паўстаць адзіная Еўропа ад Альпаў да Урала – тая геапалітычная прастора, якую мусім мы стварыць, каб захаваць еўрапейскую цывілізацыю.

Еўрапейская цывілізацыя – кангламерат нацыянальных культур, нацыянальных ідэй, энергетыкай якіх былі створаныя магутныя нацыянальныя эканомікі, збудаваныя моцныя дзяржавы, што склалі Еўразвяз. Прадуктыўная ідэя здольная выпрацаваць больш энергіі, чым любая АЭС. Так было і ёсць і ў Еўропе, і ў Амерыцы, і ва ўсім свеце. Амерыканцы не мелі нічога, каб стаць амерыканцамі, але яны, займеўшы незалежнасць, стварылі нацыянальную культуру, сфарміравалі нацыянальную ідэю – і сталі амерыканцамі. У нас жа, каб стаць беларусамі, было ўсё, а мы, займеўшы незалежнасць, нічым з таго, што назапасілі і пакінулі нам продкі, не скарысталіся – і нікім не сталі. Ці, як горда заявіў той, хто называе сябе беларускім прэзідэнтам, сталі «рускімі са знакам якасці». Што гэта за нацыя такая?..

Такое «вырашэнне нацыянальнага пытання» зняважлівае як для рускіх, так і для беларусаў, з якімі дыктатура гуляе ў гульню пад назваю «любімы народ і любімы правадыр». Гэта любімая гульня любой дыктатуры. Яна – інструмент маніпуляцый масавай свядомасцю, народнай воляй. Яна – мана, у той час як сапраўдная любоў ёсць праўда. Менавіта так – праз праўду – выявіў сваю любоў да людзей Бог, які даў нам маральныя законы.

Усвядомленая нацыянальная ідэя – гэта ўсвядомленая адказнасць перад тым і перад тымі, да чаго і да каго ты прыналежыш. Яна дазваляе ўзняць узровень маральных патрабаванняў да кожнага грамадзяніна і грамадства ў цэлым. Яна вымагае сказаць няхай горкую, але праўду. Я казаў, і кажу, і буду казаць: той, хто паступаецца годнасцю і свабодай, не заслугоўвае павагі. Гэты маральны імператыў універсальны, аднолькава справядлівы як у дачыненні да асобнага чалавека, гэтак і ў дачыненні да народа.

Я ўдзячны беларусам, якія 19 снежня выйшлі на Плошчу – і захавалі годнасць нацыі.

Нацыю час ратаваць. Да пагрозы знікнення мовы і культуры дадалася пагроза абрушэння эканомікі, а праз тое – пагроза страты незалежнасці. Неабходныя неадкладныя дзеянні, каб гэтага пазбегнуць.

Найгоршае з усяго, што ў такой сітуацыі можна зрабіць, – шукаць вінаватых. Паглыбляць раскол грамадства. А менавіта гэтым праз паказальныя суды над сваімі палітычнымі апанентамі якраз і займаецца ўлада.

Я прапаную іншае. Улада адмаўляецца ад рэпрэсій – мы адмаўляемся ад неадкладнага патрабавання новых прэзідэнцкіх выбараў. Вызваляюцца ўсе палітычныя зняволеныя – і з удзелам прадстаўнікоў улады і ўсіх апазіцыйных партый, рухаў, аб'яднанняў ствараецца Камітэт нацыянальнага выратавання. Самастойна ўлада выправіць сітуацыю няздольная. Яна рухне разам з абвалам эканомікі, але нельга дапусціць, каб пад яе абломкамі была пахаваная незалежная Беларусь.

Трагізм сітуацыі, у якой знаходзіцца наша грамадства, выяўлены ў драме «Тутэйшыя» геніяльнага Янкі Купалы

яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя. А яшчэ раней Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, імем якога названая вуліца, на якой мяне судзяць, прадбачыў нават гэты суд. «Расследавав дзела саабразна ўказу всеміласцівейшага гасудара марта 69 дня паследававшага і прымяняясь к Статуту літоўскаму раздела 5-га, параграфа 18-га, свідзецелям, каторыя відзелі драку і не разнялі дзерушчыхся – па 10 лоз на дыване і па 10 рублёў штрафа в пользу врэменнага прысутствія; всем прочым, каторыя не відзелі дракі, за то, што не відзелі, а цем самым і не маглі разняць дзерушчыхся, назначается па 5 лоз на дыване і па 5 рублёў штрафу в пользу врэменнага прысутствія!»

Хіба яно не так?.. Хіба гэтая фантасмагорыя, гэты суд у вар'ятні, у якую ўсіх нас – каго суддзёй, каго пракурорам, каго падсудным – загнала ўлада, не рэальнасць?.. Хіба «врэменнае прысутствіе» судзіць мяне не за тое, што я «не відзеў дракі, а цем самым і не мог разняць дзерушчыхся»?

Усім вядома: у вар'ятню лёгка патрапіць – складана з яе выйсці. Асабліва калі табе даводзяць, што ты сам зрабіў выбар: прагаласаваў за тое, каб жыць у вар'ятні. Але, калі мы нармальныя людзі, калі беларус – гэта не дыягназ, мы павінны выйсці са шпіталю для духоўна хворых. Разам з дактарамі і санітарамі.

Мы не дачакаемся змен, калі не пачнём мяняцца.

Я не хачу сказаць, што нехта, суддзя ці пракурор, не перажываюць праз тое, што знікае наша мова, культура, што Беларусь нібыта ёсць – і ў той жа час яе нібы няма. Я не сцвярджаю, што нікому, апроч мяне, яно не баліць. Баліць. Розніца ў тым, як? Розніца толькі ва ўзроўні болю.

Мне гэты боль трываць стала немагчыма. Таму я прыйшоў у палітыку, таму пайшоў на выбары – таму я на гэтым судзе.

Гэта палітычны суд. За што мяне судзяць?..

Мяне судзяць за тое, што я паспрабаваў стаць прэзідэнтам. Я гатовы прызнаць віну ў тым, што прэзідэнтам не стаў.

Мяне судзяць за тое, што я дамагаўся свабодных, справядлівых, дэмакратычных выбараў. Я гатовы прызнаць віну ў тым, што свабодных, справядлівых, дэмакратычных выбараў дамагчыся не змог.

Мяне судзяць за Плошчу. Я гатовы прызнаць віну ў тым, што не дайшоў да яе. Калі прысуд мне будзе вынесены за гэта, я прыму яго. Ні ў чым іншым я не вінаваты і не прыму ні за што іншае аніякага прысуду, апроч апраўдання!

Дзякуй і да пабачэння!

*18 траўня 2011 года*



АНДРЭЙ ПАЧОБУТ / ANDRZEJ POCZOBUT /
АНДРЕЙ ПОЧОБУТ

Нарадзіўся 16 красавіка 1973 года ў мястэчку Вялікая Бераставіца Гродзенскай вобласці. Скончыў юрыдычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

Аўтар кнігі «System Białoruś» (Варшава, 2013).

Журналіст, грамадскі дзеяч.

Працаваў у газетах «День», «Пагоня», «Местное время», «Głos z-nad Niemna». Абіраўся намеснікам старшыні Саюза палякаў на Беларусі. Узначальваў «Magazyn Polski na uchodzstwe». Уласны карэспандэнт польскай «Gazety Wyborczej» (з 2006 года).

Быў арыштаваны 6 красавіка 2011 года. Абвінавачваўся ў паклёпе на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і ў зняважэ прэзідэнта. 5 ліпеня 2011 года асуджаны Кастрычніцкім судом г. Гродна на 3 гады зняволення з адтэрміноўкай на два гады. 21 чэрвеня 2012 года зноў арыштаваны па абвінавачванні ў паклёпе на прэзідэнта; вызвалены 30 чэрвеня 2012 года пад падпіску аб нявыездзе. 23 верасня 2013 года вызвалены ад адбыцця пакарання. Справа аб паклёпе на прэзідэнта была закрыта за адсутнасцю складу злачынства.

Тэкст для Анталогіі прадстаўлены аўтарам. Урыўкі з яго друкаваліся на старонках «Gazety Wyborczej».

He was born on April 16, 1973 in the town of Berestovitsa in the Grodno region. He graduated from the Faculty of Law of the Grodno Yanka Kupala State University.

He was the author of the book *System Białoruś* (Warsaw, 2013).

Journalist and public figure.

He worked in the newspapers *Den, Pogonia, Mestnoe vremia, Głos z-nad Niemna*. He was elected deputy chairman of the Union of Poles in Belarus. Headed *Magazyn Polski na uchodzstwe*. He is a special correspondent of the Polish *Gazeta Wyborcza* (since 2006).

He was arrested on April 6, 2011. Andrei was accused of defaming and insulting the President of the Republic of Belarus. On July 5, 2011 the Grodno October district Court sentenced him to 3 years' imprisonment, suspended for two years. On June 21, 2012 he was arrested on charges of defaming the President and released on June 30, 2012 on his own recognizance. On September 23, 2013 he was released from serving a sentence. Defamation case was then closed in absence of formal components of crime.

The text for the Anthology was presented by the author. Fragments from it were published in the *Gazeta Wyborcza*.

Ха-ха-ха, а Порфирий – конечно же, бес,
Бахромой от кальсон кучерявится,
Словно алая кромка небес,
Пальцы греет крылатый расстрига,
На закат – сто аршин кумачу...
Все пройдет – революция грянет
Глупой дыркой в старушечьем лбу!
Серп и молот, доска гробовая
власть имеют, а кто-то – забил,
Так зачем же щемящие душу
эти черные двери открыл?
…
Так зачем же щемящие душу
эти черные двери открыл?
«Это я тогда старуху-чиновницу и сестру её Лизавету
топором убил и ограбил».

*Декабрь 1994 года*

***

Беру спичку и поджигаю сны.
Дым от них – мне в усладу.
В награду цветные фильмы.
Я вытащил крик звездопада
Из пачки оранжевых слов.
А день – поток туда-сюда,
Побег зверья из цирка шапито.
Можно выйти во двор и напиться...
Тяну вместо зайца шершавый язык.
Поэт без грошей – жалкая птица,
поэт без денег вовсе ничто.
Позади на сто верст – пустота,
Рок-судьба, а ну ее на хрен!
Я просыпаюсь от рева машин,
Я ищу под малинами дзэн,
Кроме эго боюсь только смерти.

*1991*

*Зое Ковалевой посвящается*

Так сотканы судьба и время
По воле бездны, пьяной от потерь,
Немой послушник Вольных сцен
Откроет в зазеркалье двери...
Ты выйдешь в плен слепого солнца,
Кортеж из мокрых обшлагов,
Прольется дождь и сонные березы
Зааплодируют остатками листов –
Не листьев,
Шаги последние под небом обметенным,
Берущие трамвай и гулкие, как звон,
В них маятник хрипит
И циферблат устроен,
Незримо точен стрелок хоровод,
Деления судьбы отметит и
Опускает в столбик ртуть –
Тому и быть, проржавленная суть
Не стоит уверений лишних, право,
С другим обманом встретится она,
Стереть слезу пуховкой с неба
И тихо молвить вслед: «проклятая война...»
Пристанища незримых – не жалейте,
Вина причастия иль дань минувших лет
Осталась лебеда, остался дом на месте,
Остался хрип замотанных кассет,
Плешивые стада мечтающих о рае
И претворенье райской манны в желчь.
Их мир устал, тепла им не сберечь –
запрятан облик в туше чемоданной,
Который год мигрируя на юг.
…
Застыли гости в бурном танце,
Их намерения – чисты,
Казалось, жизнь – игра без правил,
Но без Финала нет игры.
И пьеса без стыда закончится рулеткой,

Что катит шарик в лузу, наугад,
зеро – и в сердце бьет крокетный молот –
наш камень станет вершием угла.
Смешают грим и слезы на палитрах
В декоре странном, маске восковой.
В поникших пальцах теплится огарок,
Нагие губы потеряли зной,
И безучастно в ногу пропиликал
Скупой оркестрик, словно пилигрим,
В снегу блестят затоптанные крылья,
Страницы неначертанные книг,
Пристанища незримых не жалейте,
Не надо плакать – встретимся когда?
Мы узники в решетках зазеркалья
И выхода не знаем дня.

***

Я встретил вас у врат пивной...
Глаза, застиранные пятна,
Невнятные слова картавя,
Два траурных крыла.
Твой падший ангел был давно не брит.
И верой, брошенной под ноги,
Упал денницею зари.
И разговор наш бестолковый,
Казалось, рая не вмещал:
«Привет, Каин, где брат твой Авель?
Не помню, это не моя работа.
Вариации Брамса звучали в Катыни,
А вот это американская штурмовая пехота».
И быстро сгорел твой пластмассовый мир
В немом кулаке, а на стойке – пятно.
И пена стекает с оплавленных губ,
Как будто поезд в ничто, моряк в никуда,
Сидел забытый ангел у врат пивной.

Нарадзіўся 30 снежня 1976 года ў г. Орша Віцебскай вобласці.

Скончыў геаграфічны факультэт па спецыяльнасці «Геалогія» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Палітык, грамадскі дзеяч, публіцыст.

Працаваў журналістам у беларускім друку.

Абіраўся кіраўніком Маладога фронту (1997–2004), намеснікам старшыні партыі «Беларускі народны фронт» (1999–2003), сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

Быў асуджаны на тры гады абмежавання волі («хімія») 31 траўня 2005 года Першамайскім раённым судом г. Мінска за арганізацыю масавых пратэстаў на Кастрычніцкай плошчы супраць змянення Канстытуцыі з мэтай зняцця абмежаванняў па абранні на прэзідэнцкую пасаду. Вызвалены ўмоўна-датэрмінова 22 траўня 2007 года.

Зноў арыштаваны 19 снежня 2010 года за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў і змешчаны ў следчы ізалятар Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, так званую «амерыканку». 16 траўня 2011 года асуджаны на тры гады абмежавання волі («хімія»).

Адбываў прысуд у в. Куплін Брэсцкай вобласці. Вызвалены 19 кастрычніка 2013 года.

Лаўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2007), прэміі «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава (2008).

Тэксты для Анталогіі прадстаўлены са згоды аўтара яго маці сп. Таццянай Севярынец.

He was born on December 30, 1976 in the town of Orsha (Vitebsk region).

He graduated from the Faculty of Geography of the Belarusian State University, specialty geology.

Paval is a politician, social activist and publicist.

He worked as a journalist for the Belarusian press.

He was elected chairman of *Molodoy Front (Young Front)* (1997–2004), vice-chairman of the Belarusian Popular Front Party (1999–2003), co-chair of the organizing committee of the Belarusian Christian Democracy.

He was sentenced to 3 years' imprisonment ("Chemistry") on May 31, 2005 by the Court of the Minsk Pervomaiskii District for organizing mass protests on October Square against changing the Constitution in order to remove the restrictions concerning the election of the president. He was released conditionally early on May 22, 2007.

He was arrested on December 19, 2010 for participating in peaceful protests after the presidential elections and placed in the detention center of the State Security Committee of the Republic of Belarus, the so-called "Americanka". On May 16, 2011 Paval was sentenced to 3 years' imprisonment ("Chemistry").

He was serving his sentence in the village of Kuplon (Brest region). He was released on October 19, 2013.

Laureate of the Ales Adamovich award established by the Belarusian PEN Center (2007) and the Vasil Bykau award "For Freedom of Thought" (2008).

Texts for the Anthology were submitted by his mother Tatsiana Seviarynets by the author's consent.

# САМ-НАСАМ З БОГАМ

Калі Бог хоча сур'ёзна пагаварыць з табою Сам-насам, Ён не будзе тлумачыць нешта мімаходзь, напаўвуха, займаць паўгадзінкі твайго часу на кухні ці ў офісе, дзе ты думаеш адкупіцца мітуслівай і наморшчанай малітвай, не стане шпурляць наўздагон табе знакі ды цуды… Ён проста дасць табе змарыцца ад уласнай сумятні да поўнага тамлення духу, а потым моўчкі ўвойдзе і зачыніць за Сабой дзьверы.

Заціхне ляскат ключоў, згасне рэха жалезнага брохату – і толькі тады, баючыся падняць вочы, ліхаманкава спрабуючы адкашляцца і зрабіць гатоўны выгляд, ты пачуеш гэтае непаўторнае, ні з чым не параўнальнае чакальнае і дакорлівае Божае маўчанне.

Э-а… Госпадзе… Ну, ты Сам усё бачыў, праўда?.. Што тут сказаць… Прабач, канечне. Прабач. Вядома, я мусіў сам здагадацца, у царкве раз на тыдзень як след асабіста не паразмаўляеш. Тут было столькі спраў, Ты проста не паверыш…

Відовішча жаласнае, і, тлеючы ад сораму, разглядаючы мыскі ўласных ботаў, разумееш, што Яму не гэтае ганьбішча трэба, не тваё дзіцячае лепятанне і не насякомыя ў тваіх мазгах. Ён не выбаршчык, не журналіст, не дыпламат, не супрацоўнік унутраных органаў і не на добрыя міны пры кепскай гульні глядзіць.

Таму Ён маўчыць – і цярпліва чакае, пакуль ты перастанеш мітусіцца і нарэшце здымеш з шыі свой срэбны ключык у форме крыжа.

Госпадзе, ты дакладна хочаш паглядзець маё сэрца?..

Нібыта з таго свету, чуеш сваё мармытанне: здаецца, павінна быць больш-менш, прынамсі, нічога страшнага. Ты ж быў зазірнуў пару дзён таму і маўчаў, я і падумаў… Ну, прабач…

Крыжык заядае ў заржаўленай ключавіне. Рукі трасуцца, дасадліва крэкчаш, спрабуеш павярнуць… і з затхлым душком здагадваешся, што насамрэч справы дрэнь, хоць і не адчыняй зусім. О, не, не, Госпадзе, не дакранайся, не трэба, я сам, са-ам!

Тут ужо не зманіш – уласнае сэрца ўсё-такі.

Даруй, Божа! Сюды, канечне, не тое што зайсці, а і стаяць побач немагчыма. Зараз… Хто б мог падумаць, мг… Пастараюся дакапацца.

Сцяўшы дыханне, залазіш, спярша навобмацак, потым з галавою, жахаешся, клянеш сябе – і пачынаеш вывальваць, куды тут… смярдзючыя грахі, нейкія шыльды і адсоткі ўперамешку з газетамі ды плакатамі, падгнілая пыха і марнаслоўе, груды скамячаных, у нервовую клетку, размоў з бацькамі, братамі і сёстрамі, тоны павышанага тону і шматкі неператраўленага сеціва, усе ў пляўках рэплік, развітанні на вецер і раздражнёныя вокрыкі, маладушныя стогны; столькі сказанага і нязробленага, столькі забытых і пакрыўджаных душ, суцэльная млявасць і абыякавасць да жыцця і, нарэшце, агульная разгубленасць – ох, і правалы, ніяк не выграбеш да дна.

А Ён проста стаіць перад табою, трывае і маўчыць, як маўчаў калісьці перад Пілатам. І ты разумееш, што Яму так балюча, і гарыш, і баішся зірнуць і ўбачыць у гэтым вечным маўклівым Позірку слёзы, слёзы!.. з якіх ты ніводнай слязінкі не варты.

І раптам, каўтаючы соль, ачомваешся ад званоў з Плошчы Волі.

Сабор. Ратуша.

Пранізліва і мерна.

Раптам згадваеш, што ты ў самым-самым сэрцы Менску. Такое месца!

Колькі часу трэба яшчэ – месяц, год, дзесяць, – каб навучыцца з гэтага п а ч ы н а ц ь, а не з а к а н ч в а ц ь?

І тады ты даеш абяцанне пачаць усё зноў і вырашаеш абысціся без лішніх слоў – каб Нарэшце Пачуць ЯГО.

*16 сакавіка 2011 года, «амерыканка»*

## З КНІГІ «ЛІСТЫ ЗЬ ЛЕСУ»

### *Лес як лёс*

Калі на міліцэйскім «жыгулёнку» мяне везьлі са спэцкамэндатуры Ветрына ў лясгас у вёсцы Малое Сітна, амаль усе 50 кілямэтраў ад Полацку паабапал дарогі стаяў лес. Дастаў мапу, і ў вочы адразу кінулася: Залесьсе, Запалянкі, Замхі, Дуброўка, Бярозна, Алешча... Поўнач Полаччыны нароўні з глухім Палесьсем Лельчыцаў – самыя нетры Вялікага Беларускага Лесу, напэўна, з таго часу, як Іван Жахлівы ў Інфлянцкую вайну папаліў усе ваколіцы Полацку. На паўтысячы гадоў тут запанаваў гушчар.

За Саветамі ў гэтых лясох і балотах зрабілі найвялікшы ў Эўропе Дрэтуньскі вайсковы палігон. Жаўнеры рэгулярна выпрабоўвалі ў беларускім лесе моц савецкай зброі, і грыбнікі не маглі прарвацца цераз ачапленьні да багатых на баравікі мясьцінаў.

Малое Сітна сярод гэтага спрадвечнага лесу, на беразе Палаты – увасабленьне глухое, аддаленае й аддзеленае ад гораду беларускае вёскі, галоўнай базы Лукашэнкавага электарату й адначасова мацерыка беларускай мовы ды традыцыі, які Зянон Пазьняк заклікае адрадзіць яшчэ з канца 1980-х.

Народ жыве зь лесу. Бальшавікі ніяк не маглі арганізаваць у Малым Сітне калгасу, бо вяскоўцы амаль не аралі зямлі – зьбіралі грыбы, ягады, шышкі, займаліся паляваньнем ды рыбалоўствам. Дый цяпер сапраўдная ўлада тут – не сельсавет і не ўчастковы, а «Полацаклес» у асобе начальніка лесапункта, які распараджаецца транспартам, палівам, сувязьзю ды самім лесам.

Можа быць, менавіта такія вёскі яшчэ тояць у сабе першародную сілу нацыянальнай глебы – тут, на ўзбочыне рынкавага сацыялізму нацыянальна сьвядомы беларус можа намацаць дзясяткі кропак апірышча. Але цэласнае Беларусі-вёскі, апетай у сялянскім эпасе XX ст. – вершах Купалы, «На ростанях», «Людзях на балоце» і «Знаку бяды», – нават

на гістарычных землях нашае першае дзяржавы, сярод запаветнага лесу, ля вытокаў тае ракі, што тысячагоддзе таму ўспаіла Полацак, ужо ня знойдзеш.

Асуджаны на працяглае назіраньне за штодзённым жыцьцём вёскі сярод лесу, пачынаеш задумвацца, чаму вясковая Беларусь дагэтуль падтрымлівае саўгасны рэжым і не нараджае новае хвалі нацыянальнага руху, чаму ўсё болей лаецца матам, п’е тэхнічны сьпірт і вымірае.

Бярэсься дасьледаваць, адкуль у такой вёсцы знайшоўся слухач «Свабоды» з 50-гадовым стажам, чаго хочуць дакапацца вяскоўцы ў крэпасьці Івана Жахлівага, спаленай Сьцяпанам Батурам, як рэагуюць на перайменаваньні праспэктаў у Менску й як змагаюцца за ўраджай. Урэшце, плянуеш пісаць пра ўсё гэта – і зразумела, пра тое, як у адпаведнасьці з рэдкім супадзеньнем праграмаў Пазьняка й Лукашэнкі *адрадзіць беларускую вёску.*

Рэч ня толькі ў зьбегу абставінаў. Беларуская вёска на мяжы зь лесам у сымбаліцы нацыянальнай ідэі займае асаблівае месца. Для беларуса, які тысячу гадоў харчаваўся зь лесу, хаваўся, будаваўся ў ім і лесам ад лесу адасабляўся, узьлесак – рыса мэнтальнасьці, параўнальная з фронтам. Партызанка, шляхціц Завальня, новая зямля коласаўскага палясоўшчыка Міхала, Белавескія пагадненьні 1991-га… Для Беларусі лінія лесу дагэтуль азначае лінію лёсу. Правальваючыся ў акупацыю, мэліярацыю ці калектывізацыю, беларуская вёска адштурхоўвалася ад лесу, нібы Антэй ад зямлі. І цяпер, калі бачыш сьпітых, абыякавых, зьніякавелых вясковых беларусаў, згубленых сярод лесу, думаеш – самы час адштурхоўвацца.

Бо лес і лёс у беларускай мове сугучныя, як ні ў адной іншай мове сьвету.

## *«Максімка»*

«Максімка» – шклоачышчальнік на аснове этылавага сьпірту. «Таксычны. Пры трападаньні на адкрытую паверхню скуры прамыць праточнай вадой».

Гэта напісана на 5-літровіках, якія расейцы вялікалуцкім дызэлем завозяць у Алешчу і прадаюць па 20 тыс. рублёў.

Але няма пад Алешчай даўн-таўну небасягаў, на мыцьцё вокнаў якіх спатрэбіўся б аб’ём штотыднёвых паставак. Праточнай вадой «Максімку» разбаваяць да належнага градусу й разьліюць у бутэлькі з-пад ліманаду ці мінэралкі – і вось ён, самы даходны бізнэс у Сітна-сіці. «Максім Максімыч», «Максімільян», «Максімус» – валадар наваколья. Ні гарэлка, ні самагонка ня вытрымаюць канкурэнцыі зь ядраным пойлам, якое ўмомант «зрывае дах» і паўлітра якога для мясцовых «сьпіртавозаў» абыходзіцца таньней за бохан хлеба. Зрэшты, жывых грошай за «Максімыча» тут амаль ніколі ня плацяць. Бяруць «на доўг» (напрыканцы месяца аддаюць паўзаробку), часьцей прапаноўваюць бартэр: колькі слоікаў салянкі або трыста грамаў кілбасы, якіясь рэчы…

На сьвята тут звычайна ўжываюць крамнае віно: «Крыжачок», «Вішнёвы сад», «Васілісу». Гэта ў параўнаньні з тэхнічным сьпіртам – пітво высакароднае, п’ецца чаркаю. А «Максімка» – напой будзённы: «прыняць», «дагнацца», адзначыць «дзень рускай балалайкі» ці «першы аўторак тыдня»… І п’юць ужо кубкам або ўвогуле «з рыла».

У Малым Сітне – 19 пунктаў, дзе прадаецца «Максімка». Сьпіс ляжыць у сельсавеце, участковы – у курсе. Але гандаль ідзе безупынна. А то ж: у любога каляніяльнага рэжыму спойваньне заўжды лічылася найбольш эфэктыўным спосабам падпарадкаваньня абарыгенаў і нэўтралізацыі магчымага пратэсту. І той, хто гандлюе, і той, хто п’е (а разам яны ў вёсцы складаюць большасьць), ведаюць, што кожная спроба адстаяць свае правы сустрэне абгрунтаванае абвінавачаньне ў распаўсюдзе ці рэгулярным ужываньні «Максімкі». «Самі ж п’яце, – цынічна нагадвае мясцовая ўлада, – ніхто вас не прымушае». Ад безвыходнасьці люд глушыць яшчэ больш. Труціцца. Вешаецца. Вымірае. Эпілепсія, якая разьвіваецца ад пастаяннага піцьця «Максімкі», на алешчынскай эстакадзе – звычайная зьява. Калі пахмельны раскрыжоўшчык з заведзенай бэнзапілой раптам разварочваецца – ты жахаесься ад невідушчага позірку. Калі малады мужык падае на бярвеньне, разьбівае ў кроў галаву й калоціцца без прытомнасьці; калі маці чацьвярых дзяцей, што адкочвае крукам ствалы на эстакадзе, у прыпадку валіцца на кучу сьмецьця – народ

абыякава паціскае плячыма: «Максімка». Цудоўныя беларускія тыпажы, вобраз і падабенства Божае, па меры алькагольнай дэградацыі набываюць яўныя рысы ідыятызму. Людзі гніюць зажыва, пачынаючы з галавы. Дзеці нараджаюцца разумова адсталыя ці з псыхічнымі расстройствамі.

Адны карныя захады становішча не паправяць. Апроч нармальнай мяжы з Расеяй, апроч буйных штрафаў за распаўсюджваньне зельля, апроч татальнай інфармацыйнай прафіляктыкі тут трэба нешта большае. Трэба зьнішчыць прычыну, якая штурхае люд да запою. Вярнуць беларусам сэнс жыцьця. Веру ў Бога. Любоў да Радзімы. Сваю справу.

Спыніць трыюмфальнае шэсьце «Максімкі» можна толькі адным чынам.

Перамагчы ў 2006-м.

## *Роберт Багарад*

У Малым Сітне кепская сувязь. Сотавыя тэлефоны маўчаць, як камсамолец на допыце. Для «палітычнага хіміка», які працуе на лесапункце, магчымасьці зьвязацца зь «вялікай зямлёй» дзьве: або тэлефанаваць ад знаёмых, ставячы іх на праслухоўваньне, або ісьці на пошту. Пошта працуе з 9.00 да 14.00 ва ўсе дні, апроч нядзелі, «хімікі» – з 8.00 да 16.00, маючы толькі адну выходную суботу на месяц. У адзіную «сувязную» суботу, быццам на сьвята, іду на пошту са сьпісам на тузін тэлефонаў.

У рамачцы пад шклом – рэклямка: галоўная вартасьць дзяржаўнай сувязі – ейная якасьць. Віцебск ці Менск тут трэба замаўляць адмыслова праз полацкі кампутар і чакаць ад пяці хвілін да адной гадзіны. Але «можаце не хвалявацца – вас усё роўна наўрад ці пачуюць».

Замаўляю. Чакаю. Чую з Полацку: «Гаварыце!» Далей – як у фільмах пра рэвалюцыю: «Дзевушка, мне Смольны!.. Кажу, Смольны мне!!! Алё, Смольны!..» Безнадзейна. «Гучней!» – крычыць маладафронтавец зь Менску. Здаецца, мы перакрыкваем усю адлегласьць голасам. На трэцім званку лінія абрываецца. Паштаркі з палёгкай уздыхаюць: «На сёньня сувязі больш ня будзе».

Выходжу з пошты, цьвёрда перакананы: у такім гушчары апазыцыянэры павывеліся. Аж вось – на ганку стаіць невялічкі дзядок, гадоў сямідзесяці, у шэрым касьцюмчыку, якія ў вёсцы на сьвяты апранаюць, кепачка…

– Колькі гадоў жыву ў вёсцы, а такой чыстай беларускай мовы ня чуў, – кажа дзядок, пачуўшы, як я крычаў. Мая вера ў народ умомант ажывае. – Вы, пэўна, Павал Севярынец? Я пра вас са «Свабоды» даведаўся.

Дзядка завуць Роберт Багарад. З каталікоў. Карані на Магілёўшчыне, ля Дрыбіна. Жыве на хутары Мураўішча, што за колькісот крокаў ад Малога Сітна. «Свабоду» слухае з пачатку яе вяшчаньня – з 5 сакавіка 1953 г.

– У дзень, калі памёр Сталін, – расказвае ён, – настаўнікі неяк даведаліся, што арганізоўваецца радыё з-за мяжы. У бацькі моцны прымач быў – дык сабраліся ў яго, а мяне, яшчэ малады быў, на варце пакінулі. Але ж як хвалю злавілі, паклікалі мяне ў хату ды выпусьцілі сабаку. Вялікі, белы ў нас такі быў, дык той ужо брахаў, як хто набліжаўся. Глушылі магутна, але словы можна было разабраць. Ціхенька настроім – і слухаем. І так увесь час. Ніхто ня здаў.

Дзед Роберт перасоўваецца па лясных сьцежках са спрытам і хуткасьцю Талаша.

– Пяць кілямэтраў – і ўжо імпэрская Расея, – Роберт Багарад махае рукой на ўсход, – а людзі тут… Несьвядомыя. П’юць. Ні да чога добрага не імкнуцца – і каму яны тут патрэбныя?

Цікава, колькі такіх вось партызанскіх слухачоў «Свабоды» ў Беларусі? Напэўна, ёсьць у кожнай вёсачцы. А вёсак у нас больш за 23 тысячы.

І чаму мы адразу запісваем самую беларускамоўную, самую блізкую да зямлі й самую бедную траціну беларускага народу ў актыў рэжыму?

Багарадаў хутар – некалькі абкружаных лесам хатаў. Гародзік, палісаднік, сад. Дзед Роберт разводзіць на палянцы між хвоямі й елкамі яблыні, грушы, сьлівы, парэчкі. Прышчэпвае, абкопвае, чысьціць ад садовых хвароб. Каму дастанецца? А вось, будзе сабе сад сярод лесу.

– Тут, – паказвае Роберт Багарад, – падгнілы плот. І дужа плодзяцца зьмеі. Выпаўзаюць на сьцежку, як ісьці да вёскі, дык я бяру палку і, калі пацэлю, забіваю ды на плот вешаю.

Хата ў дзеда Роберта чыстая, дагледжаная. На галоўным месцы, дзе ў звычайнай сям'і абавязкова стаіць тэлевізар, – вялізны, яшчэ савецкі радыёпрымач (а я спрабаваў знайсьці «Свабоду» аж на трох найноўшых). Вось ён, сапраўдны вузел сувязі на ўсю ваколіцу! Побач – колькі вёдраў брусьніц, на якія тутэйшы лес вельмі багаты. Стол. Зэдлік. Ложак.

– Давайце прынясу вам сьвежых газэт ці кніжак якіх, – аглядаю я пазбаўленае іншых прымет цывілізацыі жытло.

– А, ня трэба, – адмахваецца дзед Робэрт, – вочы ўжо ледзь бачаць, не прачытаю. Я пра ўсё са «Свабоды» даведаюся.

Падумаць толькі: чалавек ужо больш як паўстагоддзя сядзіць ля прымача ў глухой беларускай вёсцы і слухае пра пахаваньне Сталіна, Карыбскі крызіс, палёт на Месяц, задушэньне Праскае вясны й перамогу «Салідарнасьці», перабудову, Адраджэньне, здабыцьцё незалежнасьці й яе здачу, рэфэрэндумы ды акцыі апазыцыі… Чалавек прыслухоўваецца да імклівага руху плянэты і бачыць перад сабой адну й тую ж карціну… Асацыятыўны шэраг надзвычай біблейскі: прозьвішча «Багарад», людзі, што не імкнуцца да дабра, сад, зьмеі – і Свабода. Чалавеку вельмі хочацца нарэшце ўбачыць, а ня толькі пачуць вольную, незалежную, адроджаную краіну.

Колькі яшчэ здолее чакаць Роберт Багарад?.. Дзеля аднаго гэтага ў 2006-м трэба перамагаць.

## *Няма веры*

Аднойчы, распытваючы сіценцаў пра найбліжэйшую царкву, я набрыў на бабку гадоў 80. Яна сядзела на лаўцы ля хаты і паводле ўсіх прыкметаў павінна была ведаць, дзе й каму моляцца тутэйшыя жыхары.

– У царкву мы ня ходзім, унучак, – растлумачыла старая. – Яна нам ня трэба. Мы ж у Бога ня верым.

– Як так?

– А-а… – няпэўна махае рукой бабулька. – Як камуністы былі, дык казалі, што Бога няма…

– А Ён ёсьць, – кажу бабулі.

– Ёсьць, ёсьць, унучак, – ківае галавой тая. – Ёсьць, мы ня проціў…Толькі мы ў яго ня верым.

Вось ён, сіценскі сымбаль веры. Ведаць, што Бог існуе, і ня верыць у Яго. Штосьці да болю знаёмае і вельмі беларускае. У краі, дзе тысячагоддзе таму прапаведаваў Торвальд Вандроўнік, на радзіме Эўфрасіньні, Сімяона ды Скарыны, у самай калысцы беларускага хрысьціянства – няма веры.

Калі падчас перакуру я паспрабаваў паразмаўляць пра Бога на эстакадзе з рабочымі, рэакцыя больш за ўсё нагадвала калектыўны прыступ шалу. «Што для нас гэты Бог зрабіў?.. Як камуністаў скінулі, усе вы за сьвечку і ў царкву! Чаму дзеці паміраюць, а Бог на гэта глядзіць?! Вось мы тут прападаем, а яму ўсё роўна!..». Яны крычалі наперабой, аж захліпаючыся, як брэша зграя сабак, не жадаючы пачуць адказу, адчайна выплюхваючы ўсю сваю злосьць, і шпурлялі тыя выкрыкі, быццам камяні.

Дзіўная рэч: палітычныя прамовы тут праходзяць, а словы пра Бога выбухаюць, нібыта бомба.

«Страшны край, – сам-насам дзяліўся са мной уражаньнямі інжынэр, што прыехаў сюды зь Берасьцейшчыны, – тут жа нават як памрэ чалавек – не адпяваюць, не галосяць, не памінаюць толкам… Закапалі, як падлу, каб хутчэй выпіць, – і канец».

Сьвятар з Полацку прыяжджае ў Алёшчу ды Малое Сітна раз на год – пахрысьціць немаўлят. Далучыць, так сказаць, прыплод да паствы. Ня верыцца мне, што гэтак тутэйшыя душы будуць збаўлены. Ня верыцца, што ў Полацкай япархіі няма магчымасьці хаця б раз на месяц, хаця б у прыватнай хаце арганізоўваць хаця б адно набажэнства на абшары больш як 1000 квадратных кілямэтраў… Праваслаўны атэізм, інакш не назавеш.

І люд разважае: «Што нам Бог? Жылі неяк бяз Бога і памром сабе. Згніём, а пасьля ж нічога няма». Ці можа чалавек, які рыхтуецца адно згніць ды зьнікнуць, думаць пра лепшую будучыню? Пра краіну, праўду, свабоду?..

Бязьвер'е – найглыбейшы й самы чорны корань зла, што буяе ў Алёшчы і Малым Сітне. Невідушчыя вочы, апушчаныя

аблічча, жабрацтва, алькагалізм, самагубствы сілкуюцца адсюль. З пустога сэрца.

У тое, што гэтых людзей успоіць хрустальны сасуд рыначнага сацыялізму, што іх накорміць гуманітарка з Амэрыкі, што іх выратуе наездамі раз на год бацюшка, у мяне веры няма.

Але ў тое, што Бог дасьць абуджэньне гэтаму краю, калі пераможам у 2006-м, – веру.

## *Вогненны Сьнег*

Здавалася б, нарыхтоўка лесу. У Беларусі такіх дзялянак сотні. Нічога незвычайнага. І ўсё ж менавіта тут, на лесапавале, і менавіта гэтай зімою, як калісьці ў дзяцінстве, мне адкрылася безьліч сапраўдных цудаў.

Часам, чакаючы тралёвачнага трактара з чарговым пачкам, машынальна пачынаеш падлічваць колцы на сьпілах зваленых у штабелі ствалоў. Пятнаццаць. Дубок узросту беларускай незалежнасьці. Шкада, дружа: трапіў пад пілу саўковае сыстэмы нарыхтовак. Дваццаць дзевяць. Альха, мая равесьніца. Прывітаньне! Рыхтуйся на цэлюлёзу – магчыма, яшчэ сустрэнемся... на ўлётцы ці на старонцы «Нашае Нівы». Трыццаць чатыры. Хваіна часоў Машэрава. Рана зрэзалі. Мабыць, пойдзе на які слуп лесьнікам, калі не спарахнее. Пяцьдзесят два. Асіна, раўня Рыгоравічу. На фанэру... Ого! Восемдзесят дзевяць… Чэсьць! – елка ўзросту БНР! Эўрастандарт, за мяжу па найвышэйшым разрадзе... Вялізная клявіятура машыны часу разгортвае перад табою ўсю панараму эпохі ў канцэнтрычных кодах. Быццам колы на вадзе, на зрэзе – рэха падзеі. Хіба ня цуд?

Або ў непралазным балотным гушчары трапляеш на вялізную яліну накшталт тых, што ставяць на Кастрычніцкае плошчы ў Менску. Толькі вось на сярэдзіне ствала, амаль пазбаўленага галінаў, прыбіты крыж. Ледзь угледзіш надпіс: «Львів. ДМБ 1981». Так, дапусьцім, падчас вучэньняў салдат-украінец пакінуў па сабе памяць. Але як крыж апынуўся на дзесяцімэтровай вышыні? Ствол гладкі, як калёна, і абсалютна непашкоджаны. Цуд? Лесавікі ўсьміхаюцца: крыж прыбівалі ўнізе. За 25 гадоў елка проста вырасла.

Упершыню ў жыцьці бачыў ужывую пару ласёў, якія стаяць пры дарозе, абʼядаючы кару зь вецьця, і зусім не палохаюцца машыны. Або статак дзікоў, калматых, бы тыя маманты, якія сярод белага дня праходзяць за 15–20 мэтраў ад нашае брыгады па сваіх сьвінячых справах…

Назіраеш, як на 30-градусным марозе, зваленая на мерзлую зямлю, выбухае з фаервэркам ашкелкаў ломкая, бы зь лёду, хвоя – і кожны ўдар сякеры аб сук адгукаецца дзіньканьнем каляднага званочка…

Або ўзяць вогненны сьнег… Так, узяць жменяй, каб сьцерці рукі ад бруду, саляркі ці змазачнага алею (у інтэрнаце ўжо паўгоду ня могуць паставіць рукамыйнік) – ад пякучага холаду далоні дымяць. Кідаеш запалку на праліты бэнзін, і сьнег гарыць зыркім полымем! Аднойчы, калі нас закінулі на падсыпку (дзяўбсьці на ўзбочыне трасы зямлю, каб гружаныя лесавозы маглі ўзьняцца на сьлізкіх падʼёмах), мы з напарнікам гарачага сьнегу пакаштавалі. Вельмі хацелася піць, а з сабой нічога, а вакол нікога, адно запалкі ды жалезны кубак. Разьвялі вогнішча, растапілі сьнегу і пілі яго па чарзе з агню, гаркавы ад попелу, мацнейшы за любую гарэлку.

Але самы сапраўдны вогненны сьнег мне давялося ўбачыць на ўборцы дзялянкі, падчас сьнегападу. У вялізным, 4–5 мэтраў вышыні, вогнішчы, дзе спальваліся цэлыя «непрамысловыя» елкі, алешыны, бярозавыя рогі, раптам трэснула ўсярэдзіне, выбухнула салютам іскраў на вышыню пяціпавярховага дому – і потым хвілінамі ціха і ўрачыста ў паветры ірдзела, пераблісквала зь белымі сьняжынкамі чырвонае й аранжавае, нібы зь неба сыходзіла шматтысячная грамада пад бел-чырвона-белымі сьцягамі.

Калі змаўкаюць бэнзапілы й сякеры, калі спыняецца, глухне трактар і зьяжджаюць лесавозы – раптам прыслухоўваесься. У верхавінах дрэваў пад ветрам нараджаецца, расьце й гучыць велічная, уладарная нябёсная сымфонія. Чуеш сапраўдную літургію, гімн Творцу, дзе мужчынскія басы зьліваюцца з высокімі нотамі жаночага хору – і заміраеш малітоўна, бы ў храме. Падымаеш вочы ўгару – і бачыш, што насамрэч дзялянка – гэта агромністы проруб у неба, прорва ў глыбокі блакіт для тваёй малітвы за ўсю Беларусь.

Насамрэч цуды вакол нас. Госпад даў нам цуд жыцьця, падараваў цудоўныя пачуцьці і пасяліў у найцудоўнейшай краіне ў сьвеце. У такія цуды трэба толькі паверыць – і тады хараство й гармонія сэнсу напоўняць цябе ўсяго.

Палякі сьпявалі на плошчах рэлігійныя гімны – і атрымалі праўдзівы цуд. Сэрбы выходзілі на дэманстрацыі хросным ходам за сваім мітрапалітам – і ўбачылі цуд. Украінцы штодня пачыналі Майдан з малітвы – і нарэшце дамагліся цуду.

Вы ўсё яшчэ лічыце, што Беларусь у 2006-м выратуе толькі цуд?

Тады надышоў час паверыць у цуды.

Бо – «чалавеку гэта немагчыма; Богу ж усё магчыма»! (Мацьвея 19: 26).

Гэта ж так проста.

Выйсьці ў дзень выбараў на плошчу, насустрач сьвежасьці й волі.

Памаліцца Богу за свабоду, праўду і справядлівасьць для Беларусі.

І гучна, на ўвесь голас, сказаць тое, што думаеш, што адчуваеш, чаго хочаш усім сэрцам:

– Жыве Беларусь!!!

І калі ўбачыш, як неба па-над шматтысячнай грамадою раптам запальваецца вогненным бел-чырвона-белым – ведай: гэты момант увойдзе ў гісторыю Беларусі як цуд 19 сакавіка.

## *Кіслая глеба*

У самы разгар эпахальнай для кожнага беларуса пары капаньня бульбы ў сіценскіх ваколіцах бязьлюдна. Вяскоўцы ў лесе – хто ў лісічках, хто ў брусьніцах, хто ў журавінах. Калі запытваесься ў народу, які выстройваецца ў чаргу ў краме па прывазную бульбу, чаму сіценцы не саджаюць самі, адмахваюцца: «Ай... Не расьце нічога. Глеба кіслая».

Глеба ў Сітне і праўда *кіслая* – пераўвільготненая. Ападкі перавышаюць сьцёк. Вакол балоты. Але, вось дзіва, ля хаты дзеда Роберта (таго самага, які больш за паўстагоддзя слухае

«Свабоду») – і бульба, і гуркі, і перцы, і морква, ды дабрэнныя, ды яшчэ клубніцы, ды вінаград... «У вас што, – пытаюся, – мясцовая анамалія?»

«Так, анамалія, – сьмяецца дзед. – Во, прывязу вапны воз... кіслую ж глебу вапнаваць трэба, ну і гною, вядома, колькі тачак... Вось і родзіць. Калі вапны няма – можна попелу зь печы».

Пэўна ж, нездарма Госпад Бог даў Паазер'ю, апроч кіслых глебаў, яшчэ й найбуйнейшае ў Эўропе радовішча даляміту ў Рубе пад Віцебскам – далямітавая мука акурат і прызначаная дзеля таго самага вапнаваньня!

Але вяскоўцы штовосені, як манны нябёснай, чакаюць машыны, што завозіць у сельпо дзясяткі мяхоў гародніны. Купляюць малако – заводзкае, у пакетах – кефір, тварог. Па мяса едуць у Полацак на кірмаш...

На тэрыторыі сельсавету дзесяць гадоў таму было тры калгасы. Цяпер не засталося ніводнага. Ворыва засеялі... лесам. (Во зьдзівіліся б продкі-палачане часу Ўсяслава, што гэты лес немалою сілаю калісь карчавалі пад палі!..)

Гародзікі ў саміх вяскоўцаў зусім сьціплыя. Лапінка ля хаты, колькі яблыняў. Трактара ці камбайна на людзкіх «сотках» тут і ня ўбачыш – не разьвернуцца. Аруць канём ці матаблёкам. Зямля вакол вёскі ўвогуле пустуе.

Ну, добра, няхай і праўда, як той сьпяваў, не расьце какос... Але ж травы ў сіценскіх ваколіцах – мора. Жывёле – раскоша. Дзе ж жывёлагадоўля? У Сітне адна карова прыпадае на... 20 жыхароў. Сьмешна глядзець, як «статак» зь некалькіх мілкаў шпацыруе цэнтральнай вуліцай. «Каровы ідуць!» – тут ужо не падзея, а нейкая недарэчнасьць. Паводле дзіцячых успамінаў, вырашыў быў, што ў бабулінай вёсачцы на Дняпры, пад Рэчыцай, справы лепшыя. Ані! Распытаўся – амаль тое самае. Старым трымаць карову ўжо й сілаў няма, а маладзейшыя п'юць, дык дзе яны тую худобу дагледзяць...

Тых, хто трымае сьвіньні, у Сітне можна пералічыць на пальцах. Відаць, парсюкі й тыя на кіслай глебе не растуць.

І гэта ня сіценскі «кулёр лякаль». Ва ўсёй Беларусі ўжо колькісот гадоў прагрэсуе паразытычная звычка. З кіслай мінай махаюць рукой на беларускую зямлю дзеячы, і робіцца зусім горка. Уздыхі й наракакньні на *глебу* чуюцца ў нас

рэгулярна: гэтым звычайна апраўдваюць нежаданьне ды няўменьне працаваць – што на зямлі, што з грамадзтвам.

100 гадоў таму купка гэткіх жа, як і мы, беларусаў перасіліла ўнутраны стогн з прычыны несалодкае ды нятлустае глебы і пачала ўрабляць *Нашу Ніву*. Так, было цяжка, быў і пот, і сухоты, і кроў, і сьлёзы – але ж узаралі. І на гэтым не такім ужо вялікім кавалачку, бадай, вырасла ўсё беларускае нацыянальнае адраджэньне пачатку XX ст.: тут і БНР, і БССР, і беларусізацыя, і каранізацыя... Як у біблійнай прыпавесьці: «Узышло, і вырасла, і ўрадзіла: адно трыццаць, другое шэсьцьдзесят, трэцяе сто» (Марка 4: 8).

На беларускай зямлі апошнія стагоддзі шмат хто спрабаваў жыць *на дурняк*. За кошт прыгоннага сялянства, калектывізацыі, мэліярацыі. Але Госпад, даручыўшы Адаму зямлю ў валоданьне, сказаў: «У поце твару твайго будзеш есьці хлеб, пакуль ня вернесься ў зямлю, зь якое ты ўзяты» (Быцьцё 3: 19). Цяжка, укладваючы ўвесь час, усе высілкі, усю душу! – працаваць. Толькі тады тутэйшая глеба зьдзівіць сваёй плоднасьцю.

Няпростая беларуская зямля дадзеная беларусам дзеля выпрабаваньня іхняй хрэстаматыйнай цярплівасьці, руплівасьці, працавітасьці. Калі некаму хочацца есьці ананасы й жаваць рабчыкаў без асаблівых намаганьняў – ласкава просім на Канары. Патрыёт? Тады ўлягай, як за плугам, як у выбіраньне бульбы, як у штогадовае вапнаваньне, угнойваньне, баранаваньне кіслае глебы.

Ня будзем працаваць належным чынам ня зямлі – так і застанемся прыхаднямі-зьбіральнікамі.

За сто гадоў «Нашай Нівы», пэўна, гэта й ёсьць галоўным урокам для ўсіх беларусаў.

Толькі калі ўзаром, палепшым, акультурым грамадзкую глебу кожны на сваім кавалачку, ператрэм уласнымі рукамі кожны камячок беларускіх праблемаў, цяжкасьцяў, сумненьняў – пасеяныя слова, вера й любоў дадуць нацыянальнае абуджэньне.

## *Адважнае сэрца*

Тыя, хто найчасьцей пісалі лісты ў Малое Сітна, атрымлівалі просьбу адказаць на пытаньне своеасаблівай анкеты: «Якія кнігі, музычныя гіты, фільмы вы параілі б прачытаць (праслухаць, прагледзець) кожнаму беларусу?». І найбольш уразіла сваімі вынікамі намінацыя «кіно». Здавалася б, столькі пранізьліва беларускіх фільмаў: «Дзікае паляваньне караля Стаха», «Ідзі і глядзі», «Чырвонае лісьце», «Акупацыя»… Столькі экранізаваных нацыянальных герояў: Кастусь Каліноўскі, Сотнікаў, Заслонаў…

Але ж вось фокус – па-за канкурэнцыяй апынулася «Адважнае сэрца» з Мэлам Гібсанам у галоўнай ролі. (Між іншым, на другім месцы – «Пакуты Хрыстовы» таго ж Гібсана ўжо як рэжысэра).

Шатляндзец Уільям Уолас, просты хлопец, што ў безнадзейным становішчы ўзначаліў паўстаньне супраць акупацыі, трапіў беларусам у самае сэрца.

Чаму – тлумачыць ня трэба.

За гады ўдзелу ў беларускім руху мне пашчасьціла пазнаёміцца зь людзьмі, што не саступалі Ўільяму Ўоласу ў асабістай мужнасьці. З геолягам Вячаславам Сіўчыкам, адным з арганізатараў Менскае вясны-96, які трымаў галадоўку пратэсту разам зь Юрыем Хадыкам на «валадарцы» й якога часьцей, чым іншых, бачылі ля мікрафона ў намётавым мястэчку на плошчы Каліноўскага. Зь лясным інжынэрам Яўгенам Скочкам, што кіраваў дружынай Маладога фронту й адным сваім зьяўленьнем на вулічных акцыях наводзіў паніку на міліцэйскае начальства. Мастаком Рыгорам Кійком, які адбіваў у амапаўцаў маладзейшых дэманстрантаў і бел-чырвона-белыя сьцягі (за што рэгулярна адседжваў на сутках ды «хіміі» ). Палітыкам Зянонам Пазьняком, вайскоўцам Мікалаем Статкевічам, праваабаронцам Валерыем Шчукіным, журналісткай Ірынай Халіп…

Але пры словах «адважнае сэрца» мне заўсёды згадваецца не магутны, з ільвінай грывай Мэл Гібсан, ня хтосьці з дужых

«краёўцаў» у камуфляжы, а невысокі, танклявы, усьмешлівы раўналетак Кастуся Каліноўскага – Зьміцер Дашкевіч.

Мы пазнаёміліся ў камэры на Акрэсьціна пасьля Дня Волі-2002. Тады, пасьля мітынгу з кветкамі й сьпевамі ля помніка Янку Купалу, АМАП перакрыў выхады з парку, і арганізатары абвясьцілі: разыходзімся. Маладафронтаўцы, якія не ўяўлялі сабе Дня Волі бяз шэсьця, пратачыліся скрозь кардон, узьнялі сьцягі й павялі людзей праспэктам. Каля скрыжаваньня з Варвашэні да мяне падляцеў падпалкоўнік Гірэль: «Прыбярыце сьцягі! Зараз выставім кардон; без сьцягоў прапусьцяць, зь імі – не! Будзе хапун!» І праўда, праз паўхвіліны ўпоперак праспэкту пашыхтаваўся АМАП. Сьвята ўсё-такі ж, думаю. Усім, хто нясе сьцягі, камандую: «Згортваем. Падымаем пасьля скрыжаваньня». Згарнулі амаль усе і толькі наперадзе з самым вялікім палотнішчам працягвае ісьці шараговы маладафронтавец Зьміцер. «Згортвай сьцяг!» – крычу яму. Ён на сэкунду прыпыняецца, глядзіць на мяне яснымі вачыма: «Гэта ня сьцяг». – «А што гэта ?!» – «Гэта нацыянальная сьвятыня!» І рушыць далей. На Зьмітра шыкаюць усе вакол, Гірэль літаральна вісьне на руках. «Загад згарнуць!» – раву яму на вуха. «Пайшоў ты са сваім загадам», – сьцяўшы зубы й падымаючы сьцяг вышэй, адказвае Дашкевіч.

Кардон пераходзіць у наступ. Зьмітра за рукі-ногі ледзь заносяць у аўтобус чацьвёра здаровых амапаўцаў…

У той дзень усе расейскія тэлеканалы паказвалі разгон дэманстрацыі. Дзясяткі мільёнаў даведаліся пра БНР, бачылі бел-чырвона-белы сьцяг і яшчэ раз пачулі: «Жыве Беларусь!» У нашай камэры ўдзельнікі акцыі вырашылі аднадушна: менавіта Зьміцер Дашкевіч выратаваў Дзень Волі.

Памятаю, як потым на выпрабаваньні «Горад – наш!» на забойчай вышыні насупраць Дому друку ён з халоднай галавой ускараскаўся на сьлізкі ад дажджу скат даху (махаю рукой: «Хопіць! Вешаем тут!») і, быццам канатаходзец, балянсуючы, прайшоў па вільчаку ды прымацаваў сьцяг да маланкаадводу. Як у момант абвяшчэньня рэферэндуму аб працягу паўнамоцтваў прэзыдэнта ў натоўпе ля экрану на Кастрычніцкай завёў скандаваньне «Ганьба!» – атрымаў 15

сутак (дарэчы, гэтым эпізодам заканчваецца вядомая кніга пра Лукашэнку Аляксандра Фядуты). Як на 18-ы дзень маладафронтаўскае галадоўкі ўжо сёлета тэлефанавала й ледзь ня плакала журналістка: «У яго ўжо костачкі прасьвечваюцца, як у вязьня Бухэнвальду, з рота пахне ацэтонам – у арганізьме незваротныя зьмены!...»

Прыхаджанін эвангельскай царквы, Дашкевіч распачаў Рэфармацыю Маладога фронту. Усталяваў сярод сябраў руху маральны стандарт: «Калі мы змагаемся за Адраджэньне на хрысьціянскіх прынцыпах – ня маем права піць, паліць, блудзіць». І такое выхаваньне, на якое, прызнаюся, не заўсёды ставала адвагі ў нас са Скочкам, загартоўвала вакол Зьмітра моладзь сапраўды сумленную й самаахвярную.

Самыя моцныя супраціўнікі для бязбожнага, хлусьлівага, састарэлага рэжыму – менавіта такія. Рашучыя, маладыя, вернікі. Іх ня могуць спалохаць або купіць. І вось ужо абвінавачваюць у рабаўніцтве (між іншым, у Дзень беларускай вайсковай славы) 15-гадовага капітана салігорскага МФ Івана Шылу. Вось ізалююць у чатырох сьценах магілёўскае камендатуры Артура Фінькевіча. Арыштоўваюць і кідаюць на «валадарку» ў «справе Маладога фронту» Зьмітра Дашкевіча.

Але, спрабуючы разьбіць, спыніць і стрымаць моладзевы рух праз «крыміналку» аб «незарэгістраванай арганізацыі», спадкаемцы Цанавы й Вышынскага добра-ткі схібілі. Сотні беларусаў, сярод якіх Уладзімер Арлоў, Ніл Гілевіч, Лявон Вольскі, гатовыя сьведчыць на судзе ў абарону Маладога фронту. Больш за тое, ужо 1,5 тысячы чалавек падпісалі зварот ад імя сябраў «незарэгістраванага» Маладога фронту з патрабаваньнем спыніць перасьлед моладзі й вызваліць палітвязьняў. Калі судзьдзя заслухае іх у якасьці сьведкаў, яму давядзецца адпраўляць у турму сотні (а можа, й тысячы) людзей. Калі ж суд адмовіцца выклікаць іх у якасьці сьведкаў абароны – значыць, за ўдзел у «незарэгістраванай арганізацыі» і выступ ад яе імя судзіць ужо ня могуць.

Рэжым сам загнаў сябе ў гэтую пастку антызаконнымі, у духу 1937 году, папраўкамі ў Крымінальны кодэкс. Спрабуючы забараніць Малады фронт, ён дзесяцікроць яго раскручвае.

Сёньня ў кожнага беларуса ёсьць магчымасьць на некалькі хвілінаў апынуцца на месцы Ўільяма Ўоласа. Стаць адважным сэрцам. Падтрымаць маладафронтаўцаў і Зьмітра Дашкевіча. З трыбуны суду абвінаваціць рэжым у твар. Супраць такой нашай салідарнасьці пракуроры й гэбісты бясьсільныя.

Толькі так – разам! – можна супрацьстаяць масавым працэсам. Бо на чарзе ўжо палітычныя партыі й грамадзкія арганізацыі. Толькі так мы, беларусы, здолеем абараніць усіх і кожнага. Трымаемся побач! Бярыцеся за рукі! Глядзім дзяржаўным злачынцам у вочы! І кажам: «І я маладафронтавец!», «І я!», «І я таксама!..»

Многія, хто ведае, што такое Малады фронт і хто такі Зьміцер Дашкевіч, ужо наважыліся стаць сьведкамі салідарнасьці. Ці гатовы ты стаць у шэраг?

Абавязкова прыходзь на суд.

Справа Маладога фронту зробіцца адной з самых яскравых падзеяў нацыянальнага абуджэньня.

## *Камэндант і страх сьмерці*

Усе клічуць яго Камэндантам. Зрэдчасу пачуеш – «Цімафеіч», а так усё Камэндант ды Камэндант. Такое ўражаньне, што сапраўднага ягонага прозьвішча ў Алёшчы ня ведае ніхто. Калі ж запытаесься, ён уважліва прасьвідруе цябе пільным позіркам празрыста-шэрых вачэй з прымружанага змаршчыньня: «А навошта табе?»

Камэндант так і размаўляе – задае пытаньне й пранізьліва ўзіраецца, маўляў, я цябе наскрозь бачу. Ён амаль ніколі не падвышае голасу й ня лезе ў парожнія гутаркі. Трымаецца наводдаль. Назірае.

Камэндант, прынамсі афіцыйна, не зьвязаны ані са спэцкамэндатурай у Ветрына, ані з камэнданткай інтэрнату (хаця, пагадзецеся, замнога тут камэндантаў) і няўлоўна нагадвае хіба *камандантэ* Фідэля. Цімафеіч, праўда, маладзейшы, яму мо пад шэсьцьдзесят пяць, і без барады, але вось гэты позірк, пільны й крыху шалёны, гэтая вайсковая пастава й манера *пытаць* суразмоўніка іх дужа прыпадабняе.

Ну і, вядома, погляды.

Камэндант лічыць, што ён сумленна пражыў жыцьцё, служыў Радзіме, ахоўваючы зэкаў у «зоне» ў 1970–1980-я. Шчыра не даўмеецца, калі Сталіна назавуць тыранам, і скажа, што сёньняшняя ўлада слабаватая – «разбаўтаўся народ».

Чым займаецца Камэндант у Алёшчы, наўрад ці хто скажа пэўна. «Парадак наводзіць», – пацісьне плячыма брыгадзір. Нейкі час ён вастрыў сякеры, правіў вілы, рыдлёўкі й кручкі для адкаткі. Але як што снадзіва на эстакадзе ўвесь час кралі ды прапівалі (нат не заставалася чаго вастрыць і рамантаваць) – ён кінуў гэты занятак ды перабраўся за эстакаду, куды кранамі ў вялізныя горы адносяць вецьце ды сьмецьце.

І пачаў паліць вогнішчы.

Калі Камэндант утылізуе тое вецьце – усю Алёшчу, бы туманам, зацягвае дымам. Яловае гольле разгараецца, дае полымя на некалькі мэтраў і час ад часу трэскае агромністымі фаервэркамі – тады здаецца, што за эстакадай прарвала жарало невядомага вулькана.

Сам са Смаленшчыны, у 1960-х Цімафеіч скончыў школу; адслужыўшы на Ўрале, застаўся наглядчыкам у тамтэйшай калёніі і з часам вырас да загадчыка ўчастку, дзе адбывала пакараньне 2,5 тысячы зэкаў. Выйшаў на пэнсію, пасяліўся ў Алёшчы, і з тых пор ягоная прывідна-шэрая постаць за эстакадай – неад’емная частка тутэйшага краявіду.

«Бачыш, які развал? – ківае Камэндант на алёшчынскі склад, дзе некалькі п’яных рабочых ужо каторую гадзіну «перакурваюць». – А ведаеш, чаму? – і, не даючы сказаць *чаму*, адказвае сам: – Бо вашая дэмакратыя добрая ў іншым месцы. А нашаму чалавеку трэба пуга. Так-так, не матляй галавой, пуга. І страх сьмерці. Інакш працаваць ня будуць».

Камэндант спрытна цыркае сьлінай, уладным рухам рукі спыняе мае пярэчаньні й працягвае: «Галоўнае – абнесьці тэрыторыю калючым дротам. Стралкоў на вышкі. Страх сьмерці патрэбны, разумееш? Тады ты кантралюеш сытуацыю. А там, унутры, ужо справа тэхнікі. Падзяліць, каб не групаваліся самі, дзесьці пасварыць, асьведаміцеляў там... І парадак».

«Ага, парадак, – не вытрымлівае хтосьці з рабочых, – такім, як ты, дай волю, вы ўсю Беларусь па пэрымэтры абгародзіце».

Мне згадаліся гэтыя словы Камэнданта, калі пасьля выпадку зь сіратою Вікцяй Мароз, навучэнкай Вілейскага інтэрнату, сотням беларускіх дзетак было забаронена выяжджаць на аздараўленьне ў Італію.

Тая ж прамова Камэнданта пра страх сьмерці ўзьнікла ў памяці, калі аднаго зь лідэраў Маладога фронту, Паўла Красоўскага, арыштавалі паводле падазрэньняў ва ўчыненьні віцебскіх выбухаў (маўляў, падобны да фатаробата): згодна з гэтым артыкулам Крымінальнага кодэксу ўжо можна асудзіць да пакараньня сьмерцю. Баючыся размаху маладафронтаўскай справы й *сьведкаў салідарнасьці* на судзе, рэжым падае сыгнал сапраўдным злачынцам, якіх так і не знайшлі: «Узрывайце далей – замест вас пасадзім палітычных!»

Вялізная постаць Камэнданта вырастае цяпер па-над сотнямі менскіх галадоўнікаў-хрысьціянаў з царквы «Новае Жыцьцё», якіх пазбаўляюць іхняга дому малітвы.

Але хрысьціяне не баяцца сьмерці. Яны баяцца толькі Бога, Які ўладны і над сьмерцю, і над жыцьцём. *«Новае Жыцьцё»* – назва тут зусім не выпадковая. Вось чаму страх сьмерці не ўратаваў ад краху ані Рымскую імпэрыю, ані Трэці Райх, ані Савецкі Саюз. Былі тыя, хто не баяўся сьмерці, – і гэта азначала, што калючы дрот, стралкі на вышках і нават камэнданты бясьсільныя.

## *Бібліятэка ў прыбіральні*

Мае інтэрнацкія суседзі штодня чытаюць клясыку. «Як нам рэарганізаваць Рабкрын» Уладзімера Ільліча Леніна, «Пётар І» графа Аляксея Талстога, «Трывожнае шчасьце» Івана Шамякіна ці, на скрайні выпадак, «Тэхніку бясьпекі ў лясной вытворчасьці» з прадмовай, прысьвечанай вынікам ХХІІ зьезду КПСС. Прычым, дзеля таго, каб даведацца, якія глыбіні філязофскае думкі вымяраюць «хімікі» ды работнікі сёньня, не абавязкова наведвацца да іх у пакой. Дастаткова зайсьці ў драўляную прыбіральню (дзьве кабінкі ў паўсотні

мэтраў ад інтэрнату), ёмка ўладкавацца і прабегчы вачыма па радкох на шчодра раскіданых вакол ашмётках кніжных старонак. Некалькі цэлых клапатлівыя чытачы пакідаюць наступнікам: заткнутыя ў шчыліны паміж дошкамі, яны ўтвараюць зручны каталёг з фармулярамі самае папулярнае літаратуры за апошні тыдзень.

Ані Борхэсу, ані Оруэлу й ня сьнілася такая бібліятэка – абавязковыя 10 хвілінаў штодня, індывідуальныя кабінкі замест агульнае чытальнае залі, і напрыканцы – непазьбежная ўтылізацыя.

Здаецца, яны не чыталі Рабле, але...

Можна зразумець роспач сіценскай бібліятэкаркі, пэнсіянэркі Людмілы Пятроўны, якая скардзіцца: «Раней жа ў нас 5 тысячаў тамоў было – а цяпер некалькі соцень. Разьбіраюць і не вяртаюць. На самакруткі скурваюць іх, ці што?..»

Ці што, Людміла Пятроўна, ці што.

І застаецца ў выніку ў сіценскай бібліятэцы няпоўны Збор твораў Леніна, Маркса, рэшткі фундамэнтальных савецкіх сэрыяў накшталт «ЖЗЛ» ды «Замежная літаратура», «Васёк Трубачоў», «Паўка Карчагін»... Беларуская літаратура захоўваецца крыху лепей (пэўна, у прыбіральні чытаецца тугавата) – Крапіва, Чорны, Караткевіч. Ёсьць нават «Таямніцы полацкай гісторыі» Ўладзімера Арлова.

Але ўсё гэта – тоўшчай на дальніх пыльных паліцах. На самым бачным месцы (там, дзе раней быў чырвоны куток), вокладкамі навонкі, быццам піраміда чакалядак ці кансэрваў у сельпо – «Дзяржаўная ідэалёгія». Тут, натуральна, ніякіх табе сяброў СБП. Афіцыйная біяграфія Аляксандра Рыгоравіча, глянцавы агітпроп «Мы – беларусы», тлумныя тамы пра інтэграцыю з Расеяй. Калі бярэш у рукі які-небудзь з гэтых нарожных камянёў сучаснай, так бы мовіць, нацыянальнай дзяржаўнасьці – Людміла Пятроўна войкае й сумятліва бяжыць папраўляць, каб піраміда раптам ня рухнула. «А газэтныя падшыўкі ёсьць?» – пытаюся. «Канечне», – выкладвае бібліятэкарка «Советскую Белоруссию» і тутэйшы «Полацкі весьнік». Зьвяртаю ўвагу, што раёнка месцамі папсаваная. «А, гэта з райвыканкаму загадалі сьпісы ўчастковых камісіяў з усіх мінулых выбараў выразаць і ім адправіць». Ага. Вось, значыцца, як.

Вяскоўцы наведваюцца ў сіценскую бібліятэку параўнальна часта (апроч «Первого канала», «максімкі» й суботніх танцаў зь дзяжурнай бойкай забаваў тут небагата) – штодня чалавек па пяць-сем. Першае, што пытаюцца, – дэтэктывы. Маецца на ўвазе pulp fiction данцовых-варанцовых. «Фінал краба» таварыша Чаргінца браць чамусьці ня хочуць. Інжынэры ды майстры просяць адмысловую літаратуру, прысьвечаную лясной гаспадарцы. Астатняе бяруць гады ў рады.

Гісторык Андрэй Катлярчук напісаў мне, што яшчэ ў XVII–XVIII стагоддзях у беларускіх вясковых бібліятэках можна было трапіць на цудоўныя зборы замежнай літаратуры на некалькіх мовах. На пачатку III тысячагоддзя бібліятэка ў родных краях Эўфрасіньні Полацкай, Францыска Скарыны, Сімяона Полацкага ня мае ані Бібліі, ані слоўнікаў, ані інтэрнэту. Затое зь перадавіцы «Саўбелкі» ў падшыўцы ганарыста пазірае «дыямэнт» Нацыянальнай бібліятэкі – агромністая спаруда, напханая камуністычным ды расейскамоўным чытвом, куды людзі заходзяць хіба што падзівіцца на грандыёзныя перакрыцьці са шкла ды бэтону. Паводле сьведчаньня наведнікаў, амаль пустая. А чаму б не паставіць у тых беларускіх бібліятэках, куды людзі ўсё яшчэ ходзяць, хаця б па адным кампутары, падлучаным да інтэрнэту, – і плату за карыстаньне пускаць на набыцьцё новых кніг?.. Апроч іншых выгодаў – электронныя тэксты, прынамсі, не прападуць у чорнай дзіры.

Уладзімер Арлоў прывёз у Сітна колькі кніг зь бібліятэкі Саюзу пісьменьнікаў, наваполацкая літаратарка Ірына Жарнасек – каталіцкія часопісы, «Бацькаўшчына» пераправіла сэрыю кніжак са свайго выдавецтва. Дамовіліся, што перадам у школу падчас месячніка беларускай культуры, ладжанага мясцовай суполкай ТБМ. Падрыхтаваў каля сотні тамоў хрысьціянскае й беларускае літаратуры са сваіх або падараваных кніг і для Людмілы Пятроўны. Адзінае, трэба яе будзе папярэдзіць, каб не выдавала дахаты.

Якую ролю выконваюць цяпер вясковыя бібліятэкі ў Беларусі? Бясплатнага складу туалетнай паперы? Мясцовага інфармацыйнага цэнтру артадаксальнага марксізму й

ваяўнічага атэізму? Установы, якая дапамагае жыхарам забіваць час?..

Занядбаньнем Бібліятэкі, непавагай да кнігі й увогуле сваёй хлусьнёй дзяржава культывуе недавер і нават грэблівасьць да друкаванага слова. Людзі ня вераць кнігам (аказваецца, Ленін – такая ж фантастыка, як і Гары Потэр), ня вераць газэтам, ня вераць указам ды дырэктывам. А непавага да напісанага чорным па белым, у сваю чаргу, разбурае падмуркі самой дзяржавы. Культуру. Адукацыю. Закон. Тое, што нашчадкі Скарыны на ягонай радзіме падціраюцца друкамі, насамрэч сьведчыць пра руйнаваньне 500-гадовай цывілізацыі.

Дзе-небудзь у Пакістане ці Інданэзіі знаходка вырваных старонак з Карану адразу выклікае шматтысячныя маніфэстацыі пратэсту. А ў Малым Сітне на нашае з майстрыцай пытаньне: хто скарыстаў прынесеную эвангелісткамі кніжку з цытатамі зь Бібліі?! – работнікі абыякава цепаюць плячыма: тае бяды...

Адной з надзённых задачаў новай улады ў Беларусі будзе паўсюдная адбудова, упарадкаваньне й мадэрнізацыя бібліятэк і напаўненьне іх хрысьціянскай, патрыятычнай, беларускамоўнай літаратурай.

Новай Беларусі давядзецца пачынаць з таго ж, з чаго паўтысячы гадоў таму пачынаў палачанін Скарына. З Кнігі Кніг. Зь бібліятэк Бібліі.

Бо «на пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам», як напісана ў Эвангельлі паводле Яна 1:1.

Бібліятэка любое эўрапейскае нацыі вам пацьвердзіць, што менавіта з гэтага Слова пачынаецца нацыянальнае абуджэньне.

## *Сабачае шчасьце*

Вось ужо некалькі тыдняў наведнікаў сіценскага інтэрнату сустракае шматгалосы віск ды скавытаньне з-пад ганку. Якраз на сьвяты ў дашчанай скрынцы, зь якой зробленыя прыступкі, ашчанілася дварняжка Мільда.

Нягледзячы на бадзяжны выгляд, рост 30 сантымэтраў і вагу кіляў пяць, Мільда – псіна баявая. Службовая. Рабочы

Сяргей, які вартуе на лесапавале тралёвачныя трактары, бэнзын ды вагончык зь лесьніковым снадзівам, заўжды бярэ Мільду з сабою. Доўгімі зімовымі вечарамі, калі гаспадар глушыць «максімку» або адсыпаецца, задача Мільды – брахаць пры набліжэньні начальства, а раніцай – будзіць Сяргея да прыезду вахтоўкі. На Каляды, убачыўшы ў сваёй карацупы добрае бруха, вартаўнік кінуў яе ў вёсцы.

У маразы Мільдавы шчанюкі наўрад ці б выжылі, але дзякуючы эўрапейскай зіме бадзёра пішчаць. Цяпер Мільду, якую раней пінком адганялі ад форткі, ласкава кормяць і «хімікі», і майстрыца, і вясковыя рабочыя. Цешацца ўсе – трэба меркаваць, да тае пары, пакуль з-пад ганку ня вылезуць чатыры ці пяць новых дварняжак.

Увогуле, сабакаў у Сітне больш, чым кароваў ды сьвіньняў, разам узятых. Апроч свойскіх, пераважна аўчарак, па вёсцы гойсаюць колькі дзясяткаў дзікіх – калматых, пярэстых, вялікіх ды маленькіх, невядома якое пароды. Шыльды «Асьцярожна: злы сабака!» тут ня маюць сэнсу: злы сабака ў двары – гэта само сабою (хаця вартаваць у большасьці хатаў няма чаго). Ані ў бацькавай Унорыцы на Дняпры, ані ў матчыным Лунінцы столькі сабакаў ня бачыў.

Увечары дзікія сабакі Сітна ператвараюцца ў сапраўдных валадароў вёскі. Некаторыя гаспадары спускаюць сваіх азьвярэлых братоў меншых з ланцугоў – і ў выніку ў сельсавет штотыдня трызвоняць напалоханыя або пакусаныя жыхары.

Абмяжоўваюць колькасьць сіценскае зграі хіба начныя ваўчыныя рэйды ў моцныя маразы – бывае, рэжуць нават аўчарак на падворках.

Харчуецца ўся папуляцыя на вясковых сьметніках, ад чаго памыйныя кучы набываюць надзвычай маляўнічы выгляд. Найвялікшае ў вёсцы сабачае шчасьце разьмяшчаецца якраз за нашым інтэрнатам – апроч «хімікаў» ды рабочых, у яму ў 50 мэтрах ад бараку зносяць адкіды жыхары суседніх дамоў. У выніку, як ты ні закопвай пакункі са сьмецьцем, за ноч сабакі растрыбушаць усё да апошняга шматка. Уяўленьне такое, быццам тут выбухнула бомба, начыненая памыямі, пакінула глыбокую варонку, а ўдарная хваля разьнесла бляшанкі, цэляфан, паперкі ды неядомую клятчатку.

Часам здаецца, што сабакам у Сітне жывецца лепш, чым людзям. Калі чуеш, як п’яныя вяскоўцы брэшуць на сваіх дзяцей, бачыш, зь якой сабачай прагай малыя зь «ненадзейных» сем’яў кідаюцца на тую пячэніну ці цукерчыну, або як школьнікі сігаюць за плот ад вялізнага барбоса, спушчанага з ланцугу, – думаеш, што сабакам тут якраз пашанцавала.

Задаволена павіскваюць Мільдавы шчанюкі, аб’ект усеагульнае ўвагі ды клопату. Мітусяцца вакол людзі. Глядзіш на такую рэдкую ў гэтых краёх чалавечую ласку, пяшчоту, ціхую радасьць – і згадваеш, што вось гэты вясковец, які, пацмокваючы, падкладае Мільдзе костку, нядаўна выгнаў на вуліцу сужыцельку зь дзіцём; кабеціна, у якой аж вочы сьвецяцца каля тых шчанюкоў, пазбаўленая бацькоўскіх правоў за хранічны алькагалізм; а мужык, што пачэсвае дварняжку за вухам, адбывае «хімію» за нявыплату аліментаў.

І ўсё-такі: гэта любоў.

…На Раство да мяне прыяжджалі пратэстанты-прадпрымальнікі зь Менску. Пачаставалі на вуліцы параю мандарынаў тых дзетак, убачылі, як зьбегліся астатнія, ды, пакінуўшы 50 тысячаў, папрасілі павіншаваць усіх малых у Малым Сітне. Мне кінулася ў вочы адно: і загадчыца сельпо, у якой закупаў цукеркі, печыва ды садавіну, і супрацоўніца дзіцячага садка, і настаўніца ў школе, якім адносіў ласункі з просьбай раздаць на Раство «ад эвангельскіх хрысьціянаў», і бацькі на елцы – апускалі вочы.

Значыць, няёмка. Сорамна.

Значыць, ёсьць надзея, што ня вытаптаныя, ня згаслыя канчаткова агменьчыкі сумленьня й спагады ўрэшце разгарацца. Што беларусы адчуюць любоў Божую, любоў да блізкага свайго, да братоў – і большых, і меншых… Што адшукаюць яны шлях да Вялікага чалавечага шчасьця. Шлях, якім ёсьць нацыянальнае абуджэньне.

## *Шлях пілігрыма*

Калі адбываеш у вёсцы двухгадовую палітычную высылку, ужо падумваеш пра ўмоўна-датэрміновае вызваленьне і раптам даведваесься, што ты тут ня першы, а хто-ніхто з

палітвязьняў 250 гадоў таму па сканчэньні ўнівэрсытэту праседзеў у Сітне ўсё астатняе жыцьцё – дзякуеш Богу за лёгкі шлях.

Вестка пра майго папярэдніка-дысыдэнта, пісьменьніка, хрысьціяніна – прыйшла, уявіце сабе, са Стакгольму.

Яшчэ ўзімку найлепшая ў Эўропе беларуская міліцыя не прапусьціла да мяне ў госьці кіраўніка прадстаўніцтва Швэцыі ў Беларусі Стэфана Эрыксана. Цэлая група па захопу затрымлівала й разварочвала швэда ўжо ў Сітне: пільныя праваахоўнікі не дазволілі нават перадаць мне кніжкі ды прадукты: «А раптам вы яго атруціце!..» Кніжкі дыплямат праз бацькоў усё-такі перадаў. Сярод іх аказалася цудоўнае выданьне беларуса Андрэя Катлярчука, які працуе зараз ва ўнівэрсытэце Стакгольму – «Швэды ў гісторыі й культуры Беларусі». Абавязкова раю прачытаць: Катлярчук літаральна адкрыў у беларускай гісторыі *трэцяе вымярэньне* – апроч усходняга, праваслаўнага й заходняга, каталіцкага – яшчэ й паўночнае, пратэстанцкае. У надзвычай цікавым дасьледаваньні – і Полацак вараскіх часоў, і прашвэдзкі пратэстанцкі рух Рэчы Паспалітай, і эвангельскія ўплывы са Скандынавіі XX стагоддзя.

Неўзабаве атрымліваю ліст ад самога Андрэя – у працяг швэдзка-пратэстанцкай тэмы. «Па Вялікай Паўночнай вайне на пратэстантаў ВКЛ, што дапамагалі Швэдзіі й Карлу XII, абрынулася хваля рэпрэсіяў, – піша Андрэй Катлярчук, – каталіцкі ўрад зачыняў зборы й школы, натоўпы фанатыкаў палілі бібліятэкі й зьбівалі пастараў, шляхцічаў-пратэстантаў, выціскалі з палітычнага жыцьця... Гэткім чынам на службу ў глухі замак *Сітна* на мяжы з Расеяй трапіў выпускнік Сарбоны шляхціч-кальвініст Стэфан Аледзкі. Пражыўшы ў Сітне ўсё жыцьцё, у 1757 годзе Аледзкі пераклаў з францускай на польска-беларускую макаранічную мову культавую кнігу эўрапейскіх пратэстантаў «Шлях пілігрыма» ангельца Джона Буньяна (John Bynuan. The piligrim’s progress»).

Несправядальныя шляхі Твае, Госпадзе!

Кожнаму зь пілігрымаў, якія шукаюць Цябе, Ты вызначыў сваё падарожжа.

Аднаго, як Джона Буньяна, што напісаў сваю кнігу ў турме й зрабіўся апосталам рэфармацкага руху, вядзеш праз пакуты да сусьветнае славы і вянца сьвятасьці.

Другога, Стэфана Аледзкага, што пераклаў Буньяна для беларусаў ды палякаў, – скрозь непрыняцьцё ды забыцьцё да раптоўнае згадкі праз чвэрць тысячагоддзя.

Трэцяга, Андрэя Катлярчука, што дабраўся ажно да Стакгольму, шукаючы Тваіх сьлядоў у гісторыі, – праз жыцьцё на чужыне да захапляючых адкрыцьцяў для Бацькаўшчыны.

Нарэшце й мяне – па дарозе з саўковае РБ да сапраўднае Беларусі спыняеш у простае вёсачцы, якая не перастае зьдзіўляць глыбінёю гісторыі й насычанасьцю сэнсам.

Што было ў Сітне часоў Аледзкага? Памежны замак, дзе Стэфан кіраваў невялікай залогаю; мытня на шляху з Пскова да Полацку, на месцы якой дзятва дагэтуль капае старажытныя манэты; карчма, ля якой любы падарожны можа сёньня падабраць ашкелкі даўняе керамікі й дзе, як і зараз ля крамы, ашываліся тагачасныя бражнікі; Расея, зь якой сюды цягнулася галеча й наяжджалі разбойнікі... Усё амаль як цяпер.

Што вартаваў Стэфан Аледзкі на мяжы з Расеяй, калі Масква ўжо напоўніцу гаспадарыла і ў Полацку, і ў Вільні, і ў Варшаве? Што сказаў бы, калі б даведаўся, што выхаванцы ягонае альма-матэр тыднямі ваююць з урадам, каб іхнія працоўныя месцы на дасталіся *ўсякім палякам*, што паляк Ян Павал ІІ ад імя ўсяго Каталіцкага Касьцёла пакаяўся перад іншаверцамі за колішнія рэпрэсіі, а беларускія пратэстанты, якіх ізноў залічваюць да «нетрадыцыйнага для Беларусі веравызнаньня», стаяць поплеч з ксяндзамі ў намётавым гарадку супраць тыраніі?..

Які шлях прайшоў Стэфан Аледзкі? З бліскучай адукацыяй, у пажыцьцёвым выгнаньні, у глушэчы, сярод безнадзёгі, на тле грамадзкага ўпадку, гаспадарчага бязладзьдзя й палітычнай нецярпімасьці – пераклаў кнігу для руху гэткіх жа гнаных хрысьціянаў па ўсёй Рэчы Паспалітай. Ня выракся веры, не апусьціў рукі, ня сьпіўся – і вось, праз два з паловай стагоддзі ўжо на старонках першай беларускай газэты завіт-

вае да тысячаў суайчыньнікаў, каб падбадзёрыць іх: «Вышэй галаву: бывала й горш!»

Часам нам здаецца, што мясьціны шэрыя, часы змрочныя, людзі нудныя, а жыцьцё марнае – але менавіта сум сьвету, тлум чалавечы й доўгае чаканьне ёсьць абавязковай платай пілігрыма за спатканьне са сьвятасьцю.

Спачатку ў кожнага пілігрыма свой шлях. Кожны пакідае ўласную хату са сваімі думкамі, уласным грахом, пакаяньнем ды пакліканьнем. Кожны ўяўляе падарожжа па-свойму, размаўляе з Богам асабіста й адольвае цяжкасьці самотна. Але па меры набліжэньня да мэты сустракае тых, хто ідзе туды ж, куды й ён, – і асобны шлях уліваецца ў супольную пілігрымку. Чароды падарожнікаў злучаюцца: на дарозе ўжо хроснае рушаньне пад агульнымі сьцягамі й харугвамі, з дружнымі гімнамі й шматтысячным рокатам малітвы... І калі дзясяткі, сотні тысячаў вернікаў, паплечнікаў, вандроўнікаў зьбіраюцца разам ля самое сьвятыні – кожны бачыць на свае вочы, што ягоны няблізкі й цяжкі, але ўпарты асабісты шлях урэшце рэшт вёў да ўсеагульнага нацыянальнага абуджэньня.

*В. Малое Сітна, 2005–2007 гады*

## З КНІГІ «ЛЮБЛЮ БЕЛАРУСЬ»

### *Расейская імпэрыя*

Расея стала Расейскай імпэрыяй толькі тады, калі ўзламала Беларусь. Расея стала імпэрыяй культуры толькі тады, калі прыўласьціла Беларусь. Расея перастала быць сусьветнай імпэрыяй толькі пасьля таго, як гэта вырашылі ў Беларусі.

Стагоддзі войнаў ды акупацыяў прызвычаілі нас глядзець на Расею або па-рабску, або варожа, спадылба, і бясьсіла ўглядацца вакол: скрозь мат, расейшчына й улада Крамля. Але Госпад Бог невыпадкова даў нам супэрсуседа – самую буйную краіну ў сьвеце. Дзяржава, якая жыве паводле прынцыпу Кацярыны: «Людзі народзяцца, а землі – не», адкрывае

для беларускай місіі велізарныя прасторы Азіі. Беларусь адзіная, хто можа перамагчы ў Расеі імпэрыю.

Супрацьстаяньне Расеі й Беларусі – з разраду эпічных бітваў чалавечае гісторыі. Так змагаліся Ірляндыя з Ангельшчынай, Сэрбія з асманамі або Ізраіль з Рымам. З XV стагоддзя Масква, якой не давала спакою найменьне галоўнай, незалежнай, сьвятой Белай Русі, спрабавала праглынуць і ператварыць Беларусь, а Беларусь у адказ спрабавала ператварыць Расею хрысьціянскім уплывам, культурай і, урэшце рэшт, самаахвярнасьцю.

Вялікае Княства Маскоўскае мангола-татарскае іга выхавала як дэспатыю ардынскага кшталту. Ужо ў XV ст. Масква ўзяла шлюб са сьмяротна хворай Бізантыяй, абвесьціла сябе Трэцім Рымам і распачала агрэсіўныя войны, а ў часы Івана Жахлівага набыла пазнавальныя абрысы: «Чудище обло, огромно, озорно, стозевно и лайяй!..»

Іван сапраўды аказаўся жахлівы. Геапалітычнае сутыкненьне з ВКЛ і суперніцтва за славянскае лідэрства раз і назаўжды зрабілі Беларусь галоўнай праблемай Расейскай імпэрыі на шляху экспансіі ў Эўропу, галаўным болем крамлёўскае ваеншчыны й насычэньнем галоднае Расеі працоўнай сілай, гарматным мясам ды вялікімі талентамі.

Ужо тады Беларусь, адчайна абараняючы ўсходнія межы, намагалася перамагчы імпэрыю эвангелізацыяй. Скарына павёз у Маскву Бібліі – спалілі. Федаровіч і Мсьціславец усё-ж такі распачалі тут друк Сьвятога Пісьма – выгналі. У гэты ж момант цар нанёс удар у сэрца Полацку. Іскры беларускай Рэфармацыі запальвалі сярод расейскіх мяшчанаў агмяні, гатовыя выклікаць выбух, – але апрычніна й артадоксы тут жа гасілі іх на калох і дыбах.

Імпэрыя ўжо ацаніла сілу супраціўніка. Адгэтуль яе глябальнай мэтай стала поўнае й безагаворачнае зьнішчэньне Беларусі. У страшнай вайне 1654–1967 гадоў загінуў кожны другі беларус. Паўночная вайна забрала яшчэ 800 тысячаў жыцьцяў. Нарэшце, напрыканцы XVII стагоддзя зьнясіленую да страты прытомнасьці краіну Расея акупавала цалкам.

Беларусь усё яшчэ была жывая – і ўсё з той жа непамыснай любоўю да ворагаў прасьвятляла, дабраслаўляла й ра-

тавала Расею. Сімяон Полацкі стварае ў Маскве першую партыю «заходнікаў» і спрабуе выхаваць эўрапейцам малога Пятра I. Мялет Сматрыцкі навучае Усход пісьмовасьці, Ільля Капіевіч распрацоўвае для расейцаў шрыфты й падручнікі. Палонныя беларускія рамесьнікі ствараюць шэдэўры духовага мастацтва, ад іканастасаў да саміх абразоў, у маскоўскіх храмах і манастырах...

Гэта паражае да глыбіні душы. Нават у апагеі магутнасьці, зь межамі ад Ціхага да Атлянтычнага акіяну, Расейская імпэрыя настолькі баялася маленькай, ледзь дыхаючай Беларусі, што выкараняла і яе мову, і веру, што забараняла нават імя. Скасаваньне Статуту ВКЛ, ліквідацыя вуніі й перайменаваньне ў «Северо-западный край» праводзіліся гэнэралам-губэрнатарам Мураўёвым ужо як пахаваньне. Тое, што не дарабіў расейскі штык, мусіла дабіць расейская царква і расейская школа.

Але неверагодны контарнаступ цэлай дыяспары геніяў, якім Беларусь адказала на гэта Расеі ў XIX стагоддзі належыць да найвялікшых цудаў нашай гісторыі. Міхаіл Глінка, аўтар расейскага гімну й заснавальнік расейскае музычнае клясыкі, Хведар Дастаеўскі, самы хрысьціянскі пісьменьнік Расеі, яе прарок, Немiровіч-Данчанка, Стравінскі й Барадзін, Грыбаедаў, Рымскі-Корсакаў, Пісараў, Бунін выклікалі сьветапоглядную рэвалюцыю знутры імпэрыі й літаральна пераплавілі расейскае грамадзтва высокай, натхнёнай, духовай культурай.

Параза імпэрыі была прадвырашаная.

XX стагоддзе вялізнымі крыжамі перакрэсьліла Расею як імпэрыю – менавіта ў Беларусі.

У 1898 годзе ў Менску зьбіраецца I зьезд РСДРП – партыі, якая разбурыць старую Расею да асноваў.

У 1915–1917 гады ў Магілёве, у стаўцы I Сусьветнай вайны, расейскі цар Мікалай II дачакаецца развалу гіганцкае дзяржавы і вырачацца прастолу, так і не даехаўшы да Піцеру.

Потым – Берасьце: заключаецца вядомы «Берасьцейскі мір» бальшавікоў зь немцамі, праз 20 гадоў пасьля якога, з пактам Молатава – Рыбэнтропа, вэрмахт і Чырвоная Армія наладзяць сумесны парад – і вось праз 2 гады гітлераўцы

возьмуць штурмам Берасьцейскую крэпасьць і накіруюць галоўны ўдар супраць Расеі празь Беларусь.

Белавеская пушча 1991 года падвядзе рысу пад 70-гадовым існаваньнем СССР. Звыш-Расея, што дасягнула кульмінацыі ў самай страшнай за ўсю гісторыю чалавецтва таталітарнай, агрэсіўнай і бездуховай Імпэрыі зла, рухнула на самай мяжы захопленае Беларусі.

Бо Беларусь любіць Расею той невытлумачальнай, найвышэйшай любоўю, якая сьцьвярджае: «Любіце ворагаў вашых, дабраслаўляйце кляцьбітаў вашых, рабіце дабро ненавісьнікам вашым і маліцеся за крыўдзіцеляў вашых» (Мацьвея 5: 44). Калі ў Расею можна толькі верыць – Беларусь можа толькі любіць.

Закон гісторыі: Расеі як імпэрыі наканавана пацярпець крах менавіта праз хрысьціянскую Беларусь. І, адпаведна, празь любоў, малітву й слова Беларусі – ад імпэрскасьці збавіцца.

## *Крыніцы*

Беларусь – краіна-крыніца.

Вобраз бліскучы, жывы й празрысты. Галоўныя рэкі Ўсходняй Эўропы выцякаюць са спрадвечных балотаў і водападзелаў Міжмор'я, абжытых беларусамі. Беларускія крыніцы наталяюць вадою суседзяў: Дняпро з Прыпяцьцю – стэпавую Украіну, Нёман і Вялья – Літву, Дзьвіна – Латвію, Буг і Нарач – Польшчу. Нават расейская Волга пачынаецца на этнічна беларускім Валдайскім узвышшы, ключавой структуры ўсходне-эўрапейскае гідраграфіі. Адсюль, быццам з забытага, зарослага глухім лесам Эдэму, цякуць вялікія патокі ва ўсе чатыры стараны сьвету. Бо гэта «З Эдэму выплывала рака на арашэньне раю, і потым разьдзялялася на чатыры ракі...» (Быцьцё 2: 10). Волга на Усход, Дняпро на Поўдзень, Дзьвіна на Захад, Ловаць з Волхавам да Ноўгарада, Ладагі, Нявы – на Поўнач.

Крыніца – ключавы сымбаль Беларусі.

Дажджы й росы, талыя воды й туманы перапаўняюць набрынялую вільгацьцю зямлю, сочацца скрозь глебу, фі-

льтруюцца праз крышталёвыя пясочкі, намнажаюцца, а потым пад ціскам тоўшчаў мкнуць да сьвятла й паветра і струменяць ключом чысьцюткае жывое вады. Гэтак, тыпова па-беларуску, нараджаецца цуд тварэньня Божага. Беларуская зямля крынічыць амаль паўсюль – у лесе, балотах, на дне азёраў ды схілах узгор'яў. Калі вада халодная й празрыстая – значыць, блізка крыніца. Ціхая, сьцюдзёная крынічка ў гушчары зь берасьцяным кубкам для піцьця на галінцы – такі ж фірмовы знак Беларусі, як «Песьняры», гружаны БелАЗ або Крыж Эўфрасіньні Полацкай. «Крыніцай» называецца самае папулярнае беларускае піва, лепшыя рэстарацыі й санаторны комплекс пад Менскам. Беларуская паэзія бруіць крыніцамі скрозь, ад Багдановіча да Сокалава-Воюша.

Паняцьце крыніцы для беларускай нацыянальнай ідэі поўнае сэнсу: гістарычнага, геапалітычнага, культуровага, духовага. Беларусь – першапачатак і першапрычына сусьветнай значнасьці.

Мы глядзім тэлевізію, слухаем радыё, чытаем кнігі й газэты, на кожным кроку сустракаемся з загадкавай мэлядычнасьцю й веліччу Расеі, з рамантызмам і ўзьнёсласьцю Польшчы, манюшкамі й арэшкамі, ліцьвінамі й, вядома ж рабіновічамі, з фактамі беларускага паходжаньня тысячаў – так, тысячаў! – знакамітых паэтаў, прарокаў, правадыроў; ужо як належнае ўспрымаем родныя беларускія мясьціны галівудзкіх зорак, ізраільскіх дзеячаў, амэрыканскіх кангрэсмэнаў і эўрапейскіх славутасьцяў, знаёмае ў імёнах, фразах, асацыяцыях – і нават не даём сабе справаздачы, што так багата істотнага бярэ свой пачатак у Беларусі!

Азірніцеся вакол. Зацінае дых, аж хочацца плакаць ад жалю і шчасьця: адлюстраваньні самае сьветлае й ахвярнае ў Эўропе любові, пералівы найглыбейшае сьпеўнасьці й мяккасьці, праблёскі яснае й глыбокае, ціхае, цярплівае прыгажосьці – вось ад чаго на велізарным абшары млее Расея, вось чым пыша Польшча, вось чым зьзяе Ізраіль, вось што калыхаецца, кіпіць і сьвеціцца, прабіваючыся да сьвятла з-пад зямлі, ад Белага мора да Чорнага, ад Атлянтыкі да Ціхага акіяну!

І калі вы пачуеце ўлюбёнае поўнагалосае аканьне і сьціслае, быццам птушынае ціўканьне, дзеканьне й цеканьне,

памяншальна-ласкальныя абароты праз слова, мілыя ноткі, знаёмыя зь дзяцінства, у пастаянных спасылках, канчаткі на «іч – ыч», «онак – ёнак«, і «эня – еня», кропелькі роднасьці ў тытрах ды цытатах, калі вы адчуеце гэтыя шчырыя й чыстыя токі, пранізлівы рытм вялікага Сэрца ў пульсах Кіева, Вільні, Варшавы, Масквы, Піцера й Ерусаліма – шукайце беларускіх крыніцаў.

Вы пачынаеце адчуваць, што перад вамі чыстая, як сьляза, беларускасьць. І што гэта? Вашыя вочы міжволі робяцца крыніцамі.

У невычэрпным альтруізме, якім, як крывёю, сплывае Беларусь, якім пяюць і пояць беларускія крыніцы, празрыста бруяць эвангельскія словы Хрыста: «Хто будзе піць ваду, якую Я дам яму, той ня спрагнецца вавек; а вада, якую Я дам яму, зробіцца ў ім крыніцай вады, што пацячэ ў жыцьцё вечнае» (Яна 4: 14).

## *Берасьце*

Берасьце. Горад-брама. Горад-мяжа. Горад-вартавы.

Берасьце – знак, ад якога адлічвалі межы савецкай улады: «Ад Брэста да Курыл», «Ад Масквы да Брэста нет такога места…». Дагэтуль Крамлю пагражае «натаўскі бот пад Брэстам». Прапускны пункт СССР на Захад, крэпасьць-герой, цэнтар заключэньня вуніі паміж каталіцызмам і праваслаўем 1596 года ды Брэсцкага міру 1918 года, гняздо беларускай Рэфармацыі – вось яно, вастрыё, якое нацэльвае Беларусь у Эўропу, аднолькава адлеглае ад Вільні й Менску, на той самай мяжы, за якой заходзіць сонца.

Берасьце – месца для беларускай зямлі, беларускай гісторыі й беларускай духовасьці скрайне важнае.

Берасьце нарадзілася з замку й дазорнай вежы на памежжы дрыгавічаў з палякамі й валынянамі, зь пільнаваньня ў сутоцы водных шляхоў з Чарнамор’я й Кіева да варагаў і немцаў, з мытні й гасьціннага двара для іншаземцаў. У напятай лукавіне Буга й Мухаўца, са стрэламі касьцёльных сьпічакоў і лязом мяжы – Берасьце заўжды было на вастрыі. Тут Вітаўт і Ягайла плянавалі паход на Грунвальд, тут праводзілі-

ся вялікалітоўскія соймы й зьезды шляхты, сюды першымі даходзілі навіны з Захаду й апошнімі – захопнікі з Усходу. Што значыла Берасьце для ВКЛ, калі тут упершыню ў Беларусі зьявілася габрэйская грамада, калі менавіта яму наступнаму пасьля сталіцы ў 1390-м было даравана магдэбурскае права, калі ў даходах дзяржаўнай казны XVI стагоддзя Берасьцейская мытня складала другі па значнасьці артыкул!

Колішні берасьцейскі герб, вежа ў сутоцы рэкаў, у эпоху Залатога веку трансфармаваўся ў срэбны лук са стралой, нацэленай у неба. Высокасьць мэтаў, напружаньне звыш сілаў, імкненьне да Царства Нябёснага – сутнасьць Берасьця. Вось сапраўдная мяжа, на якой стаяў, стаіць і будзе стаяць гэты горад!

Берасьце, быццам агромністы лук, удвох напялі знакаміты берасьцейскі стараста й канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл Чорны, пачынальнік Рэфармацыі ў Беларусі, і Астафі Валовіч, берасьцейскі ваявода, аўтар Статутаў. Адсюль рушыў той бурлівы духовы ўздым, што абудзіў усе канфэсіі, зь якім уся краіна каялася, ішла да Хрыста й рабілася нацыяй. У Берасьці ў 1553 годзе адчыніўся першы кальвінскі збор – празь дзесяць гадоў па ўсёй Беларусі будуць збудаваныя сотні збораў. У Берасьці, нацэленым у неба, у 1588 годзе нарадзілася беларускае нотадрукаваньне – канцыял «Песьні хвал Боскіх», першы зборнік нашых духовых гімнаў. Зь берасьцейскае друкарні выйшлі дзясяткі хрысьціянскіх выданьняў на лаціне і шыкоўная польскамоўная «Берасьцейская Біблія» – 738 старонак гатычнага шрыфту, з прадметным указальнікам і камэнтарамі – неацэнны дар беларускага хрысьціянства Польшчы.

Берасьце, вострае й зараджанае Берасьце імкнулася зьмяніць усю Эўропу. Берасьцейская вунія 1596 года, адно з найцяжэйшых прымірэньняў у гісторыі чалавецтва, духова злучыла Усход і Захад, спарадзіла мільёны прыхільнікаў хрысьціянскага адзінства і давяла да мяжы зьнікненьня беларускае праваслаўе. Зь Берасьцейшчыны і ідэоляг вуніі, гарадзкі кашталян Іпацій Пацей, і яго заціты супраціўнік, аўтар легендарнага «Дыярыюшу», настаўнік Ілжэдзьмітрыя Афанасій Філіповіч, расстраляны падчас казацкага бунту й кананізаваны праваслаўнай царквой.

У Берасьці прарокі Расеі, Чаадаеў і Грыбаедаў, адчайна марылі пра збаўленьне сваёй краіны. У Берасьці нарадзіліся прэм’ер Ізраіля Менахем Бегін і прэм’ер БНР Аляксандр Цьвікевіч. Зь Берасьця і Мікалай Кузьміч – майстар, што аднавіў Крыж Эўфрасіньні Полацкай.

Наколькі ж ненавіснае было гэтае месца нябёснага імкненьня й сьвятое напругі, ключавое злучво Рэчы Паспалітай, імпэрыям і акупантам! Ахвяра Хаванскага ў 1660-м, кропка падзелу паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расеяй, узятая ў 1794-м Суворавым і ператвораная ў лягер вялізнага расейскага гарнізону… Царскія, каралеўскія, кайзэраўскія штыкі білі ў Берасьце з д’ябальскай апантанасьцю, быццам перуны: каб не напружвалася, ня цэліла, не страляла. У 1831-м захопнікі дарэшты спаляць увесь стары горад, спустошаць цэрквы і кляштары – каб цалкам пахаваць Берасьце пад калясальнай крэпасьцю. 500 казэматаў, двухкілямэтровая замкнёная казарма Цытадэлі на 12 тысячаў чалавек – з крывавае берасьцейскае цэглы, са стайнямі, складамі й штабамі, абсталяванымі ў храмах.

Новы, пусты горад, аднесены на некалькі кілямэтраў на ўсход, адгэтуль будзе здалёк назіраць за тым, як моцна б’ецца яго старажытнае сэрца. Бальшавікі выбралі Берасьцейскую крэпасьць, каб правакаваць сусьветную рэвалюцыю й расплочвацца за гэта Беларусьсю ды Украінай на перамовах зь Нямеччынай 1918 года. Але ўжо праз 20 гадоў у такт пакту Молатава – Рыбэнтропа й зьнішчэньня Польшчы Чырвоная Армія й вэрмахт будуць разам пячатаць крок на пляцы Цытадэлі падчас сумеснага параду. А яшчэ праз тры гады, 22 чэрвеня 1941-га, гэтыя сьцены скалане першы ўдар Гітлера. І Берасьцейская крэпасьць – такое месца, такія камяні, такія людзі! – будзе адстрэльвацца да апошняга, абараняць руіны, расьпісваючыся крывёю на сьценах. Паміраць, але не здавацца.

Бог зьбярог Берасьце.

Гэты горад выжыў. Убачыў і крах фашызму, і сотні тысячаў вэтэранаў у мэмарыяле, і канчатковае пахаваньне савецкае імпэрыі зла ў Белавескае пушчы – блізка, як на далоні.

Сёньня сэрца Берасьця – на вастрыі стралы, на самым памежным выступе крэпасьці, дзе сканцэнтраваная ўся бела-

руская гісторыя. Цэлае радовішча горычы, роспачы й велічы. Рэшткі аўгусьцінскага кляштару, фундаванага Вітаўтам, россыпы царквы, дзе абвяшчалі вунію, руіны крэпасьці й асколкі храмаў, раскіданыя выбухам, – увесь гэты зьмяшаны ў крывавае крошыва найкаштоўнейшы прах, сьціснуты ў кулак, гарыць вечным вагнём і асьвячае бэтонныя манумэнты, вядомыя ўсяму сьвету. Вельмі, вельмі берасьцейскія. «Холмская брама». «Смага». «Мужнасьць».

Берасьцейцы, сама энэргія й трапнасьць, засталіся прыроджанымі стралкамі з луку. Менавіта тут былі арганізаваныя ўсесаюзныя спаборніцтвы ў гэтае дысцыпліне на кубак яшчэ аднаго нараджэнца Берасьця, лётчыка-касманаўта (як вам стрэл у неба!) Пятра Клімука. Берасьцейскія стралкі сталі чэмпіёнамі сьвету й алімпійскімі прызёрамі.

Беларускі фарпост на Захадзе, 300-тысячны горад з паўмільярдным пасажыраабаротам, грузапатокам 150 мільёнаў тона-кілямэтраў, аэрапортам на 100 тысячаў пасажыраў у год, скрыжаваньне чыгунак, аўтамагістраляў і трубаправодаў, сталіца чаўночнага бізнэсу, застаўленая трэйлерамі й гуртовымі складамі, Берасьце – прыцэл Беларусі ў глыбіні Эўропы.

Берасьце зноў чакае тых, хто напружыць старажытны лук. Да мяжы сілаў і духу – дзеля найвышэйшае мэты!

## *Бел-чырвона-белы сьцяг Хрыста*

Калі бачыш бел-чырвона-белае, вочы міжволі прымружваюцца, як ад сьвятла. Сэрца пачынае біцца буйней, а ўсхваляваная душа ўскалыхвае ўсё цела.

Бел-чырвона-бела сьцяг – найвялікшы беларускі сымбаль, наймацнейшая канцэнтрацыя сэнсу нацыянальнае ідэі, зашыфраванае імя Беларусі.

Бо вось ужо дзьве тысячы гадоў гэта – сьцяг Ісуса Хрыста.

Усё проста: белая палатніна, у якую, згодна з габрэйскім звычаем, на пахаваньні загарнулі скрываўленае цела ўкрыжаванага Ісуса, засталася людзям як знак перамогі над злом, нянавісьцю й сьмерцю, калі Хрыстос уваскрос.

Бел-чырвона-белая Турынская плашчаніца прызнаецца навукова пацьверджаным цудам і адной з галоўных

рэліквіяў хрысьціянства. Гэты знак, белую палатніну з чырвоным крыжам, пачалі шырока выкарыстоўваць як сымбаль усяго хрысьціянства ў сярэднявечнай Эўропе. Сьцяг Хрыста зьяўляўся на абразах, вайсковых харугвах, мачтах караблёў – і зь цягам часу, у розных варыяцыях, увайшоў у велізарную колькасьць гербаў, вымпелаў і нацыянальных сьцягоў на ўсёй эўраатлянтычнай прасторы ў Старым і Новым Сьвеце. Дастаткова згадаць, што Ангельшчына дагэтуль мае сьцяг белы з чырвоным крыжам (і гэта яго спалучэньне зь сінім, таксама крыжовым, шатляндзкім штандарам, стварае знакаміты брытанскі «Юніён Джэк»), а сьцягі Швэдзіі, Нарвэгіі, Фінляндыі, Грузіі, Даніі, Швайцарыі й Ісляндыі ўтвораныя паводле розных колеравых камбінацыяў асноўнага Сьцягу Хрыста. Калі ёсьць штосьці, што лучыць на элемэнтарным, кодавым узроўні ня толькі Эўропу, але і ўсю заходнюю цывілізацыю – дык гэта, бясспрэчна, ён, адзін з самых старажытных і ключавых хрысьціянскіх знакаў.

Многія беларускія геральдысты, што вывучалі крыніцы зьяўленьня бел-чырвона-белага сьцягу, пісалі пра «Крыж сьвятога Юр'я», індаэўрапейскія архетыпы, сялянскія ручнікі, польскія прапары й яшчэ немаведама што – але чамусьці не заўважалі тае жывое сілы, тае імклівасьці й настойлівасьці, зь якімі ўсе дзесяць вякоў беларускае гісторыі скрозь працінае Сьцяг Хрыста. Прыняцьцё хрысьціянства і самой назвы Белая Русь; Сафія зь бел-чырвона-белае муроўкі; бел-чырвона-белая «Пагоня» ў ВКЛ; Грунвальд – белыя харугвы з чырвоным крыжам; бітва пад Воршай – бел-чырвона-белыя сьцягі Хрыста на піках у вершнікаў... На каталіцкіх ды вуніяцкіх сьвятынях – паўсюдна Сьцяг Уваскрасеньня. Праваслаўныя патрыярхі (прыгледзьцеся, нават сёньня) – з абавязковай бел-чырвона-белаю паласою ў рызах. У беларускага гусарскага палка, створанага за Аляксандрам I, – бел-чырвона-белыя сьцягі й какарды; і ў тых беларусаў, хто ваяваў на баку Напалеона, – таксама. І Касьцюшка, і Каліноўскі – пад сьцягамі зь белі й чырвані... І вось, у 1918-м (як пішуць некаторыя дасьледчыкі, «абсалютна нечакана») зьяўляецца той самы бел-чырвона-белы сьцяг БНР. Праз расстрэлы й пахаваньні ў Курапатах канца 1930-х, праз вай-

ну й партызанку, разруху й застой – да Курапатаў 1988-га, дзе ўпершыню пасьля дзесяцігоддзяў цемры ўспыхвае зноў.

Вось ён, сымбаль Беларусі. Ня «сала з праслоем мяса» й не скрываўлены бінт міфічнага князя-ваяра, пра які так любіць пісаць сёй-той. Сьцяг Уладара й Пераможцы. Госпада, Збаўцы чалавецтва! Бліскучая бел-чырвона-белая ўсьмешка й захапляючы сьвітанак на Раство. Візуальнае ўражаньне яркага сьвятла.

Ён лунае ў паветры, нібы анёлавы крылы. «Зямля пад белымі крыламі» – ці не пра гэты сьцяг пісаў Караткевіч! У самыя трагічныя, моцныя моманты беларускае гісторыі скразіць, нечакана выблісквае, асьвятляе далягляды, як азарэньне, бел-чырвона-белы сьцяг – і зноў нагадвае нам пра тое, што адбылося 2000 гадоў таму.

Пагадзіцеся: дзе-дзе, а ў сымбалях выпадковасьцяў не бывае. Бел-чырвона-белы сьцяг Хрыста – наш найгалоўнейшы сымбаль, які ў адзінай трыядзе – герб, сьцяг, гімн – займае цэнтральнае месца. Сьвяты вобраз нашай гісторыі й нашага Адраджэньня. Няма нічога, што можа яшчэ мацней выразіць зьмест мінуўшчыны, унікальнасьць сёньняшняга часу й веру ў будучыню Беларусі.

Бел-чырвона-белы сьцяг, гарачая чырвань на белым у гарманічнай прапорцыі два да аднаго, кадыфікуе формулу беларускае духовасьці. Чысьціню й ісьціну. Сьвятасьць і сілу. Боль і любоў. Ахвяру – і ўваскрасеньне дзеля збавеньня іншых. Бель і кроў, зь якімі дасталася нам незалежнасьць. Бель, якую так лёгка запляміць, і кроў, якую так цяжка аддаваць.

Для тых, хто носіць бел-чырвона-белы сьцяг на грудзях, гэта – асабістая рана, што баліць увесь час.

Гэта трэба бачыць. Чырвонае, пунсовае, барвовае, пурпуровае на белым проста сьвеціцца. Сыходзіць унутраным сьвятлом і праменіць сэнсам.

Учытайцеся – бо гэта імя. Беларусь.

## *Любоў*

Люблю Беларусь…

Прамаўляецца як пацалунак.

Беларусь, сэрца Эўропы, створаная зь любві.

Беларусы – трапяткая, далікатная й самаадданая нацыя, якая любіць і якую любяць. Любоў – гэта наш спосаб існаваньня.

Усё, што даў Беларусі Бог, – шчырасьць і ціхую пяшчоту, шчымлівую мяккасьць і ласкавую сьціпласьць, ясныя вочы й натхнёныя душы – усё гэта ад моцнай любові, зь невымоўнай любові й дзеля поўнай любові. «Бог ёсьць любоў, і хто жыве ў любові, той жыве ў Богу, і Бог у ім» (І Яна 4: 16).

І пакуты, і ахвяры, і паміраньне за іншых, і Курапаты, і Хатынь, і Чарнобыль – усё гэта было ў імя вялікае любові. «Любоў Божая да нас адкрылася ў тым, што Бог паслаў у сьвет Адзінароднага Сына Свайго, каб мы атрымалі жыцьцё празь Яго» (І Яна 4: 9).

І беларуская зямелька, сьветлая да драбнюткага чысьценькага пясочку, і трымценьне лісьцікаў, і мігценьне сьняжынак, і сьпеўныя слоўцы, і стрыманая сіла, і саступлівая цярплівасьць, і памяншальна-ласкальная форма імёнаў, і раскоша нашых улюбёных суфіксаў, ад якіх чыста ўся мова празрыстая – гэта характар вялікае любові. «Любасныя! Будзем любіць адно аднаго, бо любоў ад Бога, і кожны, хто любіць, народжаны ад Бога й ведае Бога» (І Яна 4: 7).

Беларусь, гэтая ласачка, любушка, зоранька, каханачка – вось ужо тысячу гадоў сэрца Эўропы. Пульсуючае сэрцайка, поўнае любові да Бога й бліжняга!

Беларусь – найлепшы сродак супраць нянавісьці. «Беларусь» – хоць да раны прыкладай. «Бо няма любові большае, як калі хто пакладзе душу сваю за сябраў сваіх» (Яна 15: 13). І суседзяў, і прыхадняў, і нават ворагаў Беларусь любіла той невымоўнай, найвышэйшай любоўю, якая вымагае: «Любіце ворагаў вашых, дабраслаўляйце кляцьбітоў вашых, рабеце дабро ненавісьнікам вашым і малецеся за крыўдзіцеляў вашых і ганіцеляў вашых» (Мацьвея 5: 44).

Табе балюча, родненькая? Пацярпі крышачку. Ты ж у мяне самая сьветлая, самая мілая, самая каханая… Любая… Адзіная…

Любоў – місія Беларусі.

Вось чаму беларусаў любяць.

Братка-беларус, «сябры», «Белоруссия родная» – ва ўсіх нашых суседзяў «беларус» – вобраз выключна мілы.

Беларусы й беларусачкі – людзі любові. Верныя й узьнёслыя, як Эўфрасіньня й Скарына. Адданыя й палкія, як Караткевіч ды Багдановіч. Натхнёныя й моцныя, як Каліноўскі ды Пазьняк. Хто яшчэ так любіў Польшчу, як Міцкевіч? Расею, як Дастаеўскі? Ізраіль, як Мэір, Перас, Рабін?…

Беларуская нацыя спалучае ў сабе ўсё багацьце пачуцьцяў – але, безумоўна, любоў зь іх найбольшая.

Беларусь – краіна, дзе «быць» і «любіць» – гэта адное й тое ж, дзе «любоў» і «кроў» рыфмуюцца зусім натуралёва, а любоў тоесная болю, ня трэба нават літараў перастаўляць.

У Беларусі адразу ўзгадваеш, што Бог ёсьць любоў. «Любоў, якая акупае ўсе грахі» (Выслоўі Саламонавы 10: 12). Тая звышнатуральная любоў, якая «церпіць доўга, умілажальваецца, не зайздросьціць, не праслаўляе сябе, не ганарыцца, не бушуе, не шукае свайго, не раздражняецца, не намышляе ліха, ня радуецца зь няпраўды, а разам цешыцца зь ісьціны; усё пакрывае, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё пераносіць!…» (І Да Карыньцянаў 13: 4–7).

Ты любіш Беларусь?..

Пачуцьцё любові, як жывая вада, перапаўняе Беларусь – яе цудоўную мэлядычную мову любові, яе ўзвышаную любоўную паэтычнасьць, нашую ўлюбёную ветлівасьць і гасьціннасьць. Любоў найвышэйшае канцэнтрацыі! У гэтым – стоеная сіла й ціхая магутнасьць Беларусі.

Бо запавет Госпада й Заснавальніка Беларусі – гэта запавет любові. «Палюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёй душою тваёю, і ўсім разуменьнем тваім – і палюбі блізкага твайго, як самога сябе» (Лукі 10: 27).

Бо толькі такая любоў можа пераплавіць увадно каталіцтва, праваслаўе й пратэстанцтва. Толькі такая любоў здоль-

ная раздаць усю сябе па кавалачках суседзям. Толькі такой любові пад сілу пераадолець жах нашых войнаў і нянавісьць іхніх імпэрыяў.

«Люблю Беларусь» – гэта элемэнтарная формула патрыятызму, спрошчаная ад крэда Беларусі: «Люблю, Беларусь».

Любі Беларусь.

Бо ў любові да Бога, любові да блізкага, любові да краіны – у гэтых трох іпастасях ЛЮБОВІ й заключаецца ўвесь сэнс беларускай нацыянальнай ідэі.

*Менск, 2002–2004 гады*

## З КНІГІ «БЕЛАРУСКАЯ ГЛЫБІНЯ»

### *Беларуская глыбіня*

*Ён адкрывае глыбокае і*
*стоенае, ведае, што ў змроку,*
*і святло жыве з Ім.*
Даніíла 2: 22

У турме адзін мудры чалавек сказаў мне: «Не пытай сябе ў няволі – “За што?”. Спытай – “Дзеля чаго?”».

Дзеля чаго Госпад дае табе крыж часу і прасторы, новы пачатак каардынатаў у жыцці, новых людзей, новыя вобразы і падабенствы Свае? Чым ачысцяць, адновяць і напоўняць яны тваё сэрца?

У параўнанні з Малым Сітнам у Купліне святлей.

Больш сонца: як-ніяк, паўтысячы кіламетраў на поўдзень.

Раённыя Пружаны чысценькія, вымеценыя, у кветачкі.

Святлейшы лес – не змрочныя елка ды хвоя, а ясень, бяроза, таполя, дуб, клён. Святлейшыя вочы – тут усё-такі Заходняя Беларусь, няма сіценскага адчаю.

Святлей ад жывое веры і мовы. Светла ў царкве – ад белых галоваў мужыкоў і дзяцей.

І глыбіня.

«Шырокая руская душа, – сказаў праз Івана Карамазава найглыбейшы расійскі пісьменнік і беларус Дастаеўскі, чыё родавае гняздо Дастоева ў гадзіне язды ад Купліна, – я б звузіў».

Дык вось, наколькі расійская душа шырокая, настолькі беларуская глыбокая – як беларуская пакута, беларускае цярпенне, беларускае балота.

Беларусы, у адрозненне ад расейцаў, украінцаў, палякаў, – інтраверты, заглыбленыя ў сябе. Таму беларуская *глыбінка* – гэта не правінцыя. Багна? Бездань?

Глыбіня.

Тут – патаемная глыбіня: пад Белавежскай Пушчай у савецкія часы размяшчаліся стратэгічныя аэрадромы, нацэленыя на Еўропу. У самай такой беларускай глыбіні без адзінага стрэлу зруйнавалі найвялікшую імперыю зла: Віскулі таксама ў Пружанскім раёне.

Увогуле, гэта берасцейскае наваколле паміж Палессем і Літвой, паміж Белавежай і Выганашчанскімі балотамі – Пружаны, Бяроза, Івацэвічы, Кобрын – надзвычай глыбокае.

Глыбокае, як магутнасць роду Сапегаў, чый замак у Ружанах уражвае падзем'ямі ў некалькі паверхаў, прызначанымі для вялікалітоўскіх скарбаў; як унікальны тэнар Міхася Забэйды-Суміцкага, ураджэнца тутэйшых Шэйпічаў; як тысячы народных мелодый са збору пружанца Рыгора Шырмы; як балады Андрэя Макарэвіча з «Машыны часу», чые дзяды з ваколіцаў Малеча; як 600 тамоў прозы Юзафа Крашэўскага, чый род калісьці валодаў Старым Куплінам; як хрыплы крык, вырваны з самага сэрца Уладзіміра Высоцкага, чые продкі – з Сяльца Бярозаўскага раёна; як верлібры Алеся Разанава (з таго ж Сяльца); як бас Анатоля Папанава, вязня з «Халоднага лета 53-га» і «ваўка» з мультфільма «Ну, пачакай!», чыя матуля перадала сыну непаўторна ёмісты тутэйшы выгавар; як пераклады Васіля Сёмухі з блізкага хутара Ясенец, асабліва калі чытаеш Слова Божае ў Сёмухавым перакладзе; як вера ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага (мястэчка Поразава адсюль рукой падаць), аднаго з заснавальнікаў БНР і БХД, таго самага ксяндза, што распачаў імшу па-беларуску і быў расстраляны

ў Трасцянцы гестапаўцамі ў ноч на Раство 1942 года; як веданне Бібліі беларускімі баптыстамі, чыёй сталіцай ёсць Кобрын; як удых волі Тадэвуша Касцюшкі з Мерачоўшчыны, за паўсотні кіламетраў адсюль; як мясцовыя тарфяныя балоты, у адным з якіх, Гатча-Восаўскім, знайшлі адзінае ў Беларусі прамысловае радовішча бурштыну; як пружанскі антыалкагольны рух сялянаў 1846–1848 гадоў, што перакінуўся на суседнія губерні; як здрада Азефа, ураджэнца тутэйшай вёскі Лыскава, кіраўніка баявой арганізацыі эсэраў, які арганізоўваў забойствы вышэйшых чыноў імперыі і адначасова «здаваў» паплечнікаў; і, урэшце, як бездань падзення курса беларускага рубля пасля сыходу пружанскага вылучэнца Пятра Пятровіча Пракаповіча...

І вось Госпад дае акунуцца ў гэтую глыбіню – акунуцца разам з сотнямі насельнікаў куплінскай «хіміі», наведнікамі і міліцыянтамі.

Глядзіш у вочы юным беларусам, у бяздонныя вочы пакалення незалежнасці, бачыш будучыню, што пакутуе, п'е да анабіёзу, перакідаецца мацюкамі і мроіць пра шчасце – і аж правальваешся, колькі тут глыбока роднага і глыбока чужога!

Дзеля чаго – ёсць час падумаць. Час адкрыць новыя цуды ў звыклым, забытым і занядбаным.

І зразумець, што сённяшнім нашым беларускім скрыжаваннем часу і прасторы валодае не Лукашэнка і не Расійская імперыя, а Сам Госпад Бог.

## *Каменда*

### *1*

*...Прапаведаваць палонным вызваленне, сляпым празрэнне, адпусціць спакутаваных на свабоду.*
Лукі 4: 18

Спецкамендатура № 7, або, прасцей, каменда – былая савецкая казарма ў колішнім вайсковым гарадку. Саўком, пахаваным дваццаць гадоў таму зусім непадалёк, у Віскулях Пружанскага раёна, тут тхне дагэтуль. Ужо на ўваходзе лёгкія да самых глыбіняў напаўняюцца камунальным духам агульнага карыстання, уласцівым рабочым інтэрнатам ды маласямейкам. «Ленінскі пакой» з партрэтам Лукашэнкі, чырвона-зялёным сцягам і гімнам пра гэты самы «радасці сцяг» нудзіць пылам старых тамоў эпохі застою, ад Чарнышэўскага да Чаргінца. У кухні па-над умывальнікам, калі возьмешся спаласнуць твар жаўцявай вадзіцай, б'е ў нос прысмак ржавага металу і крыві. Балотнае жалеззе. «Хімія» з такім знаёмым савецкім пахам арганічна спалучаная з КДБ, вуліцай Карла Маркса, «лініяй Сталіна» ды іншай савецкай спадчынай.

Каменда – двухпавярховы казённы дом з закратаванымі вокнамі; перад уваходам – дзьве альтанкі (камеры назірання выведзеныя ў дзяжурку). Тры дзясяткі пакояў: кабінеты міліцыянтаў, кухні ды інтэрнацкія пакойчыкі змяшчальнасцю ад двух на сямі чалавек. Наш – на трох: ложкі, тумбачкі, стол. Сярод сотні асуджаных у асноўным маладыя хлопцы – берасцейскія, баранавіцкія, пружанскія. Хтосьці за бойку, хтосьці за «хуліганку», хтосьці за нявыплату аліментаў. Людзі і размовы такія самыя, якія пачуеш у любым двары: маё пакаленне, пра якое спяваў Вольскі (дарэчы, N.R.M. тут можна пачуць з мабільніка часцей, чым чакаеш). Міліцыянты, у адрозненне ад жылістых «хімікаў», мужчыны мажныя і сабе наўме. Хтосьці пераконвае сябе, што змагаецца са злом; хтосьці стомлена гумарыць («пясчаны кар'ер – два чалавекі!..

Калі нехта вырашыў выпіць – пакой нумар такі, увага! – і не запрасіў вас – чакаем у дзяжурцы»); хтосьці механічна афармляе «нарухі» (парушэнні) з прычыны п'янкі або ўцёкаў дахаты і рыхтуе чарговаму «хіміку» дакументы на зону.

Дзяжурка з карцарам-клеткай. І званкі. Адзін – выклік днявальнага першага паверха. Два – другога паверха. Доўгі – на пераклічку.

6.00 – доўгі званок: пад'ём. 6.10 – пераклічка: уваткнуць сваё «тут» сярод бясконцых «здесь» у адказ на прозвішча і ісці кіпяціць ваду. Малітва. Біблія. Сняданак. Дзынькнуць ключыкам на шчыце ў дзяжурцы, абмяняць пропуск на табель і праз рэзкі, да спіннога мозгу пранізлівы віск жалезных кратаў у дзвярах – на працу.

Каменда, як і любая няволя, сцінае і калечыць час, выхоўвае ўмоўныя рэфлексы, прымушае слых вылоўліваць староннія шоргаты і шэпты, супастаўляць міліцэйскія позіркі з размовамі суседзяў. Каменда прымушае жыць у Беларусі Абмежаванай Волі.

Абмежаванне волі скразіць тут у кожнай драбніцы. Выхад з каменды на агароджаную тэрыторыю – з дазволу дзяжурнага. Выхад у горад – праз заяву на імя начальніка (падпіша – не падпіша?).

Тыя, хто застаюцца ў камендзе і не ідуць на працу, у першай палове дня мусяць зачыняць свае пакоі: абавязковы прагляд тэлевізара ў актавай зале. Кухні адчыняюцца і зачыняюцца паводле нейкага дзіўнага распарадку, адзінае разумнае тлумачэнне якому – прывучыць асуджаных, што без ласкі адміністрацыі нават супчыку сабе не згатуеш. Здаецца, што і перыядычныя адключэнні электрычнасці на нашым другім паверсе (афіцыйная версія – дзеля эканоміі) пераследуюць тую ж мэту. Прыбіральня адна (і можна здагадацца, ува што ператвараюцца чатыры «ачкі» без пісуараў, пад напорам ста мужыкоў). Памыцца ў камендзе няма дзе: пішаш заяву, каб наведваць лазню ў Пружанах.

Зрэшты, за ўсё дзякуеш Богу: Дашкевіч, Саннікаў, Статкевіч, Бандарэнка не маюць і гэтага.

Каменда – прыпынак між турмой і воляй. За гэты год было ўмоўна-датэрмінова вызвалена 13 асуджаных і адпраўлена ў

зону 16. Лік на карысць няволі. Людзі вырваныя са свайго асяроддзя. Адбываюць. Церпяць. Зрываюцца. Цішком п’юць.

Каменда не толькі на мяжы волі, але і на мяжы веры. Першае, што мне кінулася ў вочы ў пакоі, – драўлянае распяцце, кардонны абразок Збаўцы, абраз Маці Божай на покуці, сёлетні царкоўны каляндар і ўзятае ў рамку выданне Жыровіцкай абіцелі «Якім будзе чалавек без любові». Тут, на паўдарозе паміж усемагчымымі спакусамі ды кратамі, хлопцы то прыпыняюцца перад Богам, то спадзяюцца «праскочыць».

Мой сусед Лёха, якога пару тыдняў таму за дзевяць «нарухаў», апрануўшы кайданкі, адправілі ў баранавіцкі ізалятар, казаў: «Жыву – грашу. Памру – атвечу».

І ўсё-такі ты ведаеш: гэтая загрузлая ў лясах савецкая выспа, і родныя беларускія хлопцы-«хімікі», і напружаныя дзядзькі-міліцыянты – дзеля таго, каб палюбіць Бога. Усім сэрцам, усім розумам, усёй душою, усімі сіламі тваімі і бліжняга, як самога сябе. Палюбіць Беларусь. Глядзі, пазнавай: у стоеных, схаваных вобразах і падабенствах, сярод абразоў і кратаў, не заўважаны, апляваны, укрыжаваны, у асуджаных і наглядчыках, у сынах чалавечых, сынах беларускіх – прысутны Бог.

## *2*

*Карані ў крыві …корань зла*
*знойдзены ўва мне.*
Ёў 19: 28

Расійскае сеціва, даступнае з майго польскага мабільніка, ніяк не можа разблытацца з беларускай назвай, у якой не прастаўляюцца кропкі над «і»: «Ласасін».

«Магчыма, вы шукалі “асасін”» – упарта паўтарае гугл па-расійску. Асасіны – банда наёмных забойцаў, адурманеных, здзічэлых, што здзяйсняюць жорсткую разню. Тысячы гадоў татарскія ды царскія, крыжацкія ды казацкія, гестапаўскія ды бальшавіцкія асасіны наталялі гэтую зямлю беларускай крывёю. А Ласасін – маёнтак у Пружанскім раёне, дзе ў

пачатку XVI стагоддзя нарадзілася маці Івана Жахлівага і дзе ўлетку 1863 года палеглі ў баі сорак паўстанцаў Каліноўскага.

Пяць гадоў таму, на Полаччыне, мне давялося жыць ля развалінаў крэпасці Івана Жахлівага часоў Інфлянцкай вайны – і вось, пагружаюся яшчэ на паўсотні гадоў глыбей, спрабую разабрацца, дзе яно, беларускае дно, і на Пружаншчыне дакопваюся да Ласасіна, адкуль матуля таго самага Івана Васільевіча Алена Глінская. Дачка вялікалітоўскага баярына з татарскага роду (чый продак на Ворскле ўратаваў Вітаўта) Васіля Глінскага ды сербкі Ганны Яншыч.

Рыжавалосая «басурманка», як яе называлі, увяла ў Маскавіі адзіную капейку (0,68 г срэбра, і вершнік з дзідаў – кап'ём), вынасіла і выхавала найстрашнейшага расійскага цара – і ўрэшце згарэла, атручаная ртуццю. Ці не адсюль, з бездані беларускіх балот, звярыная, крывавая, шалёная лютасць маскоўскага цара?

Жахлівае, народжанае Аленай Глінскай, вярталася ў Ласасін кожнае стагоддзе, з кожным новым прылівам гвалту з усходу, і здавалася, што за 300 гадоў край затапіла цалкам. Паміраючы, радзіма Алены здрыгалася адчайнымі закалотамі.

13 лютага 1863 года паўстанцы Каліноўскага, узброеныя паляўнічымі стрэльбамі і косамі, без бою занялі Пружаны.

Месцічы віталі вызвольнікаў, акупанты паўцякалі. Але ўжо праз некалькі тыдняў, з прыбыццём карных войскаў, пачалося дзікае паляванне.

4 чэрвеня 1863 года паўстанцкі атрад пружанскага шляхціца Фелікса Влодка (Шчаснага), у афіцыйных расійскіх дакументах названы «шайкай», уступіў у бой з царскімі войскамі на ўзлеску пушчы, ля Ласасіна. 40 каліноўцаў палеглі, Валер Урублеўскі з рэштай атраду здолеў вырвацца.

Над вялікай брацкай магілай вырас крыж. У 1933 годзе, за палякамі, тут усталявалі гранітны помнік. За Саветамі – разбурылі. У 1989 годзе, у час беларускага адраджэння, з дапамогаю Пружанскага ПМК і Радыёзавода (якія, дарэчы, прыязджаюць па запчасткі на склад у Купліне) – аднавілі.

І вось у снежні 1991-га, праз паўтысячы гадоў пасля нараджэння Алены Глінскай, праз 428 гадоў пасля таго, як яе сын

захапіў і зрабаваў Полацк, праз 128 гадоў пасля Каліноўскага тут жа, у Белавежскай пушчы, дзе была галоўная стаўка паўстанцаў, – імперыя, губляючы знакі ўлады, ад вайсковых баз да тых самых маскоўскіх капеек, рассыпалася ў пыл.

Здавалася б, тутэйшая зямля так набрыняла гніллю тыраніяў і крывёю нявінных ахвяр ды змагароў, што, апроч праведнікаў і волатаў духу, нікога іншага не тое што нараджаць – насіць ужо не зможа.

Але з чыёй крыві растуць карані тых беларускіх вайскоўцаў з бліжэйшага палігону, якія ўжо ў незалежным 1998-м расстрэльвалі помнік паўстанцам (дзеля пацехі ці са злосці) з верталёта?

Чыя кроў карэніцца ў тых, хто абыякава трывае ў гэтых запаветных мясцінах вуліцы, названыя імёнамі забойцаў іхніх дзядоў, помнікі катам, уладу праваслаўнага атэізму?

Чыя, скажыце, кроў напаўняе сэрца навучэнца Пружанскага сельгастэхнікума, калісь участковага інспектара Пружанскага РАУС, а цяпер намесніка начальніка ГУУС Мінгарвыканкама, палкоўніка Ігара Яўсеева, што разганяў беларускія мітынгі?..

Глыбіні беларускай забыўлівасці, беларускага страху, беларускага грэху – гэткія ж невымерныя, як і бездань беларускага генія. Тыя, хто разбураў старажытнае Берасце, будуючы з цэглы храмаў крывавую крэпасць, і тыя, хто паляваў на каліноўцаў на Пружаншчыне, і тыя, хто асушаў беларускія балоты пад бункеры ды палігоны, намагаліся вырваць адсюль беларуса ўсяго.

Але як жа перапляліся ў кожным з нас крывыя карані зла са скрываўленым карэннем свабоды – як счапіліся, сцяліся, як рвуць, разрываюць кожнага тутэйшага!..

8 кастрычніка 2000-га ксёндз Януш і бацюшка Уладзімір асвяцілі адноўлены пружанцамі і фундаваны Інай Кулей помнік паўстанцам – каменны, з «Пагоняй». Але дагэтуль назву Ласасін тут ведаюць адзінкі.

А з беларускіх нетраў, з балотаў, сатлелых касцей і пераблытаных каранёў ціха растуць крыжы. Незнішчальныя крыжы – і на іх, аддаючы Сваю кроў за нашу абыякавасць, здраду і слабасць, расхінае прабітыя рукі і ўсё спрабуе абняць гэтую няшчасную краіну Бог.

## *У гасцях у сэрца*

*Больш за ўсё запаветнае захоўвай сэрца тваё, бо ў ім крыніца жыцця.*
Выслоўі Саламонавы 4: 23

Хто б ты ні быў і дзе б ні апынуўся – калі хоць трохі аглядаешся ды прыслухоўваешся, – рана ці позна пачынаеш адчуваць побач нейкі жывы стоены пульс. Пругкі, упарты. Усё вакол дыхае і варушыцца на дзіва заканамерна, падзеі маюць таемны цэнтр, і ледзь заўважнымі штуршкамі людзей, сустрэч, спраў аднекуль падхлынаюць дабро і ласка.

Тут-тук, чуеш пранізлівы рытм. Тук-тук, ёсць кантакт, радасна адгукаецца ўсярэдзіне ў цябе, і раптам усё становіцца з галавы на ногі. І ты кажаш сабе: ага. Вось яно дзе. Ну прывітанне, Сэрца.

Айцец Сергій Сысаляцін – той самы, які калісьці вылавіў мяне «ВКонтакте» і зараз служыць у Спаса-Прэабражэнскай царкве ў Пружанах, – вобраз з абразоў.

Малады, вайсковай выпраўкі; прыгожае, мяккае, поўнае ўнутранага спакою ды годнасці аблічча, кароткая чорная барада – тыпаж, у якім любяць выяўляць святых і апосталаў.

Жыве бацюшка ў вайсковым гарадку пад Пружанамі. Новыя Засімавічы – постсавецкі Вавілон на ўзмежжы Белавежскай пушчы. Сярод дзевяці вайсковых часцей, што складалі ўдарны кулак савецкай армады на заходнім фарпосце – у засадзе, за пушчай на самай мяжы, – атабарыліся ракетчыкі, лётчыкі, зенітчыкі, танкісты ды сувязісты з усёй імперыі. Вядома, з сем'ямі. І калі 20 гадоў таму тут жа, у Віскулях, Савецкі Саюз быў раптоўна рассаджаны на кавалкі, у вялізным разварушаным мурашніку з пылам эпохі асеў і ўвесь савецкі інтэрнацыянал, якому не было куды падзецца.

Сяргей Сысаляцін служыў у верталётчыках – і, пабываўшы ў небе, прыйшоў да Бога.

Спярша наведваў евангельскую грамаду, дзе былы зампаліт Барыс ліха граў на гармоніку хрысціянскія гімны, затым шукаў паўнаты і глыбіні веры ў Спаса-Праабражэн-

скай царкве. Нарэшце, настаяцель айцец Ігар і епіскап уладыка Іаан прапанавалі маладому здольнаму панамару прыняць святарскі сан і ўзяць на сябе нялёгкі прыход з недабудаванай царквой у Новых Засімавічах.

Айцец Сергій просты. Жыве як дыша. Выдатна размаўляе па-беларуску. Мае вялізную бібліятэку: святыя айцы, Мень, Бярдзяеў, Фларэнскі, хрысціянская класіка ўсіх канфесій, духоўныя часопісы, гісторыя Беларусі… Заўсёды прапануе нешта пачытаць. Вучыцца ў Жыровіцкай духоўнай семінарыі – між іншым, разам з расійскімі бацюшкамі з Бранска. Смяецца: «Здзіўляюцца – гэта ж, маўляў, па-нашаму – "бурак", "вёска", "услон"… Прастадушныя. Працуюць, каб зарабіць, хто настаўнікам, хто механікам, а ўвечары ў царкву, набажэнства правіць – "не тое, што ў нас…"». Расказвае ім пра Браншчыну беларускую, часы ВКЛ, пра карані.

Айцец Сергій найчасцей чытае казані ў Спаса-Праабражэнскай царкве – і, скажу вам, рэдка чую тлумачэнне Слова такой простасці і глыбіні нават у сталіцы. Прапаведуе ў Новых Засімавічах забытаму савецкаму пакаленню, у «ВКонтакте» – бездапаможным хлопчыкам і дзяўчатам, заблытаным у сеціве, у наркалогіі – напаўразбураным мужыкам, у нядзельнай школцы – дзецям і бабулькам і, як многія-многія святары ды вернікі апошнія гады, – штопятніцы моліцца за Беларусь. І трэба бачыць, з якой надзеяй уваччу няшчасныя беларусы моўчкі глядзяць у ягонае аблічча – быццам на абраз, быццам успамінаюць кагосьці таго, хто вучыў іх, бацькоў і продкаў праўдзе і справядлівасці ўжо тысячу гадоў.

Дзед айца Сергія (які калісьці працаваў у Купліне качагарам) колькі месяцаў ваяваў у 1944-м ва Усходняй Прусіі. Аднойчы быў убачыў у акопе забітага немца і ўсім гэта распавядаў. З гадамі і склерозам мёртвы немец ператварыўся ў жывога, а пад старасць…

«Зазіраю я ў бункер, – на поўным сур'ёзе расказваў дзед, – а там Гітлер. Ну, праўда, кажу табе. І жонка ягоная. І двое дзетак. Дзяўчынкі. Ну, зараз, думаю, фашыст, ты ў мяне атрымаеш за ўсё!.. І… не змог. Застрэліць Гітлера не змог».

Сям’я Сысаляціных – гэта і матуля бацюшкі, гасцінная спадарыня Зінаіда Мікалаеўна, і валявая матушка Людміла, выхавацелька ў дзіцячым садку, і іх дачка Арына – тонкая дзесяцікласніца з доўгімі вітымі валасамі і выразнымі вачыма, беларускамоўная пераможца алімпіяд, заўсёдніца канцэртаў Вольскага ды Вайцюшкевіча. Пасля нядзельнай літургіі часцяком заходзіць у касцёл, арганізоўвае ў школе сустрэчы з пружанскімі краязнаўцамі…

Беларускі гісторык, спявак, пісьменнік у Пружанах – Сысаляціны запрашаюць знаёмых. Трэба дапамагчы? Сям’я прымае гасцей.

І Сэрца б’ецца.

Менавіта сябры Сысаляціных, сярод якіх і праваслаўныя, і евангелікі, і каталікі, падвозілі мяне штодня ў царкву і назад у маразы. Так і давялося перазнаёміцца з глыбокімі і пабожнымі пружанцамі.

Айцец Сэрца звычайны прыходскі святар – герой, практычна адсутны ў сучаснай масавай свядомасці ды беларускай літаратуры.

Але менавіта святар на працягу ўсёй хрысціянскай гісторыі Беларусі быў душою мясцовай супольнасці, самакіравання, культуры дачыненняў, сямейнай традыцыі, прыстойнага выхавання. Не «Бацька» – «бацюшка».

Сённяшняя Беларусь задыхаецца і губляе прытомнасць якраз з-за відавочных праблем з сэрцам. Хто – цэнтр жыцця ў вёсцы, мястэчку, раёне, горадзе? Чыноўнік? Паспяховы бізнесмен? «Сілавік» з дубінай?

Але прыйдзе час, і ў беларусаў, да якіх пагрукаецца прыходскі святар, сэрцы пачнуць адгукацца моцна і радасна: Бог, Бог! Бог!

## *Калыска Ізраіля*

*…І сказаў: ад сёння імя тваё будзе не Якаў, а Ізраіль, бо ты змагаўся з Богам, і людзей адольваць будзеш.*
Быццё 32: 28

Берасцейшчына – наша Палесціна.

Тут, у абліччах беларускай глыбіні, адразу ўлоўліваеш гэты трагічны надлом броваў, гэтую арліную гарбінку носа, гэтую стоеную ў зморшчынках ля куткоў вачэй вечную мудрасць, гэтую бездань чорнага позірку, якая то прыцягвае, то палохае, нейкую няўлоўную, ценем, хітрынку, рыжынку або характэрную ўсмешлівую гарчынку, а ў размове – так і не пераможанае за дзьве тысячы гадоў рассеяння «р»… І з самага нутра з нейкім шчаўчком – здагадка, быццам трэснуў суглобчык, калісьці, у дужанні з Госпадам пашкоджаны суглоб Якава, ад якога нашчадкі і атрымалі найменне Ізраіля – «той, хто змагаецца з Богам»...

Беларускасць немагчыма зразумець без габрэйскасці.

Паўтару яшчэ раз, бо чую, як цяпер, во, маўляў, ерась! – суглобы надтрэснулі ў многіх: глыбіню і драму тысячагадовай хрысціянскай Беларусі, яе свядомасць, дух і лёс марна расшыфроўваюць у адрыве ад паняццяў габрэйскага горада і мястэчка, россыпу геніяў і біблійных каранёў выбранага Богам народа.

Беларусь, падпружаная нецярпімасцю з Захаду і рысай аселасці з Усходу, за некалькі стагоддзяў вынасіла пад сэрцам цэлы Ізраіль – лідара рэлігійнага сіянізму Меіра Бар-Ілана, заснавальніка Сусветнага сіяніцкага кангрэса Навума Гольдмана, стваральніка габрэйскага руху Расіі Шмуэля Магілевера, старшыню Сусветнай сіяніцкай арганізацыі Ар'е Дульчына, Егуду Бэн-Эліезэра, які аднавіў іўрыт, а таксама чатырох прэзідэнтаў і семярых прэм'ер-міністраў габрэйскай дзяржавы. Ды што казаць, калі яшчэ сто гадоў таму 2/3 жыхароў тых жа Пружан былі юдэямі!

Адноўлены Ізраіль, якому ў біблійных прароцтвах адводзіцца ключавая роля, быў зачаты, вырашчаны, напоены тут,

у сэрцы Еўропы – і з болем, з крывавымі каранямі перасаджаны на Святую Зямлю… Міжволі пачуеш і водгулле ўсёчалавечай таямніцы, і пакліканне Божае для краіны, і рэха Апакаліпсісу.

З Берасцейшчыны родам пяцёра прэзідэнтаў і прэм’ераў Ізраіля. Толькі ўдумацца: за 63 гады існавання дзяржавы!

Хіба не сімвалічна, што першым прэзідэнтам адноўленага Ізраіля стаў народжаны ў Моталі пад Янавам беларускі сіяніст Хаім Вейцман? Першакласны хімік (дапамагаў брытанцам у Другой сусветнай вайне распрацаваць высокаактанавае паліва і штучную гуму, атрымаў звыш 100 патэнтаў), выбітны дыпламат (ініцыяваў вядомую «Дэкларацыю Балфура», якая паклала пачатак адраджэнню Ізраіля ў брытанскай Палесціне), лідар сіяніцкага руху (прэзідэнт Сусветнай сіяніцкай арганізацыі ў 1929–1946), чыім імем названыя цэнтральныя вуліцы многіх ізраільскіх гарадоў…

Голда Меір, знакамітая пятая прэм’ерка Ізраіля ў 1969–1977 гадах, у эпоху нафтавага крызісу, аўтарка фразы «Майсей вадзіў нас па пустыні сорак гадоў і прывёў у адзінае месца на Блізкім Усходзе, дзе няма нафты», – родам з Піншчыны. Адна з дзвюх жанчын, хто падпісаў Дэкларацыю незалежнасці Ізраіля, пасля расстрэлу ізраільскіх спартоўцаў на Мюнхенскай алімпіядзе 1972 года распарадзілася расшукаць і знішчыць усіх да адзінага тэрарыстаў з «Чорнага верасня».

Менахем Бегін з Брэста – сёмы прэм’ер Ізраіля – паходзіў з сям’і сакратара Брэст-Літоўскай габрэйскай грамады, выбітны юрыст і паліглот (валодаў 9 мовамі), страціў у Халакосце жонку і дзяцей, зрабіўся лідарам першага несацыялістычнага ўрада ў Ізраілі (1977) і разам з Анварам Садатам за мірнае пагадненне, падпісанае ў Кэмп-Дэвідзе, атрымаў Нобелеўскую прэмію міру… На ягоны загад у 1981 годзе ізраільская авіяцыя разбамбіла іракскі атамны рэактар і не дала Садаму Хусэйну атрымаць ядзерную бомбу.

Іцхак Шамір (Езярніцкі), восьмы і дзясяты прэм’ер Ізраіля, з’явіўся на свет у Ружанах, як і Бегін, страціў усю сваю сям’ю ў вайну – і ў 1980-х стаў вядучым габрэйскім палітыкам: міністрам замежных спраў, абароны, старшынёй Кнэсета – і двойчы прэм’ерам.

Адсюль жа, з Брэста, – бацька нядаўняга, пятнаццатага прэм'ера Арыэля Шарона (маці, дарэчы, з Магілёва) – таго самага Шарона, стваральніка сучаснага ізраільскага спецназа, які падчас Шасцідзённай вайны ў чэрвені 1967 года на чале бронетанкавай дывізіі прарваў фронт егіпцян і выйшаў да Суэцкага канала, ідэолаг руху пасяленцаў, адно з'яўленне якога на Храмавай гары ў Ерусаліме справакавала шматгадовую палесцінскую інтыфаду…

Людзі, народжаныя ў беднай, забітай правінцыі, уцісканыя, пагарджаныя – з усёй вераю, жарсцю і моцай старазапаветных герояў ахвяраваліся, біліся да крыві, ваявалі з усім светам, каб толькі застацца жыць на камяністым, пустынным шматку абяцанай зямлі, страчанай XIX стагоддзяў таму.

Шыкоўны экскурсійны тур па памятных мясцінах заснавальнікаў і кіраўнікоў габрэйскае дзяржавы па маршруце Брэст – Моталь – Пінск – Ружаны – паўдня з вецяркам! – самае малое, што магла б зрабіць любая ўлада ў Калысцы Ізраіля.

Але ж галоўнае – не гэта. Важней зразумець.

У Беларусі толькі спыніся, прыслухайся – і востра адчуеш прысутнасць Божую. Ён, Творца сусвету, стаіць па-над калыскай калісьці выбранага ім народа, які Яго не прыняў, а цяпер нарадзіўся наноў – і ў той жа калысцы пакуль дрэмле ягоны брат – які калісьці прыняў, а цяпер забыўся.

Тут, у краі сумных і ўбогіх духам людзей, у валадарстве крыжоў, Курапатаў, Хатыняў і Трасцянцоў, прасякнутым слязьмі і потам, крывёю, атэізмам і сіянізмам, дастаткова толькі прачнуцца – і ў раптоўным, абуджаным адкрыцці зразумееш, з якой асаблівай пяшчотай над гэтай зямлёй чувае, любуецца і трывожыцца Усявышні.

## *Ражкоўскі цуд*

*Каля крыжа Ісуса стаялі Маці Ягоная, і сястра Маці Ягонай Марыя Клеопава, і Марыя Магдаліна. Ісус, убачыўшы Маці і вучня, які тут стаяў, якога любіў, кажа Маці Сваёй: Жанчына! Вось сын Твой.*

Евангелле паводле Лукі 19: 25–26

У нетрах Белавежскай пушчы, на адлегласці мігцення начнога маяка з камянецкае Белае вежы, ёсць вёсачка. Вецер там заблытваецца і сціхае ў найгусцейшым веццi, хаты тонуць у туманах да комінаў, спеўныя і драпежныя птушкі робяць у небе кола, выглядваючы чалавечую выспу сярод хваляў вечнага лесу, і высакародныя алені прыходзяць на падвор'і – пяшчотнымі цёплымі вуснамі падбіраць залатыя яблыкі.

Вёсачку клічуць Ражкоўка.

У верасні 1942 года савецкі самалёт скінуў тут парашутыстаў-дыверсантаў. Немцы не ўпалявалі аніводнага, але ў перастрэлцы загінула двое патрульных.

Парашутысты зашыліся ў пушчу – ведама, далучыліся да партызанаў (потым такія па заданні Масквы адстрэльвалі тутэйшых камандзіраў-незалежнікаў, каб падначаліць рух камуністам). А жыхароў вёсачкі сагналі разам, 57 сем'яў, і – па сотні за забітага жаўнера – павялі забіваць.

Дзяцей аддалі ў бліжэйшае мястэчка, падлеткаў і моладзь падрыхтавалі для адпраўкі чыгункай у Нямеччыну… Мужчынам загадалі капаць велізарную яму – два метры глыбіні, чатыры метры шырыні і дваццаць чатыры метры даўжыні.

Гэтая магільная яміна агаломшана зеўрае там і дагэтуль.

28 верасня 1942 года, разявіўшы пашчу, яна ўбачыла ўсё. Расставілі куляметы. Зачыталі загад: «За дапамогу бандытам і перахоўванне савецкага парашутыста»…

Ашчэраная, гатовая скаўтнуць яшчэ цёплыя, ссечаныя кулямі целы, яма прымружылася… І раптам убачыла ў небе

самалёт з нямецкімі крыжамі. Той пачаў зніжацца, зрабіў кола і прызямліўся на ўзлеску.

Ражкоўцы стаялі на краі ямы. Плакалі. Маўчалі. Маліліся…

А з самалёта вылез афіцэр, падышоў да зондэркаманды, прад'явіў там свае дакументы і папрасіў дзьве гадзіны пачакаць.

Нават яме, страшнай яме два метры глыбінёй, чатыры метры шырынёй і дваццаць чатыры метры даўжынёй, за гэтыя дзьве гадзіны звяло сківіцы.

Афіцэр аказаўся егерам Герынга, адкамандзіраваным для ўладкавання ўзорнай паляўнічай гаспадаркі Райха ў Белавежскай пушчы, роўна праз дзьве гадзіны прывёз расстрэльнай камандзе новае распараджэнне са штаба.

І здарыўся цуд.

Вяскоўцаў распусцілі па дамах. Дзяцей і моладзь вярнулі бацькам. Толькі яму засыпаць не дазволілі: маўляў, будзеце дапамагаць партызанам – прысуд уступіць у дзеянне.

Нямецкі афіцэр прыехаў у ацалелую Ражкоўку праз два тыдні. І прывёз з сабой выразаную з дрэва выяву Мадонны, расфарбаваную сінім, чырвоным і залатым, з Дзіцём у белым. На ягоную замову паводле падрабязнага апісання скульптурку зрабіў паранены жаўнер вермахта ў шпіталі.

– Вось што я бачыў у небе, калі пралятаў над вамі, – тлумачыў немец праз перакладчыка. – Мадонна паказвала на зямлю, дзе былі вы. Калі б не Яна, я б не прызямліўся. Яна сказала мне спыніць расстрэл.

За некалькі месяцаў ражкоўцы сваімі сіламі пабудавалі ў вёсцы царкву і памясцілі туды выяву Марыі. Зробленую немцам. Некананічную. З надпісам «28.9.1942».

Ужо ў 2000-х, пасля адбудовы епархіі, царкоўныя ўлады распарадзіліся напісаць адмысловы абраз, згодна з праваслаўнымі канонамі, і дзе-нідзе на Палессі пачалі пераймаць традыцыю: Маці Божая Ражкоўская.

Цуд відавочны. Як не паверыш? З'ездзіце, самі паслухайце, пераканайцеся: не казка. Яшчэ жывыя сведкі ды іх нашчадкі. Выява Мадонны з Маленькім у царкве. Яма на ўскрайку вёскі. І алені ўсё гэтак жа прыходзяць па залатыя яблыкі – не баяцца людзей…

Што можа сказаць чалавек няверуючы тым, хто быў уратаваны? Галюцынацыя пілота? Збег абставінаў? Гэта ж трэба было асу Герынга ляцець рыхтык там, дзе трэба, у той час, калі трэба, і прымроіць у небе самае тое, што трэба… А як пасля палітрукі ды выкладчыкі навуковага атэізму мірыліся з Ражкоўскім цудам?

У тым і рэч, што ніяк.

У Пушчу не лазілі, у царкву не паткнуліся ды зрабілі выгляд, што нічога ў верасні 1942 года ў той Ражкоўцы не адбывалася.

Інакш – давялося б пагалоўна расстрэльваць тых самых ражкоўцаў як непапраўна веруючых ужо самой савецкай уладзе.

У Ражкоўскім цудзе ёсць нешта такое, што пераўзыходзіць і нянавісць да нацыстаў ды камуністаў, і бездань няверʼя, і міжканфесійныя спрэчкі.

Які праваслаўны тут адмовіцца прыняць цуд, што прайшоў праз каталіка з Люфтвафэ?.. І які пратэстант абвінаваціць лётчыка ў ідалапаклонстве?..

Мы дзівімся Віфлеемскаму агню. Мы шукаем знакаў веры, рэліквіяў і прарываў у Няведамае ў сеціве і па ўсім свеціве.

А тут – побач…

«Першы раз такое чую».

Дык прыслухайцеся: пачуеце яшчэ і не такое.

Як бы ні было страшна ды безнадзейна, якія б магільныя ямы ні прымушалі нас рыць на гэтай зямлі, часцей падымайма вочы да неба. Няма такіх цудаў, якіх дзеля любові да людзей не зрабіў бы ў Беларусі Той, Хто нарадзіўся ў глухім кутку свету, у хляве, ад беднай Жанчыны маленькім безабаронным Дзіцём…

## *Картуз-бяроза*

*А Я кажу вам: любіце ворагаў вашых, дабраслаўляйце кляцьбітоў вашых, рабіце дабро ненавіснікам вашым і маліцеся за крыўдзіцеляў вашых і ганіцеляў вашых.*

Мацвея 5: 44

Бяроза – горад з вырваным сэрцам.

Старое места Бярозы – знішчаны кляштар манахаў-картузіянаў. Вялізная руіна разбуранай крывава-цаглянай сцяной агароджвае пустку, поўную забытага гвалту і пакутаў на некалькі стагоддзяў углыб.

Гэтак жа, ранай у сэрцы, зеўрае і бліжняе Берасце з крушнямі Крэпасці, і разварочаная Горадня, і стары Менск.

Але Бяроза – выпадак асаблівы. Аддаецца рваным болем, калі чуеш тутэйшых: маўляў, Бяроза Картузская – гэта ад картуза, які павесіў на прыдарожную бярозу ці то Пётр I, ці то Сувораў.

Насамрэч Бяроза як горад пачыналася вакол кляштара Святога Крыжа. У 1648 годзе Казімір Леў Сапега, сын славутага канцлера ВКЛ, выдаткаваў 10 тысяч чырвоных злотых закону картузіянаў – самаму строгаму з усіх каталіцкіх. Манахі ордэна, заснаванага ў 1084 годзе святым Бруна ў французскай пустэльні Шартроз (Cartusia), давалі зарокі маўчання, фізічнай працы, увесьчаснай малітвы, посту – і поўнай самоты. У мурах кляштара для манахаў прызначаліся адмысловыя эрэмы – глухія келлі з таўшчэзнымі сценамі: нават ежу самотнік атрымліваў праз адтуліну з двума паваротамі, каб ні з кім не сустрэцца.

Велічны барокавы ансамбль з касцёлам і дазволам на кірмашы зрабіўся асновай мястэчка: неўзабаве Бяроза мела два цагельныя заводы, пяць млыноў, вяла гандаль соллю, хлебам і мёдам, віном і півам.

Ці прадчуваў Казімір Леў Сапега, глыбокі вернік, містык, які вучыўся ў чатырох еўрапейскіх універсітэтах і быў паха-

ваны ў паўднёвай сцяне кляштара ў 1666 годзе, што будаваў для сябе магілу, а для беларусаў – Крыж?..

Ціхамірнае жыццё скончылася з расійскай акупацыяй.

У 1823-м царскія чыноўнікі спрабавалі засудзіць кляштар за тое, што быццам бы выдаткаваў паўстанцам Касцюшкі мільён злотых. А ў 1831 годзе, выставіўшы трох манахаў як удзельнікаў чарговага паўстання, кляштар зачынілі, ягоныя землі сканфіскавалі, а лісты медзі з даху адправілі на будоўлю праваслаўнай царквы ў Горадні.

У кляштарных мурах размясціўся расійскі полк. Бярозу Картузскую перайменавалі ў Бярозу Казённую.

Менавіта гэтыя расійскія казармы ля руінаў старога кляштара ў 1930-я ўлады ІІ Рэчы Паспалітай прыстасавалі пад турму для соцень беларускіх і ўкраінскіх камуністаў ды незалежнікаў.

Пасля гучнага забойства дзеяча «санацыі», міністра ўнутраных спраў Польшчы Перацкага 15 чэрвеня 1934 года прэм’ер Леон Казлоўскі пры падтрымцы Юзафа Пілсудскага дамогся распараджэння прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага – і ў краіне «залатой вольнасці» запрацаваў першы канцэнтрацыйны лагер на ўзор сталінскіх ды нацысцкіх. Месца, дзе дазвалялася катаваць людзей без суда і следства.

Пабудка – а 4-й ранку. 6.30 – баланда. Увесь дзень стаіш тварам да сцяны пад наглядам.

Ноч – кладзешся на падлогу, але кожныя паўгадзіны – пад’ём і праверка. Здзеклівая гімнастыка па 7 гадзін запар, да млення.

Усе загады выконваць бегма. Размаўляць забаронена – карцар. Прыбіральня – раз на дзень, агульная для ўсіх, на некалькі секунд, паспееш толькі зняць ды адзець порткі. Правініўся – чысціць выграбныя ямы голымі рукамі (мыць потым забаронена). Бессэнсоўная егіпецкая праца: капаць і засыпаць ямы, перасоўваць з месца на месца цяжкія камяні кляштарнай муроўкі… Адмаўляешся?.. Ад пяці да пяцідзесяці ўдараў у твар.

І клічуць цябе цяпер – «быдла».

Галоўная мэта – прынізіць дашчэнту, давесці да скрайняга знемажэння і зламаць. Людзі паміралі, выходзілі з Бярозы

калекамі ды вар'ятамі. Расказваць пра ўмовы ўтрымання было забаронена пад страхам вяртання ў «кляштар».

Праз пекла Картуз-Бярозы прайшлі тысячы беларусаў, падазраваных у супрацы з КПЗБ і БХД, у тым ліку адзін з лідараў хадэкаў, праваслаўны багаслоў і сенатар польскага Сейма Вячаслаў Багдановіч, рэдактар часопіса «Шлях моладзі» і аўтар кнігі «Беларусь учора і сёння» Язэп Найдзюк, а таксама правадыры ўкраінскага нацыянальнага руху: атаман Украінскай паўстанцкай арміі Тарас Баравец і камандуючы УПА Раман Шухевіч.

Што ж зрабіла савецкая ўлада на месцы польскага канцлагера, у якім нішчылі камуністаў?.. Зноў казармы, ды яшчэ са свінарнікам. У сутарэннях, дзе былі пахаваныя Сапегі, гніла бульба. І – чаканная фраза краязнаўца: «Толькі ўлетку 1989 года з кляштара былі выведзеныя свінні Мінабароны СССР».

Бяроза – гэта беларускі пароль з Нагорнай казані, Евангелля паводле Мацвея, 5: 44: «Любіце ворагаў вашых…»

Бо як інакш жыць побач з суседзямі, якія разбуралі твае храмы, вешалі найлепшых людзей твайго роду, катавалі тваіх святароў і паэтаў, прымушаючы капаць ды засыпаць ірвы, крычаць ад удараў палкамі ды ботамі, поўзаць на каленях па бясконцай, усыпанай бітай цэглай і шклом крывавай дарожцы?..

Гэтак жа ненавідзець? Высочваць час, каб урэшце адпомсціць? Выхоўваць дзяцей са смакам крыві на вуснах?..

Але як можна забыцца, калі твае бліжнія дзеля абароны сваёй свабоды і годнасці топчуць ды забіваюць цябе?

Не, прабачэнне – гэта не забыццё. Прабачаеш – гэта калі бярэш увесь боль на сябе і аддаеш яго Богу. Калі надсілу, як цяжка б гэта ні было, расхінаеш уласнае сцятае сэрца для аднаўлення адносінаў, да вызвалення ад пекла ўсярэдзіне. «Хіба я не знішчаю ворагаў, калі ператвараю іх у сяброў?..» – спытаўся калісьці адзін мудры ўладар.

«Не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром», – паўтарае апостал тым, хто не зразумеў пра ворагаў з першага разу.

Мы нават не ўяўляем, як гэта…

Любіць, днямі да атупення і страты прытомнасці стоячы перад каменнай сцяной.

Любіць, калі цябе лупяць па твары, бо дапамог падняцца таварышу. Любіць, калі рукі, запэцканыя ў кале, трасуцца і рассыпаюць крохі лагернай пайкі хлеба. Любіць, калі, ашалелы, ледзь перастаўляеш змачаленыя да косці кульці-калені па нясцерпных зубах бітага шкла…

Любіць палякаў, расійцаў, немцаў… і саміх сябе – забыўлівых, абыякавых, запалоханых беларусаў.

Калі мы не хочам жыць на гэтай зямлі са скрываўленай вырванай пусткай замест сэрца – кожнаму з нас трэба вучыцца любіць. Любіць настолькі моцна, як Той, Хто прыняў на Сябе ўвесь наш грэх і ўвесь наш боль на Крыжы.

Каб «Бяроза» аддавалася ў грудзях не пагрознай злосцю, а гулкім кляштарным рэхам: «Бог ёсць любоў».

## *Бездань Азэфа*

*Хай не паглыне мяне багна, хай не замкне нада мною прорва пашчы свае…*

Псальма 68: 16

Далёка-далёка, недзе на краі зямлі, ёсць такія месцы, глыбіня якіх невымерная. Кінеш туды каменьчык – і не пачуеш ані гуку ў адказ.

У Беларусі такое месца раптам развярзаецца перад табою на 52.51.17 паўночнай шыраты і 24.36.54 усходняй даўгаты, на мяжы Берасцейшчыны і Гарадзеншчыны, паміж Ружанскай ды Белавежскай пушчамі. Вёсачка Лыскава на колькідзясят двароў, месца пахавання класіка польскага сентыменталізму Францішка Карпінскага, нараджэння біскупа Аляксандра Мікалая Гараіна і радзіма найвялікшага правакатара XX стагоддзя, лідара партыі расійскіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, тэрарыста Азэфа.

Цяпер Лыскава – гэта 40 кіламетраў ад Пружан, 443 жыхары, сярэдняя школа, Дом культуры, бібліятэка… валы былога каралеўскага замка XVI ст. Касцёл Найсвяцейшай

Тройцы, Царква Раства Божай Маці… вялікія старадаўнія могілкі. Але калі паглыбляешся ў мінулае – займае дух і зямля сыходзіць з-пад ног.

Адсюль Азэф.

Народжаны ў Лыскаве ў 1869 годзе, у сям’і беднага габрэйскага краўца, Еўна з юнацтва ўдзельнічаў у гуртках рэвалюцыйнай габрэйскай моладзі.

Звычайны габрэйскі хлопчык з беларускага мястэчка… Але на фота з дасье ахранкі (фас, профіль) ужо цяжкі чорны позірк няголенага, звераватага твару.

Калі ж пачалася пачвара?

Яшчэ падлеткам, скраўшы вялікую суму грошай, юны Еўна выязджае за мяжу. Падман, буйныя грошы і пераход усялякіх межаў цяпер стануць знакам ягонага жыцця.

Пачынаў вялікі правакатар XX стагоддзя гэтак жа, як і які-небудзь агент Вектар – за 50 рублёў у месяц ад сакрэтнага дэпартамента паліцыі Расійскай імперыі пайшоў пастукваць на сваіх аднакурснікаў у Політэхнічным інстытуце ў Карлсруэ. Аказаўся надзвычай спрытны: у выніку паспяховай шпіёнскай працы вылучыўся на першыя ролі ў расійскім сацыялрэвалюцыйным руху, удзельнічаў у яднанні разрозных падпольных гурткоў – і вось пасля арышту літоўскага габрэя Гершуні ўжо ў 1903 годзе стаў кіраўніком Баявой арганізацыі эсэраў. Тэрарыстам № 1 у імперыі. На гэты момант жалаванне Еўна Фішалевіча Азэфа («інжынера Раскіна», паводле паліцэйскага дасье) дасягнула 1000 рублёў.

Азэф арганізаваў больш за 30 тэрарыстычных актаў, ажыццявіў забойствы ключавых дзеячаў царскага ўрада, у тым ліку сваіх начальнікаў: міністра ўнутраных спраў і шэфа корпуса жандараў Плеве (якога лічылі галоўным арганізатарам габрэйскага пагрому ў Кішынёве ў 1903 годзе), генерал-губернатара Масквы, вялікага князя Сяргея Аляксандравіча, пецярбургскага граданачальніка фон дэр Лаўніца, галоўнага вайсковага пракурора Паўлава…

Менавіта Азэф ініцыяваў ліквідацыю Гапона як правакатара. І ён жа выдаў увесь склад эсэраўскага ЦК ды дзясяткі эсэраў-баевікоў.

Раскрыты ў 1908 годзе, уцёк за мяжу, дзе і памёр ад хваробы – праз месяц пасля таго, як на ягонай радзіме была абвешчаная незалежнасць БНР.

Ударамі сваёй здрады Азэф, быццам малатабойца, наносіў страшныя прабоіны Расійскай імперыі з сярэдзіны. Кожны выбух ці арышт патрабаваў усё большай і большай лютасці, нянавісці, крыві і ад дзяржавы, і ад народа.

Негаваркі, змрочны, але надзвычай вымудраны, Азэф віртуозна, з більярдным разлікам і нечалавечай вываротлівасцю ўзрываў сваіх куратараў і другой рукой тут жа здаваў выканаўцаў. Адзіны, каму Азэф заставаўся верным, напэўна, быў д’ябал, чый дух і почырк у бясконцых крывавых здрадах і забойствах відавочны.

На магіле Азэфа пасадзілі куст шыпшыны.

О, Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цвет!.. Хто б мог уявіць, *што* прэ з тваёй прэлай балоцістай зямлі і што ў тваёй глыбокай і пакорлівай душы народзяцца Азэф, Дзяржынскі, Шэйман і нават Генадзь Давыдзька.

Ноччу ля закратаванага акна спецкамендатуры ў Купліне, на паўдарозе паміж Лыскавым і Дастоевым, глядзіш у бездань, поўную далёкіх агнёў, – і думаеш: страшна стаць Азэфам.

Свая маленькая, як радзімка, вёсачка Лыскава ёсць у кожным беларусе.

Цярушыш шчэпцю гэтую зямлю і шукаеш зместу: чый ген пераможа? Паэта? Святара? Здрайцы?..

А здрада роднаму чалавеку? Бліжняму? Здрада Радзіме? Веры? Памяці?

Насамрэч мы здраджваем штодня, і праўда ў тым, што нашы бясконцыя маленькія і вялікія здрады спрычыняюцца да духоўнай смерці многіх і многіх.

Хто можа зразумець Азэфа? Дараваць Азэфу? Вырваць Азэфа з самага прадоння свайго сэрца?

Чалавеку гэта немагчыма.

Але ўсё магчыма Госпаду.

## *Вялікае Княства Бурштынавае*

*Вось, Я кладу ў Сіёне Камень*
*кутні выбраны, каштоўны…*
І Пятра 2: 6

У тых краях, дзе я адбываю «хімію», упершыню давялося бываць першакурснікам геалогіі БДУ ўлетку 1995 года – ужо пасля «рэферэндуму» аб адмене бел-чырвона-белага сцяга, але яшчэ да Маладога фронту. Кіраўнік нашай групы, дацэнт Міхась Нагорны (з чыёй лёгкай рукі беларускія геолагі пачалі вучыцца па-беларуску), прывёз нас на практыку ў крэйдавы кар'ер каля Сяльца – каб паказаць нам, недабітым рамантыкам эпохі Адраджэння, цуд у глыбіні такой звычайнай (нічога цікавага!) беларускай зямлі.

Уявіце сабе вялізную варонку, у якой мог бы змясціцца дзевяціпавярховы дом. Дно, выгрызенае экскаватарамі, белае-белае, чыстая крэйда. Вышэй, у вапняковай тоўшчы, рэшткі марскіх зорак і празрыстыя «чортавы пальцы» белемнітаў. Вышэй – металёвыя ядры марказітавых канкрэцыяў памерам з яблык (разбіваеш – і знутры пераліваецца застылы прамяністы выбух металёвых іголак). Потым – рэзкая мяжа і чорны пласт (розум ледзь дае веры гэткай гіганцкай шахматнай гульні ў цябе пад нагамі!): вугаль. Сыпкія камякі смалістага бляску. Следам – праслоі крэмняў з гладкімі, бы карамелькі, рознакаляровымі халцэдонамі, – быццам разарваныя каралі, сыплюцца, ценькаюць па стромкім схіле… І пясочак кварцавы, крышталёвы… І лёгкі налёт перагною… І лісце травы… І неба.

Але спадар Міхась, пакалупаўшыся ў вуголлі, падкінуў на далоні нейкі мурзаты каменьчык. О, бурштын!

Бурштын?!

Трэба было бачыць тую залатую ліхаманку, што ахапіла тузін хлопцаў і дзвюх дзяўчат.

Пакідаўшы заданні, планшэты і рыдлёўкі, перапэцканыя чорным пылам, мы кінуліся разграбаць і перабіраць той вугаль голымі рукамі – каб праз паўгадзіны (шчаслівыя афрабеларусы!) паказваць адзін аднаму поўныя жмені сапраўднага тутэйшага бурштыну.

«Бурштын Беларусі» – так называўся і мой універсітэцкі дыплом, які праз 5 гадоў, мяты і перакрэслены, паляцеў мне ў твар цераз увесь кабінет дэкана геафака.

«Што гэта за беларуская мова? – крычаў дэкан Іван Іванавіч. – Што за мяккія знакі, што за “геалёгія”!.. Можаце лічыць сябе адлічаным!»

Але пасля прэс-канферэнцыі мяне раптам выклікалі ў дэканат: «Хутчэй прыязджайце, абараняйце! Камісія ў зборы».

Дзяржаўная камісія на чале з віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Радзімам Гарэцкім паставіла за перакрэслены чырвоным маркерам «Бурштын Беларусі» выдатна.

Ужо потым я даведаўся, што «прыняць на тарашкевіцы» распарадзіўся рэктар БДУ Аляксандр Казулін.

На найвялікшае ў Беларусі радовішча бурштыну ў Гатча-Осаве, за 40 км ад Купліна, мяне і накіравалі на першай працы ў БелГЕА ў 2000-м. І калі б не супрацоўнікі ў цывільным, што наведваліся да дырэктара з настойлівай прапановай пазбавіцца ад падазронага маладога спецыяліста, паехаў бы мясіць гумовымі ботамі тарфяное балота яшчэ тады…

Нараджэнне бурштыну – гісторыя, вартая біблійнага драматызму. Вялікія хвоі (від ужо вымер), што раслі паміж Чорным морам і Балтыкай па берагах пратокаў ды выспаў ад сённяшняй Прусіі да Крыма, у адказ на сернае заражэнне па разломах зямной кары пачалі выдзяляць смалу. Бліжэй да зямлі, ля камля, перапоўненыя серай, набрынькалі вялікія непразрыстыя камякі, а на верцы, ачышчаныя, слязьмі павісалі празрыстыя кроплі.

Дрэвы падалі, перагнівалі, і бурштын на доўгія тысячагоддзі захоўваўся ў тарфяніках ды вуглях. Вось так са спрадвечных часоў у гэтым Міжмор’і, паміж скурчанымі звілінамі Еўропы і непамыснымі прасторамі Азіі, ляжыць найвялікшае ў свеце радовішча мурашоў і кузурак, замураваных у застылым святле. Пахаваная Атлантыда. Падземныя россыпы, руіны залатога веку, абшар пахаванай цывілізацыі ВКЛ. Каралявец. Паланга. Віленшчына. Міншчына. Галіччына. Берасцейшчына… Вялікае Княства Бурштынавае.

Мінскія старажылы памятаюць: пасля вайны на Чэрвеньскім кірмашы сярод брыкетаў торфу можна было набраць цэлае вядро бурштыну. Толькі каму ён тады быў патрэбны?..

Калі добра прыгледзецца да тае зямлі, якую мы, няўважлівыя і няўдзячныя, топчам нагамі, у Беларусі можна знайсці і крывавыя згусткі гранатаў, і бліскучыя зубцы горнага крышталю, і яшму (біблейскі яспіс, з якога, паводле Апакаліпсісу, збудаваныя муры Нябеснага Ерусаліма), і іскрысты, са сцюдзёнымі сполахамі, у кварцытавай масе, авантурын, і дымчаты кварц, і самароднае золата, і нават алмазы. Бел-чырвона-белы сільвініт, мядовы сердалік ці сонечны бурштын могуць стаць беларускім нацыянальным каменем падобна бразільскім ізумрудам, індыйскім перлам або грэцкаму мармуру.

Кожнаму народу творца даў свае скарбы, свае схаваныя знакі, свае запаветы ў камені. Мы шукаем кропак апірышча і не ведаем, што па ўсім тутэйшым прасторы, пад нашымі смутнымі краявідамі, у глыбокіх пластах балот, між хмараў гнюсу і крывасмокаў, у намножанай за стагоддзі твані тояцца скамянелыя сонечныя слёзы – Вялікае Княства Святла і Прыгажосці, якое калісьці падараваў беларусам Бог.

## *Чаму мы такія*

*Так кажа Госпад: пракляты чалавек, які спадзяецца на чалавека, і плоць робіць сваёй апорай, і сэрца якога аддаляецца ад Госпада.*
Ераміі 17: 5

Да спітых, пабітых, скамечаных беларускіх твараў прызвычаіцца немагчыма.

Аніяк.

Нават сярод апошніх «хімікаў», нават сярод калгаснікаў на гэтыя зямлістыя, з мяшкамі ды падцёкамі, з вышчарбленымі і падгнілымі зубамі руіны вобразу і падабенства Божага, што тонуць у безнадзейных, балотнага колеру вачах, глядзець балюча. Ды з такімі ж гожымі, шляхетнымі проз-

вішчамі – той ад караля, той ад базыльянаў, той ад бурштыну, той ад апостальскага імя... Глядзіш, як павольна тлее родная, стагоддзямі вылепленая прыгажосць – і халадок па скуры ад таго, што ўсярэдзіне тоіцца нешта яшчэ страшнейшае.

Бывае, і сам акунешся ў люстра – брыдка.

Беларус, як ёсць сённяшні знямоглы, напаўразбураны беларус.

«Чаму вакол нас усё так кепска?» – пакутліва дапытваемся мы адно аднаго. А вакол усяго толькі заканамерны вынік таго, што ў нас.

Стаўленне «хімікаў» да сваіх жа, міліцыянераў да «хімікаў», гаспадароў да рабочых, а рабочых да сваёй працы, вяскоўцаў да фермераў, а прадавачак аўталаўкі да вяскоўцаў, праваслаўных да баптыстаў, а каталікоў да праваслаўных, усё гэтае мяккае, што правальваецца, усё гэтае цвёрдае, што гнецца ды звіваецца вузламі, скоўтваеш моўчкі – паўсюль, паўсюль вылазіць яно, наша такое беларускае… з гнільцой і душком.

У гэтым сорамна прызнавацца – але трэба. Інакш – жыць нам у балоце: мокра ды цёпла, смярдзіць, ай, затое сваё, да горла ў твані, але абы хвалю не гналі.

Сябе не падманеш – сама мярзотна тхне найлепшае, якое пачынае псавацца.

Мудрая беларуская асцярожнасць у нас стухла да стану ліпкае баязлівасці; унікальная цярплівасць сцялася ў невыносную цярпімасць да зла; так шанаваная Шушкевічам руплівая ашчаднасць здрабнела да сквапнасці, а знакамітая кемлівасць вычварылася ў круцельства; глыбокая засяроджанасць ужо настолькі заглыбілася, што анічога не прасвечвае з тае беларускае душы, акрамя змрочнасці, асабліва заўважнай старонняму на тле чысценькіх вуліцаў; Боская беларуская пакорлівасць вырадзілася без веры ў павальнае халуйства, а натхнёную беларускую любоў – мілую, закаханую, неспатольную – ванітуе на кожным рагу блудам.

Народ, які спарадзіў столькі геніяльных пісьменнікаў, кампазітараў, спевакоў ды цэлыя культуры для суседзяў – адмаўляецца ад сваёй мовы.

Нашчадкі цывілізацыі ВКЛ, што дагэтуль застаецца еўрапейскай вяршыняй талеранцыі, правасвядомасці і міжмоўя, стагоддзямі кшталтаваныя Статутамі, радамі, судамі ды соймамі, – абыякавыя да ўласнай дзяржаўнасці.

Нацыя, чыёй сарцавінай ёсць поўная Хрыстовых пакутаў ды самаахвярнасці гісторыя, маючы выключна хрысціянскія сімвалы і наскрозь біблейскі генетычны код, – выракаецца Бога.

Ды і ці ёсць наогул у свеце грэх, глыбейшы за беларускі?!.

Так шкада гэтай Альгердавай моцы, Скарынавай ёмістасці, Касцюшкавай цвёрдасці, Багдановічавай прыгажосці…

Але хіба тады гэтае зло не сядзела ў нас – пакуль яшчэ ціха?.. Хіба гэта не тутэйшыя манахі XVII стагоддзя да калецтва біліся кляштар на кляштар за ставы і сеткі ў спрэчных валоданнях – гэта каб, значыць, на стале рыбка была ў хрысціянскі пост!..

І вось напіваецца сённяшні забіты, забыты, ціхмяны беларус, і са скуры раптам вылазіць звер: ды такі ярасны, ды такі здзічэлы, быццам вырваўся з пекла.

Святое месца пустым не бывае. Пакліканыя стаць выбраным Божым народам у сэрцы Еўропы, мы ўнікаем уласнага лёсу – і прападаем.

Так у нашай гісторыі скрозь: варта адступіць ад Бога, адмовіцца ад волі, пазаначваць у норы таленты, ухіліцца ва ўтульнае рабства – і беларус уразнос ідзе да д’ябла.

І вось у краіне друкаванай Бібліі і тысячагадовага хрысціянства ўцаркоўлены вернік – усяго кожны дзясяты.

І вось народ Статута сярод усіх – у тройцы першых паводле асуджаных вязняў на душу насельніцтва.

І вось Беларусь-жыццялюбка ўжо наперадзе ў сусветнай статыстыцы самагубстваў…

– Фу, ды нашто ў гэтым корпацца! Дастала яно, вашае нашае самаедства! – псіхане беларус.

Спакойна. Проста, капаючы ў сабе яму, трэба ведаць, што шукаеш скарб.

Бо беларускае самакапанне, непазбежна глыбокае, глыбіннае, можна будзе лічыць вычарпаным то-

лькі ў адным выпадку: калі скрозь тленную тоўшчу грэху, перагнілую волю і пяскі забыцця адрыем у труне свайго сэрца пахаваную жывую крыніцу – вобраз і падабенства Вечнага Усемагутнага Бога.

## *Адкрыццё Хрыста*

*Бог, Які сказаў заззяць З цемры святлу, азарыў нашыя сэрцы пазнаннем славы Божай у асобе Ісуса Хрыста.*

Другое да Карынцянаў 4: 6

Спытай беларуса пра Бога – і ўбачыш чалавека, які раптоўна прачнуўся. Усхапіўся, тарашчыць вочы і не разумее, дзе ён.

«Ісус?.. – крыва ўсміхаецца, бліщчыць залатым зубам муляр Лёнь, павольна ачомваецца. – А… Ён мне не перашкаджае».

«Ці веру… я… у Бога?.. – задуменна, па складах, спрабуе «ўехаць» токар Валянцінавіч. – Гэта пытанне, як табе, сказаць… якое навука яшчэ… точна не ўстанавіла».

«Не, штосьці-то ё, – зваршчык Анатоль апускае вочы, цяжка думае, чухае сівую галаву і пераключаецца ўбок. – Але – ну дзе справядлівасць, а?! Вось паглядзі…».

Асэнсаванне прабіваецца на тварах скрозь забыццё, павольна, ненадоўга – і на нейкі момант у вачах праблісквае водсвет чагосьці светлага, прыгожага… Страчанага…

Так хочацца, каб яны не аплывалі зноў у сваю змрочна зморшчаную кому!

Але – махне рукой, адвернецца ці выдыхне, вось такія, маўляў, пірагі – і брык. Зноў напаўжывы.

Мы вечна губляемся, пачуўшы самае важнае пытанне. А між тым, штотыдня паўтарае наш баптыст-гарманіст, які прапаведуе ў камендзе, гэта галоўнае – вызначыцца, дзе ты хочаш правесці вечнасць.

У справах жыцця і смерці нават няверуючыя набываюць прытомнасць перад Ім.

Але, быццам у вадзе, у іншай стыхіі – а ці можна тут хаця б дыхаць?! – спохапам надзімаюць шчокі, мычаць ды ліхаманкава кубатураць, куды б адсюль дзецца.

Заўсёды, калі рэч у праўдзе, свабодзе, справядлівасці, заўсёды, калі час надломваецца ў змаганні дабра і зла, калі людзі пакутліва напружваюцца, высільваюцца, церпяць з астатніх сіл і пад невыносным напорам грэху і гвалту здаюцца, – усяму народу даводзіцца кожны раз наноў адкрываць адну простую і глыбокую ісціну. Чалавечымі сіламі гэта адолець немагчыма. Сумарнага зараду зла, якое тоіцца ў сэрцы кожнага з нас, насамрэч хопіць, каб у трэскі разнесці ўсю Беларусь. І цемра ўнутры чалавека, не пераможаная Богам, будзе тлець роўна столькі, колькі трэба для канчатковага вызначэння: хочам мы вечнага жыцця – ці вечнай смерці.

Аднойчы такое даводзіцца перажыць і чалавеку, і пакаленню, і цэламу народу.

Гэта адкрыццё прыходзіць пасля вялікага болю, расчаравання ці спусташэння, як цуд. Як спатканне з каханнем першага позірку. Раптоўна. Працінае сэрца так, што ты трапечаш, бы злоўлены матылёк.

І ціха.

Ты раптам спахопішся: у тваім жыцці Нехта ёсць.

Ты пазнаеш Яго ў цёплых вачах верніка – напарніка, які бярэцца падмяняць цябе, хворага, на працы; у вінаватых усмешках жанчын, якія пасля набажэнства ў царкве абвешваюць цябе пакункамі з ежай; у раптоўным болю параненага на разгрузцы жалеза «хіміка», які заціскае рукой сіфон крыві і тут жа сцінае зубы, каб не лаяцца.

Ты пазнаеш Яго ў Беларусі – незямным позірку азёраў, што глядзяцца ў вышыні, у пяшчотнай смузе, якая сцірае межы зямлі і неба; у міры і супакоі, што закалыхваюць дыханнем лагчын ды ўзгор'яў любую далечыню; у адчуванні прысутнасці і пранізлівай светлыні; у такіх пакорлівых і такіх патрабавальных вачах беларускіх дзетак.

Ісус з тым, каму цяжка, хто церпіць несправядліва, хто плача ў адчаі. Ісус – з бяссільнымі. Тымі, хто разумее, што самі змяніць мы краіну не зможам, бо не ў сілах нават змяніць сябе.

Ісус нараджаецца ў нашым сэрцы – Маленькі, з вераю, – пакутуе ў змаганні з грэхам, памірае на крыжы нашага цела, калі мы выбіраем зло… і ўваскрасае пад бел-чырвона-белым сцягам, скрываўленай плашчаніцай – калі мы даём Яму перамагчы.

Выжыванне беларусаў як нацыі залежыць толькі ад таго, ці набярэцца ўрэшце крытычная маса людзей, гатовых дазволіць выявіцца ў сабе Ісусу Хрысту.

Калі Беларусь адкрывалася Ісусу – яна нараджалася і адраджалася. У Х стагоддзі, з прыняццем хрысціянства, расквітнела Полацкае княства. Пасля XII стагоддзя, эпохі вялікіх Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Аўрамія Смаленскага – расце і мацнее ВКЛ. У XVI стагоддзі з Рэфармацыяй і адначасовым абуджэннем Касцёла ды праваслаўя ўспыхвае Залаты век Беларусі – са Скарынам, найлепшымі з Радзівілаў ды Львом Сапегам… У ХХ стагоддзі напачатку і напрыканцы – два нацыянальныя Адраджэнні на хвалі духоўных абуджэнняў.

Як гэта ні дзіўна, большасці сапраўдных герояў беларускай гісторыі мы і не ведаем.

Тых, хто штодня шэптам вымольвае ад знішчэння цэлыя гарады; тых, чые ўлюбёныя Богам сэрцы захлынаюцца крывёю за нас, хворых, жорсткіх, раздражнёных; тых, чые невымернай глыбіні вочы каўтаюць неба, наталяючы ўвесь народ…

Што мы наогул ведаем пра іх? Тое, што яны і сярод праваслаўных, і ў касцёлах, і ў малітоўных дамах? Тое, што яны і ёсць празрыстай таямніцай Цела Хрыстова – Ягонай сапраўднай Царквой? Тое, што яны пазнаюць Ісуса адзін у адным як зміргнуць – і гэта дае ім слёзы любові і натхнёныя ўсяночныя, пашырае іх сэрцы да памераў цэлай краіны ды распасцірае перад імі зорныя шляхі?

Колькі іх, сённяшніх беларускіх святых? Дзесяцера, дзеля якіх Госпад не знішчае нашыя Садом і Гамору? Сем тысяч стоеных, верных Яму, як у гісторыі прарока Іллі?

Беларусу, які сядзіць у сабе, бы ў зачыненай хаце, дробна калоцішча ад страху ды роспачы ці змучана ные ад бессэнсоўнасці працы, пара адчыняцца.

Адчыняць дзьверы, у якія Ён дзень і ноч ледзь чутна стукае.

Калі адкрываеш Яму сваё сэрца – у табе самім раптам праглядвае Ягонае.

Калі задыхаешся ад грэху – ірві сэрца, як кашулю на грудзях. І расхінай, намаганне за намаганнем, справа за справаю, усю краіну, невядомую Беларусь пад белымі крыламі сцяга Хрыста.

Бо Беларусь збавіць не снайпер.

Беларусь збавіць Ісус.

## *Апазіцыя сумлення*

*Хто не супраць вас, той за вас.*

Марка 9: 40

*Хто не са Мною, той супраць Мяне, І хто не збірае са Мною, той раскідае.*

Лукі 11: 23

Беларусы ўжо даўно ў маўклівай апазіцыі.

Хтосьці летась згубіў дабрабыт, кагосьці нарэшце дастаў паўсюдны ўціск, а камусьці крыўдна за дзяржаву ўжо 18 гадоў, на працягу якіх рэжым з нахабствам бандзюкаватага бэйбуса дасягаў свайго паўналецця.

Маўчым, бо ўсё адно нічога не зменіш, бо як разявіш рот, будзе горш, бо няма каму заступіцца. Зрэшты, ёсць і больш глыбокая прычына: сённяшні беларус разумее, што насамрэч страх, гвалт, хлусня ды крадзеж сённяшняга начальства жыве ў ім самім.

Таму той, хто ўсё-такі спрабуе змагацца з Лукашэнкам у спадзяванні, што людзі супраць, завісае па-над безданню.

На пытанне пра апазіцыю жыхары пружанскай ваколіцы пацiскаюць плячыма. Быў, маўляў, тут нейкі рыжы, выпінаўся нешта, ды з’ехаў за мяжу.

Часам збіраецца купка за белмову… Вось хтосьці сцяг ваш гэты вясной вывесіў… ну, і калісьці быў бээнэф трыста чалавек.

А ўнутраная нязгода – лічы што ў кожнага.

Насамрэч усе прыкметы яўнай апазіцыйнасці – адкрыты пратэст, сімвалы, мова, еўрапейскі выбар ды дэмакратыя – апошнія гады здрабняюцца і блякнуць на тле ўзрослага прыгнечанага ўсенароднага маўчання, з якім беларус трывае зло.

Часам здаецца, што гэта нема стогне сама Беларусь.

І менавіта гэтай сілы рэжым баіцца найбольш.

Бо сэрцам жывога і дзейснага супраціву злу ў маштабах цэлага народа і цэлай краіны можа быць толькі закладзенае ў кожнага чалавека звышнепрыняцце грэху: гвалту, хлусні, падману. Інстынктыўны адпор няпраўдзе ў самім сабе ды іншых. Калі апазіцыя абапіраецца не на раздражнёныя пачуцці, а на, хай сабе смутны, боль сумлення – яна рана ці позна прымусіць здацца любую тыранію.

Але беларускі крыж, крыжавіна правалу свабоды з катастрофай свядомасці адчыняецца толькі крыжовым жа ключом: пакутлівай самаахвярнасцю і ўваскрасеннем.

Таму праўда і свабода, вера і любоў мусяць стаць не адно выглядам, а самой сутнасцю апазіцыі. Несумленнасць, бруд і сваркі ўнутры такой апазіцыі робяцца проста невыноснымі.

Усім разам, нават рэзка рвануўшы, выцягнуць сябе за валасы з балота не атрымаецца. Значыць, трэба шукаць тых самых носьбітаў сумленнасці, пакліканых стаць нацыянальнымі кропкамі апірышча, – тых самых, якія пакуль «не лезуць у палітыку». Дзе? Сярод вернікаў-хрысціян найперш; сярод удумлівай, у тым ліку тэхнічнай, інтэлігенцыі, сярод несапсаванай моладзі.

Менавіта цяпер вызначаецца, чым будзе Беларусь. Менавіта з сённяшняй дзесяцімільённай жывой раны, з сённяшняй цяжарнасці сумлення нараджаецца заўтрашняя нацыянальная тоеснасць. Хтосьці бачыць Беларусь гэткай утульна ліберальнай Чэхіяй, хтосьці – правінцыйнай расейскай адпачывальняй з белымі росамі і малачком, хтосьці – туманнай ускраінай Еўропы…

Але Беларусь будзе Беларуссю.

Гэта ж двойчы два: нацыю крышталізуе нацыянальная ідэя.

А формула нашай нацыянальнай ідэі простая: «Беларуская форма – хрысціянскі змест».

Беларуская мова, гісторыя, культура, адметнасці – дзеля найвышэйшага, хрысціянскага зместу, які іх напаўняе і асвячае. Ува ўсёй светлай, празрыстай, бел-чырвона-белай ахвярнай глыбіні беларускасці прасвечвае Хрыстос.

І гэта не толькі і не столькі для саміх беларусаў. Сваіх найлепшых творцаў ды найвыбітнейшых геніяў Беларусь аддала Расіі ды Польшчы, гісторыю – Літве, унію – Украіне, габрэйства – Ізраілю, адрывала ад сябе жывыя кавалкі, наталяючы і дабраслаўляючы ворагаў, і, укрыжаваная, сталася Хрыстовым вобразам і падабенствам у сэрцы Еўропы.

Скажаш, *народу* фіялетава?..

Але беларускі народ – гэта не адно дзесяць мільёнаў сённяшніх насельнікаў Беларусі. Гэта і мільёны жыхароў ВКЛ ды Рэчы Паспалітай, і паўстанцы Каліноўскага, і закатаваныя ў ГУЛАГу вернікі… І адначасна пакаленні тых, хто будзе пасля нас.

Тыя нямногія, хто здольны гэта ўмясціць, – адказныя за ўсіх астатніх.

Урок беларускіх Адраджэнняў пачатку і канца XX стагоддзя заключаецца ў тым, што акцэнт на форму (беларускасць) аказаўся мацнейшы, чым на змест (на Хрыста), – а любая форма, якая імкнецца паглынуць змест, рана ці позна правальваецца. Беларуская праўда, свабода і справядлівасць, ды ўрэшце рэшт і адметнасць, насамрэч заключаюцца не ў аканні, яканні або форме ўзораў на арнаменце, а, хочаце верце, хочаце не, – у Ісусе Хрысце.

Часам раяць: чуеш, прапаведнік, а ідзі-ка ты… у царкву. Наадварот, гэта царква мусіць ісці ў грамадства, ацаляць, прасвятляць і перавязваць параненых ды паміраючых беларусаў, якіх мільёны.

Апазіцыя, патрэбная Беларусі, – гэта актыўная супольнасць сумлення. Жывыя цэрквы (не іерархіі – цэрквы!). Прыстойныя сем'і, дбайныя гаспадары. Моладзевыя рухі, якія ідуць ад сэрца.

Верыш у Бога? Любіш Беларусь? Дзейнічай!

Крыжовая сістэма каардынат будучага Адраджэння і будучай перамогі – трохканфесійная хрысціянская беларускасць.

І прычына не толькі ў тым, што гісторыя Беларусі наскрозь евангельская, што маральнасць сама па сабе ёсць падмуркам любой дзяржавы, і нават не ў тым, што праз здабыткі ды знакі тысячагадовай хрысціянскай Беларусі мы ўсведамляем сваю прыналежнасць да заходняй цывілізацыі.

Галоўная прычына – Бог рэальна існуе. І Ён дабраслаўляе тых, хто выракаецца сябе, бярэ свой крыж і ідзе за Ім – пад сцягам Ягонага ўваскрасення і перамогі.

*В. Куплін, 2011–2012 гады*

## ПАЛЕНЬНЕ

Ахвярую бацькам, выпускнікам расійскага філфака БДУ.

*І толькі калі прамоўца сышоў з эшафоту, прынесьлі гаручую паходню.*
В. Ластоўскі. Паленьне кніг на Беларусі

Ад беларусаў пахла дымам. Гэта быў той гаркаваты, трывожны дымок чыгуначнай цягі, пах перасмоленых шпалаў і вугалю, які не выветрываецца на станцыях і вакзалах.

Толькі што прайшліся, праверылі дакумэнты прыбалты, хлопцы папрасьцей і чысьцейшыя.

Адзначылі кожнае купэ сваім запаволеным, старанным выгаварам зь нетаропкай запінкай, і застаўся ад іх толькі шчоўк зачыненых дзьвераў напрыканцы вагона.

Зайшлі нашыя. Пашморгваючы, напаўголаса нешта гаворачы, з холаду – яны занесьлі ў надыханы вагон дымавітую сьвежасьць. Усе, хто ехаў, паглядалі на іх заклапочана, з насьцярогай – ну, што там?.. Не, тут вам ніхто нічога ня скажа. Гэта словамі не перадаць. Прыедзеце, убачыце самі.

Пад шумок я пачуў безупрэчнае чэ, такое шчырае, што вільготна пацяплела ўваччу. Старэйшы, вусаты, узяў праца-

гнуты пашпарт; вочы на міг вынырнулі з-пад ценю фуражкі, зірнулі і зноўку схаваліся ў цемень пад казырком. Зараз спытае, чаго вязу. Кнігі. Што яшчэ? Усё, толькі некалькі кнігаў, і больш мне нічога ня трэба.

Той маўчаў, варушыў вусамі і разглядаў старонкі так пільна, нібыта дзяржаўная мяжа пазначалася дзесьці там, між дробненькіх літарак. Нарэшце, ледзь заўважна хітнуў сам сабе – усё правільна.

Я схаваў пашпарт глыбей, пад крыло сьпінжака, і ўладкаваўся на сваёй бакавушцы больш ёміста й грунтоўна. Што ж, наперадзе – цёмная ноч насустрач руху, нямы халадок з-пад вакна і чаканьне, на якое адпушчана столькі й столькі тахтаў чыгуннага перастуку. Паедзем, і недзе пасьля Маладэчна, бліжэй да гораду, трэба будзе выйсьці ды выпаліць штучку. Паліць я кінуў даўно, маю на ўвазе тыдні. Але тут без цыгарэты не абысьціся. Можна й псыхіку пасадзіць, сур'ёзна. Такія справы.

Вакол варушыліся пасажыры, шукаючы пад коўдрай чагосьці цяплейшага, укладваліся й шэптам перагаворваліся. Няважна, пра што. Сьпіце спакойна. Я знаю, так спакайней, калі засынаеш, а нехта ўначы сядзіць ля вакна, як вартавы, і думае, падпіраючы падбародзьдзе.

Мне сёньня ня спаць да самага Менску. Перш чым там выйсьці, трэба яшчэ раз усё перадумаць.

Падрыхтавацца да ўсякага абароту падзеяў. Выразна ўявіць сабе, дзеля чаго я пакінуў утульную Вільню, з гэткім сьпехам ды грукатам рассоўгаў архівы свае па шуфлядах і бегма рвануў на вакзал.

Да падрабязнасьцяў перабраць: як будзе выкарыстаны страшны груз, ад каго трымацца падалей, і што мне сьвеціць пасьля. Я застаўся адзіны, але, здаецца, пакуль ня выдаў сябе нічым, ня здрадзіў і не аступіўся. Урэшце, трэба быць гатовым – адным ударам зьдзейсьніць найвялікшую кару, да якой я ішоў усё жыцьцё. Зьдзейсьніць, як мага пачварней, каб атрымаць яшчэ больш пачуцьця. І ўбачыць на свае вочы крах тае магутнае сілы, якой мы баяліся. І каяцца… Ну, паглядзім.

Такі паўзмрок перад экранам вакна й столік на бакавушцы быццам прыдуманыя для пагойдваньня ды перастуку.

Для таго каб сядзець аднаму, вырашаючы самае важнае, і падтакваць рухамі рук. Я ціха.

Цягнік крануўся. За вакном пайшло, паехала, перабіраючы дошкі штыкетніку, адымаючы крокі абходчыка й рухомыя цені, што тускна ўспыхвалі й гасьлі... І ціхенька адчулася, як з набіраным ходам падспудным кодам падстукваюць колы. Далёка мігцелі агеньчыкі, перацінаныя ў цемры дрэвамі. Я глядзеў. Я спрабаваў учытацца ў гэты рух, зразумець. Краіна мая, што ж такое з табою творыцца, сярэднявечнае, тайнае; што гэта за гекатомба на плошчы, што за жар і вагні?... А яно ўсё мінала перад вачыма і прападала – пустым наборам, калі чытаеш па дзесяць разоў і не разумееш зьместу. Я глядзеў у сваё дваістае, цьмянае адлюстраваньне ў глыбіні шкла і думаў, што лепей, каб разабрацца, пачаць зь сябе.

***

Першае, што прыходзіць у галаву, – гэта кнігі дома ў бацькоў. Тамоў тысячы й тысячы. У пакоях стаяла цэлая архітэктура – у шафах, на паліцах і проста на падваконьніках. Помню, нязручна было рабіць дамашнія заданьні, усё ўпіралася ў кнігі, напханыя пад сталом. Большая частка, наколькі я ведаў, дасталася нам ад бібліятэчнай радні.

Кнігі сьцяной стаялі ў залі. Заходзіш, і адразу зашклёная сьценка, галоўная вітрына ў доме.

Напаказ усе каштоўнасьці: сэрвіз савецкага парцаляну, сямейныя тайны ў альбомах і дакумэнтах, шкатулка са срэбрам ды золатам, а таксама парфума – за дзьверцамі адчыняўся халаднаваты адэкалённы пах. І кнігі. Тамы ўсё больш цяжкія, пацямнелыя, поўныя зборы твораў. Вялікая Руская Літаратура. У некалькі паверхаў, так што верхніх без падстаўленага крэсла было не дастаць. О, гэта былі паважаныя кнігі. Пацёртыя, з умудранай сівізной у нітачках пераплёту, лісты, ўсхваляваныя ад перагартаньня. Краем старонкі папера гусьцела ад сьліненых пальцаў, і прасьвечвалі літаркі шрыфту, як кузуркі ў бурштыне.

Яно ўсё яшчэ ў руках у мяне трымціць, дрыжэньне шкла, зь якім адкрываліся кнігі, і тхне халадком парфумы.

Самым грамадным фаліянтам была «Москва». Яна ня ўлазіла старчма, і яе паклалі плітою. Такая велізарная й цяжкая, з такім цьвярдзенным рубам, што ёй можна было забіць. Гіганцкая, ілюстраваная; яе гулкія глянцавыя лісты раскрываліся, як дзьверы ў паркетныя залі. Я помню, ледзь трымаў яе на каленях. Развароты сполахамі. Крамлёўскія панарамы з дахаў сталінскіх шматпавярховак: глядзіш, галава кружыцца, і жах уявіць, як чалавек сарвецца адсюль, як ляціць у бездань, мільгае празь бясконцыя паверхі... Сталіца – я моцна ўдыхаў бліскучы, навошчаны пах.

Кожную кнігу, як адкапаны скарб, я зносіў у свой пакой, і там на некалькі дзён заміраў за чытаньнем. Тайны раманаў і прадмовы зь легендамі аўтарскіх біяграфіяў узбуджалі мяне неймаверна. Я нават сам пачынаў папісваць – такім гарачым струменьчыкам, калі ўжо няўцерп, і толькі б дабегчы да чыстай паперы. Тое было першае смутнае прадчуваньне, што мне кнігамі жыць.

Сядзіш да вечара, не ўключаючы сьвятла, учытваесься да зьмярканьня... Падымаеш вочы – і цемра. Пэўна, гэта з тых часоў я такі маўклівы. Я сутулюся. У мяне расплываецца зрок.

Кнігі – гэта было сьвятое. Іншага разу нам падбіралі бацькі. Цэлая цырымонія. Тата ўзважваў том на руцэ, сям і там раскрываў, звычайна трапна, трохі далістваў, з надломам разгладжваў далоньню – і пачынаў уголас. А калі ў нас што-небудзь пазычалі, кнігу ў чужыя рукі мама заўсёды загортвала. Найчасьцей у адрэз шпалераў, якімі кватэру абклейвалі, узорыстых, у тонкія кветачкі.

Запамінальны звычай.

Нарэшце, настаўніца наша, русіца. Баюся, гэта яшчэ адна з тых прычынаў, якія так цяжка цяпер мне выдзіраць з крывёю. Яе голас, глыбокі, грудны, выношваў исконное «о». Яна чытала душэўна, духоўна – я верыў. І пасьля школы бадзяўся па вуліцах, спадзеючыся знайсьці ну хоць што-небудзь піцерскае.

Перабірай, перабірай, корпайся ў генах і ранах, гэта табе зараз так пакутліва. Я ж памятаю, як усё чыталася. Бунін. Абарвалася сэрца, і чуецца да гэтых пор – перагрук анто-

наўскіх яблыкаў, якія ссыпаюць на сырую зямлю дзесь пад Арлом.

І падгрукваюць чыгуначныя колы, буйна, паддонна падгрукваюць.

Штосьці беларускае? Як падумаць, можа, і адшукаецца між падлеткавай драбязы нешта такое, накшталт пусьцяковай сьцяблінкі, якую няўцям пакусваеш. Хіба па-дзіцячаму буйны шрыфт тых беларускіх кніжак, што раз-пораз трапляліся ў залі. Несур’ёзна. Хаця, можа быць, і прыемна. Было ж прыемна бацьку, адукаванаму журналісту, калі прыяжджалі ў вёску, прымаць між дзядзькоў і братоў тутэйшае гаварэньне. Трохі сарамлівае, ды сваё – гэта папахвала гародам і скотным дваром.

Бог яго ведае адкуль, зь якіх такіх каранёў, я сам пачаў размаўляць. Здаецца, гэта была проста сіла цяжару. Зямная цяга. Я падаў, як яблык.

Першыя курсы, унівэрсытэт. Зь нетраў, з пакойчыку ў прыгарадным панэльным доме, раптам – цэнтар гораду, самае сьвята. Пужаючая штурханіна з вышэйшымі розумамі, аб існаваньні якіх я й не падазраваў. Мы на дзіва хутка сышліся, і потым цэлай кампаніяй пасьля параў вывальвалі на праспэкт ці разам зьбіраліся на дэманстрацыю.

Нам ранілі грудзі белыя значкі, распаласаваныя чырваньню. Мы дасканала ведалі, хто вінаваты й што рабіць. Мы высакародна ўступаліся за кволенькую, вось-вось гатовую абамлець, беларушчынку. Па-рыцарску. Па-расейску.

І змагаліся. Я лазіў уночы па дахах, у цэнтральных кварталах, дзе старыя дамы і ўстановы з высакалобай стольлю. Я бачыў гэты горад з вышыні чалавечага палёту – баючыся сарвацца, па самым па краі. Дацяпер увушшу той крохкі крок на гарышчы, і вецер у верхавінах дрэваў варушыць ад жудасьці валасы, і ашалелае дыханьне ужо ўнізе, калі, задраўшы галаў, глядзіш, як трапечацца над крэпасьцю наша палотнішча.

Мы ўзломвалі браняваныя дзьверы з дапамогаю некалькіх фразаў. Нам адкрываліся й задуха кватэраў, і бясконцыя калідоры студэнцкіх інтэрнатаў, дзе можна было адбарабаніць касьцяшкі пальцаў і пасадзіць голас. І калі за вечар даставалася хаця б колькі цёпленькіх беларускіх слоўцаў, хаця

б вінаватая ўсьмешка, пажадана дзявочая, – мы былі шчасьлівыя і казалі сабе, што ня ўсё яшчэ страчана.

Так мы пачыналі.

Гэтыя тыдні я ўспамінаў маіх хлопчыкаў у менскіх кадрах, якія ўжо абышлі паўсьвета. Увесь гэты час, штодня, іх паўтаралі зноў і зноў. Успыхвае, сьлепіць пражэктар, людзі, прыгнуўшыся, адбягаюць ад вокнаў Палацу; маладыя, амаль дзіцячыя бледныя твары мільгаюць ля самае камэры – і раптоўна за іхнымі сьпінамі, ля будынку, усё азарае выбух. Карцінка страсаецца, зь ёю сыпецца па нахільнай натоўп, рыне праз парк, паўз Дом афіцэраў... Цераз імгненьне дрэвы прашыюць іскрыстыя трасэры, камэра рэзка праваліцца ўцемру і вынырне толькі раніцай на скрыжаваньні, дзе мерзьне патруль.

Той далёкай халоднай восеньню мы прападалі ў Траецкім, у Гістарычным клюбе. Увесь час распахнутыя дзьверы са мноствам шыльдачак, поўна народу. У захапляючым беспарадку згружаныя калекцыі цудаў. Шматвяковыя жалязякі, выкапаныя дзесьці пад Крэвам, уперамешку з манэтамі й ніткай рачных пярлінаў, з шыкоўным, памерам з абрус, слуцкім пасам – проста ў шуфлядзе, выламанай са стала. Навалам кіпы фотаархіву зь нядаўняй гісторыяй маніфэстацыяў. І тут жа, у залочанай раме, карціна зь Нясьвіскага замку, аб якую не спатыкнуцца б. Усе гэтыя скарбы пастаянна перамяшчаліся, шарахаліся з рэхам; іх разгружалі; назаўтра зносілі й прывозілі штосьці яшчэ. Трэба было пасьпець перабраць, абглыдаць вачыма й са сьліною скаўтнуць уражаньне.

Што да кнігаў, дык гэта было для мяне страсеньнем. Я трымаў у руках ветхі, па лісьціках, сапраўднік скарынінскай Бібліі, якой паўтысячы гадоў, гартаў калясальныя слоўнікі, поўныя выразумленных словаў, і рассмакоўваў беларушчыну, выдадзеную за мяжой – з настолькі мяккімі знакамі, што язык сьцінаўся ад кісьлі.

Там ходырам хадзілі людзі, якіх мы яшчэ ў школе вывучалі, тыя, хто падымаў мнагатысячныя дэманстрацыі. Уразнабой шумелі важнейшыя перамовы й гаворкі пра тое, як учора квасілі. Столькі слыннага народу міналася ў дзьвярох і вузкім калідорчыку, столькі рукалася й адмыслова не падавала

рукі; так заўзята палілі, аж дым курэў у дзясятак ствалоў... Нам заставалася толькі цікаўна паблісквалць вачыма. Ціхія дзядзькі, якія канцылярылі ў клюбе, рабілі на ўсіх гарбату – слабенькую, каб хапіла заваркі й кубкаў, і мы з удзячнасьцю прысёрбвалі гарачанькае дзесь у кутку, на краёчку крэсла. Ня ведаю, у якіх піўных барах пачыналі калісьці Ірляндыя й Чэхія – Беларусь падымалася ў такіх вось прадымленых памяшканьнях, сярод людзкой сумятні й землянога жалезьзя, куды забрыдалі пагрэцца студэнты з вуліцы, і слабенькай гарбаты было на ўсіх.

Там я пазнаёміўся зь Белым – адным з найстрашнейшых маіх сяброў. Сёньня мы да яго яшчэ зойдзем.

Там слухаў Паўлея, вусатага, жылістага геоляга. Ён аб'езьдзіў ці ня ўсе беларускія сельсаветы з пробамі грунту, і з кожнай пробай у яго былі поўныя кішэні карыснае драбязы, мясцовых звычаяў ды гісторыяў. Ён прыпамінаў усё да вёсачкі, паказваў межы княстваў і шляхі вялікіх паходаў; грунтоўна, пераканаўча, рукамі зграбаў узгоркі й разраўноўваў лугавіны. Трэба было бачыць гэтыя чэпкія грубаватыя пальцы, быццам карэньне, толькі што вырванае зь зямлі, з брудам, які ўеўся ў скуру й пазногці. Гэта ён сказаў – памятаю, мы палілі на ганку Траецкага, ён стросваў попел... Ты чуў, яны ўсе за народ змагары, гаварыў Паўлей, гаркавата сплёўваючы, а вось пра гэтую зямлю ніхто не падумаў.

Там быў Валер Бондар, інтэлігентны, артыст, які валодаў ня менш як дванаццацьцю эўрапейскімі мовамі. Было адно задавальненьне назіраць, як вытанчана, па-птушынаму шчабеча ён, праз тэлефон зь якімсь партугальцам; як ганарыста, зь якім намаганьнем твару, прынароўлівае невымоўна-раманскі пранонс, ці шпрэхае, хуценька, з трафэйным прыдыханьнем. Дык вось, яго найвышэйшым шыкам было загнуць на людзях што-небудзь па-расейску – выключна аслупянелым, нечалавечым матам, ды так, што аж за вушамі трашчала й навокал са сьмеху надрывалася ўсё жывое.

Так, мы вучыліся насупраць Расеі. Мы ведалі, ад каго «окаянная Москва» пераняла «абыкнавеннае» аканьне, адкуль да яе прыходзілі кнігі й шрыфты. І хто потым з падзя-

кай высаджваў дзьверы ў Эўропу, хто адкармліваў аграмадныя таленты на нашых скарбах і словах.

Чортава прыкрасьць. Чужы язык варушыўся ўва мне ад самага нараджэньня. Халопскае прыніжэньне – увесь час адчуваць гэты прысмак фальшу, гэты цьвёрды знак напрыканцы словаў... Ён застаецца заўсёды пад языком, аддае нечым штучным і непатрэбным, яго не абломіш з канчаткаў. Так ня вынішчыць сьвятога мяккага знаку зь беларускага напісаньня. Зрэшты, вось табе й розьніца. Уся рэч у чым – ці ў нашай мяккасьці, ці то ў іхнай грубай цьвёрдасьці.

Мы былі ўпэўненыя: з нас хопіць. Мы крычалі гэта на мітынгах, мы засьвіствалі расейскую тэлевізію; зь нянавісьцю, зь мясам ірвалі каўнеры, ідзі-ка сюды, уёлавак, паўтары, што ты сказаў наконт нашае мовы, быдла!..

Толькі калі я прыходзіў дамоў, сумятня асядала ў глыбінях душы. Зьмяркалася. І станавілася зразумела, што папраўдзе магутнасьць Расеі – у гэтай цішыні, дзе пакояцца кнігі. Там было логва дракона.

І тады я рашыўся. З такою сілай варта сысьціся насьмерць. Супраць усіх і самога сябе – бойня, дастойная маладосьці. Вораг быў страшны, тым больш! Як яго перамагчы, герой ня меў ані малейшага ўяўленьня, але дух займала ад вышыні й непадымнасьці. Маладыя, дзёрзкія сілы дрыжэлі. Быць бітве.

Гэтая тайна і стала маім пакліканьнем.

Я пачаў перакладаць сябе самога, размаўляючы ўслых; я практыкаваўся на любімых песьнях, быццам на жабках. Перапалохаў бацькоў сваім імгненным і неспасьціжным пераходам на родную мову. Патаемна, паўшэптам плянаваў сакрэтныя апэрацыі, штурмы й расправы – у чытальных залях, у прыціхлых студэнцкіх аўдыторыях. Спасьцігаў азы моўнае магіі й выкшталцона, з асаблівым цынізмам зьдзекваўся з маладзенькіх прадаўшчыц у шапіках. Здавалася, на мяне падазрона глядзяць праходні. Я пасьпяваў і ў Траецкае, і на начную расклейку ўлётак, і ранкам быў ва ўнівэры, рассоўваючы нелегальныя ксэры па партах. Я ледзь спаў, дыхаў адной барацьбой і быў проста апоены тым, што такі да ўпору зараджаны й моцны.

Там, за валдайскімі даляглядамі, Імпэрыя ўжо павінна была адчуць маё небясьпечнае варушэньне... Устрывожыцца

зь весткай аб новым нязьведаным ворагу, і раптам дрогнуць ад прадчуваньня ў самым сваім подлым сэрцы.

Прайшла правадніца.

Добрая ў нас правадніца. Кабета дамавітая, ёмістая, тыповая тутэйшая цётка. Вось мімаходзь падаткнула камусьці ў суседнім купэ прасьціну, белы падол з васількамі. Маўклівая, крыху сапучы, зьбірала квіткі й пасьцельныя грошы ў таўстаскурую кніжку, рупліва пасьлініьвала пальцы.

Праходзіць туды-сюды гэтак жа моўчкі, пасопваючы, як пячорны гном: рукі жменямі пры сабе.

Зараз як забярэцца ў сваё купэ, а там па-добраму цесна, утульна. Каморка натопленая, у цёплых коўдрах, з клятчастым пледам, падушкай, зь няхітрымі скарбамі: печывам дамашняе выпечкі, бляшанкай бразыльскае кавы й гарэшкамі ў залацістых пакецiках. І прахалодныя, чысты сьнег, горы бялізны. І васільковыя ўзоры.

Вось табе жыцьцё. Чыгунка, абжыты вагон з падстукваньнем, пастаянна чужыя госьці – і каб усім было цёпла й цёмна спаць, каб усе былі задаволеныя. І нават прасьціначку падаткнуць.

Я ўвесь час чакаў, што яна нешта скажа. У гэтае цётачкі мусіў быць цудоўны беларускі акцэнт – але ад яе, з пачатку вагона, было чуваць толькі дзіньканьне шкла ў мэталёвай аправе, стрыманае шарканьне ды лясканьне засаўкі. Такія харошыя, кухонныя гукі пад спакойны пярэгрук колаў.

Зрэшты, падумаў я, больш нічога ня трэба. Хацелася толькі ямчэй уладкавацца за сталом – так чакаеш, што зараз чаго-небудзь прынясуць. На хвілінку здалося: я дома.

Цягнік стаў. Так, на чым мы спыніліся.

Наўрад ці можна было назваць домам той інтэрнацкі пакой з тумбачкай у ізгалоўі, дзе я пасяліўся, пачаўшы працаваць. Усяго й дамашняга тут было – кнігі ў вокладках са шпалераў. Некалькі кнігаў з бацькоўскае кватэры; маці загарнула іх мне, як рабіла заўсёды. Я ўзяў з сабой супрацiўнікаў самых грозных, ня раз перачытваных, на чыіх старонках стракацела ад знакаў увагі. І закладваў у іх самае каштоўнае, праязныя й грошы.

Яны й цяпер са мной, дамашнія кнігі. Гэта іх рабрыны ў чорнай торбе я пру зараз пяткамі. Не, даставаць ня будзем. Хай пачакаюць.

Тыя часы ў мяне ўспамінаць не прынята. Было нешта такое: паўпадвальная рэдакцыя; жалю варты, на паўтары тыдні, заробак; крышкі ў кішэні, ненадрукаваны артыкул у газэце за панядзелак (газэта камячылася, і ў вурну), сталоўка, супчык зь відам на палудзенны рэдзенькі сквэр... Толькі ў бібліятэцы я браў сабе ўдосталь і першага, і другога, і трэцяга. Было хвіліннае сьвята, калі ўдавалася падабраць у гарэцкіх радках што-небудзь гэткае, з хрумстам. Ці, скажам, знайсьці імклівае, у некалькі словаў, закляцьце супраць Булгакава. Але ўсё гэта месцамі, даволі бязладна ды выпадкова. Я паліў шмат таннае дрэні, я выдыхаўся: нэрвы, мой братка, нэрвы. Так хацелася чаго-небудзь разумнага, добрага. Вечнага. І я даставаў кнігі ва ўзорыстыя кветачкі, якія цягаў з сабою паўсюль, і пагружаўся ў чытаньне. Перачытваў з ныючай насалодай, з чорным па белым зайздрасьцю... Пасьля заставалася толькі маўчаць. Вялікае расейскае, яно было сумна й далёка, недасягальна далёка...

Мне зрабілася страшна. Не дастаю да дна. Быў гістэрычны жах не пакінуць нічога на гэтым сьвеце.

Страшна выйсьці на чарговую дэманстрацыю – там хапалі, зьбівалі, здымалі на камэры, і з кожнай мянтоўскай машынай каля інтэрнату я спуджана, паўзь сьценачку, перабіраў, дзе ж апошні раз засьвяціўся. Між тым ня выйсьці было яшчэ страшней: што б сказалі тыя нямногія, хто мяне ведаў...

Вось так. Вось чаму, як толькі зьявілася магчымасьць, я рвануўся з усіх сваіх жылаў; напазычаўся, чырванеючы, гледзячы ў падлогу; вымаліў у бацькоў ці не астатнія капейкі... І выбраўся. Зьехаў. Я ехаў так, як і зараз, бязь лішняе шмоткі; адзінае, што было ў мяне, – вось гэтыя кнігі. Па-мойму, я нават рыдаў у тамбуры. Але так было трэба. Тады я меў рацыю, нікуды не падзенесься. Я ехаў у Вільню.

Вільня, Вільня мая, чую цябе нават у гэтай цёмнай ночы. Так праходзіш дома цьмянымі калідорамі, ведаючы, дзе падасца з рыпам падлога, адным чуцьцём кранаеш знаёмыя

выступы й паверхні, адным дотыкам – лёгкім, як пылок тынку, што застаецца на пальцах зь віленскіх сьценаў. Тут будынкі растуць зь зямлі разам з дрэвамі; тут, як крыніца, б’е ў вочы вышчарбленая цэгла; тут добра пячатаць крокі па бруку і разьбіраць старажытныя друкі.

У Вільні вера. Я назаўжды буду ўдзячны тым вечарам, якія праседжваў ва ўнушальнае цішыні, у сьвятле настольнае лямпы: падымаесься з-за стала пасьля колькіх гадзінаў, і ва ўсім целе – зацёклая ўласная важкасьць, цяжар беларушчыны й зробленай працы. Так прыемна потым спусьціцца на вуліцу, прайсьціся дварамі. Тут зьбіраесься з духам – такія храмы, такія кніжныя мошчы, рэчы цудовыя, запаветныя. Нідзе больш ня знойдзеш сапраўднай, дрымучае сілы такога роду.

І ўсё ж такі штосьці яшчэ. Усё-ткі іншага разу нецярпліва цярушыш пальцамі ў шчэпці, быццам самае маласьці не стае, самае солі, быццам вось толькі пэражагнацца... Таму што кнігі, прывезеныя з дому, кнігі ў шпалерах, зашмальцаваных да глянцу, усё роўна хавалі нешта значнейшае. У вечных радках, ужо стомленых ад паўтарэньня, дзіўным і сумным чынам дваілася, траілася: машынны шум з тралейбусным гудам праспэкту, пах ліпнёвае квецені на паступленьне ва ўнівэрсытэт, начныя дахі ды страхі, юныя перажываньні і, глыбей, руіны дашкольнага веку...

Увесь пакінуты горад, у якім я пражыў жыцьцё.

Цягнік набліжаўся да Менску – неўпрыкмет, ходою гадзіньніка, зь нястомным падстукваньнем. Навакольле сьвяжэла. Я прыглядзеўся на хвіліну – сапраўды, за вакном азначалася ранішняе сьвячэньне і пачынала няёмка шчыпаць бяссонныя вочы.

Што ж, наперадзе Менск, пагромлены ды халодны, куды страшнавата вярнуцца. Насамрэч, я ня быў там даўно, настолькі даўно, што ён мне ўжо сьніцца пачаў, і ўсё ў снах дрымотных, трывожных, калі бяжыш, не дабягаеш, калі шукаеш увесь час чагосьці – чаго, ты знаеш, знайсьці немагчыма. Горад шэрага каменю й тонкіх дажджоў. Такому нельга даверыць свайго жыцьця, ды й сваёй краіны. Ён пужаў і прыцягваў мяне, як бездань.

Старонкі ўспаміналіся ў незьлічоных перачытаньнях, на ўсе галасы, прасьвечвала, калыхалася, усплывала тое, што часам нельга было й патлумачыць, і безыменныя ўздрыгваньні думкі згадвалі нейкую згубу. На жаль, такое не перакладаецца; такое толькі цытуюць. Урыўкі з жыцьця на памяць. Маё Выбранае. Я сядзеў над ім гадзінамі, з пачуцьцём шчымлівым і ашчадным, зь якім народы памінаюць Сярэднявечча.

Гэта былі тамы Сярэднявечча, майго асабістага. Здавалася, мне на ўвесь лёс ня дадзена нічога вышэйшага. Расейская клясыка стала пракляцьцем. Я губляўся, як гэта так, я ня ведаў, што й рабіць. І вось тут пачынаецца тое, чаго ніхто не чакаў. Ладна, я падняўся. Пайшлі, папалім. Я выйшаў у тамбур, прыстукнуўшы дзьвярыма. Аглушальна ляскала буфэрнае жалезьзе. Холадна. Сьцюжа за шклом здавалася проста нясьцерпнай. Зямля, скрозь голая, прасіла, як міласьціны, хаця б сьнегу. Страшна падумаць, што зараз робіцца ў горадзе. Выстуджаныя пад'езды, дамы захутваюцца, жалеза пячэ да крыві. Самае тое паліць кастры. І грэцца.

Плечы перасмыкнула. Насамрэч, куды там без агеньчыку. Пакартаваў у пальцах нерасьпячатаны пачак, люстраныя грані. У горле перасохла ад жаданьня й адчуваньня, што зараз зграшу-такі. Ах, як я расцыраваў яго, зь пякучым хрумстам, як дастаў, адным дотыкам, цыгарэтку... Аж кончык языка з парком дыханьня млее... гэта ж трэба, два месяцы грыз асадкі.

Я стаяў і нарэшце паліў. Канчар цыгарэты ірдзеўся, успыхваў скрозь порысты попел. Такая радасьць. Калі прыглядзецца, жар перамяняўся цёмным і сьветлым, і нетаропка, паціху падбіраўся да вуснаў. Зь нязвычкі кружылася галава, было трохі блага. Я прыпамінаў, як танцоўна мнецца ў зубах цыгарэта, і дым хімічыць нешта ў мазгох.

Дык вось, я рашуча стрэліў попелам. Калі пала ўлада, мне стала вядома толькі назаўтра з навінаў. Тэлевізар быў у кавярні, на першым паверсе дома, дзе я кватэраваў, трэба толькі сысьці па прыступках. Я заўсёды займаў там выгодны столік у кутку, ля вакна: там можна зусім па-хэмінгуэеўску заседжвацца за кавай... Цудоўныя хвіліны – я дыхнуў, выпусьціў пару. Дым разгортваўся прывідным пагрозным валам.

Тысячагаловыя дэманстрацыі, заводзкія страйкі, дзесьці разьбіты вайсковы грузавік – усё, што было да гэтага, набывала цяпер свой ракавы сэнс. Падумаць толькі, усё жыцьцё лічыў – о, як далёка нам яшчэ... Атрымай. Рванула так, што ашмёткі яшчэ доўга луналі. Па ўсёй Беларусі зьбіралі нейкі грандыёзны Дэмакратычны кангрэс, апячатвалі архівы і ўламваліся ў кватэры рэжыму з пагромамі, вобыскамі й кайданкамі. А ўва мне ўсё гайдалася й ляскала, што твой тамбур: так кудысьці туды хацелася з грукатам дацца, тараніць на стыку й стрэсьціся ад сутыкненьня.

Супакойся. Удыхні глыбей. Да самага дна, каб лёгкія тлелі...

Тэлевізійныя кадры глядзеліся з халоднай грэблівасьцю. Вулічны патруль, хлопец-аўтаматчык на пару зь міліцыянтам, пацепвалі на вятры плячыма – яны там таксама мёрзьлі. Пройма высаджанай вітрыны, з паваленым манэкенам сярод асколкаў бітага шкла. Купка падлеткаў, якія зьбіралі страляныя гільзы; між іх, у пыле, недаўменна крылялі галубы.

Я не паехаў туды. Навошта? У многіх маіх сяброў, пэўна, аж заблішчэла ў вачох, але мне ад гэтай краіны больш не было патрэбна нічога. Усё гэта мы ўжо бачылі. Пустое. Дымныя цені на сьценах тамбура плыўна разгортваліся, разьвінаючы штосьці з прывідный тайнаў, таялі й павольна зьнікалі.

Паказвалі часовага прэм’ера: ён гаварыў, наколькі я чуў скрозь пераклад, пра падатковыя ільготы, паток грузавога транзыту й замежныя крэдыты. Слушна казаў, але раздражняла, рэзала вока, што ён цярэбіць у пальцах плястмасавую запальнічку – на лякаваным міністэрскім стале, з прэс-пап’е, залочанымі асадкамі й спэцсувязьзю. Быццам стараецца схаваць, як дрыжаць рукі. Хацелася, каб ён трымаўся больш упэўнена, а замест гэтага мільгала дурацкая капеечая запальнічка... Яна аніяк ня выйдзе з галавы.

Між тым штодня зьбіраліся мітынгі – у асноўным інтэлігенцыя, студэнты; ня так шмат, але сьцягі луналі й крык стаяў даволі рашучы. Я нават пабачыў сяго-таго з нашых. Гэта было ўжо цяплей, цяплей.

Агеньчык успыхваў. Трэба мацней зацягвацца, тады ён ярчэйшы, патрэсквае, зырыцца, і сапраўды робіцца трошкі

цяплей. Паркі дым клубіўся й затуманьваў шкло. Зараз заінее.

Калі Расея адключыла тэлеканалы, стала не па сабе. Справы сур’ёзныя. На наступны дзень пачалі перакрываць газ. Такія трубы не заблякуеш адразу – выбухне ад страшэннага ціску. Аднойчы я чуў, як яны шыпяць, перакрываныя. Так здыхаюць страшыдлы. Уявіць сабе, як усё разам, на тысячы кілямэтраў, пагружаецца ў цемру, гасьне, як у сьцюдзёную позьнюю восень па ўсёй краіне астываюць кацельныя, пліты й батарэі ў кватэрах – тут было ад чаго здрыгануцца.

Мне ніколі ў жыцьці не працавалася гэтак горача, як у тыя дні. У нейкім палаючым натхненьні я парадчыў і перачытваў усе віленскія публікацыі, рукапісы й падшыўкі. Быццам рыхтаваўся да старту. Засякаў час і ледзь пасьпяваў дачытаць, дапісаць, даесьці – зьбягаў у кавярню, да тэлевізару.

Нарэшце, сёньня, – я закашляўся ад дыму, не прадыхнуць, – зрэшты, гэта ўжо ўчора, бо цяпер у мяне на гадзіньніку заўтра... Карацей, у вечаровых навінах камэнтатарка захлыналася вусьцішшу, яе голас дрыжэў. Тое, што тварылася на экране, кінула мяне ў жар. Яркі жар, чалавечы роў і барабанны рокат за кадрам. Гулка гахаюць стрэлы – здаецца, у паветра. І кнігі. На плошчы паляць расейскія кнігі. Рвуць і мечуць у велізарны касьцёр. Тэатар опэры й балета. Натоўп народу. У людзях злосна, барвова ўспыхваюць водсьветы. Усё трашчыць і крычыць у барабаннай жарсьці – і рукі, растапыраныя чырвоныя рукі прагна цягнуцца да вагню...

Ччорт, я ледзь не апаліў сабе пальцаў. Недапалак ужо датляваў, наапошак шызавата, злавесна курыўся. Чакай, яшчэ пару дымоў. Лёгкія падымаліся томна, у прадчуваньні. Здавалася, я вось-вось успомню, уразумею. Дзе ж тут ісьціна, дзеля чаго, дзеля каго гэта ўсё робіцца...

Зайшла правадніца. Пачала, прысеўшы, нешта корпацца ў куце й міжволі аправіла форменную спадніцу. Такім мілым, прывабным жаночым рухам, харошая мая, ты б знала.

Іскарка, мігні мне. Усё, гатова. Недапалак я вазьму з сабой. Такія рэчы трэба захоўваць, як гільзы.

Мы ўжо пад’яжджалі. Паўночы ад Вільні да Менску, так каротка. Не пасьпяваеш усяго перадумаць.

Застукалі дзьверы. Пачыналі хадзіць у прыбіральню – потым ужо будзе позна. За вакном мільгалі прыгарады.

Колы адстуквалі прэч слупы, склады й штабэлі шпалаў, прыглушана шугалі пад цені мастоў. Вочы адмахвалі, быццам хутка чыталі радкі – зьлева направа, зьлева направа. Наперадзе, у сьвітаньні, падымаліся капітоліі горада й калясальныя коміны. Мой Менск. Горад, якому так холадна безь мяне. Горад, дзе нашы сьцягі па-над дахамі, дзе навіны ўжо колькі тыдняў толькі на мітынгах. Дзе ўвечары людзі ідуць да Опэрнай плошчы – грэцца ля аграмадных вогнішчаў, у якіх гараць кнігі.

***

Я выйшаў у тлум пэрону, ва ўсеагульную таўхатню, і ўзважыў на руцэ час.

Вакзальны шум. Пад гулкім купалам залі шумела шматлюднае варушэньне. Шырокае шарканьне, гоман, тоненькі цік абцасіку – увушшу ўсё стушоўвалася ў заварожаны хор. Кожны горад гучыць па-свойму, вось у чым цымус. У Горадні тон афіцыйны й сухі, некалькі цырымонны; у Магілёве – базарны ды едкі, з лушчаньнем семак; і велічны, з таемным шкляным пазвоньваньнем, у Віцебску.

Я заўсёды, калі прыяжджаю, дазваляю сабе такую маленечкую хвілінку. Прыслухацца. Тут стаяў усё той жа вусьцішны шолах з характэрным прышэптваньнем, невыразны й клапатлівы, як тутэйшы выгавар, памяшаньне расейскай з трасянкай. І тое ж няпэўнае, прасторнае рэха, тыпова менскае, можа быць, крыху больш пасьпешлівае, чым паўтары гады таму.

Было людна і брудна. Масква адпраўляецца, паўтаралі ў залі гулка й мэтадычна, Масква адпраўляецца. У Маскву, у Маскву, народ натоўпамі перабіраўся да дальніх вагонаў.

Што ж, а мы ня будзем сьпяшацца. Сёньня, пакуль ёсьць магчымасьць, трэба рабіць усё нетаропка, важка, з усьведамленьнем значнасьці. З расстаноўкаю і пачуцьцём. Пачынаецца знакаміты дзень, мой дзень, я сэрцам чую, і гэта шмат што значыць.

Я крочыў праз рух чамаданаў, міжволі выглядаючы каго-небудзь са знаёмых, і нечакана, у шкляных дзьвярох на выхадзе, ледзь не сутыкнуўся з самім сабой.

На Прывакзальнай плошчы было сьцюдзёна. Пяшчотныя дрыжыкі млелі ў яшчэ цёплым целе: я нема зяхнуў і захутаўся. Ну вось, горад Менск перада мной. Нейкі па-ранішняму ўбогі, нявеслівы й пешаходны. Так цёмна тут апраналіся, я ўжо адвык.

Настрой трывожны. Нешта скрозь нездаровае было ў абшарпаных сьценах і беспарадачным руху людзей. Збройны патруль насьцярожана паглядваў у твары прыежджых. Нейкі дзядзька натужна цягнуў на санках багаж, палозьзе са скрыгатам ўскрыквала, сьцірала асфальт да самых мурашак па скуры. Віск жалезьзя браў за жывое.

Я глядзеў са страхавітым уражаньнем. Быццам бачыў упершыню гіганцкія вежы сталінскай пабудовы, з чыгунным гербам на адной і гадзіньнікам, што даўно спыніўся, на іншай. Цераз дарогу зеўраў разгромлены шапік – каробка елачных цацак, грохнутая аб падлогу. Змрочныя рэчы.

Трэба было б падабраць нешта такое на памяць: можа, вось той замерлы на вежы час, ці то сутуласьць людзкую, ці пранозна віскліваю ноту, пакінутую санкамі на асфальце...

Зьбярыся. Я ўсхрапнуў усю сьлізь з насаглоткі й рашуча схаркнуў. Табе трэба перажыць усё, што будзе сёньня. Зараз да Белага. Зрэшты, сапраўднае яго прозьвішча Белых, але ў нас яго называлі Белым. Некаторыя нават дасьціпнічалі – Беленькі, бо сам ён быў да апошняе валасінкі чорненькі, з такімі трагічнымі, ці не жыдоўскімі, ценямі ў бледным, абвостраным твары. Заўжды нейкі хваравіты, ён увесь час пакашліваў ці, зьняўшы акуляры, балесна прымружваў вочы, і за беларушчыну змагаўся з такім выразам, зь якім скаўтваюць празь сілу. Было ў гэтым штосьці заразнае, і я іншым разам пачынаў гэтак жа, балеючы за беларускае, хрыпавата пакашліваць.

Ён ледзь пазнаў мяне ўчора па тэлефоне:

– У-у, сябра мой літоўскі, – гукнуў, мне сьпярша так падалося, расчаравана, – прыяжджай, канечне. Тут ого-го што творыцца.

Я перайшоў плошчу. На скрыжаваньні крыху памарудзіў, якім шляхам пайсьці далей – і раптам, разьдзімаючы ноздры, застыў: пахне хлебам. Гарачым хлебам, ммм, і як пахне! Проста пасярод вуліцы – бывае ж такое – быццам з самай

духоўкі пякарні. Хочацца дыхаць яшчэ й яшчэ, і выдыхаеш шчасьлівым стогнам. Канечне, вось гэтая крама, на рагу, мы студэнтамі бегалі туды паміж параў па смажні. Уяві, ты прыехаў сюды праз паўтары гады, у горад халодны й галодны, ты проста з вакзалу, ня еў, і самае лепшае, што толькі можна прыдумаць – гэта родны пах гарачага хлеба.

Я з задавальненьнем зайшоў у надыханае, па-чалавечы жылое цяпло. Гастраном запушчаны, савецкі, знаёмы зь дзяцінства: тут з хлебным духам мяшаўся настойлівы пах бакалеі, перны й сухі, прэсная сырасьць малочнага, і, само сабой, несла з рыбнага. І так дружна, бадзёра кішэў і соваўся ранішні люд, так будзённа пераклікаліся прадаўшчыцы, дзяўчаты ў белым, што мяне размарыла шчырая ўсьмешка, і стала ясна, да сьлёзаў ясна: мы абавязкова вытрымаем, няма ніякіх сумневаў, мы будзем жыць, і з нашай краінай усё будзе добра.

Куплю перакусіць. Ды яшчэ якога гасьцінцу для Белага. У яго, здаецца, малы. Прыткнуўся ў чаргу, дастаў грошы. Калі я зьяжджаў, гэтая сума яшчэ нешта значыла. Зараз адно каб хапіла. Старыя добрыя грошы, даражэнькія мае, як жа знаёма яны шамацяць у руках – шурпатыя, цёплыя, шчэ жывыя. Кажуць, хутка будуць мяняць. Шкада.

Вось дзьвюхсотачка – гэткія, пэўна, ужо не прымаюць. Шэравата-блакітная, з Прывакзальнай плошчай і маленькімі чалавечкамі. Такая ж бруднаватая, непрыбраная, як і пляц.

Пяцёрка, Траецкае, пацёрты румянец. Вось табе твая маладосьць – дахі, выцьвілая зеляніна, ажурнае сонечнае сьвятло, усё ў імглістым ружовым тумане. Дзесьці там Гістарычны клюб. Пяць тысячаў пацёртых успамінаў.

Нарэшце, самая галоўная паперчына, самая храбусткая, Опэрны. Сто. Халаднаваты Опэрны, змрочны, як храм друідаў, з вадзянымі знакамі ў глыбіні – глянь, абарочваецца рытуальнымі танцамі. Сёньня ўвечары трэба быць там. Народу сто тысячаў. Будзе відовішча не для нэрвовых.

Паўгорада ў кішэні, толькі падумаць. Маё паўцарства. Мінск, Менск – ці перайменавалі? Мінск, Менск, як прыемна мнецца ў руках, перамінаецца неразьменная памяць.

Я зноў быў на гэтых вуліцах, у сваіх унівэрсытэцкіх кварталах. Усё захавалася. Я чакаў на забытых сьветлафорах і са

смутным захапленьнем аглядаў будынкі, велічныя й старыя: здавалася, яны аблупіліся й патрэскаліся менавіта за гэты час.

На плошчы Незалежнасьці прадавалі вугаль. Было мнагалюдна, але нешматслоўна. Засяроджаныя дзядзькі калгаснага выгляду ў шызаватых ватоўках, з пылам, пыхам і бляскам, з шарханьнем на ўсю плошчу разграбаліся шуфлямі. Вугаль бралі вёдрамі, як бульбу, торфабрыкет па штуках, выбіраючы цалейшыя. Стараючыся не запэцкацца, я прабраўся паўз чорныя адвалы, між гружаных калясак, скрыняў і мяшкоў.

Праспэкт ішоў пешшу. Праезныя машыны зрэдку падкрэсьлівалі нясьпешлівы пешы рух. Я крочыў павольна, як у халоднай карціннай галерэі, кшталтуючы рухі, абмінаючы асьцярожна сустрэчных.

Я хутаўся ў куртку і, быццам кішэнную дробязь, цацаў кожную падабраную знаходку. Мілае дзяўчо, што ўтнулася носам у пухнаты каўнер, усё роўна каленкі голыя. Цяжкія дзьверы кнігарні, куды я заўсёды заходзіў набыць што-ніштто патаньней; яны зачыняліся з буханьнем і ледзяным дрыжэньнем. Загнуты дарожны знак, кавалак бляхі, што па-сіроцку матляўся, трымцеў на вятры па-над праспэктам, і якраз за ім віднеўся той самы дах. Бясцэнныя мясьціны. Ты ўспомні. Я дыхаў, як на шкло – усё на міг ажывала зь лёгкім воблачкам пары... Гэта здавалася мне настолькі пранізьлівым і значным, што я часьцяком затрымліваўся й падоўгу глядзеўся ў вітрыны.

***

Я зайшоў; мы абняліся.

– А халодна, – сказаў Белы, пацікаючы маю зьнямелую ад сьцюжы руку, і гэтага хрыплаватага слоўца хапіла, каб пазнаць яго.

Пальцы ня гнуліся, было няёмка нават расшпільвацца. Я моўчкі корпаўся са шнуркамі, праклінаючы халады й самім жа насьмерць зацягнуты вузел, а ён стаяў нада мной, пастарэлы, без акуляраў, прышчурваў чырванаватыя вочы, і ў гэты момант мне было так сорамна, я адчуваў сябе так прыніжана, быццам і сапраўды вярнуўся сюды здраднікам. Здрадзіў і вярнуўся. Нарэшце, ува мне ўспыхнуў псых, я зь

ціхім азьвярэньнем садраў з нагі чаравік, выпрастаўся й паспрабаваў пасьміхнуцца.

– Праходзь, – Белы кіўнуў у бок залі й падаўся на кухню, бразгаць посудам і прыстукваць дзьверцамі шафаў, – зараз будзе гарбата.

Я ўсё яшчэ з дрогкім сэрцам прабраўся ў гасьціную. Знаёмая занавеска на ўваходзе пачціва кранула за рукаво.

Што ў доме печка, адчувалася яшчэ з парогу: у кватэры жыхарыў цёплы зольны дух. Печка стаяла ў залі, ля вакна, на цаглянай кладцы, жалезная буржуйка, не такая ўжо ржавая, як можна было б уявіць. Стаяла так, як звычайна галоўная рэч у гасьцінай – тэлевізар, ці, скажам, раяль, калі ўся астатняя мэбля, уся абстава, улучна да тапачкаў, уважліва зьвернутая да яе. На падлозе – нейкія скрынкі, рассартаваныя кнігі і побач разрабаваная кніжная шафа. Бялізна, замочаная ў тазіку. За запацелым шклом якіясь пакункі. Мабыць, прадукты: лядоўня наўрад ці працуе.

Гарбата ў Белага была сапраўдная.

Ён прынес цэлую груду пасуднага снадзіва, са слоікамі й заварнікамі, і прыняўся распальваць печку:

– Разумееш, цэйлёну й індыйскага зараз, бывае, ня знойдзеш... А на Камароўцы бабкі – шустрыя, попыт учуялі, панавезьлі траваў, зьверабою ўсякага, лісьця, карэньня – на выбар. Народ тоўпіцца, купляе. Дай, думаю, паспрабую. Спачатку асьцярожна: маліньнік там, брусьніцы, ну, што ведаеш – і да чаю дамешваў...

Між словамі ён порстка ўпраўляўся ў чэраве печкі зь нейкімі трэсачкамі й абрыўкамі газэціны і ўрэшце нахіліўся, разьдзімаючы вугалькі:

– Потым, шафран, гравілаты розныя... Зараз ужо, ведаеш, разьбірацца пачаў, што да чаго, што духмяніць, дзе ад жывата, дзе чыста для чыфу. Нюхні, – ён падаў мне шклянку са звонкім сушаным крошывам.

Тварам у травы. Так пранізьліва, так востра пахла суніцамі, што я соладка змружыўся. Так пахнуць ягады, поўнай прыгаршчай у рот.

Белы надзеў акуляры, ад чаго яго вочы акунуліся ў лінзы, сталі аграмаднымі, вадкімі. Ён засяроджана й пільна пачаў

гатаваць заварку – са знаўствам, па-аптэкарску скрупулёзна, падсыпаючы ды падцярушваючы. Печка ўжо патрэсквала, разыгрывалася й цёпла адсьвечвала па ўсім пакоі. Шумела вада.

– Цудоўная штука, – ён памешваў асьцярожна й прыдзірліва, кончыкам языка спрабуючы з лыжачкі, – чай дае толькі тон. Уся спэцыя ў зёлках. Заварыш, яно як нацягнецца... Б’е токам.

Мазгі праясьняе, паўдня ходзіш сьвежы. Белы чакальна глядзеў, як мне пакаштуецца. Ух і моцна. Гарачэнны, церпкі настой так шыбануў з двух неасьцярожных глыткоў, што я ў міг спацеў і нема выдахнуў, як ашпараны. У гаркавае чайнае гушчы аж сіпеў ёдкі, патрабавальны прысмак чагосьці ляснога. Дзіка моцны. Цярпіма толькі паціху прысёрбваць. – Бальзам, – Белы пацмокваў, рассмакоўваючы кожны пякучы каўточак, зрэнкі ў велізарных лінзах прыцэльна ўздрыгвалі. – Гарачы, гаючы. Галоўнае, не аглядвацца, бяз цукру. У прынцыпе – нацыянальны прысмак.

Не, для мяне занадта. Я пас.

– Так і жывём, – Белы адпіў яшчэ й яшчэ, – без гарачай вады. Халодную толькі ў стаяк падаюць, на першым паверсе. Носім, кіпяціць трэба. Прыбіральню ня змыеш, тхне, як параша. Ты ўжо чуў, які дух у пад’езьдзе стаіць. Сьвятло ўключаюць на пару гадзінаў, хоць тэлевізар, навіны зірнуць.

Гэта, дарэчы, файна глядзіцца – бах, і цэлыя мікраараёны ўспыхваюць сярод ночы. Прывыклі...

Печка, ну вунь, сам бачыш, сала за форткай. Транспарт рэдка калі, усё пешшу. Пабегаеш тут. А бегаць даводзіцца.

Ён замоўк, дапіў, нахіліўся адставіць кубак, і тут я ўбачыў – у яго на скроні, ля вуха, быццам сарвалася струнка – сівы валасок.

– Ты па кнігі прыехаў? – ён пранікліва паглядзеў на мяне сваімі вялікімі вачыма. – Я так і думаў.

Ня знаю, хто здагадаўся, а я табе скажу – фантастыка. Сама ідэя, ты ўяўляеш!.. Сьпярша хлопцы франтаўскія зь нейкай кнігарні вывалаклі, і давай паліць. Па адной, пад вершы. І раптам – канцэрт. Кніг панавезьлі навалам, згрузілі горы, адкуль столькі. Народу прорва. Ты што!.. Гэта трэ-

ба бачыць – гэты жар, усё раве, моладзь шалее, і проста са сцэны – у вагонь! – Белы рэзка шпурнуў рукой, вочы ярка блішчэлі разам са шклом.

– Процьма ўсякае швалі. Бамжам бы сагрэцца, пэнсіянэры з усяго наваколля бадзяюцца, ім па колькі штук на растопку. Тут жа букіністы, найрадчэйшыя кнігі раскопваюць. Антыкварыят.

Ён памаўчаў.

– А ў мяне тут свая расправа, – хітнуў на кніжныя склады ўздоўж сьценаў, – я пасьля канцэрту дамоў прыйшоў, і да печкі. Згроб усё гэта дабро... Кніжкамі таплю, – проста сказаў Белы, узяў нейкі том, што трапіўся пад руку і балюча, з хрэскам разадраў яго ў руках. Запхаў у грубку і, назіраючы, як напінаецца, вось-вось лопне вокладка, як задыхаюцца, чарнеюць лісткі, задуменна працягваў:

– Спачатку, думаў, макулатуру ў расход. Потым за сярэднячкоў вазьмуся, а лепшае, значыць, легенды – напрыканцы. На салодкае, так сказаць. Але пасьля – не, брат ты мой, наадварот, дайка сьпярша самыя галоўныя пойдуць. А то як раптам цяпло дадуць, ужо ня той будзе перац, сам разумееш.

Мне падалося, пытаньне вартае:

– І што?

– А вось што, – ён, як паленьне, падклаў другую палову кнігі, – пад настрой. Знаеш, гэта самае лепшае. Рэкамэндую. Бывае, такія позвы на рамантыку, аж дрыжыш – гэта, дапусьцім, Гайдар.

Або Леў Касіль, помніш, быў такі ў клясе сёмай. Перагляджу, пагартаю, асьвяжу зарніцы свае піянэрскія – і ў вагонь. Гарыць весялей, і грэе, і сумна... Сьветлы такі сум. Бывае, палю ўсю ноч да ўгару. Знаеш, на раніцы, як сьвітае, распахнеш вокны, запацелыя, і стаіш... Каго-нікога поўным зборам твораў адпраўляю. Пластом, толькі хрыбет пераламіць, і ў трубу. А некаторых шкада, хоць плач. Усё-ткі чытаў. Ня думай, я ж таксама не драўляны...

Белы не дагаварыў, пакутліва закашляўся.

– Вось, – нарэшце, агоўтаўшыся, паказаў ён кнігі, – Талстой. Уяві, знайшоў засохлыя кветкі – з пылком, пялёстачкі,

усё як трэба. Успомніў. Гэта мы з жонкай зьбіралі ўлетку, толькі пазнаёміліся.

На памяць сюды клалі. У самае тоўстае. Крохкія… І старонкі панюхаеш. Яшчэ ўгадваецца, дзе што было.

Ён паднес раскрыты том да твару й пацьвердзіў:

– Пахнуць.

Дэталь цудоўная.

– Кветкі ты куды падзеў?

– Пераклаў у Купалу.

Жонка ў яго натура тонкая. Як толькі сьпяць разам.

– А Іну ў вёску адправіў з Толікам, – Белы глядзеў у вагонь, – няма чаго тут ёй зь дзіцём рабіць.

Урэшце, дзеля малога ўсё й робіцца. Хоць ён ня будзе давіцца ўсёй гэтай тоўшчай дурной.

Белы трохі пакапаўся каля сябе й выцягнуў нешта яшчэ, глянцавітае, пунсовае з чорным. Такое я пазнаю зь першага погляду. Булгакаў. Майстар і Маргарыта, у мяне дома такая ж.

– Вось, адмыслова для цябе. Каронны нумар. Даўно хацеў паглядзець, ці гарыць. А то ёсьць сумненьні.

Ён плянамерна й жорстка, як кат, вырваў з коранем усю сярэдзіну, распатрушыў на лісткі й моцна, сьціснуўшы зубы, з томнаю насалодай хрумснуў цьвёрды пераплёт упоперак калена. Паглядзеў на мяне, запрашаючы ў сьведкі.

Булгакаў гарэў. Яго ахапіла зырыстым, ярасным полымем. Лісты курчыліся моўчкі, у імгненьне палымнелі й пырхалі чорным прахам.

Я ня мог адарваць ад печы вачэй. Здаецца, я ж яе на памяць ведаю, гэтую кнігу. Столькі чытаў. І сапраўды, усё проста. У белым плашчы з крывавым падбоем…

У печы трэснула.

Белы сядзеў нерухома. У твары яго кідаліся, перабягалі чырванаватыя водсьветы. Ціхімі, грознымі ўспышкамі азаралі, як помнік, патрэсканы маршчакамі лоб, падцятае шчацiністае падбародзьдзе.

Шкло акуляраў блікавала бязьлітасна й зло. Па-д'ябальску.

– Ты знаеш, – нарэшце парушыў маўчаньне Белы, – гэта пажарышча. Пажар Імпэрыі. Яны й ня думалі, што такое зарыва падымаецца. Ім страшна… А для нас ахвяра. Кожнаму

свая. Нам для сябе трэба гэта зрабіць, – ён выразна зірнуў на мяне. – Дома ўжо быў?

– Не. Я пайду да Опэрнага.

– Добра. Канечне, сходзім. Відовішча супэр, – Белы падняўся, цяжка выдыхнуў, – паўдня да вечара ў нас з табой ёсьць. Трэба пагаварыць. Я раскажу, хто ёсьць хто. І як тут усё падарвалася.

***

Ужо вечарэла, калі мы сабраліся да Опэрнага.

Мы йшлі моўчкі, разьмерана, я нават зважыў, у нагу. Пачынала зьмяркацца. Тысячагадовы горад стаяў, як чумны, нежылы, у хмурным сутоньні. Ані агеньку. Па-над вокнамі, быццам пасьля пажараў, чарнелі аддушыны сажы.

Задзьмувала. Было холадна, і ўдваёх ішлося неяк ямчэй. Мы ўнурана хуталіся, кожны ў сваё, вуліцу за намі па адным перабягалі абрыўкі сьмецьця. Трымцела на холадзе, абвастралася голае вецьце – калянае, ломкае, здавалася, зараз хрусьне ад сьцюжы. Сярод дрогкіх, здранцьвелых галінаў стылі пустэльныя плошчы, правулкі, будынкі.

Белы запаліў; ён па-старэчы моршчыўся, зацягваючыся і зацята прыкашліваў.

– Тут трэба будзе падумаць, чуеш, – цяжка сказаў ён.

Канечне. Мы прыстоілі на пераходзе, здалёк прапускаючы рэдкую машыну.

– Вось на гэтым месцы, – вырак Белы, паказаўшы цыгарэтай туды й сюды, нібы пераксьціўшы, – недзе тут, – і дымок вобразна растаў між пальцаў у паветры, – згінула Вялікае Княства Літоўскае. Між царквой і касьцёлам.

Так і ёсьць. За нашай сьпінай уставала Катэдра, перад намі – Сьвята-Духаў сабор.

– Таксама кнігі палілі, – невыразна скрозь цыгарэту выскаліўся Белы, – бач, чым скончылі. А з царквой што зрабілі. – Ён грэбліва выпусьціў дым. – Калекі. Гэта ж трэба, угару асфальтавыя дарожкі. Тут такую лесьвіцу ў неба можна было адгрохаць, такі пад’ём!..

Белы зацягваўся з прымружам; зыркім агеньчыкам успыхвала цыгарэта. Ён высмоктваў зь яе свае ёдкія сказы,

сэкунду абдумваў і выпускаў, любуючыся імі, як дымным выдахам.

– Знакамітае месца, – ён прыцэліўся цыгарэтай наперад. – Тут БТРы стаялі.

Ён стрэліў попелам, прыстоіў; я таксама спыніўся. Перад намі далёка з гары халадзела празрыстая панарама.

– У тую самую ноч... На праспэкце народ, разумееш. Падзеі поўнай хадой. Палац ужо заперлі, усё гатова, – ён выдыхнуў. – І тут паніка. Па Машэрава БТРы ідуць. Страх што творыцца... – пырхнуў попелам. – А яны тут сталі, ну, вунь там, перад мостам, і ўсё. Стоп. Усе чакалі, думалі, пойдуць. Усю ноч, разумееш... Шэсьць раніцы, Часовы камітэт па радыё выступае, яшчэ нічога ня ясна, усе трасуцца, хто дзе. Думалі, толькі крануцца – і накрывайся.

Ён памаўчаў.

– Толькі пад вечар дрогнулі. Газанулі, усе ў воблаках дыму – і разам задні ход... Пайшлі, на той бок пяройдзем.

Мы спускаліся ў вулічную даліну.

– Гісторыя, – зацягваючыся, сказаў Белы, – на гэтых лугах Чарадзей з Русьсю сышоўся. Няміга Крывавая, Менскі замак, Замчышча. Цэрквы вакол. Духовыя мясьціны, – дым бясьследна разьвеяўся.

– Вось табе й Няміга, – працягваў ён, скаўтнуўшы. – За расейскім часам зрабілі сьмярдзючы сьцёк. Выграбную яму ўсяму гораду. На Сьвіслачы паводка, – ён зморшчыўся, – а тут усё дзярмо, усе памыі ўсплываюць, уяўляеш? Падымаецца, затапляе падвалы, у дварох да калена стаіць. І, рукой падаць, таўкучка. Ніжні рынак. Гандляры, мянялы, прытоны. Нечысьць усякая.

Крымінальшчына аж кішэла. Карацей, прорва. У самую душу гадзілі...

Выдых быў незвычайна доўгі. Мы ўвайшлі ў цёмны пераход, і твар Белага зьнік у цемры. Толькі маякаваў чырвоны агеньчык.

– Калі ў гэтага гораду ёсьць нешта сьвятое, – ён сказаў, і глухаватае рэха азвалася ў скляпеньнях, – то яно тут.

На глыбіні, пад намі, маўчала бяздонная станцыя мэтро.

Мы выбраліся на бераг Сьвіслачы, на самы вецер, выйшлі на мост. На тым беразе высіўся асьветлены агнямі гмах

гатэлю. Ад электрычнага сьвятла ён выглядаў яшчэ больш аграмадным.

Здавалася, велізарны зіхоткі слуп стаіць да неба і сыходзіць у нетры водаў.

– Нішто сабе ілюмінацыя, га? – сплюнуў Белы. – Міжнародныя прадстаўніцтвы, уся Эўропа.

Называецца «ціха, ідуць перамовы». Чайкі нешта адчайна крычалі па-над вадою. Паўзь бераг клявалі некалькі рыбакоў.

А перад намі ўжо падымаліся на гару вастраверхія дахі Траецкага, пастаўленыя адзін на адно. Вечная дарога. Стары добры ходнік з выбоінамі на памяць. Ходнік, як калідор, дзьверы на кожным кроку. Крок, яшчэ крок, уваход у клюб з мноствам шыльдачак.

Зачынена.

Ня можа быць. Я яшчэ раз страсянуў за ручку.

– Ну, зачынена, – Белы пасьміхнуўся й акуратна скрышыў кавалачак попелу на падваконьне. – Пераехалі. Яны зараз хто на праспэкце, хто на Незалежнасьці. Частка ў Драздах. А ты зайсьці хацеў?

Вядома. Я тупа глядзеў у глыбокія вокны, глядзеў, як у ваду.

– Пайшлі, – Белы таргануў мяне за локаць, – яны працуюць. У іх працы да горла. Ніколі ў жыцьці, разумееш, не займаліся тым жа вугалем ці квотамі на экспарт. Зараз ім гэта дужа цікава, – кароткі агеньчык пыхаў усё зьлей. – Зараз кармільцы, бляха. Закасалі сьпінжакі да плеч.

Мы ўжо падыходзілі да парку. Скрозь дрэвы каля Опэрнага, у туманных дымах, разглядаліся – людзкія постаці. Скрадвалася зьмяркаsuccessive. Дым брыў між дрэваў, быццам прывідны статак, і клубамі спускаўся ў даліну ракі.

– Думаюць, перакулілі пару машынаў на праспэкце, і ўлада перавярнулася, – Белы йшоў усё шпарчэй, хваравіта крывіўся, цыгарэта імкліва згарала кароткімі перабежкамі. – Так не бывае.

Ён быў узбуджаны, ён задыхаўся, і не ад хады; пара з роту часьціла хутчэй за яго зацяжкі:

– Павер мне, усё яшчэ толькі пачынаецца, – ён панізіў голас і зацягнуўся так моцна, што правалілiся шчокі, – і гэта будзе значна страшней, чым здаецца.

Помніш, Беленькі, помніш, чорт пабірай, гэта вось так, напаўголаса прагуляцца, мы выходзілі з Траецкага – тады, калі нашай «пяцёрцы» даваліся начныя заданьні – падпільнаваць ля пад'езду гэбэшнага палкоўніка ці закінуць бутэльку молатава ў офіс «Лукойлу»!..

– Бач, усёй-та дарогі на адну цыгарэціну... Стой, – ён раптоўна спыніўся, дапаліў і імпэтна, зь іскрамі, усёй пяцярнёй пстрыкнуў свайго залатога бычка прэч. Я ледзь ня кінуўся падабраць яго сабе, яшчэ гарачага. – Вайна пачынаецца тут, ля Опэрнага... Вайна на паражэньне, бяз дурняў.

Ён рашуча прытрымаў мяне за плячо, каб я зірнуў яму ў вочы:

– Патрэбны таемны Ордэн, ты разумееш. Езуіцкі, паўсюдны.

Трэба дзейнічаць. Чуеш, я хаджу сюды кожнага вечару, да гэтых кастроў. Тут такія людзі зьбіраюцца, страшная сіла.

Ён нават нэрвова зьняў акуляры, з сутаргай праціраючы іх падкладкаю паліто. Мяне ўразіла, якія ў яго бяз шкла запаленыя, стомленыя вочы, як абварана выглядае твар, быццам ён і скуру садраў з акулярамі разам.

– Разумееш... Вынішчыць тут усю расейшчыну. Цалкам! Караць за кожнае маскоўскае слоўца, за кожную здраду мове. Адплата – за ўсе стагоддзі! Выпаліць заразу калёным жалезьзем. І каб ані знаку!.. Гэта ж нячыстая сіла, тут толькі вагнём. Як чуму. Нашыя хлопцы ўжо чысьцяць горад ад расейскіх шыльдаў, надпісаў, абвестак. Але бач, народ яшчэ сыры, за трыста гадоў мазгі зусім адгнілі. А трэба, каб зямля пад нагамі гарэла. Каб пекла, чуеш. Пекла!

Так казаў Белы. Каўнер паліто стаяў рубам па самыя скулы. Вецер ледзь варушыў жорсткія чорныя валасы, і адзіная струнка сівізны трымцела на скроні ля вуха, штосьці нашэптвала. Мяне дрыготка перасмыкнула праз холад.

Кнігі былі згрувджаныя на ўсёй плошчы. Рассыпаныя, у развалах, масыўнай растрэснутай муроўкай.

Нібы аграмадныя белакаменныя руіны. Угадваліся прасьценкі й рассаджаныя праёмы, праваленыя прыступкі, груды белае пліткі ды цэглы. У некалькіх канцах дымілі кастры й корпаліся людзі; асноўны натоўп зьбіраўся каля ўваходу ў Опэрны.

Людзі ўсё падыходзілі; падвальвала моладзь. Паўз нас прайшла гурба шпаны, груба, плячом у плячо, штось пажоўваючы. Я непрыемна падцяўся. Такія падлеткам зьбівалі мяне з ног.

Падцягваліся нефармалы: хто парамі ў абдымку, хто цэлымі табарамі, з маленькімі скуранымі пляцакамі, мэталёвымі клёпкамі й дзявочым дурасьлівым сьмехам. Маладыя тых гадоў, зь якімі я ўсё часьцей успамінаў сябе.

Гэта было страшна. Абвал кніг, якія раптам рухнуць з усіх паліцаў. Я перабіраўся цераз завалы; здавалася, трушчыш косьці. Тут былі цэлымі партыямі аднолькавыя, з кнігарняў ды бібліятэк, новенькія, на нюх канцылярскія; былі вокладкі, якія мне нічога не казалі; былі й такія, што хвалявалі найбольш. Дамашнія разваліны, тамы пажылыя, з характарам, пацямнелыя і ўспухлыя ад пальцаў ды тытуню. Не кранай нічога. Помню, малым корпаўся ў магільніках хатняга хламу ад зьнесеных прыватных дамоў, потым маці з жахам мыла мне рукі: ты што, такая халера, заразісься…

Тут быў Ясенін, прамоклым лісьцікам у брудзе. Яго так любіла сястра, нават, можна сказаць, кахала. Гогаль. «Мёртвыя душы». Ізноў аб Пушкіна. Ох, Высоцкі. Высоцкага шкада. Ізумрудны Дзюма. А гэта яшчэ што за геаграфічныя навіны?

Нейкі стары, прафэсарскага выгляду, набраўшы ахапак кніг, асьцярожна перабіраўся ўзбоч, хрыпеў і аддыхваўся; падобна было, што яму далі пад дых:

– Сволочи… Варвары, это же преступление…

Белы рэзка абярнуўся:

– Эй ты, дзед! – і быццам стрэліў зь пісталета, так выцяў руку, указваючы яму пальцам: – Запомні, гэта не злачынства, гэта пакараньне!

Стары, здаецца, проста не зразумеў.

Расхрыстаная кніга валялася на грэбні кучы; вецер гартаў старонкі. Запусьценьне дваранскіх сядзібаў. Дарэчы, Бунін. Нейкая дробналісьцёвая паэзія россыпам. Малафарматныя вершы. І дымны попах па-над усім, пахмурны й трывожны. Позьняя восень, калі ў дварох зграбаюць і паляць палае лісьце.

Падручнік біялёгіі, вось табе на. Той самы, які я дзесьці згубіў, шукаў, ды так і ня здаў у школьную бібліятэку. Я не ўтрымаўся, прысеў, узяў у рукі, Белы крануў мяне за плячо:

– Я там буду, – паказаў за сцэну, – падыходзь. Ёсьць з кім пагаварыць.

І пайшоў, падфутболіўшы дарогаю нейкі томік.

Я перабіраў і ніяк не мог адарвацца. На гэтай плошчы, пад адкрытым небам, сярод соцень тысячаў кнігаў, былі зваленыя мае юныя гады, разораныя, у дыме, упярэмешку зь дзіцячай парою. Я знаходзіў у незьлічоным розруху ўсё – і страчанае калісьці, і з даўнасьці памятнае. Тут валяўся «Порт-Артур» у двох тамах, разам з самаробнымі з дошак, коркаў і цьвікоў, караблямі, якія мы выпрабоўвалі ў затопленым катлаване; Прышвін, на канапе з нагамі, упрыкуску з мытым белым налівам, з сокам і семачкамі; «Ціхі Дон», такі ціхі, што чуваць цікі часу, чаканьне бацькі, які павінен прыехаць увечары, – і нават бяздарная, піянэрская, выпадкова чытаная кніжка пра «Преступление у Зеленой тони»... У гэтай тоні таілася прыкрая, душная пераадзявальня ў падвальнай самбісцкай сэкцыі, млявасьць у зьнясіленым целе пасьля трэніроўкі і выхад на вольную сьвежую вуліцу.

Яшчэ, яшчэ, я чуў пра сябе прыдыханьне калекцыянэра. Я хваляваўся, ліхаманкава перабіраў, разварушваў груды пылістага паху; з усіх бакоў мне даносіліся галасы; я нешта хапаў з сабой, пасьля кідаў, каб узяць іншае. Нахлынала, успаміналася ўсё пазабытае, а забытага аказвалася так многа!..

Немінуча цямнела. Радкі зьмяркаліся, я ледзь разьбіраў, ва што ўчытваюся, і ніяк ня мог спыніцца.

Нарэшце, падняўся; зморана хрумснула ў суставах. Агледзеўся вакол. Цемрадзь. У галаве вяло ад пераджытага. Ніколі да таго не чыталася мне па-расейску так многа, так сьпехам, усухамяць і з такім пачуцьцём – ды ніколі ўжо, пэўна, не давядзецца.

Было халодна, рукі проста скалелі. Там, ля Опэрнага, усё ярчэй разгаралася ахвярнае вогнішча. І я пайшоў на вагонь.

На сцэне ўжо рыхтавалі канцэрт. Гулка грохалі, расстаўляючы тумбы калёнак і турнікі; усё працінаў стык жалезьзя. Раптоўна раўнула, перакрываючы рэхам наваколле:

